выканаўцаў, вытворцаў фанаграм і вяшчальных арганізацый (1961 г.) (Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 7 жніўня 2002 г. № 440) [5, с. 15].

Станаўленне і развіццё патэнтавага органа Рэспублікі Беларусь з'яўляецца цэнтральным працэсам станаўлення дзяржаўнай патэнтавай службы ў сучасным выглядзе. Менавіта таму ён і будзе служыць асновай для выдзялення этапаў станаўлення дзяржаўнай патэнтавай службы ў нашай краіне.

Падчас пераўтварэнняў патэнтавага органа статус яго істотна змяняўся, што ў сваю чаргу цягнула адпаведныя змены кампетэнцыі. Менавіта таму ў якасці асноўнага крытэрыю выдзялення этапаў станаўлення дзяржаўнай патэнтавай службы даследчык выбраў сутнасныя змяненні статусу патэнтавага органа, якія былі абумоўлены асноўнымі рэарганізацыямі апошняга паводле Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 11 студзеня 1997 г. № 30 і Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24 верасня 2001 г. № 516. Рэарганізацыя Белдзяржпатэнта ў 1994 г., нягледзячы на змяненне статусу патэнтавага органа, на думку даследчыка, не насіла сутнасны характар — Белдзяржпатэнт застаўся рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, яго функцыі амаль не змяніліся.

Дэталёвы аналіз станаўлення і развіцця патэнтавага органа Рэспублікі Беларусь дазваляе выдзяліць наступныя этапы фарміравання дзяржаўнай патэнтавай службы:

1. Этап Дзяржаўнага патэнтавага ведамства (1992—1997 гг.). На дадзеным этапе адбываецца ўтварэнне патэнтавага органа дзяржаўнага кіравання рэспубліканскага ўзроўню: вызначэнне яго асноўных функцый, кадравае забеспячэнне, арганізацыйнае забеспячэнне і стварэнне патэнтавай сістэмы Беларусі: падрыхтоўка першых законаў аб аб'ектах прамысловай уласнасці, пачатак прыняцця і разгляду заявак на аб'екты прамысловай уласнасці (у тым ліку на перарэгістрацыю патэнтаў, аўтарскіх пасведчанняў і таварных знакаў СССР), падрыхтоўка і атэстацыя першых патэнтавых паверaных.

2. Этап Дзяржаўнага патэнтавага камітэта (1997—2001 гг.). На дадзеным этапе адбываецца павышэнне статусу патэнтавага органа да ўзроўню рэспубліканскага органа дзяржаўнага кіравання, наданне функцый па распрацоўцы і ажыццяўленні мерапрыемстваў, накіраваных на рэалізацыю дзяржаўнай палітыкі ў сферы аховы прамысловай уласнасці, развіццё міжнароднага супрацоўніцтва па пытаннях патэнтавай дзейнасці і аховы прамысловай уласнасці, далейшае фарміраванне заканадаўства ў адпаведнай сферы, рост колькасці заявак на аб'екты прамысловай уласнасці.

3. Этап Нацыянальнага цэнтра інтэлектуальнай уласнасці (2001 г. — па сучасны момант). На дадзеным этапе адбываецца паніжэнне статусу патэнтавага органа да ўзроўню дзяржаўнай установы з элементамі органа дзяржаўнага кіравання, рэгламентацыя дзейнасці патэнтавага органа адначасова двума арганізацыйнымі дакументамі рознай юрыдычнай сілы і статусу, наданне функцый па абароне аўтарскага і сумежных правоў і калектыўным кіраванні



правамі аўтараў, афармленне сістэмы заканадаўства ў сферы прамысловай уласнасці, актывізацыя міжнароднага супрацоўніцтва.

Крыніцы і літаратура


1. Судариков, С. А. Интеллектуальная собственность. — М.: Издательство деловой и учебной литературы, 2007. — 800 с.
2. Постановление Совета Министров Республики Беларусь «Об образовании Государственного патентного ведомства при Совете Министров Республики Беларусь» от 09.04.1992 № 199 // Консультант плюс: Беларусь. Технология 3000 [Электронны рэсурс] / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. — Минск, 2010.
3. Постановление Совета Министров Республики Беларусь «Вопросы Государственного патентного ведомства при Совете Министров Республики Беларусь» от 31.07.1992 № 472 // Консультант плюс: Беларусь. Технология 3000 [Электронны рэсурс] / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. — Минск, 2010.
4. Государственное патентное ведомство Республики Беларусь: Годовой отчет 1993. — Минск: Белгоспатент, 1994. — 42 с.
5. Национальный центр интеллектуальной собственности: Годовой отчет 2002. — Минск: НЦИС, 2003. — 56 с.
6. Архіў Нацыянальнага цэнтра інтэлектуальнай уласнасці. — Воп. 1-УД. — Спр. 5.
7. Государственное патентное ведомство Республики Беларусь: Годовой отчет 1994. — Минск: Белгоспатент, 1995. — 55 с.
8. Государственное патентное ведомство Республики Беларусь: Годовой отчет 1995. — Минск: Белгоспатент, 1996. — 24 с.
9. Государственное патентное ведомство Республики Беларусь: Годовой отчет 1996. — Минск: Белгоспатент, 1997. — 32 с.
10. Государственный патентный комитет Республики Беларусь: Годовой отчет 1997. — Минск: Белгоспатент, 1997. — 36 с.
11. Государственный патентный комитет Республики Беларусь: Годовой отчет 1998. — Минск: Белгоспатент, 1998. — 36 с.
12. Государственный патентный комитет Республики Беларусь: Годовой отчет 1999. — Минск: Белгоспатент, 1999. — 37 с.
13. Указ Президента Республики Беларусь «Об изменении структуры центральных органов управления Республики Беларусь» от 23.09.1994 № 122 // Консультант плюс: Беларусь. Технология 3000 [Электронны рэсурс] / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. — Минск, 2010.
14. Положение о Государственном патентном ведомстве (утверждено приказом Министра образования и науки Республики Беларусь от 12.12.1995 № 461) // Консультант плюс: Беларусь. Технология 3000 [Электронны рэсурс] / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. — Минск, 2010.
15. Архіў Нацыянальнага цэнтра інтэлектуальнай уласнасці. — Воп. 1-УД. — Спр. 19.
16. Приказ Министерства образования и науки Республики Беларусь «Об утверждении положения об Апелляционном совете при Белгоспатенте и правил подачи жалоб, возражений и их рассмотрения Апелляционным советом при Белгоспатенте» от 12.12.1995 № 462 // Консультант плюс: Беларусь. Технология 3000 [Электронны рэ-

сурс] / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. — Минск, 2010.
17. Положение о Министерстве образования и науки Республики Беларусь (утверждено постановлением Кабинета Министров Республики Беларусь от 22.06.1995 № 318) // Консультант плюс: Беларусь. Технология 3000 [Электронны рэсурс] / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. — Минск, 2010.
18. Указ Президента Республики Беларусь «О системе республиканских органов государственного управления, подчиненных Правительству Республики Беларусь» от 11.01.1997 № 30 // Консультант плюс: Беларусь. Технология 3000 [Электронны рэсурс] / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. — Минск, 2010.
19. Положение о Государственном патентном комитете Республики Беларусь (утверждено постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 11.04.1997 № 322) // Консультант плюс: Беларусь. Технология 3000 [Электронны рэсурс] / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. — Минск. 2010.
20. Правила признания товарного знака общеизвестным в Республике Беларусь (утверждены постановлением Государственного патентного комитета Республики Беларусь от 09.08.2001 № 2 // Консультант плюс: Беларусь. Технология 3000 [Электронны рэсурс] / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. — Минск, 2010.
21. Шевчук, П. «Милавица» — первый общеизвестный // Интеллектуальная собственность в Беларуси. — 2007. — № 1. — С. 18—19.
22. Архіў Нацыянальнага цэнтра інтэлектуальнай уласнасці. — Воп. 1-УД. — Спр. 38.
23. Указ Президента Республики Беларусь «О совершенствовании системы республиканских органов государственного управления и иных государственных организаций, подчиненных Правительству Республики Беларусь» от 24.09.2001 № 516 // Консультант плюс: Беларусь. Технология 3000 [Электронны рэсурс] / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. — Минск, 2010.
24. Декрет Президента Республики Беларусь «О совершенствовании государственного управления в сфере науки» от 05.03.2002 № 7 // Консультант плюс: Беларусь. Технология 3000 [Электронны рэсурс] / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. — Минск, 2010.
25. Положение о Комитете по науке и технологиям при Совете Министров Республики Беларусь (утверждено постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 25.07.2002 № 1002) // Консультант плюс: Беларусь. Технология 3000 [Электронны рэсурс] / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. — Минск, 2010.
26. Архіў Нацыянальнага цэнтра інтэлектуальнай уласнасці. — Воп. 1-УД. — Спр. 48.
27. Указ Президента Республики Беларусь «О некоторых мерах по оптимизации системы республиканских органов государственного управления и иных государственных организаций, подчиненных Совету Министров Республики Беларусь, структуры и численности работников государственных органов, других государственных организаций» от 12.02.2004 № 66 // Консультант плюс: Беларусь. Технология 3000 [Электронны рэсурс] / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. — Минск, 2010.

*Артыкул паступіў у рэдакцыю 11.03.2011*



**А. М. Таратута,**
*выкладчык спецыяльных дысцыплін*
*УА «Навапольскі дзяржаўны аграрна-эканамічны каледж»,*
*аспірант гістарычнага факультэта БДУ,*
*магістр гістарычных навук;* e-mail: liolikmolo@mail.ru

## ОРГАНЫ МЯСЦОВАГА КІРАВАННЯ І САМАКІРАВАННЯ НА ТЭРЫТОРЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў 1919—1939 гг.

Арганізацыя справаводства ў органах мясцовага самакіравання, яго канкрэтныя формы павінны вызначацца з улікам гістарычных, геаграфічных, дэмаграфічных і іншых асаблівасцей краіны. Таму для вырашэння акрэсленых пытанняў неабходна дасканала вывучыць не толькі ўласны вопыт будаўніцтва сістэмы справаводства, але і гістарычны вопыт такога будаўніцтва ў іншых дзяржавах.

З вядзеннем справаводства і архіўнага захавання дакументаў цесна ўзаемазвязана гісторыя дзяржаўных устаноў. Менавіта пры апісанні справаводных праблем даследчык найбольш блізка закранае праблемы гісторыі стварэння, станаўлення і развіцця дзяржаўных устаноў таго ці іншага рэгіёна. Доўгі час гісторыя дзяржаўных устаноў Заходняй Беларусі знаходзілася ў цені. Як беларускія, так і замежныя навукоўцы не надавалі ёй значнай увагі, таму многія праблемы і аспекты станаўлення і развіцця апарату дзяржаўнага кіравання на далучаных да Польшчы тэрыторыях заставаліся нераспрацаванымі.

Такім чынам, месца, якое займае азначаная тэма ў агульнагістарычным працэсе, з'яўляецца неадназначным, а таму вельмі важным з пункту погляду гісторыка-архівіста і дакументазнаўца. Вызначэнне і выяўленне асаблівасцей гістарычнага развіцця дзяржаўных устаноў, што дзейнічалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі падчас польскай акупацыі, з'яўляецца неад'емнай часткай гісторыі станаўлення дзяржавы і права ў Беларусі, гісторыі дзяржаўных устаноў XX стагоддзя.

Мэтай даследавання з'яўляецца выяўленне асноўных накірункаў дзейнасці дзяржаўных устаноў Польшчы на тэрыторыі Заходняй Беларусі, а таксама абаснаванне ўзаемасувязі справаводства і архіўнага захавання дакументаў з вывучэннем гісторыі дзяржаўных устаноў.

Пры вывучэнні азначанай тэмы аўтарам выкарыстоўвалася значная колькасць архіўных матэрыялаў па гісторыі Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы. За аснову былі ўзяты матэрыялы дзяржаўных архіваў у Гродне і Маладзечне. Незакранутымі засталіся архіўныя дакументы дзяржаўнага архіва ў Брэсце. Гэта звязана, у першую чаргу, з тым, што супрацоўнікамі архіва ўжо была праведзена значная работа з дакументамі азначанага перыяду, якая адлюстравана ў разнастайных артыкулах і падрыхтаваным да друку даведнікам па архіўных дакументах перыяду 2-й Рэчы Паспалітай. Зразумела, што ў далейшай працы над тэмай аўтар не абміне ўвагай і гэтыя матэрыялы.

Згодна з другім артыкулам Рыжскага дагавора ад 18 сакавіка 1921 г. да Польшчы адышла амаль палова сучаснай тэрыторыі Беларусі. Каб захаваць на далучаных тэрыторыях непарушнасць рэжыму, польскія ўлады пачалі ствараць выканаўчыя, карна-надзорныя (дзяржаўную паліцыю) і судовыя органы.

У траўні 1919 г. у Заходняй Беларусі быў створаны спецыяльны орган Грамадзянскай адміністрацыі «Галоўнае ўпраўленне ўсходніх зямель» (ГУУЗ). Тэрыторыя, на якую распаўсюджвалася дзейнасць ГУУЗ (Віленская, Гродзенская і заходняя частка Мінскай губерні), была падзелена на акругі, а тыя, у сваю чаргу, на паветы [1].

24 студзеня 1921 г. акругі быліператвораны ў ваяводствы, якія падзяляліся на паветы і гміны. Такім чынам, на тэрыторыі Заходняй Беларусі былі ўтвораны чатыры ваяводствы — Віленскае, Беластокскае, Навагрудскае і Палескае).Значнай падзеяй у гісторыі краіны стала прыняцце 17 сакавіка 1921 г. новай канстытуцыі (так званай «сакавіцкай канстытуцыі»).

Польшча (Рэч Паспалітая) абвяшчалася рэспублікай, вярхоўная ўлада ў якой прыналежыць народу. Канстытуцыя 1921 г. засноўвалася на прынцыпе падзелу ўлад, замацоўвала ў Польшчы парламенцкую дэмакратыю. Заканадаўчая ўлада прыналежала парламенту, які складаўся з дзвюх палат — сойма і сената. Выбары ў парламент былі ўсеагульнымі, роўнымі, прамымі пры таемным галасаванні. Выканаўчую ўладу ажыццяўлялі прэзідэнт і ўрад (Рада Міністраў). Прэзідэнт абіраўся парламентам. Найважнейшыя пытанні ён мог вырашаць толькі са згоды сойма, а ўрад адказваў перад парламентам. Канстытуцыя гарантавала дэмакратычныя свабоды, 8-гадзінны працоўны дзень, бясплатную адукацыю.

Згодна з законам Савета Міністраў Польскай Рэспублікі кіраўніцтва ваяводствамі адыходзіла да Міністэрства ўнутраных спраў [2]. Міністэрствам былі створаны ваяводскія праўленні на чале з ваяводамі, да якіх адышла поўная ўлада ў ваяводствах.

Ваявода меў неабмежаваную ўладу і з'яўляўся галоўнай службовай асобай у ваяводстве. Да кампетэнцыі ваяводы адыходзілі амаль усе накірункі дзейнасці ваяводства, пачынаючы адміністрацыйнымі і заканчваючы ваеннымі. Ваяводзе падпарадкоўваліся адміністрацыйныя і гаспадарчыя органы, прамысловыя, сельскагаспадарчыя, фінансавыя, транспартныя і гандлёвыя прадпрыемствы і ўстановы. Ваявода кантраляваў дзейнасць паліцыі, органаў аховы здароўя, працы і сацыяльнай бяспекі, ажыццяўляў нагляд за дзейнасцю прафсаюзных, рэлігійных і легальных палітычных арганізацый [3].

Ваяводскія праўленні спачатку дзяліліся на пяць аддзелаў, дзе ў сваю чаргу вылучаліся рэфераты і аддзяленні. Акрамя таго, па распараджэнні Савета Міністраў Польшчы 13 сакавіка 1921 г. ва ўсходніх ваяводствах былі ўтвораны дарадчыя органы пры ваяводскіх праўленнях — ваяводскія рады [4], якія ўзначальваліся ваяводамі і служылі для вырашэння бягучых праблем ваяводства.



Да 1929 г. ваяводскія праўленні складаліся з 5—6 аддзелаў. Затым, пасля рэфармавання адміністрацыйнай улады, колькасць аддзелаў павялічылася да 10—12, а ў 1934 г. аддзелаў у ваяводскім праўленнні стала 17 [5]. Такім чынам, адбывалася пастаяннае рэфармаванне мясцовых органаў улады, што было выклікана неабходнасцю паляпшэння сітуацыі ў рэгіёнах.

Асноўнымі аддзеламі ваяводскага праўлення былі агульны і адміністрацыйны аддзелы. Агульны аддзел кантраляваў працу павятовых старостваў, бюджэтную, прававую, прамысловую, рэлігійную дзейнасць у ваяводстве. У склад агульнага аддзела ўваходзілі канцылярыя, адміністрацыйна-выканаўчы рэферат, рэфераты агульнай бяспекі, па ваенных справах, статыстыкі і персанальны рэферат. Узначальваў агульны аддзел начальнік аддзела (у большасці выпадкаў ён жа з'яўляўся віцэ-ваяводам — намеснікам ваяводы) [6].

Адміністрацыйны аддзел займаўся пытаннямі адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу, улікам і дзейнасцю прамысловых прадпрыемстваў, аховай помнікаў мінуўшчыны. Акрамя таго, да кампетэнцыі адміністрацыйнага аддзела датычыліся пытанні грамадзянства і міграцыі насельніцтва.

Акрамя вышэйназваных аддзелаў, у склад ваяводскага праўлення ўваходзілі аддзел самакіравання, землекарыстання, агульна-палітычны, ваенны, па справах веравызнання і інш. Трэба адзначыць, што праца аддзелаў рэгулявалася палажэннямі і нарматыўнымі інструктыўнымі дакументамі, якія выдаваліся Міністэрствам унутраных спраў, ваяводскім праўленнем і былі абавязковымі да выканання [7].

26 чэрвеня 1925 г. адбылася адміністрацыйна-тэрытарыяльная рэформа, пасля якой адбыўся падзел некаторых значных па плошчы і колькасці насельніцтва паветаў на больш дробныя [8].

У сваю чаргу, паветы дзяліліся на гміны і раёны. У склад кожнага павета ўваходзілі 3—5 гмін і столькі ж раёнаў [9]. Галоўным органам улады павета з'яўлялася павятовае староства альбо «ўрад земскі». На чале староства стаяў павятовы староста. Староства кантралявала дзейнасць павятовых, гарадскіх, гмінных і сельскіх устаноў, за выключэннем воінскіх часцей і чыгуначных станцый. Згодна з канцылярскай інструкцыяй для старостваў, апошнія падзяляліся на 7—9 рэфератаў (агульны, бяспекі і грамадскага парадку, адміністрацыйны, ваенны і інш.), якія ўключалі ў сябе некалькі аддзяленняў [10].

Акрамя таго, мясцовая ўлада ў паветах была прадстаўлена павятовымі саюзамі самакіравання, створанымі 4 чэрвеня 1920 г. [11]. Павятовыя саюзы самакіравання складаліся з павятовых соймікаў, якія выконвалі ролю распарадчых і кантралюючых органаў, павятовых аддзелаў і службы пажарнай аховы. Павятовыя аддзелы сачылі за выкананнем сваіх абавязкаў службовымі асобамі гмін і раёнаў.

У склад праўлення павятовага староства ўваходзілі намеснікі павятовага старасты, канцылярыя, начальнікі раёнаў, старшыні гмінных праўленняў (войты).

Павятовы староста і яго намеснікі былі падначалены непасрэдна ваяводскаму земскаму праўленню і ваяводзе. Павятовыя старасты, як правіла, прызначаліся на пасаду Міністэрствам унутраных спраў з ліку служачых ваяводскага праўлення і былі па нацыянальнасці палякамі [12]. Сваіх намеснікаў, канцылярыю, начальнікаў раёнаў і войтаў павятовы староста выбіраў і прызначаў на пасаду самастойна з ліку членаў павятовага староства. Як правіла, гэта былі асобы з добрым узроўнем адукаванасці, у большасці выпадкаў — палякі. Такім чынам, адзначаецца прыхільнасць польскіх улад не да мясцовага насельніцтва, а да стаўленнікаў польскага паходжання ў якасці кіруючых асоб у гмінах.

Начальнікамі раёнаў называліся службовыя асобы, якія прызначаліся на пасаду павятовым старастам і былі падначалены павятоваму староству і павятовай камендзе паліцыі. Начальнік раёна выконваў выканаўчыя і надзорныя функцыі ў так званых раёнах — адміністрацыйных адзінках, створаных у павеце незалежна ад гмін, у склад якіх уваходзілі населеныя пункты дзвюх-трох гмін адначасова [13]. Раёны ствараліся спецыяльна на памежных тэрыторыях некалькіх гмін з мэтай больш пільнага кантролю як за дзейнасцю мясцовай улады, так і за дзейнасцю «антыўрадавых элементаў» — нацыянальна-вызваленчых і іншых арганізацый, таварыстваў і суполак, якія змагаліся за ўз'яднанне Беларусі і яе незалежнасць, а таксама за правы мясцовага насельніцтва.

Начальнік раёна цесна супрацоўнічаў з паліцыяй, меў добрыя кантакты з мясцовымі жыхарамі, валодаў і кіраваў асабістай агентурнай сеткай, сачыў за працай солтысаў беларускага паходжання. Начальнік раёна меў пячатку, штамп, спецыяльнае памяшканне, дзе знаходзіліся яго працоўнае месца і архіў дакументаў (у асноўным скаргі грамадзян і рашэнні па іх). Дапамагалі начальніку раёна ў яго дзейнасці сакратар, што займаўся дакументацыяй, і памочнік начальніка. Часта разам з начальнікам раёна працаваў і натарыус.

Гмінныя праўленні, якія існавалі на тэрыторыі паветаў, выконвалі самыя разнастайныя ўладныя функцыі. Перш за ўсё, да кампетэнцыі гмінных праўленняў адносілася вырашэнне набалелых жыхарам гміны пытанняў. Гэта і вырашэнне нязначных зямельных спрэчак, і пытанні нарыхтоўкі кармоў, збожжа, арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці ў гміне і г. д. [14].

На чале гміннага праўлення стаяў войт гміны, які прызначаўся на пасаду павятовым старастам з найбольш адукаваных жыхароў гміны, як правіла, польскага паходжання. Гэта рабілася з мэтай больш пільнага і дакладнага кантролю за справамі ў гміне, больш пэўнага вызначэння напрамкаў працы гміннага праўлення.

Войт падпарадкоўваўся павятоваму старасту ў гаспадарча-адміністрацыйных справах і начальніку раёна — у справах крымінальных. У склад гміннага праўлення, акрамя войта, уваходзілі яшчэ сакратар праўлення (ён выконваў тую ж ролю, што і начальнік канцылярыі ў павятовым старостве), пісар гміны (памочнік сакратара), які займаўся складаннем і афармленнем дакументаў, солтысы і намеснікі солтысаў. Пры гмінным праўленні заўсёды ствараўся і паліцэйскі пастарунак.



Солтысаў і іх намеснікаў выбіралі адкрытым галасаваннем у кожнай грамадзе (вёсцы) на грамадскіх сходах у азначаны дзень і час. Солтысамі маглі стаць мужчыны і жанчыны, узрост якіх быў большы за 21 год [15]. У большасці выпадкаў солтысамі выбіраліся мясцовыя жыхары польскага паходжання і каталіцкага веравызнання. Аднак вельмі часта солтысамі і іх памочнікамі станавіліся грамадзяне беларускага паходжання праваслаўнага веравызнання. Прычым у пратаколах агульных сходаў сялян па выбарах солтысаў і іх намеснікаў адназначна ўказвалася: «… narodowosci bialoruskej, wyznania prawoslawnego …» (народнасці беларускай, вызнання праваслаўнага) [16].

Пасля абрання солтысы і іх намеснікі прыносілі прысягу павятоваму старасту. Тэкст прысягі быў замацаваны ў канцылярскай інструкцыі для павятовых староств. Солтысы павінны былі мець адпаведныя службовыя адзнакі і насіць урадавую ўніформу [17].

Акрамя названых дзяржаўных устаноў, уладныя і адміністрацыйныя функцыі ў павеце выконвалі:

павятовыя зямельныя праўленні. Да іх юрысдыкцыі былі аднесены ўсе зямельныя пытанні: рэгістрацыя зямельных надзелаў, іх афармленне, замер, вырашэнне зямельных спрэчак, тэрытарыяльна-адміністрацыйныя пытанні. Узначальваў павятовае зямельнае ўпраўленне намеснік павятовага старасты па зямельных пытаннях;

павятовыя камітэты зямельнай дапамогі займаліся выдзяленнем малаэмасным асобам ці тым, хто пацярпеў ад ваенных дзеянняў і страціў маёмасць увогуле, зямельных надзелаў. Таксама павятовыя камітэты зямельнай дапамогі займаліся адшукваннем звестак аб наяўнасці у той ці іншай асобы зямлі ў павеце, якая страцілася раней ці была перададзена па спадчыне;

павятовыя камітэты надзялення зямлёй дзейнічалі пры павятовых зямельных праўленнях і займаліся выключна выдачай зямельных надзелаў у карыстанне;

дзяржаўныя бюро аднаўлення павета былі створаны спецыяльна толькі ў паветах Заходняй Беларусі з мэтай поўнага аналізу і дакладнага ўстанаўлення звестак аб стратах, якія панёс павет пасля сусветнай і грамадзянскай войнаў. Затым дзейнасць гэтых дзяржаўных устаноў крыху змянілася і ператварылася з назіральна-апісальнай у рэальна працуючую;

камісіі па рэгістрацыі ваенных страт займаліся апісаннем пасляваеннага становішча і працавалі толькі 1—2 гады, пасля чаго былі ліквідаваны;

школьныя павятовыя інспектарыяты. Гэтыя дзяржаўныя органы сачылі за сістэмай школьнай адукацыі на тэрыторыі ўсходніх паветаў Польшчы. Га-

лоўнай мэтай іх дзейнасці было недапушчэнне пранікнення ў навучальны працэс варожых элементаў — беларускай мовы і літаратуры;

павятовыя камунальныя ашчадныя касы былі своеасаблівай налогавай інспекцыяй рэгіёна. Яны займаліся зборам падаткаў з насельніцтва, выдавалі дазвол на гандаль падчас павятовых кірмашоў, выдзялялі грашовую пазыку насельніцтву пад невялікі працэнт. Яшчэ адной са шматлікіх функцый ашчадных кас было прыняцце каштоўных рэчаў у залог (т. зв. ламбард);

апякунскія павятовыя саветы займаліся пытаннямі дзяцей-сірот, бацькі якіх загінулі падчас ваенных дзеянняў. Саветамі былі складзены спіскі такіх дзяцей з указаннем іх дат нараджэння, якія адшукваліся па царкоўных кнігах метрыкі. Акрамя таго, саветы займаліся размеркаваннем дзяцей па навучальных установах павета і ваяводства. Так, дзякуючы дзейнасці такой установы больш за 800 дзяцей Маладзечанскага павета атрымалі сярэднюю адукацыю ў школах і семінарыях рэгіёна [18].

У гарадах таксама ствараліся мясцовыя ўладныя органы — магістраты. У склад магістрата ўваходзілі 4—8 аддзелаў (у залежнасці ад памераў горада і колькасці насельніцтва), а таксама гарадская рада. На чале горада стаяў прэзідэнт (Prezydent miasta) ці бурмістр (у невялікіх гарадах) [19].

Гарадская рада з'яўлялася дарадчым органам пры магістраце, накшталт ваяводскай. У склад рады ўваходзілі 10—15 чалавек, але на пасяджэннях прысутнічалі таксама запрошаныя члены магістрата, якія фактычна ў склад рады не ўваходзілі, а з'яўляліся адказнымі за тое ці іншае пытанне, што разглядалася на пасяджэнні [20].

Пастаяннымі членамі гарадской рады былі прэзідэнт (бурмістр), яго намеснік (віцэ-прэзідэнт ці віцэ-бурмістр), лаўнічыя (2—3 чалавекі), сакратар магістрата і яго памочнік. Названыя службовыя асобы складалі прэзідыум гарадской рады і абавязаны былі прысутнічаць на кожным яе пасяджэнні.

Як адзначалася вышэй, магістрат дзяліўся на некалькі аддзелаў. Да 1932 г. такіх аддзелаў было не больш за восем [21]. Галоўнымі з іх сталі: прэзідыяльны, адміністрацыйны, культуры і асветы, аховы здароўя, гаспадарчы, фінансава-падатковы. На чале аддзелаў стаялі начальнікі, якія падпарадкоўваліся непасрэдна прэзідэнту (бурмістру).

Пасля рэформы магістрацкіх улад 1 снежня 1932 г. некаторыя аддзелы былі скасаваны ўвогуле, а іншыя — аб'ядналіся [22]. Такім чынам, у склад кожнага магістрата сталі ўваходзіць 5 аддзелаў. Аб'яднанне прэзідыяльнага з адміністрацыйным аддзелам прывяло да стварэння агульнага аддзела. Агульны аддзел узначальваў кіраўнік сакратарыята — сакратар магістрата, які, акрамя службовых функцый, сачыў за працай адміністрацыйнага рэферата. Адміністрацыйны рэферат узначаліў лаўнік магістрата.

Грамадзянскі аддзел быў створаны на аснове аб'яднання аддзелаў культуры і асветы і аховы здароўя. У аддзеле было створана два рэфераты: рэферат культуры і рэферат асветы, якія ўзначальвалі лаўнікі магістрата. Гаспадарчы і тэхнічны аддзелы аб'ядналіся ў тэхнічна-гаспадарчы аддзел на чале з лаўнікам магістрата. Падатковы аддзел узначаліў віцэ-прэзідэнт горада. Такім чынам, была створана арганізаваная абасобленая ўлада ў гарадах.



Паліцыя, як у ваяводстве, так і ў паветах, з'яўлялася дзяржаўным органам службы бяспекі. У яе функцыі ўваходзілі:

1) ахова грамадскага парадку і бяспекі;

2) барацьба з рэвалюцыйнымі і антыўрадавымі элементамі.

Паліцыя сачыла праз свае органы за настроем большасці і вяла барацьбу з рэвалюцыйнымі элементамі, выкараняючы ўсялякі дэмакратычны рух, накіраваны на звяржэнне дзеючага парадку.

Польская паліцыя была створана на падставе ўхвалы Рэспублікі Польшча ад 24 ліпеня 1919 г. [23]. Згодна з гэтым дакументам выдзяляліся тры тыпы паліцэйскага падначалення. У гмінах ствараліся пастарункі, якія падпарадкоўваліся ў сваёй дзейнасці павятовым камендам. Павятовыя каменды былі галоўнымі органамі паліцыі ўсяго павета, у якія маглі таксама ўваходзіць ізалятары часовага ўтрымання злачынцаў («вязні») і органы транспартнай паліцыі (як правіла, гэта былі пастарункі чыгуначных станцый). У сваю чаргу павятовыя каменды падпарадкоўваліся камендам акруговым, да кампетэнцыі якіх адносілася і ўтрыманне турмаў.

На чале ўсёй польскай паліцыі стаяў галоўны камендант паліцыі, які ў сваёй дзейнасці падпарадкоўваўся непасрэдна Міністэрству ўнутраных спраў. Акружны камендант быў падначалены галоўнаму каменданту і, як правіла, з'яўляўся членам калегіі міністэрства [24].

У кожным павеце па пытаннях арганізацыі, забеспячэння, папаўнення і навучання паліцэйскія органы падпарадкоўваліся галоўнаму і акружному камендантам, а па пытаннях бяспекі і дзяржаўнай адміністрацыі — мясцовым органам адміністрацыйнай улады.

У склад праўлення павятовых каменд уваходзілі: павятовы камендант, намеснік павятовага каменданта, канцылярыя, начальнікі пастарункаў у гмінах і на чыгуначных станцыях.

Павятовы камендант падпарадкоўваўся непасрэдна акружному каменданту. Павятовы камендант з'яўляўся членам праўлення акружной каменды паліцыі і прызначаўся на пасаду пастановай калегіі Міністэрства ўнутраных спраў. Акрамя таго, павятовы камендант знаходзіўся ва ўскосным падпарадкаванні павятоваму старасту. У сваёй дзейнасці гэтая службовая асоба карысталася нарматыўнымі дакументамі, загадамі і распараджэннямі акружнога каменданта, пастановамі, распараджэннямі і ўказаннямі павятовага старосты [25].

Намеснік павятовага каменданта прызначаўся на пасаду непасрэдна павятовым камендантам. Да яго абавязкаў адносіліся вядзенне першапачатковага разбору крымінальных спраў і кіраўніцтва павятовай турмой. Намеснік павятовага каменданта праводзіў нагляд за дзейнасцю пастарункаў у гмінах і на

чыгуначных станцыях, а таксама сачыў за працай начальнікаў раёнаў. Больш таго, за наместнікам павятовага каменданта захоўвалася кіраўніцтва асабістым складам павятовай каменды.

У склад канцылярыі каменды ўваходзілі адказны сакратар і два паліцыянты-пісары, якія вялі справаводства і займаліся тэхнічнай працай. Узначальваў канцылярыю начальнік [26]. Вельмі часта начальнік канцылярыі адначасова з'яўляўся наместнікам павятовага каменданта. Гэта адбывалася з-за недахопу кваліфікаваных спецыялістаў у сістэме праваахоўных органаў.

Гмінныя пастарункі складаліся з начальніка пастарунка, адміністрацыйнага сакратара і некалькіх паліцыянтаў. Начальнік гміннага пастарунка падпарадкоўваўся павятоваму каменданту і начальніку раёна. Па некаторых пытаннях мог таксама падпарадкоўвацца і войту. Начальнік гміннага пастарунка прызначаўся на пасаду з ліку службовых асоб павятовай каменды, якія адслужылі ў органах паліцыі не менш за пяць год і мелі сем класаў адукацыі. Начальнікамі гмінных пастарункаў праводзілася значная работа па ўтрыманні грамадскага парадку, а таксама па недапушчэнні распаўсюджвання антыўрадавых ідэалогій сярод сялянства [27].

На чыгуначных станцыях пастарункі выконвалі функцыю аховы грамадскага парадку на транспарце, сачылі за выкананнем правілаў праезду пасажырамі мяжы, займаліся афармленнем транспартных дакументаў, выконвалі ролю пагранічнага нагляду за перавозкамі грузаў па чыгунцы. У склад пастарункаў на чыгуначных станцыях уваходзілі начальнік пастарунка, пісар і да 20 чалавек супрацоўнікаў паліцыі і ваенных.

Спецыфіка працы дзяржаўных устаноў, арганізацыя архіўнага захавання дакументаў у органах мясцовай улады цесна ўзаемазвязана з палітычным і эканамічным станам акупіраваных тэрыторый. Сярод іншага, можна адзначыць фарміраванне асабовага складу дзяржаўных органаў улады, паліцыі, судоў. Спецыфічнай для гэтых зямель з'ўлялася таксама і ўвядзенне пасады начальніка раёна, які сачыў за працай як паліцыі, так і выканаўчай улады.

Такім чынам, гісторыя дзяржаўных устаноў 2-й Рэчы Паспалітай, немагчымая без вывучэння польскага справаводства ў цэлым і справаводства пэўных уладных устаноў (паліцыі, мясцовых органаў улады, судоў і пракуратуры) у прыватнасці, з'яўляецца неад'емнай часткай у даследаванні гісторыі Беларусі. Тым больш што з Польшчай нас звязвае не толькі агульная мяжа, але і шматгадовае сумеснае гістарычнае развіццё і супрацоўніцтва. Улічваючы недаследаванасць гэтай тэмы, можна сцвярджаць, што яе дасканалае вывучэнне можа быць карысным для ўдасканалення сучаснай гістарычнай навукі ў Беларусі.

Спіс выкарыстанных крыніц

1. История Зонального архива в Молодечно // Официальный сайт города [Электронный ресурс]. — 2010. — Режим доступа: . — Дата доступа: 19.01.2011.



2. Cialkowski, R. System prawno-finansowy samorzajdu terytorialnego w Polsce w latach 1918—1939 / R. Cialkowski // Nauki humanistyczno-spoleczne. — 1967. — Zesz. 52. — S. 55—87.
3. Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці. — Прадмова да вопісу № 1 спраў пастаяннага захавання за 1920—1939 гг. «Наваградскае ваяводскае праўленне». — С. 4—9.
4. Там жа.
5. Там жа.
6. Там жа.
7. Маладзечанскі занальны дзяржаўны архіў. — Ф. 9. — Воп. 1. — Спр. 123. Загады і распараджэнні Віленскага ваяводскага праўлення.
8. Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці. — Прадмова да вопісу № 1 спраў пастаяннага захавання за 1920—1939 гг. «Нясвіжскае павятовае староства». — С. 3—6.
9. Там жа.
10. Там жа.
11. Там жа.
12. Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці. — Ф. 46. — Воп. 1. — Спр. 366. Ведамасці на выдачу заробкаў працаўнікам і служачым устаноў і прадпрыемстваў.
13. Маладзечанскі занальны дзяржаўны архіў. — Ф. 9. — Воп. 1. — Спр. 123. Загады і распараджэнні Віленскага ваяводскага праўлення.
14. Там жа.
15. Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці. — Ф. 103. — Воп. 1. — Спр. 7. Пратаколы агульных сходаў сялян па выбарах солтысаў і іх наместнікаў.
16. Там жа.
17. Там жа.
18. Маладзечанскі занальны дзяржаўны архіў. — Ф. 15. — Воп. 1. — Спр. 10. Перапіска Маладзечанскага павятовага староства з начальнікам 2-га раёна.
19. Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці. — Ф. 46. — Воп. 1. — Спр. 281. Пратаколы нарад гарадской рады (г. Гродна).
20. Там жа.
21. Там жа.
22. Там жа.
23. Маладзечанскі занальны дзяржаўны архіў. — Ф. 9. — Воп. 1. — Спр. 159. Загады каменданта Дзяржаўнай паліцыі Маладзечанскага павета.
24. Там жа.
25. Там жа.
26. Там жа.
27. Там жа.

*Артыкул паступіў у рэдакцыю 11.03.2011*

**А. І. Буча,**
*аспірант кафедры гісторыі паўднёвых і заходніх славян гістарычнага факультэта БДУ, магістр гістарычных навук;*
e-mail: buchaandrei@yandex.ru

# МАТЭРЫЯЛЫ АБ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ Ў ЧЭХАСЛАВАКІІ (1921—1935) У ФОНДАХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АРХІВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Міжваенны перыяд стаў якасна новым этапам у жыцці беларускай дыяспары. Менавіта ў гэты час за мяжой з'яўляюцца беларускія нацыянальныя арганізацыі, адбываецца згуртаванне беларускага насельніцтва на чужыне вакол ідэі беларускай дзяржаўнасці. Адным з цэнтраў, дзе праходзілі вышэйадзначаныя працэсы, з'яўлялася Чэхаславацкая Рэспубліка (ЧСР). У гэтай краіне ў 1920—1930-я гг. пражывала значная колькасць беларусаў. Асаблівасцю беларускай дыяспары ў ЧСР з'яўляўся высокі адукацыйны ўзровень яе прадстаўнікоў (90% былі студэнтамі ВНУ, астатнія — прадстаўнікамі эміграцыйнага ўрада БНР, а таксама розных палітычных партый). Дадзены факт і абумовіў актыўную грамадска-палітычную пазіцыю беларусаў у ЧСР, што выявілася ў стварэнні шматлікіх суполак і таварыстваў, выданні часопісаў, прадуктыўнай навуковай дзейнасці, актыўным супрацоўніцтве з рускай і ўкраінскай дыяспарамі.

Вывучэннем грамадска-палітычнай дзейнасці беларускай дыяспары ў ЧСР (1921—1935) займаліся навукоўцы як у Беларусі, так і за яе межамі. Сярод беларускіх даследчыкаў трэба адзначыць У. Ляхоўскага, працы якога прысвечаны агульнаму разгляду грамадска-палітычнай дзейнасці беларускай дыяспары ў ЧСР у міжваенны перыяд [3; 4]. Сярод замежных публікацый трэба вылучыць даследаванні чэхаславацкай навукоўцы Д. Каленоўскай аб жыцці беларускай эміграцыі ў ЧСР (1918—1939) [44], украінскіх гісторыкаў В. Зубко і В. Ямковай аб беларуска-ўкраінскім культурным і навуковым супрацоўніцтве ў ЧСР [1; 2; 43]. Але грамадска-палітычная дзейнасць беларускай дыяспары ў ЧСР (1921—1935) да гэтага часу не стала прадметам комплекснага даследавання з дэталёвым вывучэннем усіх аспектаў праблемы (колькаснага і якаснага складу дыяспары, дзейнасці прасавецкіх арганізацый, удзелу прадстаўнікоў дыяспары ў міжнародных акцыях і мерапрыемствах). У сувязі з гэтым высокую каштоўнасць прадстаўляе адносна шырокае кола архіўных матэрыялаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (НАРБ), зварот да якіх дапаможа праліць святло на шмат якія старонкі гісторыі беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі ў 1920-я — першай палове 1930-х гг. Вывучэнне гэтых дакументаў, праведзенае аўтарам дадзенага даследавання ў НАРБ на працягу некалькіх гадоў, дазваляе гаварыць аб наяўнасці шэрагу дакументаў, якія да сённяшняга дня былі незапатрабаванымі і не знаходзіліся ў навуковым ужытку. Таму ёсць патрэбнасць прадставіць кароткі агляд даследаваных архіўных фондаў і спраў НАРБ па гісторыі грамадска-палітычнай дзейнасці беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі (1921—1935).



Крыніцы НАРБ па вывучаемай праблеме варта падзяліць на чатыры групы: 1) матэрыялы справаводства: а) арганізацыйна-распарадчая дакументацыя; б) улікова-кантрольная дакументацыя; в) справаздачная дакументацыя; 2) публіцыстычныя творы; 3) эпісталярныя крыніцы; 4) перыядычны друк [42].

**Дакументы справаводства**. Яны з'яўляюцца найбольш маштабнай і інфармацыйна насычанай групай крыніц. Таму дадзеная група падзелена на тры падгрупы.

*Арганізацыйна-распарадчая дакументацыя*. Да яе адносяцца статуты Беларускай рады ў Празе [27] і Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый (АБСА) [41], дэкларацыя Таварыства студэнтаў беларусаў і маларосаў «Адзінства рускай культуры» [23]. Гэтыя дакументы даюць уяўленне аб задачах, формах і метадах дзейнасці дадзеных арганізацый. Так, напрыклад, згодна статуту, АБСА абавязвалася абараняць беларускае студэнцтва перад уладамі ў публічным жыцці, у міжнародных і дабрачынных студэнцкіх і грамадскіх арганізацыях.

Сярод інфармацыйна-даведачных матэрыялаў варта вызначыць даклад аб беларуска-эсэраўскім руху, падрыхтаваны сакрэтным аддзелам Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення БССР у 1925 г. [5, л. 7]. У дадзеным дакладзе паведамлялася, што ў Празе існуе значны беларускі эсэраўскі цэнтр, які кіруе эсэраўскім рухам у БССР. Беларускія студэнты, якія пасля атрымання вышэйшай адукацыі ў ЧСР ехалі на працу ў БССР, называліся эсэраўскімі агентамі. Акрамя гэтага, цікавасць прадстаўляе «Паведамленне» замежнага бюро Цэнтральнага камітэта Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р), матэрыялы якога адлюстроўваюць складаную ідэалагічную сітуацыю ў беларускім асяроддзі ў ЧСР [10, л. 70—70адв.].

Шырока прадстаўлена ў НАРБ бягучая перапіска беларускіх арганізацый у ЧСР з беларускімі арганізацыямі ў Вільні. Шмат важных звестак аб размеркаванні стыпендый паміж беларускімі грамадска-палітычнымі арганізацыямі, адборы прэтэндэнтаў на стыпендыі, арганізацыі пераезду ў ЧСР змешчана ў перапісцы Таварыства беларускай школы ў Вільні (ТБШ) з Беларускай грамадой у Празе, Беларускім студэнцкім гуртком імя Ф. Скарыны, беларускім аддзелам Міністэрства адукацыі Латвіі [34, л. 6—6адв., 10, 22адв., 48—48адв., 50, 60, 75, 86; 35]. Так, інфармацыя пра тое, што ў ЧСР для беларусаў выдзелены стыпендыі на навучанне ў ВНУ, друкавалася ў віленскіх часопісах і газетах. Частка стыпендый прызначалася беларускім грамадска-палітычным арганізацыям у Латвіі, дзе значная колькасць беларускай моладзі не мела магчымасці атрымаць вышэйшую адукацыю з-за дрэннага матэрыяльнага становішча.

Перапіска Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні (БСС) з АБСА і іншымі беларускімі арганізацыямі ў ЧСР дазваляе даследаваць змест і характар дзейнасці найбуйнейшай беларускай студэнцкай арганізацыі міжваеннага перыяду — АБСА, а таксама скласці ўяўленне аб спектры беларускіх арганізацый, якія дзейнічалі ў ЧСР у пачатку 1930-х гг. [40]. Асабліва актыўна перапіска паміж АБСА і БСС вялася ў канцы 1920-х — першай палове 1930-х гг. Дадзеныя арганізацыі плённа супрацоўнічалі паміж сабой. Больш таго, у канцы 1920-х гг. БСС увайшоў у склад АБСА, а ў 1930 г. эканамічны, прэсавы і спартыўны аддзелы АБСА былі перанесены ў Вільню і склалі разам «Аддзел урада АБСА ў Вільні». Таму невыпадкова, што ў перапісцы абедзве арганізацыі давалі вельмі падрабязны агляд сваёй дзейнасці.

У пісьмах АБСА да Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Вільні (БІГІК) за 1931—1932 гг. змешчаны просьбы аб матэрыяльнай дапамозе для ўдзелу ў міжнародных канферэнцыях, арганізаваных пад эгідай Міжнароднай канфедэрацыі студэнтаў [32, л. 102—103; 33, л. 90е].

Працэс фарміравання беларускай дыяспары ў ЧСР адлюстраваны ў дыпламатычнай перапісцы Дыпламатычнага прадстаўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) у ЧСР за 1921—1924 гг. Так, пісьмы паўнамоцнага прадстаўніка БНР у ЧСР М. Вяршыніна да старшыні ўрада БНР В. Ластоўскага тычацца фінансавага боку дзейнасці беларускага прадстаўніцтва ў ЧСР за 1921 г. [11, л. 34, 37, 46, 58—59адв.]. У перапісцы Дыпламатычнага прадстаўніцтва БНР у ЧСР з міністрам замежных спраў БНР А. Цвікевічам за 1921—1923 гг. утрымліваецца каштоўная інфармацыя пра змест дзейнасці М. Вяршыніна ў адзначаны перыяд [11, л. 3—7, 21, 33, 38, 43—45адв., 67—68]. Апошні, у прыватнасці, кожны тыдзень рабіў агляды чэшскай прэсы (дасылаў іх А. Цвікевічу), змяшчаў у чэшскім друку артыкулы аб становішчы ў Беларусі. Акрамя ўсяго гэтага, М. Вяршынін займаўся непасрэднай падрыхтоўкай Першай Усебеларускай палітычнай канферэнцыі, якая адбылася ў верасні 1921 г. у Празе. Цікавыя звесткі аб арганізацыі прыезду беларусаў на вучобу ў ВНУ ЧСР выяўлены ў перапісцы Дыпламатычнага прадстаўніцтва БНР у ЧСР з Дыпламатычным прадстаўніцтвам БНР у Літве за 1922—1923 гг. [11, л. 8—9адв., 14, 15, 20; 14]. З гэтых пісьмаў можна даведацца аб тым, што М. Вяршынін адносіў спісы студэнтаў, якія мусілі прыехаць на навучанне, у Міністэрства замежных спраў (МЗС) ЧСР для зацвярджэння, а апошняе накіроўвала распараджэнні аб выдачы віз для беларускіх студэнтаў сваім консулам у Коўне, Рызе, Варшаве і Сафіі. Меркаваць аб пачатку арганізацыйнага жыцця беларускіх студэнтаў у ЧСР, а таксама пра ідэалагічную атмасферу ў іх асяроддзі дазваляе копія пісьма М. Вяршыніна прадстаўніку МЗС ЧСР пры Чэшска-ўкраінскім камітэце [14, л. 105—106адв.]. Так, у другой палове 1921 г. пры Беларускай грамадзе ў Празе была створана студэнцкая секцыя, а ўжо вясной 1922 г. адбыўся першы ідэалагічны раскол сярод беларускіх студэнтаў. Паводле даных перапіскі Дыпламатычнага прадстаўніцтва БНР у Літве з Чэхаславацкім і Нямецкім консульствамі ў Літве можна вызначыць лік беларускіх службовых асоб і студэнтаў, якія выехалі ў ЧСР у 1922—1923 гг. [15].



Даволі змястоўна ў фондах НАРБ прадстаўлена пратакольная дакументацыя беларускіх арганізацый, якія дзейнічалі ў ЧСР на працягу 1920-х — першай паловы 1930-х гг.

Асноўныя накірункі дзейнасці Беларускай рады ў Празе з лістапада 1923 г. (пачатак функцыянавання) і да снежня 1925 г. адлюстраваны ў пратаколах пасяджэнняў прэзідыума дадзенай арганізацыі [28]. На гэты час прыпаў найбольш актыўны перыяд грамадска-палітычнай дзейнасці Беларускай рады ў Празе, якая спрабавала заняць лідыруючае становішча сярод іншых арганізацый беларускай дыяспары ў ЧСР. Менавіта 1924—1925 гг. сталі для беларусаў у ЧСР вельмі багатымі на розныя мерапрыемствы. У 1924 г. Беларуская грамада ў Празе святкавала 40-я ўгодкі смерці В. Дуніна-Марцінкевіча, 6-я ўгодкі незалежнасці БНР. Падрабязныя даныя пра правядзенне гэтых урачыстасцей змяшчаюць адпаведныя пратаколы [20; 30]. ЧСР таксама стала месцам працягу дзейнасці групы беларускіх эсэраў на чале з Т. Грыбам. Пратакол нарады сяброў БПС-Р прысвечаны акурат пытанню падрыхтоўкі сталай партыйнай арганізацыі ў ЧСР [19]. Пратаколы камісіі па разглядзе справы па абвінавачанні студэнтамі-беларусамі братоў Вацлава і Францішка Пяткевічаў у шпіянажы і падробцы дакументаў для атрымання пенсіі сведчаць пра складаныя ўзаемаадносіны ў беларускім студэнцкім асяроддзі [29]. У пратаколе рэвізійнай камісіі Беларускай рады ў Празе змешчаны каштоўныя звесткі аб дзейнасці дадзенай арганізацыі ў канцы 1920-х гг. [31, л. 3—5]. Цікава, што ў гэты час у склад кіраўніцтва Беларускай рады ў Празе ўваходзілі ў пераважнай большасці прадстаўнікі беларускага студэнцтва. Пратаколы пасяджэння ўправы Дапамаговага фонду ўкраінскіх і беларускіх студэнтаў у Празе дазваляюць прааналізаваць узровень беларуска-ўкраінскага супрацоўніцтва ў справе арганізацыі матэрыяльнай падтрымкі незабяспечаных студэнтаў ва ўмовах пагаршэння эканамічнага становішча і значнага скарачэння фінансавай падтрымкі з боку чэхаславацкіх улад у першай палове 1930-х гг. [21].

*Улікова-кантрольная дакументацыя* даволі шырока прадстаўлена ў фондах НАРБ. Заявы на атрыманне стыпендый на навучанне ў ЧСР за 1922—1923 гг. адлюстроўваюць маштабы кампаніі па выбары кандыдатаў у Заходняй Беларусі [36—38]. Так, беларускія гімназіі ў Заходняй Беларусі не давалі сваім выпускнікам так званых «правоў публічнасці». Выпускнікі беларускіх гімназій, каб паступіць ва ўніверсітэт, былі вымушаны самастойна рыхтавацца да здачы дзяржаўных экзаменаў у польскай гімназіі, каб атрымаць атэстат сталасці. Да таго ж навучанне ва ўніверсітэце было платным. Таму магчымасць бясплатнага навучання ў ЧСР была, напэўна, адзіным шанцам для заходнебеларускай моладзі на атрыманне вышэйшай адукацыі. Колькасць жадаючых вучыцца ў разы перавышала колькасць выдзеленых стыпендый. У

сувязі з гэтым праводзіўся вельмі жорсткі адбор. Пры прызначэнні ў лік стыпендыятаў бралася пад увагу сацыяльнае і матэрыяльнае становішча, удзел у беларускім руху, наяўнасць рэкамендацый ад беларускіх дзеячаў, навучальная ўстанова, якую скончыў кандыдат на атрыманне стыпендыі. Акрамя гэтага, тыя, хто ехаў на вучобу ў ЧСР па накіраванні віленскіх беларускіх арганізацый, падпісвалі абавязацельства, згодна з якім пасля заканчэння навучання павінны былі вярнуцца працаваць на Бацькаўшчыну, напісаць і выдаць па сваёй спецыяльнасці адну кнігу на роднай мове, дапамагчы аднаму беларусу, вызначанаму ТБШ, атрымаць адукацыю за мяжой [39]. Прааналізаваўшы пасведчанні ТБШ аб накіраваннні беларускіх студэнтаў на навучанне ў ЧСР [34, л. 7—9, 11, 17—18, 20, 45, 47, 51—55, 71—73], спіс студэнтаў-беларусаў, якія навучаліся ў Празе ў 1922 г. [35, л. 26], спіс кандыдатаў на стыпендыі на 1922/23 навучальны год, прадстаўленыя на зацвярджэнне ў МЗС ЧСР [35, л. 62—63], можна скласці ўяўленне аб колькасным складзе беларускага студэнцтва ЧСР у 1922 г. Так, у маі 1922 г. па стыпендыях чэхаславацкага ўрада ў ЧСР навучаліся 25 беларусаў, восенню 1922 г. лік нашых студэнтаў павялічыўся да 62 чалавек.

*Справаздачная дакументацыя*. Гэтая крыніца таксама знайшла адлюстраванне ў фондах НАРБ. Фінансавыя справаздачы дыпламатычнага прадстаўніка БНР у ЧСР за 1921—1922 гг. змяшчаюць вельмі важныя звесткі пра фінансавы аспект дзейнасці Дыпламатычнага прадстаўніцтва БНР у ЧСР у першыя гады існавання [12, л. 27; 13, л. 1—6]. Дзейнасць беларусаў у ЧСР не заставалася па-за ўвагай кіраўніцтва БССР, якое было зацікаўлена ў ідэалагічнай пераарыентацыі беларускай моладзі з мэтай яе прыезду, пасля атрымання вышэйшай адукацыі, на працу ў Савецкую Беларусь. Таму неаднаразова арганізоўваліся паездкі беларускіх пісьменнікаў і навукоўцаў у ЧСР. Так, у справаздачах У. Пічэты і З. Жылуновіча аб заграністых камандзіроўках сустракаюцца каштоўныя даныя аб іх знаходжанні ў ЧСР і кантактах з прадстаўнікамі беларускай моладзі [6, л. 25—32; 8, л. 31—35].

**Публіцыстычныя творы**. Грамадска-палітычная дзейнасць беларускай дыяспары ў ЧСР (1921—1935) паказана ў іх у значна меншай ступені ў параўнанні з дакументамі справаводства, прадстаўленымі ў фондах НАРБ. Да гэтай групы адносяцца прамовы, артыкулы і нататкі актыўных дзеячаў беларускай дыяспары ў Празе Т. Грыба і В. Русака. Найбольшую цікавасць выклікае артыкул Т. Грыба «Тэзісы аб культурна-нацыянальным аб’яднанні беларускага студэнцтва ў Празе», напісаны ў маі 1925 г. Галоўную прычыну раз’яднанасці ў беларускім студэнцкім асяроддзі Т. Грыб бачыў у тым, што беларускія студэнты былі ў пераважнай большасці ўцекачамі з Заходняй Беларусі, а не палітычнымі эмігрантамі (як гэта было ў рускіх і ўкраінцаў), вельмі маладога ўзросту, не мелі акрэсленага светапогляду, таму і падпадалі пад розныя ўплывы і мянялі свае настроі і перакананні. Выхад з дадзенай сітуацыі аўтар артыкула бачыў у стварэнні культурна-навуковага таварыства, якое аб’яднала б



рознае па палітычных перакананнях беларускае студэнцтва на агульнай культурна-навуковай глебе [24]. Неўзабаве ў Празе было створана Беларускае (Крывіцкае) таварыства імя Ф. Скарыны, найбольш дынамічны перыяд дзейнасці якога прыйшоўся на другую палову 1920-х — першую палову 1930-х гг. Крывіцкае таварыства праводзіла актыўную асветніцкую працу шляхам чытання дакладаў і рэфератаў на розныя тэмы і выдання часопіса «Іскры Скарыны». Акрамя гэтага, сведчанні аб грамадскай дзейнасці беларусаў у ЧСР адлюстраваны ў прамове Т. Грыба на ўрачыстым адкрыцці помніка на магіле П. Крачэўскага ў 1930 г. [25]. Нататкі і артыкул «Студэнцтва і ягоныя арганізацыі» В. Русака прадстаўляюць інфармацыю аб удзеле гэтага дзеяча ў грамадска-палітычным жыцці беларускай дыяспары ў ЧСР [5, л. 1—5; 17]. Так, В. Русак, паводле вышэйадзначаных крыніц, з’яўляўся старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэта за мяжой, які знаходзіўся ў Празе. Ад імя дадзенага камітэта ў 1931 г. былі пададзены два мемарандумы ў Лігу Нацый. Акрамя гэтага, В. Русак у 1932 г. удзельнічаў у падрыхтоўцы і фінансаванні выдання мемарандума прэзідыума Рады БНР на французскай мове.

**Эпісталярныя крыніцы**. Дакументы гэтага кшталту, якія знаходзяцца на захаванні ў НАРБ, маюць важнае значэнне ў вывучэнні жыцця і дзейнасці прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў ЧСР у 1920-я гг. У прыватных пісьмах П. Крачэўскага да В. Ластоўкага і А. Цвікевіча ўтрымліваюцца звесткі аб удзеле П. Крачэўскага, які ў снежні 1921 г. — лютым 1922 г. знаходзіўся ў Празе, у арганізацыі беларускай дыяспары ў ЧСР, а таксама наладжванні кантактаў з прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей былой Расійскай імперыі, для якіх ЧСР таксама стала месцам сталага жыхарства [11, л. 23—23адв., 26—26адв., 29—32адв.]. У пісьме Т. Грыба і Я. Мамонькі ў Віленскі акруговы камітэт БПС-Р падкрэсліваецца, каб на навучанне ў Прагу пасылаліся такія студэнты, якія пасля атрымання вышэйшай адукацыі маглі быць карыснымі грамадзянамі роднага краю і актыўнымі змагарамі за народную волю [26, л. 1]. У перапісцы Л. Зайца, В. Захаркі, П. Крачэўскага, У. Пракулевіча з А. Цвікевічам за верасень—снежань 1924 г. можна знайсці living рознабаковую інфармацыю пра грамадска-палітычную дзейнасць беларускай дыяспары ў ЧСР у адзначаны перыяд [9, л. 106—108адв., 110—110адв., 153—155адв., 157—166адв.]. Гэта і даныя пра дзейнасць Беларускай рады ў Празе і драматычнага гуртка, спробы стварэння кафедры беларусазнаўства, даклад В. Ластоўскага на сходзе беларускай дыяспары ў Празе ў кастрычніку 1924 г., расстаноўку палітычных сіл у асяроддзі беларускага студэнцтва ў Празе і інш. Пісьмы Л. Зайца і У. Пракулевіча ў рэдакцыю часопіса «Прамень» за 1926 г. маюць на мэце інфармаванне беларусаў ЧСР аб выніках Берлінскай канферэнцыі, дыскрэдытацыю пазіцыі П. Крачэўскага, прапаганду ідэі вяртання на сталае жыхарства ў БССР [16, л. 53—58адв., 61—62адв.].

**Перыядычны друк**. Гэтыя матэрыялы па вывучаемай праблеме, знойдзеныя ў фондах НАРБ, не надта шматлікія, але вельмі каштоўныя. У пер-

Найбольш ранняй спробай непасрэднага даследавання інвентароў Беларусі можна лічыць прадмову І. Спрогіса і А. Турцэвіча, складзеную да тамоў 14 і 35 «Актаў, выдадзеных Віленскай археаграфічнай камісіяй» [1, т. 14, с. 11—24; т. 35. с. 9—32].

Першай комплекснай характарыстыкай інвентароў як крыніцы гаспадарчага і сацыяльна-эканамічнага апісання адзначыўся артыкул у штогодніку па аграрнай гісторыі Усходняй Еўропы Паўла Рыгоравіча Казлоўскага (1911—1996), падрыхтаваны сумесна з В. У. Чапко [23]. Працяг даследавання інвентароў праводзіцца П. Р. Казлоўскім у яго манаграфіі «Магнацкая гаспадарка ў Беларусі ў другой палове XVIII ст.» [24]. Аўтар дае вызначэнне тэрміну «інвентар», заўважае, што паўната і дастаавернасць інвентара часта залежыць ад абставін, пры якіх ён складаўся. Так, калі ён складаўся пры продажу або здачы маёнтка ў заставу, інвентар мог адлюстроўваць не рэчаісную карціну гаспадарання, а ўмоўную [24, с. 27]. Зазначаецца аб неабходнасці пры характарыстыцы сацыяльна-эканамічных адносін разглядаць інвентар разам з крыніцамі фінансава-разліковай і справаздачнай дакументацыі. У сваёй пазнейшай манаграфіі «Землеўладанне і землекарыстанне ў Беларусі ў XVIII — першай палове XIX ст.» аўтар выкарыстоўвае тарыфы падымнага падатку (спісы зямельных уладанняў і гарадскіх паселішчаў з пазначэннем колькасці населеных двароў і памеру падатку з іх) як дадатковыя крыніцы для разгляду асаблівасцей сацыяльна-эканамічнага развіцця [25]. Па падліках Казлоўскага, на момант XVIII ст. у адным дыме маглі пражываць у сярэднім 3,5 асобы мужчынскага полу. Такім чынам, на 1000 дымоў прыходзілася каля 3500 чалавек мужчынскага полу, а ўсяго 7 тыс. чалавек [25, с. 80]. Такія разлікі дазваляюць не толькі падлічыць колькасць насельніцтва, абкладзенага падаткамі і павіннасцямі, аднак дазваляюць адзначыць дынаміку росту ці змяншэння насельніцтва пры параўнанні паказчыкаў за розныя гады.

Адна з першых спроб публікацыі інвентароў маёнткаў, старостваў і асобных двароў была праведзена ў тамах 14 (XVI ст. — 93 штукі), 25 (XVII ст.), 35 (XVIII ст. — 93 штукі) і 38 (XVIII ст. — 50 штук) выдання «Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі» [1]. Інвентар двара мешчаніна Я. Гегера ў Менску (13.03.1654) быў змешчаны ў трэцім томе «Беларускага архіва» [49]. Публікацыяй інвентароў таксама адзначылася выданне «Беларусь у эпоху феадалізму», дзе як цалкам, так і часткова апублікавана восем гаспадарчых апісанняў XVII—XVIII ст. [4].

Першым зборнікам, які вылучаўся грунтоўнай тэматычнай падборкай і акцэнтаванасцю выключна на праблеме інвентароў з'яўлялася выданне «Інвентары магнацкіх валоданняў Беларусі XVII—XVIII стст.». У першай кнізе апублікаваны дзевяць інвентароў валодання Смаргонь Ашмянскага павета пачатку XVII ст. — другой паловы XVIII ст. (1788) [16]. У другой кнізе змешчана восем інвентароў графства Цімкавічы Навагрудскага ваяводства за 1622—1788 гг. [17]. Асноўнай інфарматыўнай часткай інвентароў з'яўляюцца табліцы, дзе змешчаны звесткі аб павіннасцях кожнага селяніна, падрабязна асветлена становішча розных груп насельніцтва, парадак выканання павіннасцей. Публікацыя інвентароў на прыкладзе Смаргоні і Цімкавічаў змушае звярнуць увагу на згаданыя гаспадарчыя апісанні таксама як на крыніцы дэмаграфічных і сацыяльных працэсаў. Дэмаграфічная інфармацыя заключаецца ў падачы інфармацыі аб колькасці «сыноў» (асоб мужчынскага полу), замацаваных за кожным канкрэтным дваром. Дадзеная статыстыка дазваляе вызначыць агульны ўзровень прадукцыйных сіл асобна ўзятага паселішча ў канкрэтны перыяд яго існавання. Пры пазначэнні памераў павіннасцей і колькасці валок згадваюцца сацыяльныя катэгорыі насельніцтва, а менавіта: цяглыя і чыншавыя сяляне, баяры, зямяне, сяляне-рамеснікі (млынары, слесары, бондары і інш). Аднак прыналежнасць канкрэтных сем'яў да асобных сацыяльных катэгорый прасочваецца толькі ў выпадку з вольнымі сялянамі і сялянамі-рамеснікамі.



Інвентары займаюць значнае месца ў працы З. Ю. Капыскага «Крыніцазнаўства аграрнай гісторыі Беларусі» [26]. Як адна з крыніц, што паслужылі асновай для даследавання сельскай абшчыны ў Беларусі XVI—XVIII стст., інвентары характарызуюцца В. Ф. Голубевым [15].

З усяго вышэйсказанага можна зрабіць выснову аб тым, што большасць прац па аграрнай гісторыі XVI—XVIII стст. абапіраецца на інвентары як найбольш поўныя крыніцы сельскагаспадарчага апісання.

Вопыт польскай археаграфічнай навукі ў вобласці публікацыі інвентароў можна назіраць на прыкладзе «Люстрацыі ваяводстваў Рускага, Падольскага і Бельскага (1564—1565)» [52], падрыхтаванай польскімі даследчыкамі Крыштафам Хлапоўскім і Аленай Жытковіч на падставе матэрыялаў Архіва Скарбу Кароннага, Галоўнага архіва Старажытных актаў, апублікаваных актавых кніг гродскіх і земскіх судоў [50], архіва канцлера і гетмана вялікага Яна Замойскага [51]. Інвентары змяшчаюць поўнае апісанне падатных катэгорый насельніцтва, гаспадарчых пабудоў, сумы падатку з кожнага паселішча. У адрозненне ад беларускіх інвентароў згаданага часу прозвішчы і імёны падданых не называюцца, адсутнічаюць звесткі пра сям'ю [1, т. 14, с. 312—335]. Скарачэнні, а таксама пропускі літар і слоў падаюцца ў квадратных дужках. Памылкі ў тэксце публікацыі раскрываюцца ў заўвагах.

Варта падкрэсліць, што польскія даследчыкі таксама разглядалі інвентары выключна як крыніцу па гаспадарчай гісторыі, якую на сённяшні момант можна аналізаваць на прадмет выяўлення звестак па штодзённай гісторыі.

Многія інвентары зберагаюцца ў фондах павятовых гродскіх і земскіх судоў. Значэнне актавых кніг згаданых устаноў у даследаванні штодзённасці падкрэслена ў артыкуле В. У. Бабковай, апублікаваным у краязнаўчым часопісе «Ваўкавышчына» ў 2007 г. [3].

У НГАБ найбольш забяспечаны крыніцамі XVI—XVIII стст. фонд князёў Радзівілаў (ф. 694) і калекцыя мікрафільмаў № 5 (КМФ-5), у якой прад-

стаўлены інвентары з Галоўнага архіва старажытных актаў (Варшава). Захаваныя ў гэтых фондзе і калекцыі інвентары складаліся на радзівілаўскія ўладанні, а таксама на ўладанні тых магнацкіх сем'яў, што з часам далучылі свае тэрыторыі да маярату нясвіжскай ардынацыі роду (Алелькавічы, Вішнявецкія, Іллінічы і г. д.). Наяўныя інвентары адносяцца, як правіла, да тэрыторый Віцебскага і Навагрудскага ваяводстваў, Польшчы, Валыні і Літвы. У адрозненне ад прадстаўнікоў сярэдняй і дробнай шляхты, якая ўстойліва пражывала ў сваіх маёнтках, буйныя магнаты Радзівілы мелі патрэбу ў строгай сістэме справаздачнасці, якую павінна была здзяйсняць адміністрацыя аддаленых маёнткаў. Інвентары радзівілаўскіх уладанняў з'яўляюцца падрабязнымі крыніцамі гаспадарчай гісторыі і раскрываюць асаблівасці штодзённага жыцця сялянскага насельніцтва. Іх найбольш інфарматыўная частка — устава сялянам на падаткі і павіннасці, якая ў тэкставай форме выкладалася пасля табліц, дзе пазначаўся гаспадарчы стан кожнага двара. Там магла змяшчацца і рэгламентацыя царкоўных і сямейных паводзін сялян.

На падставе інвентароў штодзённасць магчыма даследаваць у трох вымярэннях, а менавіта як прыватную, грамадскую і гаспадарчую.

Прыватнае жыццё сялянскага насельніцтва найменш асветлена ў дакументах. Яно характарызуе асабісты бок жыцця селяніна, яго памкненні, інтарэсы і настроі. Адзін з важных паказальнікаў сялянскай прыватнай штодзённасці — адукацыя. Яна фіксавалася ва ўставах да інвентароў. Так, у Генеральнай уставе Убарцкай воласці, змешчанай у інвентары 1776 г., былі ўнесены словы віленскага біскупа Ігнація Масальскага: «Я хацеў бы, каб людзі, якія па волі Бога знаходзяцца пад маёй уладай, былі найшчаслівейшымі, але таго не можа быць без асветы, таму абавязваю дваровую адміністрацыю, каб дабіваліся таго, што ўсе гаспадары праз любоў да свайго патомства аддавалі дзяцей зімоваю парою ў парафіяльныя школы, каб там вывучыўшыся адпаведным для свайго саслоўя навукам, лепш разумелі мае погляды і бацькоўскую апеку, з жаданнем павялічыць для кожнага магчымасці, даваемыя лёсам, атрымаць поўную свабоду, пакінуўшы толькі дабравольна паступаючую ў спрыяльным памеры даніну» [15, с. 282—283].

Уставы да інвентароў і інструкцыі адміністратарам маёнткаў змяшчаюць таксама інфармацыю, якая датычыцца грамадскай штодзённасці, а менавіта звестак аб сямейных і царкоўных паводзінах сялян. Сямейныя паводзіны выражалі адносіны селяніна з членамі сям'і і грунтаваліся на прынцыпах патрыярхальнага падпарадкавання старэйшаму найбольш дасведчанаму ў гаспадарцы. Сялянскія сем'і з'яўляліся іерархічнымі, аднак пэўная роўнасць паміж мужчынамі і жанчынамі засведчана выпадкамі добраахвотных разводаў без згоды царквы, калі жонка або муж кідалі сваю пару і пераходзілі на жыхарства да іншай. Цікавым фактам пры гэтым з'яўляецца свабоднае заключэнне шлюбаў без іх засведчання ў царкве абрадам вянчання, свабодная практыка разводаў без уліку дэмаграфічных і маёмасных інтарэсаў уласніка [14, с. 55].



Царкоўныя паводзіны вызначаліся этнаканфесійнай прыналежнасцю сялянскага прыходу ці парафіі ўвогуле і асобай святара ў прыватнасці. Паганскія забабоны мелі месца паўсюдна на тэрыторыі Беларусі і ў другой палове XVIII ст. Так, адшуканая В. Ф. Голубевым устава, змешчаная ў канцы інвентара Стрэшынскай воласці 1751 г. выказвае забарону падданым займацца «чарадзействам, варажбой, забабонамі, нядобрымі шлюбамі і іншымі падобнымі грахамі». Адзначалася важнасць ролі дзясятнікаў, якія б сачылі за паводзінамі сваіх суседзяў [14, с. 52]. У інвентары ўладання Стрэшын 1759 г. занатаваны факт вялікага ўражання, якое напаткала камісараў адносна таго, што насельніцтва «зусім не імкнулася хадзіць да царквы і людзі без ніякіх прыкмет веры і абычаяў, цемрай паганскай агорнуты» [14, с. 53].

Гаспадарчую штодзённасць характарызуе інфармацыя, звязаная з функцыянаваннем сельскай абшчыны. Двума асноўнымі параметрамі гісторыі гаспадарчай штодзённасці з'яўляюцца: гаспадарчая дзейнасць, накіраваная на забеспячэнне ўласнага дабрабыту, і гаспадарчая дзейнасць на карысць дзяржавы, царквы або прыватнай асобы. Звычайна ў інвентарах утрымліваюцца ўскосныя сведчанні пра наяўнасць абшчыны ў вёсцы, калі адзначалася, што сяляне агулам узялі зямлю, агулам складваюцца і плацяць за яе. Аднак, у некаторых выпадках прамыя сведчанні аб існаванні сельскай грамады можна сустрэць у інвентарах. Так, перыядычныя інвентары магнацкіх ці дзяржаўных уладанняў, якія складаліся для ўліку даходаў, больш часта змяшчалі звесткі пра грамаду. Паводле назірання В. Ф. Голубева, абсалютная большасць згадак пра абшчыну звязана з парушэннямі ўнутры грамады, новаўвядзеннямі, скаргамі абшчыннікаў на кагосьці [15, с. 59].

Колькасць інвентароў у радзівілаўскім фондзе даволі значная і налічвае парадкам каля дзвюх тысяч адзінак захавання за розныя перыяды (канец XVI — сярэдзіна XIX ст.). У КМФ-5 зберагаецца 4633 мікрафільмы. Агульная колькасць інвентароў у архіве Радзівілаў у Варшаве складае 5408 адзінак захавання. Адпаведна 775 адзінак не трапілі ў НГАБ.

Інвентары як крыніцы антрапанімічнага кшталту прадстаўляюць сабой надзвычай цікавы комплекс дакументаў з багатай інфармацыяй, якая дазваляе разгледзець антрапонім як элемент жыццядзейнасці канкрэтнага індывіда.

Найбольш аб'ектыўнымі і навукова вытрыманымі публікацыямі па антрапаніміцы (менавіта так называецца раздзел анамастыкі, які займаецца тлумачэннем чалавечых уласных найменняў — імёнаў, імёнаў па бацьку, прозвішчаў, мянушак) адзначыліся адзін з ідэолагаў беларускага адраджэння Янка Станкевіч і філолаг Мікалай Бірыла. Філолаг і гісторык Янка Станкевіч (1891—1976) у сваім грунтоўным артыкуле «Нашы прозьвішчы» фактычна першы пачаў справу даследавання айчыннай антрапанімікі, упершыню падзяліў беларускія прозвішчы на пяць груп, згодна іх паходжання [46]. Акадэмічная антрапаніміка як анамастычны накірунак развівалася ў савецкі час выключна намаганнямі Мікалая Васільевіча Бірылы (1923—1992), які ў 1960—

1980-я гг. выдаў даволі значны збор манаграфій па гэтай дысцыпліне [5—12]. Аднак, разглядаючы антрапаніміку толькі скрозь прызму развіцця мовы, шаноўны даследчык не браў пад увагу антрапалагічны чыннік.

Адзначаны вышэй аспект вывучэння антрапонімаў больш датычыцца гістарычнай антрапанімікі, якая дагэтуль не атрымала значнага навуковага разгляду. Бадай, адзіным прыкладам такога даследавання можна назваць манаграфію А. Ф. Рогалева «Гістарычная антрапанімія Гомеля і ваколіц», дзе на падставе апублікаваных матэрыялаў даследуюцца імёны і прозвішчы жыхароў Гомельскай воласці XVI—XVIII стст. [38]. Галоўнымі хібамі дадзенай працы з'яўляюцца: непрадстаўленасць архіўных неапублікаваных крыніц (інвентароў) і непазначэнне арэала распаўсюджання прозвішчаў па канкрэтных паселішчах воласці.

Развіццё беларускай гістарычнай антрапанімікі цалкам звязана з даследаваннем штодзённасці канкрэтнай супольнасці ў вызначаны гістарычны адрэзак часу. Безумоўна, найбольш цікавымі з'яўляюцца пачаткі кожнага прозвішча, тая яго форма, якая ўпершыню згадваецца ў дакументах. Таму ў антрапанімічным даследаванні неабходна перш-наперш звяртацца да найбольш ранніх крыніц з генеалагічнай і антрапанімічнай інфармацыяй, што захаваліся на вызначанай тэрыторыі. Найбольш раннія інвентары датуюцца XVI ст.

Аднак факт захавання сярэдневяковага прозвішча да нашых дзён уласцівы не кожнаму рэгіёну Беларусі. Так, у другой палове XVIII ст. пры ўваходзе ўсходніх зямель Беларусі ў склад Расійскай імперыі прозвішчы сялян болей не пазначаліся. Але варта згадаць, што ў асобных мясцовасцях Магілёўшчыны сялянскіх прозвішчаў не існавала і раней, як, напрыклад, на тэрыторыі Капыскага і Раманаўскага графстваў (1759), дзе функцыі прозвішча магло выконваць імя па бацьку [53]. Прычыны такога нераўнамернага працэсу могуць быць раскрыты толькі пры дэталёвым аналізе наяўных крыніц і іх параўнанні паміж сабой.

Даследаванне антрапонімаў дазваляе таксама высветліць этнічныя і канфесійныя ўмовы існавання беларусаў, іх сакральныя ўяўленні, працэсы перамяшчэння насельніцтва. Дадзеная інфармацыя раскрываецца ў спісах сялянdворагаспадароў, па прозвішчах і імёнах, з якіх можна высветліць вышэйзгаданыя кампаненты штодзённасці. Так, сакральнасць уяўленняў прасочваецца праз ужыванне дахрысціянскіх імёнаў Война, Ждан, Нячай, што нясуць у сабе пэўныя чаканні і спадзяванні бацькоў. Факт перамяшчэння сялян з адной мясцовасці ў другую прасочваецца праз упамінанне аднаго і таго ж прозвішча ў інвентарах розных маёнткаў.

У сувязі з вышэйзгаданым можна зрабіць выснову, што перспектывы даследавання інвентароў з пазіцый штодзённасці грунтуюцца на магчымасці рэканструкцыі гаспадарчага побыту, царкоўных і сямейных норм сялянскіх паводзін, этнаканфесійнай прыналежнасці і сакральных уяўленняў, перасяленчых працэсаў.



Літаратура

1. Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией (АВАК). Т. 1—39. Вильно, 1865—1915. Т. 14. — Вільна, 1888. — С. 11—24, 312—335; Т. 35. — Вільна, 1910. — С. 9—32.
2. Антановіч, З. В. Міжканфесійныя пераходы ў матэрыялах Магілёўскай рымска-каталіцкай кансісторыі як крыніца па гісторыі штодзённасці канца XIX — пачатку XX ст. // Архіварыус. — Вып. 8. — Мінск, 2010. — С. 130—138.
3. Бабкова, В. У. Актавыя кнігі гродскіх і земскіх судоў як крыніца для вывучэння «гісторыі штодзённасці» Ваўкавышчыны / Вольга Бабкова // Ваўкавышчына: краязнаўчы часопіс. — 2007. — № 2. — С. 13—15.
4. Белоруссия в эпоху феодализма: сборник документов и материалов. — Т. 2. — Минск, 1960. — С. 210—227, 232—233, 235—256, 258—259, 261—264, 299—300.
5. Бірыла, М. В. Анамастычныя словаўтваральныя элементы ва ўсходне- і заходнеславянскіх мовах (адантрапанімічныя айконімы). — Мінск: Навука і тэхніка, 1973.
6. Бірыла, М. В. Беларуская анамастыка: [зборнік артыкулаў] / Акадэмія навук Беларусі. — Мінск: Навука і тэхніка, 1992. — 171 с.
7. Бірыла, М. В. Беларускія антрапанімічныя назвы ў іх адносінах да антрапанімічных назваў іншых славянскіх моў (рускай, украінскай, польскай). — Мінск, 1963.
8. Бірыла, М. В. Беларуская антрапанімія: Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы. — Мінск: Навука і тэхніка, 1966. Ч. 1.
9. Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія: прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі. — Мінск: Навука і тэхніка, 1969. Ч. 2.
10. Бірыла, М. В. Беларуская антрапанімія: структура ўласных мужчынскіх імён. — Мінск: Навука і тэхніка, 1982. Ч. 3.
11. Бірыла, М. В., Вангіс, А. П. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы. — Мінск: Навука і тэхніка, 1968.
12. Бірыла, М. В. Тыпалогія і геаграфія славянскіх прозвішчаў / АН БССР, Беларуск. кам. славістаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1988.
13. Блізнюк, Д. Побыт гаражанаў (1941—1944 гг.) / Д. Блізнюк // Спадчына. — 2003. — С. 66—76.
14. Голубеў, В. Ф. Паганскія і хрысціянскія традыцыі ў паўсядзённым (сямейным) жыцці сялян Беларусі ў XVI—XVIII стст. / Голубеў В. Ф. // Беларускае мастацтва: гісторыя і сучаснасць: зборнік матэрыялаў Рэспубліканскай навукова-творчай канферэнцыі, 19 сакавіка 2009 г. — Мінск, 2009. — Т. 2. — С. 49—56.
15. Голубеў, В. Ф. Сельская абшчына ў Беларусі XVI—XVIII стст. — Мінск: Беларуская навука, 2008. С. 59—62.
16. Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII—XVIII вв. Владение Сморгонь. — Минск, 1977. — 256 с.
17. Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII—XVIII вв. Владение Тимковичи. — Минск, 1982. — 216 с.
18. Иокелло, А. И. Микроистория и история повседневности в белорусской историографии: проблемы становления / А. И. Иокелло // Состояние и развитие методологических исследований в исторической науке Республики Беларусь и Российской Федерации: сборник научных статей. — Гродно, 2008. — С. 184—191.
19. История повседневности: сборник научных работ. — Вып. 3. — СПб., 2003. — С. 8.

20. Кашталян, І. С. Уплыў рэпрэсіўнага фактару палітыкі савецкай улады на штодзённае жыццё насельніцтва Заходняй Беларусі (1944—1950 гг.) / І. С. Кашталян // Веснік БДУ. Сер. 3. Гісторыя. Філасофія. Сацыялогія. — 2004. — № 1. — С. 13—18.
21. Кашталян, І. С. Штодзённае жыццё беларускага грамадства (1944—1953 гг.): аўтарэферат дысертацыі на суісканне вучонай ступені кандыдата гістарычных навук. — Мінск, 2006.
22. Кернажыцкі, К. І. Гаспадарка старастваў на Беларусі і эканамічны стан іх насельніцтва ў другой палове XVIII ст. — Мінск, 1928.
23. Козловский, П. Г., Чепко В. В. Инвентари и хозяйственные документы магнатских владений Белоруссии XVI—XVIII вв. и инвентари помещичьих имений первой половины XIX в. как исторический источник // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1962. — Минск, 1964. — С. 24—42.
24. Козловский, П. Г. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. — Минск: Наука и техника, 1974.
25. Козловский, П. Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII — первой половине XIX в. / Ред. Н. Н. Улащик. — Минск: Наука и техника, 1982.
26. Копысский, З. Ю. Источниковедение аграрной истории Белоруссии. — Минск: Наука и техника, 1978.
27. Корсак, А. І. Штодзённасць жыцця остарбайтэраў з Віцебскай вобласці ў нацысцкай Германіі (1941—1945 гг.) / А. І. Корсак // Вестник Полоцкого государственного университета: научно-теоретический журнал. — 2010. — № 1. — С. 73—78.
28. Красноў, М. І. Ідэйныя каштоўнасці ў грамадскай свядомасці беларускай шляхты XVII ст. / М. І. Красноў // Леў Сапега (1557—1633 гг.) і яго час: зборнік навуковых артыкулаў. — Гродна, 2007. — С. 215—219.
29. Красноў, М. І. Уплыў рэлігійнага жыцця на фарміраванне грамадскай свядомасці беларускай шляхты (другая палова XVII — першая палова XVIII стст.) / М. І. Красноў // Леў Сапега (1557—1633 гг.) і яго час: зборнік навуковых артыкулаў. — Гродна, 2007. — С. 309—313.
30. Красноў, М. І. Уплыў хрысціянскай традыцыі на фарміраванне саслоўнай свядомасці шляхты / М. І. Красноў // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа: зборнік навуковых артыкулаў. — Гродна, 2008. — С. 290—293.
31. Лісейчыкава, Н. А. Гарадскі астрог: штодзённасць і побыт у 60-я гг. XIX ст. (паводле матэрыялаў Гродзенскай губерні) / Н. А. Лісейчыкава // Гарады Беларусі ў кантэксце палітыкі, эканомікі. Культуры: зборнік навуковых артыкулаў. — Гродна, 2007. — С. 297—300.
32. Лісейчыкава, Н. А. Штодзённае жыццё і побыт у навучальных установах Беларусі ў 60-я гады XIX ст.: архіўныя крыніцы / Н. А. Лісейчыкава // Проблемы методологии исследований истории Беларуси: материалы Международной научной конференции (Минск, 26—27 октября 2006). — Минск, 2008. — С. 261—263.
33. Лісейчыкаў, Дз. В. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святарства беларуска-літоўскіх зямель (1720—1839 гг.): аўтарэферат дысертацыі на саісканне вучонай ступені кандыдата гістарычных навук. — Мінск, 2009.
34. Маховская, И. С. Трансформация повседневных адаптивных практик в этноконтактных зонах в предвоенное и послевоенное десятилетия: БССР—КФССР / Маховская И. С., Романова И. Н. // Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі. — Вып. 5. — Мінск, 2007. — С. 394—401.



35. Никитенко С. Г. Повседневность советского общества первой половины XX в.: проблемы представления / С. Г. Никитенко // Состояние и развитие методологических исследований в исторической науке Республики Беларусь и Российской Федерации: сборник научных статей. — Гродно, 2008. — С. 191—199.
36. Новікаў, С. Паўсядзённасць на тэрыторыі Генеральнай акругі Беларусь (1941—1944 гг.) / С. Новікаў // БГЧ. — 2004. — № 7. — С. 76—79.
37. Носевич, В. Л. Традиционная белорусская деревня в европейской перспективе / В. Л. Носевич. — Минск: Тэхналогія, 2004. — 350 с.
38. Рогалев, А. Ф. Историческая антропонимия Гомеля и окрестностей / А. Ф. Рогалев. — Гомель: Барк, 2009. — 152 с.
39. Сідоранка, В. М. Штодзённае жыццё польскага гарадскога насельніцтва БССР 20-х гг. XX ст.: (па польскамоўных матэрыялах БССР) / В. М. Сідоранка // Гарады Беларусі ў кантэксце палітыкі, эканомікі, культуры: зборнік навуковых артыкулаў. — Гродна, 2007. — С. 315—318.
40. Скеп'ян А. А. Штодзённае жыццё шляхты ВКЛ XVI ст. па лістах Л. Сапегі і яго сучаснікаў / А. А. Скеп'ян // Леў Сапега (1557—1633 гг.) і яго час: зборнік навуковых артыкулаў. — Гродна, 2007. — С. 266—269.
41. Скрабіна, Л. С. Некаторыя вынікі даследавання штодзённага жыцця насельніцтва ў часы акупацыі (1941—1944): (па матэрыялах навуковых канферэнцый 1990 — пачатку 2000-х гг.) / Л. С. Скрабіна // Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць. — Вып. 7. — Мінск, 2003. — С. 159—165.
42. Сліж, Н. У. Мараль і норавы вялікага князя і шляхты ў эпоху Жыгімонта Аўгуста / Н. У. Сліж // Ягелоны: дынастыя, эпоха, спадчына: матэрыялы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, Гальшаны. — Навагрудак, 8—10 верасня 2006 г. — Мінск, 2007. — С. 207—216.
43. Сліж, Н. У. Сямейнае і штодзённае жыццё Гальшкі Заслаўскай / Н. У. Сліж // Леў Сапега (1557—1633 гг.) і яго час: зборнік навуковых артыкулаў. — Гродна, 2007. — С. 270—277.
44. Сліж, Н. У. Справа аднаго наезду або пра рэпутацыю Льва Сапегі / Наталля Сліж // Беларускі гістарычны агляд. — 2009. — Т. 16. — Сш. 1. — С. 113—120.
45. Сліж, Н. У. Кананічнае права па рэгуляванню сямейна-шлюбных дачыненняў пратэстантаў ВКЛ (XVI—XVII стст.) / Сліж Н. У. // Studia Historica Europae Orientalis: навуковы сборнік. — Вып. 2. — Мінск, 2009. — С. 201—211.
46. Станкевіч Я. Нашы прозьвішчы // Беларускі Сьцяг. — № 4. — 1922.
47. Токць, С. М. Беларуская вёска на мяжы эпох: змены этнічнай самасвядомасці сялянства ва ўмовах распаду традыцыйнага аграрнага грамадства (на матэрыялах Гарадзеншчыны XIX — першай трэці XX ст.). — Гродна, 2003.
48. Яковлева, Г. Н. Фонды Витебской городской управы как источник по изучению повседневной жизни г. Витебска в годы немецкой оккупации (1941—1944) / Г. Н. Яковлева // Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць. — Вып. 7. — Мінск, 2003. — С. 188—192.
49. Беларускі архіў. — Мінск: Выд. Бел. АН, 1930 (1931). — Т. 3 (XV—XVIII ст.). — С. 178—180.
50. Akta grodzkie i ziemskie. — T. I—XXV. — Lwów. — 1868—1935.
51. Archiwum Jana Zamoyskiego kanclerza i hetmana wielkiego koronnego. — T. 1—4 / wyd. W. Sobieski, J. Siemienski, K. Lepszy. — Warszawa, 1904—1913, Kraków, 1948.

52. Lustracja województw Ruskiego, Podolskiego i Bełskiego (1564—1565) . — Część I / wyd. Krysztof Chłapowski i Helena Żytkowicz. — Warszawa: Łodż, 1992.
53. НГАБ. — Ф. 694. — Воп. 2. — Спр. 3680. — Інвентар Капыскага і Раманаўскага графстваў. 1759 г.

*Артыкул паступіў у рэдакцыю 11.03.2011*



***Ю. В. Нестерович,***
*старший научный сотрудник отдела археографии*
*Белорусского научно-исследовательского института*
*документоведения и архивного дела,*
*кандидат исторических наук*

## ЗАГОЛОВОК К ИСТОРИЧЕСКОМУ ДОКУМЕНТУ (ТЕРМИНОЛОГИЧЕСКИЙ АСПЕКТ)

Обозначение заголовка как результата эдиционной археографической работы в научном дискурсе не унифицировано. В «Правилах издания исторических документов в СССР» [1; 2] для обозначения соответствующего понятия употребляется термин «редакционный заголовок», а также его утрированный вариант — «заголовок». Данное терминирование неточно, учитывая, что заголовок в археографической публикации далеко не всегда является результатом «вмешательства» редактора издания. К тому же правку его, осуществленную редакционной коллегией (либо отдельным редактором) сборника (серии сборников) исторических документов, также вполне приемлемо рассматривать как результат эдиционной работы. Во всяком случае наличие такой правки не дает оснований подменять продукт эдиционной работы результатом работы редакции издания. От того, что заголовок в археографической публикации подвергся редакционной правке, он не перестает являться продуктом эдиционной работы, не становится результатом работы только редакции археографического издания. Термин «редакция (текста)» многозначен. В рамках литературоведения он употребляется в качестве синонима термина «редактирование» (напр., [24, с. 321]). Заголовок к историческому документу не является результатом редактирования аутентичного заголовка публикуемого исторического документа (тем более, аутентичный заголовок нередко отсутствует либо является результатом работы переписчика, писаря). В построениях текстологии распространена как «широкая» трактовка редакции произведения — как текста литературного произведения, существенно расходящегося с другими текстами по ряду параметров, — так и «узкая» трактовка — совокупности существенных разночтений канонического текста литературного произведения. В соответствии с дефиницией, данной Д. С. Лихачевым: «Редакцией текста называется целенаправленная переработка текста, принадлежащая автору или какому-либо другому лицу» [25, с. 13], термин «редакция текста» приемлемо трактовать не только «узко», но и «широко». Е. И. Прохоров отмечает, что «редакция создается обычно в процессе авторской работы над произведением» [26, с. 319]. Тем самым недопустимо (ошибочно) при интерпретации термина «редакционный заголовок» исходить из текстологического понятия редакции текста. В археографических публикациях употребляется иной раз термин «авторский заголовок (документа)». Он столь же неточен. Поскольку эдитор не является автором документа, его приемлемо рассматривать как автора заголовка к публикуемому историческому

документу. Неточен и термин «археографический заголовок», принимая во внимание многозначность термина «археография», употребляемого для обозначения научной дисциплины, эдиционной и камеральной работы (подр. см. в [4]). Для обозначения заголовка исторического документа употребляется и термин «издательский заголовок». Его использует, в частности, С. М. Каштанов (см.: [8, с. 21]). Данный термин неточен, поскольку составляемый эдитором (археографом) заголовок к публикуемому историческому акту не является результатом издательского процесса. Эдиционная работа (частью которой является составление заголовка к историческому документу) предшествует издательскому процессу. Эдитор не является одновременно и издателем (за весьма редким исключением). В «Метадычных рэкамендацыях па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст.)» и вовсе употребляется не термин, а языковое выражение описательного характера — «заголовки к документам, которые составляются публикатором» [5, с. 56].

Исходя из принятой в рамках архивного дела классификации форм повторяемости документной информации (представленной в [3, с. 11—12]), наиболее часто в археографических публикациях заголовок к публикуемым историческим документам имеет характер аналитико-семантического преобразования информации исторического документа либо только аутентичного его заголовка (если таковой выделяем из текста). Будучи представлен такими формами аналитико-семантического преобразования информации как обобщение, реферирование и изложение. Вместе с тем, анализ археографических публикаций показывает на случаи формального воспроизведения наличествующей в историческом документе информации (дублетности, цитирования, суммирования). Составление заголовка к историческому документу не ограничивается аналитико-семантическим преобразованием либо формальным воспроизведением информации публикуемого текста (исторического источника), а включает уточнение хронологической и географической даты*. «Ядром» (основным элементом) заголовка к публикуемому историческому документу выступает изложение его содержания. В рамках археографии для его обозначения употребляется, наряду с другими терминами, термин «экстракт». Вместе с тем, значение данного термина варьируется. В «Словаре архивных терминов» он определен как «сжатое изложение основного содержания документа (его части) или дела» [21, с. 41]. В «Diccionario de terminologiaarchiyistica» он представлен в двух значениях, в том числе «резюме содержания документа, которое представляет в сжатой форме его основные аспекты» [22, с. 51]. В «Метадычных рэкамендацыях да публікацыі лацінскіх дакументаў XIII—XIV стст.» он определяется как «извлечение, выдержка из текста документа» [10, с. 48]. В научном и справочном дискурсе в значении «краткого изложения сути написанного, сказанного или прочитанного» употребляется термин «резюме» (напр., [23, с. 30]). Тем самым, в разработках археографии термин «экстракт», употребляемый для описания археографической публикации, приемлемо раскрывать как резюме, наличествующее в заголовке к историческому документу. Экстракт не является его атрибутом. В п. 208 Правил 1990 г. указываются такие состояния публикаций, при которых не следует приводить резюме: «В тех случаях, когда название разновидности документа характеризует его содержание, в заголовке указывается только разновидность документа» [1, с. 106]. В п. 180 «Правил издания исторических документов в СССР» 1990 г. элементами заголовка в археографической публикации выделены «порядковый номер, разновидность, автор, адресат, краткое содержание, делопроизводственный номер» и «место написания». В «Метадычных рэкамендацыях да публікацыі лацінскіх дакументаў XIII—XIV стст.» элементами оформления («публикации») акта выделены порядковый номер публикуемого акта, указание хронологической и топологической даты, регест и легенда. Следует заметить, что проставление порядкового номера — технический аспект эдиционной работы. Он не является результатом обработки исторического источника. Соответственно, не является элементом заголовка к нему.

В рамках актовой археографии рекомендуется составлять пространный заголовок к публикуемому историческому источнику, отмечая в нем «наличие отдельных компонентов условного формуляра — инвокации, институляции, излагается содержание наррации и диспозиции». В «Normalisation internationale des méthodes de publication des documenents latins du Moyen Âge» [6] и «Normes internationales pour l'édition des documents médiévaux» [7] изложенное

* Термин «географическая дата» употребляем в значении установленного (точно либо приблизительно) конкретного места создания исторического документа — географического пункта. Сегодня данный термин модифицируется через обозначающий более широкое понятие термин «топологическая дата» и «вытесняется» им. В «Метадычных рэкамендацыях па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст.)» топологическая дата охватывает не только конкретное, но и неконретное географическое место написания публикуемых исторических документов. Указывается, что в некоторых из них отсутствует указание на место их написания, либо невозможно установить точное географическое место их написания. Термин «топологическая дата» рассматривается как обозначение места создания документа, которым является село, город либо «путь движения адресанта», а также определенное географическое пространство в случаях, «когда название конкретного пункта не отмечено…». Приводится следующий пример, иллюстрирующий различие географической и топологической даты. Указание топологической даты, не относящейся к конкретному населенному пункту — «по дороге вел. кн. лит. из Литвы в Польшу» [5, с. 58—59]. В «Метадычных рэкамендацыях да публікацыі лацінскіх дакументаў XIII—XIV стст.» также используется термин «топологическая дата». Дана следующая дефиниция: «Топологичекая дата — дата места — элемент датировки документа. Наиболее часто это указание места, где произошел юридический акт либо был составлен акт письменный» [10, с. 45].

содержание публикуемого исторического акта обозначается словом «анализ» (взятым в кавычки. — *Ю. Н.*). С. М. Каштанов отмечает, что в них «под «анализом» подразумевается не столько заголовок акта в привычном для нас смысле, сколько резюме акта или аннотация его юридического и исторического содержания, сочетающаяся с указанием автора и получателя» [8, с. 26—27; 9, с. 40]. В «Метадычных рэкамендацыях да публікацыі лацінскіх дакументаў XIII—XIV стст.» используется термин «регест акта», хотя поясняется он противоречиво: «Регест — необходимый элемент публикации латинского документа. Соответствует заголовку в публикации документа кириллического. Это резюме документа, в котором в сжатой и точной форме очерчиваются юридический и исторический статус документа, отмечается его автор и получатель». Регест акта включает резюме акта (краткое изложение его «юридического» и «исторического» содержания), указание его автора, адресата, а в случае наличия включенного акта — резюме к нему (либо только указание хронологической даты) [10, с. 47; 11—13]. Обозначение ряда элементов эдиторского заголовка в рамках актовой археографии термином «регест (акта)» противоречит значению термина «регест», укоренившемуся в советской и постсоветской литературе по археографии, когда в качестве элемента регеста выделяется археографическая легенда: «регест акта» неадекватно характеризовать как резюме, поскольку резюме — это только часть (элемент) составленного эдитором заголовка — полного заголовка либо сокращенного заголовка (регеста). Регест акта неадекватно преподносить эквивалентом эдиторского заголовка, составляемого к документальным материалам с кириллическими текстами [11, с. 260]. Достаточно взглянуть на состав такого заголовка, представленный в «Метадычных рэкамендацыях па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст.)». Он включает: «1) хронологическую и топологическую дату; 2) обозначение разновидности и подразновидности документа; 3) сущность документа» (выражением «сущность документа» здесь обозначается резюме) [5, с. 56]. В «Правилах издания исторических документов» в состав заголовка как компонента оформления исторического документа включены порядковый номер публикуемого документа; указание даты (а также места составления документа), обозначение его разновидности; обозначение составителя и адресата; сжатое обозначение содержания документа [12, с. 32]. Аналогичный его состав наличествует и в «Правилах издания исторических документов в СССР» 1969 г. и 1990 г.

Учитывая вышеизложенное, и исходя из того, что заголовок к историческим документам возникает в результате эдиционной работы ученых, архивистов-археографов (эдиторов), то точным его обозначением выступает термин «эдиторский заголовок». Эдиторский заголовок включает, как минимум, экстракт, хронологическую и топологическую дату. Случаи совпадения (напр., в [27]) экстракта эдиторского заголовка с аутентичным заголовком публикуемого исторического документа (в том числе, внесенным в составляемый писарем реестр) не «влияют» на оптимальность данного термина. Поскольку эдиторский заголовок не сводится к изложению содержания публикуемого исторического документа.



Обязательным элементом составления эдиторского заголовка, согласно нормам методики археографии, выступает элемент, отражающий оперативные функции выполнявшиеся публикуемым документом, его аутентичное наименование, его статус в рамках системы документации. Обозначение данного элемента в научном дискурсе также не унифицировано. О. Ф. Козлов, излагая методику «особенностей составления заголовков к документам», указывает, что археограф приводит в заголовке наименование вида либо узкой разновидности публикуемого исторического документа. При этом он употребляет как термины «название вида (публикуемого) документа», так и термины «вид документа», «вид акта» [13, с. 64—69]. А. И. Груша использует для обозначения элемента эдиторского («редакционного») заголовка, представляющего собой указание на разновидность публикуемого материала, термины «название, разновидность документа», «наименование документа», «термин» [14, с. 214—216]. В «Метадычных рэкамендацыях па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст.)», наряду с требованием определения разновидности документа («на основе его содержания, формуляра и самоназвания (в случае наличия последнего)»), допускается воспроизведение его аутентичного наименования. Так, в них указано: «Если документ в самом тексте назван «грамота», он так и обозначается «грамота» [5, с. 59—60].

Сегодня в разработках и трудах по археографии принято употребление термина «разновидность документа» для обозначения элемента эдиторского заголовка, представляющего собой указание на устанавливаемый археографом вид, стандартную либо специфическую разновидность публикуемого документального (законодательного, актового, делопроизводственного) и нарративного материала (эпистолярного, мемуарного, периодической печати), либо воспроизведение аутентичного наименования («самоназвания») публикуемого материала. Белорусские археографы уже обращали внимание на неточность языкового выражения «установление разновидности документа» [15, с. 214]. Составление эдиторского заголовка (специфическая процедура эдиционной работы) не обязательно представляет собой установление разновидности документа. Элементом его может включаться и установленный вид документа, и заимствованное аутентичное наименование («самоназвание») документа, хотя и не соответствующее (в определенной степени) его содержанию. Преследование цели оптимизации и унификации терминологии «требует» заменить термин «разновидность документа» (в качестве обозначения понятия элемента эдиторского заголовка, представляющего собой вид, стандартную либо специфическую разновидность публикуемого документа, приведенное аутентичное его наименование) более точным термином (целе-

сообразность такой замены уже обосновывалась нами в [16]). В случае элиминации многозначности термина «археография» (и терминоэлемента «археографический»), закрепления за ним значения, близкого к этимологическому значению (см.: [4]), точным выступает термин «эдиторское наименование».

При составлении эдиторского заголовка археографы придерживаются различных подходов к составлению эдиторского наименования. Ограничиваются точным воспроизведением аутентичного наименования (в случаях его наличия). Сопровождают (предваряют) такое воспроизведение модернизацией аутентичного наименования, использованием наименования, соответствующего классификациям исторических актов, исторических документов, разрабатываемых в рамках дипломатики, источниковедения. Заменяют аутентичное наименование более точным наименованием, распространенным в историческое время создания публикуемого источника. Такой подход применял, например, Д. И. Довгялло при подготовке т. 1 и т. 3 «Беларускага архіва» (см.: [28, с. 181]). Целесообразность различных подходов обусловлена, в частности, наличием факта обозначения документов ВКЛ XVI в., выполняющих идентичную правовую функцию (пожалования недвижимого имущества), различными наименованиями — «привилей», «лист», «данина», «лист-данина» (данный факт отмечается в [29, с. 41]). При составлении заголовка к средневековым историческим документам используются наименования вида документов, употребляемые в современном делопроизводстве. Так, В. С. Менжинский устанавливает разновидность материалов с самоназванием «лист» посредством наименований вида управленческих документов «распоряжение», «приказ» [17]. Имеются случаи, когда в эдиторском заголовке, наряду с воспроизведением аутентичного наименования материала, наличествует экстракт, но отсутствует указание разновидности (вида) публикуемого материала. Так, В. С. Менжинский в эдиторских заголовках к публикуемым материалам книги Метрики ВКЛ 46 положил в основу экстракта языковые выражения «засвидетельствование воли», «запись в книги господарские канцелярские «оповеданья»». В «Перечне разновидностей документов» он внес выражения «засвидетельствование воли» и «запись рассказа и выписка об этом». Тем не менее, данные выражения допустимо рассматривать именно как эдиторские наименования материала, но не как разновидности документа. Имеются случаи составления эдиторского заголовка и без эдиторского, и без аутентичного наименования материала, когда ограничиваются экстрактом. Так, В. С. Менжинский обходится без эдиторского и аутентичного наименования материала, составляя, в частности, следующий экстракт — «назначение нового срока дела». Аутентичное наименование — «оповедание и записание выписов» — он модернизирует в экстракте эдиторского заголовка как «слушание и запись в книги господарские канцелярские «оповеданья» содержания двух выписок» [18, с. 166, 144, 266, 131]. Имеются случаи, когда в археографической публикации составляют «Перечень разновидностей документов», в котором



фиксируют аутентичные наименования материала (напр., перечень в приложении к археографической публикации В. С. Менжинским книги Метрики ВКЛ 43 [19, с. 152]). Вследствие этого имеются расхождения между эдиторским наименованием (а именно, разновидностью) документа, указанным в эдиторском заголовке (в котором разновидность указывается в соответствии с источниковедческими, документоведческими, дипломатическими классификациями, но с учетом аутентичного наименования материала) и разновидностью документа, указываемой в перечне [20].

Таким образом, в рамках построения непротиворечивой терминосистемы археографии «эдиторский заголовок» — обозначение компонента археографической публикации, включающего, как минимум, экстракт, хронологическую и топологическую дату, а также эдиторское либо аутентичное наименование документа. Эдиторское, аутентичное наименование документа — относительно самостоятельный элемент эдиторского заголовка, учитывая, что оно может частично либо полностью заменять экстракт. Термин «эдиторское наименование» — обозначение элемента эдиторского заголовка, представляющего собой указание на вид либо на разновидность публикуемого исторического документа, либо дублирование его аутентичного наименования. В последнем случае эдиторское наименование совпадает с аутентичным наименованием публикуемого документа.

Л и т е р а т у р а


1. Правила издания исторических документов в СССР. — М., 1969. — 112 с.
2. Правила издания исторических документов в СССР. — М., 1990. — 186 с.
3. Основные положения отбора документов с повторяющейся информацией на государственное хранение. — М.: ГАУ при Совмине СССР — ВНИИДАД, 1976. — 111 с.
4. Нестерович, Ю. В. Проблемы унификации, оптимизации терминологии и построения терминосистемы археографии // Беларускі археаграфічны штогоднік. — Минск: БелНДІДАС. — 2008. — Вып. 9. С. 77—93.
5. Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст., перыяд Вялікага княства Літоўскага) / Аўт.-склад. А. І. Груша. — Мінск: БелНДІДАС, 2003. — 167 с.
6. Normalisation internationale des méthodes de publication des documenents latins du Moyen Âge (Colloque de Barcelone 2—5 octobre 1974). Rapport de R.-H. Bautier, secrétaire général, à l’Assemblée à l’occasion du V-e Congrés International de Diplomatique (Paris, 12—16 septembre 1977). — Roma, 1977.
7. Normes internationales pour l’édition des documents médiévaux // Folia Caesaraugustana. I. Diplomatica et sigillographica. — Zaragoza, 1984.
8. Каштанов, С. М. Актовая археография. — М., 1998. — 286 с.
9. Каштанов, С. М. Современные принципы издания латинских грамот // Археографический ежегодник за 1983 год, . — М., 1985. — С. 37—48.
10. Метадычныя рэкамендацыі да публікацыі лацінскіх дакументаў XIII—XIV стст. / Аўт.-склад. А. А. Жлутка. — Мінск: БелНДІДАС, 2005. — 50 с.

11. Несцяровіч, Ю. У. Першыя рэкамендацыі па публікацыі актавай дакументацыі на лацінскай мове беларускага вучонага // Беларускі археаграфічны штогоднік. — Мінск: БелНДІДАС, 2006. — Вып. 7. — С. 258—261.
12. Правила издания исторических документов. — М.: Издательство Академии наук СССР, 1956. — 72 с.
13. Методическое пособие по археографии / Авт. кол. Руков. темы: О. Ф. Козлов. — М. ВНИИДАД, 1991. — Ч. 1. — 257 с.
14. Груша, А. «Малапрыстасаваныя рэкамендацыі» ці малападрыхтаваны рэцэнзент // Беларускі гістарычны агляд. — Менск, 2003. — Т. 10. — С. 201—227.
15. Мянжынскі, В. С. З гісторыі Беларусі XVI ст.: канфірмацыйныя прывілеі ў кнізе Метрыкі ВКЛ 30 // Беларускі археаграфічны штогоднік. — Мінск: БелНДІДАС, 2005. — Вып. 6. — С. 214—230.
16. Нестерович, Ю. В. О целесообразности модификации терминологии археографии // Праблемы гістарыяграфіі, крыніцазнаўства, архівазнаўства і археаграфіі ў Беларусі: матэрыялы «круглага стала», прысвеч. 60-годдзю з дня нараджэння праф. У. М. Міхнюка (Мінск. 28 верас. 2007 г.). — Мінск: БелНДІДАС, 2008. — С. 37—46.
17. Мянжынскі, В. С., Несцяровіч, Ю. У. Распарадчыя дакументы («листы») Жыгімонта Аўгуста ў кнізе Метрыкі ВКЛ 30 // Беларускі археаграфічны штогоднік. — Мінск: БелНДІДАС, 2007. — Вып. 8. — С. 166—182.
18. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 46 (1562—1565). Кніга запісаў 46 (Копія канца XVI ст.) / Падрыхт. В. С. Мянжынскі. — Мінск: БелЭН, 2006. — 280 с.
19. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 43 (1523—1560). Кніга запісаў 43 (Копія канца XVI ст.) / Падрыхт. В. С. Мянжынскі. — Мінск: Беларуская навука, 2003. — 167 с.
20. Несцяровіч, Ю. У. Чарговая публікацыя кнігі Метрыкі ВКЛ В. С. Мянжынскім // Беларускі археаграфічны штогоднік. — Мінск: БелНДІДАС, 2004. — Вып. 5. С. 287—292.
21. Словарь архивных терминов. Проект. — М., 1966. — 41 с.
22. Diccionario de terminologia archiyistica. Madrid, 1993 / Перевод с испан. А. В. Елпатьевского. — СИФ ОЦНТИ. ВНИИДАД, 1995. — 54 с.
23. Делопроизводство и документоведение. Краткий словарь современной терминологии / Авт.- разраб.: С. В. Жумарь и др. — Минск: БелНИИДАД, 2001. — 76 с.
24. Чамярыцкі, В. А. Рэдакцыя // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. — Мінск: БелЭН, 1987. — Т. 4. — С. 564.
25. Лихачев, Д. С. Текстология. Краткий очерк. — М.: Наука, 2006. — 175 с.
26. Прохоров, Е. Редакция // Словарь литературоведческих терминов. — М., 1974. — С. 319.
27. Литовская Метрика. Кн. 25 (1397—1524 гг.) Кн. записей № 25. — Вильнюс, 1998. — 402 с.
28. Мянжынскі, В. С. Канфірмацыйны ліст караля польскага, вялікага князя літоўскага, рускага, прускага, жамойцкага, інфлянцкага і іншых зямель ад 15 красавіка 1546 г. // Беларускі археаграфічны штогоднік. — Мінск: БелНДІДАС, 2002. — Вып. 3. — С. 179—184.



29. Рыбаков, А. Е. Общее делопроизводство в центральном аппарате государственного управления Великого княжества Литовского в XVI в. // Дис. канд. ист. наук (На правах рукописи). — Минск, 1999. — 109 с.

*Артыкул паступіў у рэдакцыю 11.02.2011*

***І. П. Клімаў,***
*дацэнт кафедры беларускай філалогіі*
*Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў,*
*кандыдат філалагічных навук;* e-mail: klimau@mail.ru

## СКАРОЧАНЫЯ НАПІСАННІ Ў СТАРАЖЫТНЫМ ПІСЬМЕНСТВЕ

### 1. Прырода з'явы

Адной з цікавых і адметных рыс старажытнага пісьменства з'яўляюцца розныя выпадкі скарачэння напісанняў. З гэтай з'явай рэгулярна сутыкаюцца археографы, гісторыкі, філолагі і іншыя спецыялісты, што працуюць са старажытнымі дакументамі і наратыўнымі тэкстамі. Няправільнае ці недакладнае раскрыццё скарачэнняў прыводзіць да памылак або хібных інтэрпрэтацый. Аднак усёабдымнага разгляду характару і тыпалогіі скарочаных напісанняў у беларускай навуцы пакуль няма; маюцца толькі фрагментарныя экскурсы, заснаваныя ў асноўным на рускіх працах (найбольш вядомыя з іх: [3, с. 176—202; 5, с. 35—43]), нярэдка супярэчлівыя і блытаныя. У рускай навуцы скарочаным напісанням (кірыліцы) доўгі час (прыкладна да сяр. XX ст.) не надавалася адметнай увагі — яны лічыліся мёртвай, штучнай прыналежнасцю пісьма, ніяк не звязанай з жывым маўленнем, а таму не вартымі ўважлівага даследавання [2, с. 427—428]. Аднак яшчэ і цяпер ва ўсходнеславянскай навуцы не існуе дэталёвага і ўсёабдымнага тэарэтычнага асэнсавання гэтай з'явы, хаця ў вучоных назапашана шмат цікавых і багатых назіранняў над яе праявамі ў самых розных кірылічных помніках Усходняй Славіі.

Напэўна, з гэтай прычыны нават тэрміналагічна-паняццевы апарат для акрэслення скарочаных напісанняў застаецца неўсталяваным, расплывістым і часам супярэчлівым. Часцей за ўсё скарочаныя напісанні як аб'ект палеаграфіі блытаюцца з тахіграфіяй, з аднаго боку, і абрэвіяцыяй, з другога.

Тахіграфія (грэч. *ταχυγραφία* 'скорапіс') — спецыяльнае скарочанае пісьмо для больш кароткай перадачы пісьмовага тэксту. У тахіграфіі цэлыя склады, радзей цэлыя марфемы і некаторыя словы замяняюцца асобнымі знакамі, аднак іх выгляд і рэпертуар нават у аднаго тахіграфа можа крыху хістацца. Гэта не літары, а спецыяльныя, умоўныя знакі, часам падобныя да асобных літар, але часцей сваім выглядам ніяк з імі не звязаныя. Аднак тахіграфія адрозніваецца ад стэнаграфіі — пісьма для хуткага запісу вуснага маўлення, і наўрад ці выкарыстоўвалася ў такіх мэтах [17, с. 71, 72], хаця не выключана, што ў старажытнасці існавала некалькі сістэм тахіграфіі — у т. л. тая, што была блізкая да стэнаграфіі [16, с. 84]. Сучасная стэнаграфія ўзнікла ў XVII ст. для запісу прамоў, але цяпер ужо амаль выйшла з ужытку.

Лічыцца, што тахіграфія ўзнікла ў антычным свеце, у грэчаскім пісьменстве, і фактычна ўяўляе сабой складовае пісьмо з элементамі літарнага (гукавога) (гл. у дэталях: [16, с. 82—85; 17, с. 71—74; 9, с. 270—298]). Паводле звестак Дыягена з Лаэрта (кан. II — пач. III ст.), тахіграфію ўжываў філосаф Ксенафонт (IV ст. да н. э.) для навучання моладзі і запісу дыялогаў Сакрата і



прамоў Дэмасфена. Ужывалася яна і ў ранняй царкве — для запісу казанняў і царкоўных дыспутаў. Па прыкладу грэкаў тахіграфія была ўведзена і ў лацінскім пісьменстве, паводле падання — Цыцэронам (I ст. да н. э.) для запісу судовых прамоў. Спецыяльныя знакі для гэтага былі распрацаваны яго вучнем і сакратаром Тыронам, а пазней, у I ст., яны былі сістэматызаваны і пашыраны Сенекам. Лацінская тахіграфія (інакш называная Тыронавымі знакамі, notae Tironianae) была больш блізкая да стэнаграфіі, паколькі мела шмат знакаў, што пазначалі словы, а не склады [17, с. 73]. Яе ўжывалі ў антычныя часы рымскія юрысты і чыноўнікі. Актыўна выкарыстоўвалася тахіграфія і хрысціянствам; вядомы кнігі Бібліі і Айцоў Царквы, цалкам ці часткова напісаныя Тыронавымі знакамі. Шырокага ўжытку гэтая сістэма пісьма дасягнула ў X ст. у базыльянскім манастыры Гротаферата (Калабрыя, на поўдні Італіі), дзе жылі грэчаскія манахі на чале з вядомым ерэтыкам Св. Нілам Калабрыйскім († 1005). У эпоху Сярэднявечча як грэчаская, так і лацінская тахіграфія прыходзіць у заняпад і нямногімі знаўцамі часам ужывалася для тайнапісу. Прыкладна пасля X ст. лацінская тахіграфія была забытая; да XIV ст. зусім знікае і грэчаская тахіграфія. Гэтыя сістэмы пісьма былі разгаданыя філолагамі толькі ў XIX ст.

Абрэвіяцыя або інакш абрэвіятура (познелац. abbreviatio, abbreviatura 'скарачэнне') — гэта моўная з'ява, адзін са спосабаў утварэння новых (г. зн. да таго адсутных у мове) слоў на базе некалькіх існуючых слоў ці словазлучэнняў. Хаця абрэвіяцыя зараз знаёмая практычна ўсім літаратурным мовам свету, як моўная з'ява яна — дастаткова новы феномен, набытак у асноўным XX ст., і раней у еўрапейскіх мовах амаль не адзначаная (праўда, некаторыя перадумовы для развіцця абрэвіяцыі ў іх меліся і раней, аднак да кан. XIX ст. практычна не рэалізоўваліся)[I*]. Узніклыя шляхам абрэвіяцыі словы прынцыпова адрозніваюцца ад скарочаных напісанняў — апошнія ўяўляюць сабой толькі спрошчаны запіс слова, але само слова пры гэтым захоўваецца ў вымаўленні нязменна. Таму ў строга навуковым ужытку (па меншай меры, лінгвістычным) назва «абрэвіяцыя» (ці «абрэвіятура») не павінна ўжывацца ў дачыненні да напісанняў (з'явы арфаграфіі), а толькі да складанаскарочаных слоў (гл. у дэталях: [1, с. 18—104]).

Тым не менш, сярод палеографаў, а таксама гісторыкаў і археографаў любыя пісьмовыя скарачэнні называюцца абрэвіяцыяй, што мае пад сабой даўнюю традыцыю лацінскай мовы. Аднак з лінгвістычнага пагляду гэта не зусім правільна. Скарачэнні напісанняў не належаць ні да тахіграфіі, ні да абрэвіяцыі (у лінгвістычным сэнсе), хаця функцыянальна і знешне блізкія да іх. Таму французскі палеограф А. Шасан прапанаваў тэрмін брахіграфія (ад грэч. βραχυς 'кароткі' і γράφω 'пішу'), які ахоплівае менавіта скарочаныя напісанні старажытнага пісьменства (гл.: [8, с. ix]).

[*] Гл. заўвагі ў канцы артыкула.

Скарачэнні — гэта фактычна з’ява пісьма (графікі), у шырокім сэнсе — арфаграфіі (калі лічыць, што графіка з’яўляецца складнікам арфаграфіі), спецыфічны прыём перадачы напісанняў. Умоўна адрозненні паміж імі можна праілюстраваць наступным чынам: абрэвіяцыя — утварэнне складанаскарочанага слова: *калектыўная гаспадарка* > *калгас*, тахіграфія — пазначэнне гэтага слова спецыяльным значком на пісьме (ці на карце), напрыклад, як ▲, а скарачэнне — напісанне гэтага слова асобным чынам: *к.*, *калг.*, *к-с* і да т. п. У адносінах да старажытнага пісьменства скарочаныя напісанні з’яўляюцца аб’ектам палеаграфіі і сумежных з ёй дапаможных дысцыплін: эпіграфікі, дыпламатыкі, папіралогіі, сфрагістыкі і нумізматыкі (у той ступені, у якой гэтыя дысцыпліны закранаюць напісанні). Але і знакі ды прыёмы тахіграфіі таксама будуць ахопліваецца палеаграфіяй, хаця і ў якасці спецыяльнага выпадку.

Усе скарачэнні тэарэтычна могуць быць падзелены на два тыпы: 1) кантракцыі (ад лац. contractio — сцяжэнне, скарачэнне, сцісканне), ці сцяжэнні і 2) суспенсіі (ад лац. suspensio — падчэпліванне), ці адсячэнні. Пры кантракцыі выкідаюцца літары ўнутры слова (як правіла, літары галосных ці нават цэлыя склады), напрыклад: *д-т* ‘дацэнт’, *д-р* ‘доктар’, *праф-р*, *п-р* ‘прафесар’, пры суспенсіі — літары ў канцы слова (апошнія літары (у канчатках), але нярэдка нават амаль усе літары, за выключэннем першай ці першых), напрыклад: *д.*, *дац.* ‘дацэнт’, *д.*, *док.* ‘доктар’, *п.*, *пр.*, *праф.* ‘прафесар’. Нярэдка сустракаюцца і камбінацыі гэтых двух тыпаў, напрыклад: *дц.*, *др.* Суспенсія, зведзеная да адной літары, называецца сіглам (ад лац. singula littera ‘адна літара’), але часам пад сіглам разумеюць толькі стылізаваны знак літары (ці некалькіх літар), напрыклад, т. зв. птушачку З, якая ўзыходзіць да лац. *v.* < *vidi* ‘бачыў’ ці *vide* ‘глядзі’. Зліццё двух, трох ці рэдка чатырох (як правіла, суседніх) літар у адзін знак называецца лігатурай (ці звязным напісаннем). Да лігатур адносіцца шмат распаўсюджаных у сучаснасці знакаў: £, $, &, @, ® і інш.; многія спецыфічныя літары, што ўвайшлі ў сучасныя еўрапейскія алфавіты, гістарычна ўяўляюць сабой таксама лігатуры: *æ*, *ç*, *ã*, *ñ*, *õ*, *љ*, *њ* і інш. [6, с. 42]. Лігатуры — гэта фактычна знакі тахіграфіі, хаця сваім выглядам лігатуры не супадаюць са знакамі старажытнай тахіграфіі. Наколькі істотна яны разыходзіліся паміж сабой, могуць сведчыць наступныя прыклады тахіграфічных знакаў для грэчаскіх складоў: αλ > , αρ > , σι > , ων > , ται > , οτι > !. Затое непасрэдна да тахіграфіі (па крайней меры, часткова) узыходзяць знакі скарачэнняў (фактычна — умоўныя знакі), што ўжываліся ў антычным і сярэднявечным пісьменстве. Імі пры хуткім пісанні пазначаліся асобныя (частаўжывальныя) словы, склады і канчаткі, а таксама некаторыя літары.

Аднак на практыцы разнастайнасць пісьмовых скарачэнняў, іх мадэфікацыі і рэалізацыі ў канкрэтных помніках (ці хаця б у групах помнікаў) значна шырэйшыя за гэтую схему. Пры характарыстыцы старажытных скарачэнняў трэба ўлічваць таксама форму напісання літар адносна радка: вялікія ці малыя, радковыя ці вынасныя, падпісныя або ўпісныя, павернутыя ці перакуленыя, а таксама дэкарацыйныя формы літар: ініцыялы (літара ў рамцы, часта з малюнкам), вязь, манаграмы; часам значэнне мае таксама спалучэнне літар са знакамі ў радку (на мяжы слоў ці сказаў і пры пераносе слоў) — інтэрпункцыяй, і са знакамі над радком — дыякрытыкамі як фанетычнымі (яны пазначалі розныя фанетычныя з’явы — націск, колькасць галоснага, прыдыханне і інш.), так і экфанетычнымі (сам факт скарачэння ці змену інтанацыі пры чытанні або спяванні). У якасці дыякрытык і інтэрпункцыі выкарыстоўваліся рыскі, дужкі (іх варыянт — коска) і кропкі, а таксама іх камбінацыі.



У выніку, характар і функцыя скарачэнняў неаднастайныя ў розных рэгіёнах, у розныя эпохі, у розных пісьмовых традыцыях і сферах ужытку (жанрах) ці відах рукапісаў. Распаўсюджанне тых ці іншых графічных з’яў магло мець татальны характар, або ахопліваць пэўныя рэгіёны, ці абмяжоўвацца вузкім арэалам. Адны з’явы станавіліся папулярнымі толькі на пэўныя дзесяцігоддзі ці стагоддзі, іншыя суправаджалі пісьменства на ўсім працягу яго развіцця да XVIII ст., а некаторыя захаваліся аж да сучаснасці. У дачыненні да пісьмовай традыцыі асаблівае значэнне маюць грэчаскае і лацінскае пісьменства, дзе ўласна і скаліся асноўныя тыпы і мадэлі скарачэнняў, а для кірылічнай графікі значэнне мае таксама царкоўнаславянскае пісьменства. У адносінах да сферы ўжытку паміж сабой адметна адрозніваюцца, з аднаго боку, рэлігійна-царкоўная сфера, з другога — актава-канцылярская ды адміністрацыйна-юрыдычная, з трэцяга — надпісы (эпіграфіка) на манетах і пячатках, а таксама на іншых матэрыяльных аб’ектах (металічныя адліўкі ці выкаванкі і г. д.), з чацвёртага — літаратурныя творы. Ва ўсіх гэтых сферах утварылася свая спецыфіка скарачэнняў, мелася свая дынаміка ў прасторы і часе.

Можна вызначыць некалькі матываў для скарачэння напісанняў. Перш за ўсё, гэта эканомія: а) месца (матэрыялу) для напісання і б) сіл і часу пісара для пісання [16, с. 86; 17, с. 75]. Эканомія дасягалася за кошт унікання: 1) стэрэатыпных, часта паўтаральных слоў і словазлучэнняў (у дадзеным тэксце або яго фрагменце ці ў пэўнай галіне пісьмовай камунікацыі), 2) найбольш частых і/ці лінгвістычна бясспрэчных (відавочных) марфем (напрыклад, канчаткаў) ці радзей каранёў. Аднак гэта было магчыма толькі пры ўмове, што пісар добра ведаў мову, у якой рабіліся такія скарачэнні. Нарэшце, у некаторых выпадках моцным стымулам для даўніх пісараў быў в) ідэальны, сімвалічны змест: яны імкнуліся вылучаць на пісьме асобныя, найбольш шанаваныя словы ці словазлучэнні (імёны ці тытулы ўладароў або багоў).

Скарачэнні ўяўляюць сабой прыналежнасць дастакова развітай пісьмовай культуры. Таму яны былі дасяжныя і фактычна прызначаліся для вопытных, спрактыкаваных чытачоў і пісараў. Сістэматычнае выкарыстанне на пісьме скарачэнняў патрабавала пэўнай звычкі і навыку — і ад пісара, і ад чытача. Хаця характар ды частотнасць скарачэнняў у многім залежалі ад самавольства пісара, аднак пры гэтым ён заўжды мусіў улічваць і досвед чытача, і аўдыторыю, якой прызначаўся напісаны тэкст. Як правіла, у аказіянальных, мала-

важных і спецыяльных тэкстах, адрасаваных вузкаму колу чытачоў (напрыклад, розных трактатах ці кодэксах), ужывалася шмат скарачэнняў, тады як у тэкстах шырокага публічнага прызначэння іх было мала ці ўвогуле не было [16, с. 88, 103; 17, с. 90].

Скарачэнне напісанняў такая ж неад'емнасць, як і самі напісанні [9, с. 320]. У старажытных пісьменствах, што грунтаваліся на гукава-літарным прынцыпе пісьма, скарачэнні адзначаюцца з даволі ранніх часоў. Гістарычна першымі з іх былі старажытнагрэчаскае пісьменства, затым лацінскае, пад іх уплывам скарачэнні распаўсюдзіліся ў іншых еўрапейскіх пісьменствах, у т. л. і царкоўнаславянскім. Важнае значэнне для еўрапейскай традыцыі скарачэнняў мела яўрэйскае пісьмо — іудзейскія пісьменнікі і талмудычныя кніжнікі таксама нярэдка выкарыстоўвалі скарачэнні.

**2. Грэчаская антычная і візантыйская традыцыя**

Скарочаныя напісанні ўзніклі ў грэчаскім пісьменстве ў даўнія часы: лічыцца, што яны былі вядомыя ў класічную эпоху (V—IV стст. да н. э.), і іх дакладна фіксуюць у эпоху элінізму (III—I стст. да н. э.). Знакам скарачэння слоў у грэкаў служыла нахіленая рыска: ´, `, / (напрыканцы слова ці над ім), ламаная рыска кшталту ꞉ ці дужка (напрыканцы слова); пад лацінскім уплывам таксама магла выкарыстоўвацца кропка [9, с. 322]. У інскрыпцыях (надпісах) пасля скарачэння ставілася двукроп'е, значна пазней — рыска [9, с. 324].

Узнікненне скарачэнняў у пісьме грэкаў было абумоўлена дзвюма рознымі прычынамі — матэрыялам пісьма або сітуацыяй напісання. Адпаведна, і характар скарачэнняў у такіх выпадках быў дастаткова розны. Калі для пісьма выкарыстоўваліся цвёрдыя матэрыялы (камень, дрэва, метал, глінянае чарэп'е), на якіх надпісы выразаваліся, выдрапваліся ці выціскаліся, то з прычыны працаёмкасці і абмежаванасці матэрыялу ўзнікалі спецыфічныя скарачэнні — эпіграфічныя. Асабліва часта такія скарачэнні спецыялісты знаходзяць на побытавай кераміцы (клеймы вытворцаў), манетах і ў інскрыпцыях. У эпіграфіцы адзначаюцца амаль толькі суспензіі: Μ < μνᾶ 'міна' (назва манеты), ΟΙ < οἰκοῦντι, ΥΠΕ < ὑπένερθεν і інш., ініцыяльныя скарачэнні напачатку даволі рэдкія (напрыклад, лічэбнікі: Π < πέντα 'пяць', Δ < δέκα 'дзесяць' і інш.), але значна пашыраюцца пад рымскім уплывам [9, с. 324—325]. Аднак адзінкава ў інскрыпцыях і папірусах сустракаюцца і выпадкі кантракцыі, абмежаваныя, як правіла, толькі некаторымі назвамі: ΒΑΥΣ < βασιλεύς 'цар, імператар' пры звычайным ΒΑ < βασιλεύς і да т. п. [9, с. 325].

Пры пісанні на мяккім матэрыяле (папірусе, лісцях і лыку, на воскавых таблічках, скуры і пергаміне, пазней на паперы) праблем з памерам не ўзнікала, паколькі на іх маглі стварацца значныя тэксты. У старажытных грэкаў існавалі тэксты амаль без скарачэнняў (у т. л. і на папірусах) — яны пісаліся каліграфічным пісьмом, дзе дапускаліся толькі лігатуры і скарачэнні канцавога -ν (гл. ніжэй). Аднак нашмат большае кола тэкстаў не патрабавала значнай увагі для свайго стварэння. На першы план тут выступалі сітуацыйныя чынні-



кі — стомленасць (праца пісара ў Антычнасці і Сярэднявеччы была вельмі цяжкай) ці брак часу, недахоп месца ў радку. Дарэчы, была і стэрэатыпнасць слоў, якія часта паўтараліся ў пэўным кантэксце. У тых асоб, што не валодалі каліграфіяй ці пісалі злітным пісьмом (мінускулам, курсівам) або стваралі прыватныя допісы, запісы часовага захоўвання, малаважныя дакументы і да т. п., а таксама спецыяльныя творы (па філасофіі, гісторыі, матэматыцы, астралогіі, медыцыне, хіміі і інш.), развіваліся пэўныя прыёмы скарачэння асобных слоў ці словазлучэнняў. Ад эпохі да эпохі (звязаныя з пэўнымі матэрыяламі пісьма — папірусамі, унцыяламі, мінускуламі) іх рэпертуар узбагачаўся.

Скарачэнні ў грэчаскіх рукапісах вельмі разнастайныя (іх пералік гл.: [11, с. 344—346, 359—377; 7; 10, с. 154—156; 16, с. 88—96; 17, с. 76—84; 9, с. 335—352]) і залежаць ад зместу тэксту, яго жанру і прызначэння, а таксама эпохі [9, с. 323]. Прыёмы скарачэнняў могуць быць зведзеныя да некалькіх наступных мадэляў:

1) выкарыстанне тахіграфічных ці ўмоўных знакаў для асобных (часта ўжываных) складоў, марфем ці слоў (гл. у дэталях: [7; 16, с. 91—96; 17, с. 81—84; 18, с. 38—39]), напрыклад: / ці ˙/. для ἐστίν, ἐστί, \ для εἶναι (пры тым, што знак / ужываўся і замест канчаткаў -ος, -ων: λευκ/ < λευκός, ωρι/ < 'Ωρίων), ÷ для τα, ˙/˙ для τε, ˙\˙ для τον і інш. (артыклі), 7 для δέ, N для ἐκ 'з, ад', знакі ‹, < або ꞉ для κάι 'і'; знак 9 для 'όνομα 'імя' (9 9 для формы мн. л. — 'ονόματα), у т. л. у камбінацыі з літарамі: Γ\ для γάρ (дзе \ тахіграфічны знак для літары ρ), Μˆ для -μαι, μ´› ці μ> для -μένον і інш.; сюды могуць быць аднесеныя і чыста іерагліфічныя знакі, што пазначалі асобныя словы ці паняцці: ≈ для ἄρουρα 'паша, поле', + для πυροῦ 'агонь', ; для κόσμος 'лад, чын, парадак', 6 для 'ημέρα 'дзень', 9 для νύκτα 'ноч' і інш.;

2) стварэнне лігатур (пра лігатуры гл.: [11, с. 262—284]) для розных слоў ці іх скарачэнняў, заснаваных пераважна на прынцыпе суспензіі:

а) другая літара слова ўпісваецца ў першую ці змяшчаецца пад або над ёй: Ө для 'οκτοβρίω 'у кастрычніку', Є для 'όσιος 'свяшчэнны', Ѻ для 'όνομα, Λ для λόγος 'слова', **Μ**ᵀ для μετά 'паміж, сярод' і інш.; або пачатковая літара слова ўпісваецца ў наступную: Ө для 'αόριστος 'аорыст' і інш.;

б) літара χ, μ, π, ω, з якой пачынаецца слова, застаецца ў радку, а адна з наступных літар перакрэслівае яе, утвараючы лігатуру: ╓ для πρός 'да' ці πρότερος, -ν 'першы, ранейшы', ∂ для ὥρα 'пара, гадзіна', Χ для χρόνος, χρόνου 'час, часу' або χρυσόν 'золата' і інш.; часам сумяшчаюцца стылізаваныя пачатковыя літары слоў: ╤ для γράφεται ці γάρ і інш.;

в) скарачэнне слова да першай літары, на што ўказвае рыска пад ці каля літары: Δ для διά 'праз', Μ для μείζων 'большы', **Κ-** для κέντρον 'вастрыё; цэнтр' і інш.;

3) суспензіі — скарачэнні слова (часта — толькі за кошт апошняй галоснай, апошняга складу ці канчатка) да адной ці некалькіх першых літар, з па-

станоўкай пры гэтым рыскі (надрадковага знака) над месцам скарачэння і/ці з пастаноўкай вынасных літар (надпісных, падпісных ці ўпісных):

а) скарачэнне канцавога -ν (вельмі рэдка -μ) шляхам пастаноўкі рыскі ці (ва ўнцыялах) гарызантальнай лініі: πάντω´ < πάντων ‘усіх’, ΛΟΓŌ < λόγον ‘слова’ і інш.;

б) скарачэнне канцавой галоснай, складу (перш за ўсё ў адна- ці двускладовых часціцах, артыкулях, прыназоўніках) ці канчатка, з пастаноўкай рыскі ці знака скарачэння: α´ < ’ανά, δ´ < δέ, δ/ ці δ̀ < διά, γ´ < γάρ, κ´ < κατά, π´ < παρά ці πρός, κεφαλ´ < κεφαλήν і інш.;

в) скарачэнне да першай літары ці да некалькіх першых літар любой часткі слова:

— з пастаноўкай рыскі ці знака скарачэння: φ´ для φύσις, ύ для υἱοί, γρ´, γρ), γρ$^{α}$ < γραμματεύς (ці γραφεῖον, γραφεύς), προκ´ < πρόκειται, ΙΠΠ$^{ξ}$< ἵππους, κεφ/ < κεφαλαιώτης, αδ$^{ε}$/ < ‘αδελφός, τρ⊆ < τράπεζαν, πτολ^ < πτολεμαίου і інш.; знакі скарачэнняў ператвараліся ва ўмоўныя, якія замяшчалі пэўныя склады ці спалучэнні літар;

— з вынасам, над- ці падпісаннем наступнай або іншай літары: Π$_{e}$ < περί, Δ$^{υ}$ < δυνάμις, ε$^{κ}$ < ἕκαστος, π$^{ο}$ < πρότερον, λ$_{ο}$ < λόγος (ці λοιγοί), ‘άν$^{Δ}$ < ‘άνδρας, πο$^{λ}$ < πόλεμον, βου$^{λ}$ < βουλή, ΤΕΛ$_{ο}$ < τέλος, ΙΝ$^{δ}$ < ἰνδικτιῶνος, κυ’ < κυρίουι, φύ$^{´σ}$ < φύσιν, ‘επιτι$^{μ/}$ < ‘επιτίμιον,’αρ$^{χστ}$/ < ‘αρχιστρατήγου, τ$^{εκ}$ < τέκνα, ομ$^{οι}$ < ὁμοίως і інш.; пры гэтым некаторыя вынасныя літары набывалі стылізаваны выгляд (як π, якая ў курсіве ператварылася ў _, ужывалася, напрыклад, як скарачэнне для πῆχυς ‘локаць’), што спрыяла іх ператварэнню ва ўмоўныя знакі для цэлых слоў: ð для πόλις ‘горад, дзяржава’ і інш.;

4) кантракцыі, даволі рэдкія, амаль аказіянальныя, абмежаваныя нейкімі асобнымі выпадкамі [18, с. 14—15]: паказ марфемнай структуры (βφ < βενεφικιάριος) ці граматычнай формы (κω < κυρίω) слова, сімвалізацыя асобных спалучэнняў унутры слова (так, спалучэнне -οσ- магло перадавацца адзіным знакам *c*: Κ$^{c}$ΜΟΝ < κόσμον), асобныя словы (αν̀κη < ανάγκη ‘патрэба, прымус’, ηγης < ἡγεμονικῆς, πρ̃ις < πατρίς ‘айчына’, πρ̃ιος < πάτριος ‘айчынны’) і да т. п.

Як бачна, у грэчаскіх скарачэннях прадстаўлены амаль выключна суспензіі і практычна адсутнічаюць кантракцыі. Іншай асаблівасцю з’яўляецца шырокае выкарыстанне вынасных, упісных і падпісных літар, а таксама рысак ці падобных да іх умоўных знакаў пры сціпласці выкарыстання інтэрпункцыі (да VIII ст. выкарыстоўвалася хіба што кропка ў радку). Нягледзячы на ўплыў рымскай практыкі, выкарыстанне ініцыяльных суспензій ў актавых грэчаскіх тэкстах было забаронена імператарам Феадосіем у 438 г. і пазней пацверджана ў кодэксе Юстыніяна [9, с. 320]. Пісары ж грэчаскіх унцыялаў на пергаміне ўвогуле імкнуліся пазбягаць скарачэнняў і выкарыстоўвалі іх толькі ў лічаных пэўных сітуацыях, такіх, як, напрыклад, канец радка ці распаўсюджаныя канчаткі асобных слоў.



У візантыйскія часы захоўваліся амаль усе асаблівасці антычнай традыцыі скарачэнняў грэчаскага пісьменства. За выключэннем nomina sacra (пра іх гл. п. 4), візантыйскія хрысціянскія тэксты ніяк не адрозніваюцца ад прафанных [16, с. 87—88; 17, с. 76]. Бадай, нейкай асаблівасцю мінускулаў, асноўных рукапісаў гэтай эпохі, можна лічыць большую схільнасць да ўнікання канчаткаў і апошніх складоў, што часцей спалучалася з вынаснымі літарамі: πο$^{δ´}$ < πόδας, ψυ$^{χ}$ < ψυχῆς і інш., ці тахіграфічнымі знакамі: ` для -ον, ٧ ці ⊆ для -αν, $^{s}$ для -ης, $^{c}$ для -εν і г. д. [7; 9, с. 332—333]. Пад рымскім уплывам часта выкарыстоўвалася падваенне літар для перадачы мн. ліку, напрыклад: κυρρ < κύριοι ‘спадары’, παι$^{δδ}$/ < παίδων ‘дзеці’. Пад хрысціянскім уплывам некаторыя лігатуры ці тахіграфічныя знакі набылі новыя значэнні. Так, знак Х стаў значыць Χριστός ці Χρυσόστομος ‘Залатавусны’, знак * ці  значыць ψαλτήριον ‘Псалтыр’ і інш.

**3. Лацінская антычная традыцыя**

Як і ў грэчаскай, у рымскай традыцыі скарачэнні крыху па-рознаму развіваліся ў эпіграфіцы (надпісы пераважна на цвёрдым матэрыяле) і ў тэкстах, напісаных на мяккім матэрыяле. Таксама як і ў грэкаў, у рымлян пераважалі суспензіі — скарачэнні да адной першай літары (сігл) ці літар слова або нават слоў у словазлучэнні — і выкарыстоўваліся лігатуры, а кантракцыі сустракаліся рэдка. Суспензіі былі простымі, калі скарачалася адно слова, і складанымі, калі скарачэнне тычылася цэлага словазлучэння.

У лацінскай эпіграфіцы і пад яе ўплывам у тэкстах многіх рукапісаў скарачэнню падлягалі пераважна пэўныя групы слоў:

а) асабовыя імёны: *C.* ці *G.* < *Cajus* (*Gaius*), *Q.* < *Quintus*, *App.* < *Appius*, *D.* < *Decimus*, *M.* < *Marcus*, *P.* < *Publius*, *Sex.* < *Sextus*, *Ser.* < *Servius*, *Tib.* < *Tiberius* і інш.;

б) назвы службовых асоб, пасад і ўладароў: *IMP* < *Imperator* ‘імператар’; *CAES*, *CAE*, *C* < *Caesar*, тытул сына-спадкаемца імператара; *AVG* < *Avgvstvs*, тытул імператара; *PM*, *PONT MAX* < *Pontifex Maximvs* ‘вярхоўны пантыфік (жрэц)’; *COS*, *CONS*, *CO*, *C* < *Consvl* ‘консул’ і нш., у сувязі з чым скарачэнне зазнавалі таксама тытулы і эпітэты кіраўнікоў: *INV* < *Invictus* ‘Непераможны’; *MAX* < *Maximus* ‘Найвялікшы’; *DV*, *DIV*, *DIVO* < *Divus* ‘Боскі’; *PP* < *Pater Patriae* ‘Айцец Айчыны’; *DN* < *Dominus Noster* ‘наш гаспадар’; *VC* < *vir clarissimus* ‘высакародны муж’ і інш.;

в) назвы ўстаноў і юрыдычных паняццяў: *SPQR* < *Senatus populusque Romanus*, фармальная назва Рымскай дзяржавы, *PR* < *populus Romanus*, *RP* < *res publica*; *DPS* < *de pecuniā suā* ‘на свае сродкі’, *HL* < *hac lege* ‘такім чынам’ (ці *has leges*, *his legibus* ‘у (на) такіх умовах’) і інш.;

г) частаўжывальныя словы:

— службовыя: *i.* < *id est* ‘гэта значыць, то ёсць’, *d.* < *de* ‘з, ад, да, пра’, *an.* < *ante* ‘да (таго)’ і інш., таксама з аманіміяй: *c.* < *cum* ‘з, разам з, праз’ ці *circa* ‘каля, прыкладна’, *p.* < *per*, *pro*, *par*, *q.* < *que*, *qui* і нш.;

— знамянальныя, часам пашыраныя толькі ў пэўным кантэксце, што вяло да шырокай аманіміі: *b.* < *bonus, bene*, *c.* < *causa* ‘прычына, справа’, *centuria* ‘цэнтурыя’, *civis* ‘грамадзянін’ ці *centum* ‘сотня, сто’, *d.* < *dies* ‘дзень’, *dedit* ‘аддае’ ці ‘даў’ ці *dirus* ‘страшны’, *d.d.d.* < *donat* ці *dedicate* ‘дарыць, прысвячае’, *fec.* < *fecit* ‘зрабіў’, *U.* < *Urbs*, назва Рыма і інш.;

д) назвы адзінак часу, меры, вагі, ліку: *a.* < *annus* ‘год’, *d.* < *denarius*, назва манеты, *l.* < *libra* ‘фунт’, *s.* < *solidus*, назва манеты, *AUC* < *anno urbis conditae* ‘ад заснавання Рыма’ і нш.

Паўтор адной і той самай літары ў скарачэнні звычайна пазначаў множны лік назоўніка або найвышэйшую ступень параўнання прыметніка: *coss.* < *consules*, *ff.* < *filii* ‘сыны’, *oo.* < *omnes*, *vv.cc.* < *viri clarissimi*, *nn.bb.* < *nobilissimi*, *ff.* < *felicissimus* і інш. Зрэдку маглі ўжывацца павернутыя ўлева ці перакуленыя да гары літары, якія пазначалі жаночы род ці жаночае імя, напрыклад: ꟻ < *filia* ‘дачка’ ці *Filia*, ꟽ < *mulier* ‘жанчына’ ці *Marca*. Часам ініцыял мог суправаджацца прыпіскай маленькай літары (звычайна канчатка ці фіналі слова), што тлумачыла значэнне слова ў выпадку аманіміі, напрыклад: $p^a$ < *prima*, $p^e$ < *prime*, $p^o$ < *primo*, $p^m$ < *primum*. Асаблівасцю лацінскага пісьма было выкарыстанне кропкі пасля літары скарочанага слова ці гарызантальнай рыскі над ёй або напрыканцы слова [16, с. 99—100; 17, с. 87—88].

З прычыны значнай аманіміі чытанне многіх ініцыяльных скарачэнняў магло быць зразумелае толькі ў кантэксце. Асабліва шматлікімі і разнастайнымі былі скарачэнні ў рымскіх юрыстаў, якія аперыравалі стэрэатыпнымі словазлучэннямі, што апісвалі юрыдычныя паняцці, пасады, тытулы, эпітэты і званні. Для гэтага былі складзены нават цэлыя зводы скарачэнняў («Notarum Laterculi», «Notae iuris» і інш.), якія захаваліся да Сярэднявечча. Такія зводы ахоплівалі таксама скарачэнні частаўжывальных слоў, у т. л. службовых (гл. у дэталях: [15, с. xxxiii]).

У лацінскіх рукапісах скарачаліся ў асноўным канцавыя літары (канчаткаў ці апошніх складоў) слоў, як альтэрнатыва, яны маглі выносіцца за радок. Скарачацца маглі ўсе галосныя: *a*, *o*, *u*, *i*, *e* і некаторыя зычныя: *m*, *n*, *r*, *t*. Пры гэтым, калі скарачаліся насавыя зычныя m, n, то захоўвалася назалізаваная галосная, якая магла пісацца з гарызантальнай рыскай: *aia* ці *āia* < *anima* ‘душа’, *ois* ці *ōis* < *omnis* ‘усялякі’; або напрыканцы радка замест *m* ці *n* магла ставіцца рыска, па прыкладу грэчаскіх рукапісаў [15, с. xxix]. Замест спалучэння *-er-* ці *-re-* мог ставіцца апостраф: *b’viter* < *breviter*, *c’tus* < *certus* і інш.; замест канчаткаў *-us*, *-ur*, *-um* мог выступаць знак +: $an_{+}$ < *anus*, $amat_{+}$ < *amatur* і інш. [16, с. 100—101; 17, с. 88]. У некаторых выпадках ініцыяльныя скарачэнні суправаджаліся дыякрытыкамі і ўяўлялі сабой фактычна лігатуры: ꝑ для *pro* ‘перад’, ꝗ для *quod* ‘чаму’ і інш. Гэта адкрыла шлях для пашырэння кантракцый, у якіх захоўваліся толькі зычныя і апускаліся галосныя ды канчаткі (паводле т. зв. складовага прынцыпу [16, с. 98; 17, с. 85]): *bn* < *bene*, *sn* < *sine*, *tm* < *tamen*, *st* < *satis*, *qb* < *quibus*, *qd* < *quidem* і інш., або апускаліся ў дадатак і



некаторыя зычныя: *exp* < *exemplum*, *omb* < *omnibus*, *mmt* < *momentum*, *bn* < *bonorem* і інш. [16, с. 97; 17, с. 85], што ўяўляла сабой ужо чыстую кантракцыю. Аднак у цэлым колькасць кантракцый у антычных тэкстах была невялікая.

**4. Хрысціянская навацыя: Nomina sacra**

З хрысціянствам у грэчаскае пісьменства, а затым у лацінскае і іншыя еўрапейскія пісьмовыя традыцыі прыходзіць фактычна новая з’ява, якая стала адметнай асаблівасцю хрысціянскіх тэкстаў, перш за ўсё літургічных. Гэтая навацыя з лёгкай рукі іх першага даследчыка нямецкага філолага Л. Траўбэ атрымала назву «nomina sacra» («святыя імёны») [18, с. 17—18] і палягае ў кантракцыі слоў, якім прыпісваўся сакральны (звязаны з Богам) сэнс. Іх скарачэнне адбывалася шляхам захавання пачатковай (часам таксама апорнай — у сярэдзіне) і канцавой літар (часта — зычных) слова, якія адрознівалі яго ад іншых слоў.

Nomina sacra не былі вядомыя грэчаскаму і лацінскаму дахрысціянскаму пісьменству, гэтыя скарачэнні з’яўляюцца разам там толькі з хрысціянствам [18, с. 15]. Цікава, што ў нерэлігійных тэкстах на грэчаскай мове nomina sacra не ўжываліся. Усе ранейшыя кантракцыі і выкліканыя імі сімвалізацыі слоў, што выкарыстоўваліся антычнымі пісарамі, служылі толькі мэтам скарачэння напісанняў і паскарэння пісьма [18, с. 121—124], nomina sacra як сакральныя скарачэнні (ідэалагічныя знакі) там адсутнічалі. Захаваліся візантыйскія кодэксы, дзе на адной старонцы змешчаны твор класічнай антычнай літаратуры, а на іншай хрысціянскі тэкст. У першым выпадку выяўляюцца толькі звычайныя скарачэнні, уласцівыя скорапісу, тады як у другім выпадку выступаюць тыповыя nomina sacra [18, с. 14].

Л. Траўбэ вызначыў наступныя асаблівасці, якія дазваляюць выразна адрозніць хрысціянскія nomina sacra ад антычных скарачэнняў [18, с. 15]:

а) хрысціянскія кантракцыі заўжды суправаджаюцца рысай зверху над ўсімі літарамі кантрактаванага слова;

б) рэпертуар nomina sacra не адвольны і вузка абмежаваны;

в) пачатак і канец слоў nomina sacra дакладна вызначаны і падлягае цвёрдаму рэгуляванню;

г) галоўным застаецца сакральны сэнс, які ўкладаецца карыстальнікамі ў скарочанае напісанне nomina sacra.

На думку Л. Траўбэ, nomina sacra ў антычнае пісьменства былі прынесены элінізаванымі яўрэямі яшчэ ў дахрысціянскія часы [18, с. 27—24, 33, 36—37, 42—43], але асабліва шырока распаўсюдзілася гэтая з’ява дзякуючы хрысціянству і яго багатай літаратуры. Крыніцай nomina sacra стала іудзейская тэалогія, якая забараняла вымаўленне імя Бога поўнасцю[II]. Як вынік, імя Бога ў іудаізме перадавалася праз асобныя сімвалы — тэтраграматон, ці тэтраграму (ад грэч. τετραγραμμα, τετραγραμματον ‘чатыры літары’), якія суправаджаліся на пісьме аздабленнем (звычайна рамкай), што вылучала іх у тэксце. Менавіта ад гэтай тэтраграмы, на думку Л. Траўбэ [18, с. 23—24, 30—33, 45—47], пахо-

дзіць традыцыя хрысціянскіх тэкстаў скарачаць nomina sacra да некалькіх зычных літар і пакрываць такое напісанне асобнай рысай зверху. З IX ст. яна ў грэчаскім пісьме змянілася на гарызантальную дужку ці рыску [18, с. 45—47], якая ў славянскай традыцыі атрымала назву цітла, ад грэч. τίτλος 'надпіс', параўн. аналагічнае лац. titulus, адкуль польск. tytuł 'цітла'. Пераклады яўрэйскіх рэлігійных кніг на грэчаскую мову, выкананыя элінізаванымі яўрэямі, захавалі гэтую традыцыю. Тэтраграма там перадавалася грэчаскімі (пазней лацінскімі) літарамі ў выглядзе К̃С і Θ̃С (адпаведна, ад грэчаскіх слоў KYPIOC 'Гасподзь' і ΘΕΟC 'Бог'). Як бачна, тут не транскрыбавалася яўрэйскае слова, а адлюстроўваўся яго грэчаскі пераклад: κύριος 'Гасподзь' для יהוה [j'hwh] і θεός 'Бог' для אלהים [adnj] [18, с. 27—33].

Праўда, шведскі філолаг Г. Рудберг аспрэчыў гэта. Ён адзначыў, што nomina sacra ўпершыню з'явіліся ў рукапісах Евангелля і толькі потым перайшлі ў спісы Старога Запавету [14]. Гэта ставіць пад сумненне ўплыў іудзейскай тэалогіі на ўзнікненне nomina sacra. Ён лічыць, што прататыпам nomina sacra былі тыя рэдкія выпадкі кантракцый, што адзначаюцца ў грэчаскім курсіве (гл. п. 2). Аднак Траўбэ і сам казаў пра падобныя выпадкі; відавочна, што лічаныя і непаслядоўныя прыклады кантрактавання слоў не маглі пакласці пачатак устойлівай і масавай з'яве nomina sacra [18, с. 12—15].

Іншы даследчык, А. Паап, на падставе вывучэння 421 грэчаскага папіруса II—V стст. прыйшоў да высновы, што рэпертуар і выгляд nomina sacra, па меншай меры, у папірусах складваўся павольна і паступова, а побач са скарочанымі напісаннямі там доўга суіснавалі і поўныя [12] (параўн.: [18, с. 38—40]). Пры гэтым такія кантракцыі не заўжды трактаваліся як рыса толькі рэлігійнага твора — яны выкарыстоўваліся і ў прафанных тэкстах. Хаця даследчык пацвердзіў думку Траўбэ пра залежнасць nomina sacra ад іудзейскага тэтраграматона, аднак з'яўленне такіх кантракцый аднёс да ранніх яўрэйска-хрысціянскіх грамад за межамі Палесціны [12, с. 124]. Наадварот, англійскі даследчык К. Робертс вырашыў, што nomina sacra ўзніклі яшчэ да 70 г. н. э. менавіта ў ранняй Іерусалімскай царкве як адлюстраванне пэўных іудзея-хрысціянскіх памкненняў у ёй [13, с. 45]. Ён звярнуў увагу на наяўнасць сярод nomina sacra слоў яўна іудзейскага кантэксту — Δαϋειδ (Δαυίδ), 'Ισραήλ, 'Ιερουσαλήμ, не самых важных для хрысціянскай дагматыкі (гл. у дэталях: [13, с. 26—48]). На статус гэтых слоў звяртаў увагу і сам Л. Траўбэ [18, с. 36].

З пашырэннем хрысціянства nomina sacra глыбока пранiклі ў хрысціянскую рэлігійную літаратуру, замацаваўшыся там надоўга, а іх склад хутка папоўніўся, застаючыся аднак дастаткова абмежаваным. Розныя спісы Септуагінты і Новага Запавету сведчаць, што рэпертуар гэтых скарачэнняў з ранніх часоў усталяваўся ў грэчаскай мове ў складзе 15 слоў: апрача адзначаных κύριος і θεός, туды ўваходзілі πνεῦμα 'дух', πατήρ 'айцец, бацька', οὐρανός 'неба', 'άνθρωπος 'чалавек', Δαϋειδ ці Δαυίδ 'Давід', 'Ισραήλ 'Ізраіль', 'Ιερουσαλήμ



'Іерусалім' (але не несклaняльны семітызм 'Ιερουσαλυμα!), 'Ιησοῦς Χριστος 'Ісус Хрыстос', 'υἱός 'сын', σωτήρ 'збаўца', σταυρός 'крыж', μήτηρ 'маці' [18, с. 33—37, 88—121]. Пазней да іх далучыліся словы θεοτόκος 'багародзіца' і βασιλεύς 'цар, імператар'. Цяпер яны ўжо не ўспрымаліся як іудзейская спадчына, паколькі значэнне, што прыпісвалася гэтым скарачэнням, не выяўляла ніякай сувязі з тэалогіяй іудаізму. Нават такія скарачэнні, як Δαϋειδ (Δαυίδ), 'Ισραήλ, 'Ιερουσαλήμ не мелі іудаістычнага зместу [18, с. 36, 104—113].

Названыя nomina sacra скарачаліся ў пэўным парадку, хаця і не вельмі стабільным (асабліва ў першыя стагоддзі), утвараючы разнастайныя варыянты [18, с. 34—44, 88—121]. Толькі ў словах κύριος, θεός, υἱός стала захоўваліся першая і апошняя літары: К̃С, Θ̃С, Ỹ С, астатнія словы маглі мець розныя формы, у залежнасці ад рэгіёна і часу: 'Ιησοῦς, Χριστος перадаваліся звычайна як Ĩ С, Х̃С, але магчымыя таксама IH̃С, ХР̃С, у словах πνεῦμα, Δαϋειδ (Δαυίδ), σταυρός, μήτηρ звычайна пакідаліся першыя дзве літары і апошняя: ПÑА, ΔÃΔ, СТ̃С, МН̃Р, але былі магчымыя і напісанні Δ̃Δ, М̃Р, ПМ̃А ці ПÑА, МН̃Р, СТ̃РС; у словах πατήρ, 'Ισραήλ, σωτήρ заставаліся першая і дзве апошнія літары: ПН̃Р, IН̃Λ, СН̃Р, але сустракаліся і варыянты П̃Р, С̃Р, ПÃР, IС̃Λ, СΩ̃Р, IС̃НΛ, а ў словах 'άνθρωπος, 'Ιερουσαλήμ, οὐρανός выступалі першы і апошні склады: АÑОС, IΛ̃НМ, ОYÑОС, хаця адзначаны і формы IЕ̃М, IН̃М, АN-П̃ОС, АNΘР̃ПС, IЕΛ̃НМ. У раннюю эпоху nomina sacra часам скарачаліся як суспензіі: П̃N < πνεῦμα, Θ̃´ < θεοτόκος і да. т. п. Асабліва часта гэта адзначана для слова οὐρανός, якое ў папірусах магло пісацца як звычайная суспензія: ОYРА´, ОYР´, ОY´, Õ´ [18, с. 54, 56, 62, 64, 99]. Нарэшце, у раннія часы была магчымасць пісаць nomina sacra цалкам, пакрываючы іх зверху рыскай [18, с. 49—50]. Як правіла, nomina sacra пісаліся ў скарочаным выглядзе таксама ва ўсіх сваіх марфалагічных формах: 'άνθρωπον > ANON, 'άνθρωποι 'людзі' > АÑОI і да т. п. Скарачэнню падлягалі і вытворныя ад гэтых слоў прыметнікі і назоўнікі, напрыклад: ἀνθρωπίνη 'чалавечая' > α̃νινη, σωτήριος 'збавенны' > σ̃ριος і г. д.

Першапачаткова вузкі рэпертуар nomina sacra значна пазней папоўніўся некаторымі новымі ўтварэннямі, што ўзнікалі за кошт пашырэння кола слоў, якім прыпісваўся сакральны змест, напрыклад: МР̃ТР < μάρτυρος 'пакутнік', ΔΛ̃Ω < δούλῳ 'сына', ці якія мелі аднолькавы корань з nomina sacra: θεός > θεοτόκος ці θεοτόκιον > Θ̃КОС ці Θ̃КIN, 'άνθρωπος > φιλάνθρωπος > ФIΛÃ-NOC [18, с. 125—128]. Часам такім чынам скарачаліся некаторыя хрысціянскія імёны, напрыклад: МР̃К < Μάρκος (спіс імёнаў гл. у дэталях: [11, с. 348]), аднак у большасці выпадкаў яны скарачаліся як суспензіі: IΩ̃ < 'Ιωάννης і да т. п. [18, с. 9—10]. Важна адзначыць, што ў грэчаскім пісьменстве nomina sacra заставаліся ў коле біблейных, літургічных і царкоўных тэкстаў, слаба трапляючы ў прафанныя творы.

З грэчаскай мовы nomina sacra пранiклi ў iншыя пiсьмовыя традыцыi хрысцiян Мiжземнамор'я — у лацiнскую, копцкую, гоцкую, армянскую [18, с. 269—277], царкоўнаславянскую, пры пасрэднiцтве лацiнскай — у iрландскае, старафранцузскае i старанямецкае пiсьменства [18, с. 281—284]. Цiкава, што ў лацiнскiм пiсьменстве, у адрозненне ад грэчаскага, напачатку ўжывалася значна меншая колькасць nomina sacra — толькi шэсць: *D̃S* < *Deus* 'Бог', *SP̃S* < *spiritus* 'дух', *IH̃C* i *XP̃C* пазначалi iмя Iсуса Хрыста на грэчаскi ўзор (лацiнiзаваныя формы *ĨS*, *HĨS*, *CH̃R*, *HR̃S*, *CH̃RS* i да т. п. выкарыстоўвалiся радзей), *DÑS*, *DM̃S* < *dominus* 'гасподзь', *SC̃S* < *sanctus* 'святы', *ÑR* < *noster* 'наш' (гл.: [18, с. 131—237; 17, с. 86—87]). Аднак менавiта ў лацiнскiм пiсьменстве адбылося паслабленне сакральнага кантэксту nomina sacra, якiя сталi ўжывацца i ў прафанных тэкстах (юрыдычных, адмiнiстрацыйных, лiтаратурных i iнш.). Гэта прывяло, з аднаго боку, да пашырэння складу nomina sacra (*EP.* цi *EP̃S*, *EPS̃CPS* < *episcopus* 'бiскуп', *P̃B.* цi *PB̃R* < *presbyter* 'першасвятар', *DIAC.* цi *DIÃCS* < *diaconus* 'дыякан' i iнш.), а з другога, да шырокага распаўсюджання самога прынцыпу кантракцыi [18, с. 237—239]. Як i ў грэчаскiм пiсьменстве, лацiнскiя nomina sacra мелi розныя варыянты скарачэння (у раннiя часы — таксама ў поўным напiсаннi цi як суспензii: *DOM.*, *S.*, *N.* цi *NO.* i да т. п.), а кантракцыяй ахоплiвалася ўся парадыгма слова: *NR̃I*, *ÑI* < *nostri* 'нашага', *NR̃O*, *ÑO* < *nostro* 'нашаму', *NR̃M*, *ÑM* < *nostrum* 'нашае' i да т. п.

Традыцыя падобных сакральных скарачэнняў была нагэтулькi моцная, што заходнееўрапейскiя бiблейныя i царкоўныя першадрукi таксама захоўвалi nomina sacra. Iх маюць Камплютэнская палiглота ў грэчаскiх i лацiнскiх слупках, раннiя выданнi Альда, Эразма, Роберта Стафана, Сiксцiнсцкая Вульгата i iнш. [18, с. 285]. У адпаведнасцi з гэтай традыцыяй Марцiн Лютэр пры перакладзе Старога Запавету (выд. 1523 г.) слова «гасподзь», *Herr*, перадаваў вялiкiмi лiтарамi там, дзе ў адпаведным яўрэйскiм тэксце стаяў тэтраграматон; у Новым Запавеце (выд. 1541 г.) гэты прыём быў выкарыстаны iм у старазапаветных цытатах i ў звяртаннях Хрыста да Бога-Айца [18, с. 285—286].

**5. Сярэднявечная лацiнская традыцыя**

З надыходам хрысцiянства антычныя традыцыi ў лацiнскiм пiсьменстве ў цэлым былi захаваныя i прыстасаваныя для выражэння новага зместу. Так, у iнскрыпцыях рымскiх катакомбаў шырока выкарыстоўвалiся iнiцыяльныя суспензii: *b.* < *beatus* 'блаславёны', *m.* < *martyr* 'пакутнiк' цi *memoria* 'памяць' (дзень шанавання), *fn* < *frater noster* 'брат наш', *X.*, *XPC.*, *XS.* < *Christus* 'Хрыстос' (або *C.*), *I.X.* < *In Christo* 'у Хрысце' i iнш. Адпаведна, працягвала развiвацца аманiмiя такiх скарачэнняў. Напрыклад, скарачэнне AD набыло некалькi значэнняў: *anno Domini* 'год (ад нараджэння) Госпада', *Anima Dulcis* 'салодкая душа', *Ante Diem* 'да дня' (у сэнсе: да канца якога-небудзь тэрмiну, напрыклад у iнскрыпцыi *AD VI Kal. Apriles* 'да канца шостага дня календ красавiка') i iнш. Шырокi памер набыло скарачэнне рэлiгiйных формул, iнвакацый, малiтваў, царкоўных запеваў i да т. п. Iнiцыяльныя скарачэннi ў лiтургiчных кнiгах падлягалi сiглiзацыi i канвенцыялiзацыi. Так, склалiся асобныя знакi для богаслужбовага выканання тэксту: ℟ — паўтарэнне, ⏀ — антыфоннае выкананне, $\overline{\text{FE}}$ < facienda eucharistia (парадак Еўхарыстыi) i iнш. Назва малiтвы «Vere dignum et justum est» 'Сапраўды годна i праведна ёсць' скарачалася як VD, а гэтае скарачэнне мела сiглы розных формаў: V̸D, ⊕, V̄D, V̄, ⊙ i iнш. Навацыяй стала з'яўленне nomina sacra, рэпертуар якiх паступова пашыраўся — напачатку за кошт iншых сакральных слоў, а пазней i за кошт агульнаўжывальных слоў, якiя часта выкарыстоўвалiся ў царкоўных кнiгах. У тэксце nomina sacra звычайна пiсалiся вялiкiмi лiтарамi i над iмi мусiла ставiцца гарызантальная рыска (цiтла).



З разбурэннем антычнага грамадства i ўтварэннем варварскiх каралеўстваў у Заходняй Еўропе ранейшая старажытнарымская пiсьмовая традыцыя, нават i акцэптаваная хрысцiянскай антычнасцю, была ў цэлым захавана. Праўда, у тэкстах ранняга Сярэднявечча (да кан. IX ст.) было мала скарачэнняў, бадай што за выключэннем рукапiсаў iрландскiх i англiйскiх манахаў [15, с. xxxv—xxxvi]. Пасля IX ст. тэксты ўсё больш папаўняюцца новымi скарачэннямi i лiгатурамi, утворанымi ў манастырскiх скрыпторыях i каралеўскiх канцылярыях розных дзяржаў Заходняй Еўропы. Сярэднявечныя рукапiсы пасля XII ст. перанасычаны скарачэннямi, што ў многiм звязана з адмовай ад выразнага ўнцыяльнага цi квазiўнцыяльнага пiсьма i амаль поўным пераходам на курсiў. Скарачэннi i лiгатуры масава ўжывалiся ў тэкстах самых розных жанраў — тэалагiчных i юрыдычных трактатах, аналах i хронiках, кодэксах права, адмiнiстрацыйных i судовых актах, папскiх i каралеўскiх пасланнях i прывiлеях. З цягам часу пэўныя стандарты скарачэнняў сталi задаваць такiя цэнтры стварэння новых тэкстаў, як папская канцылярыя i ўнiверсiтэты (асаблiва тэалагiчныя факультэты Парыжа, Оксфарда i Камбрыджа, юрыдычны факультэт ў Балоннi), якiя прадукавалi шмат навуковых i вучэбных твораў.

Як вынiк, у эпоху пасля каралiнгаўскага Рэнесансу шырока ўжывалiся практычна ўсе тыпы скарачэнняў: суспензii, вынасныя, пад- i ўпiсныя лiтары, лiгатуры, кантракцыi, умоўныя знакi. Знакам скарачэння часта служылi двукроп'е, рэдка кропка (цi кропка з коскай) пасля лiтары (звычайна ў суспензiях) цi розныя гарызантальныя рыскi над ёй (звычайна ў кантракцыях).

Аб'ектам суспензiй станавiлiся асобныя частаўжывальныя словы i словазлучэннi. Звычайнай практыкай стала перадача назваў царкоўных пасад i званняў, рэлiгiйных ордэнаў, кангрэгацый, iнстытутаў iнiцыяльнымi скарачэннямi, напрыклад: *AB* цi *BA* < *Artium Baccalaureus* 'бакалаўр навук', *AM* цi *MA* < *Artium Magister* 'магiстр навук', *CRM* < *Clerici Regulares Minores* (марыяны), *CSB* < *Congregatio Sancti Basilii* (базiльяны), *OCC* < *Ordo Carmelitarum Calceatorum* (кармелiты), *OMCap.*, *OFM Cap.*, *OMC* < *Ordo Minorum Cappucinorum* (капуцыны), *OSB* < *Ordo Sancti Benedicti* (бенедыктынцы).

Некаторыя высокачастотныя словы (займеннікі, звязкі і службовыя словы) перадаваліся лігатурамі ці ўмоўнымі знакамі (напрыклад: ÷ для *est* ‘ёсць’ (але вядома і форма *ē*), *7* для *et* ‘і’ (але вядома і лігатура &), = для *esse* ‘быць’, *ł* для *vel* ‘або’), іншыя (у асноўным знамянальныя) — ініцыяльнымі суспензіямі, напрыклад: *h.*, *hum.*, *humil.* < *humiliter* ‘пакорліва, прынізліва’. Заканчэнні слоў часта не дапісваліся, замест недапісанай часткі ставіўся апостраф ці рыска: *dat’* < *datum*, *dioc’* < *diocesis*, *oct’* < *octobris*, *testim’* < *testimonium*, *test’* < *testibus* ‘сведкам’ ці ‘сведкамі’, *ven’* < *venerabilis* і інш. Таксама выкарыстоўваліся вынасныя літары: галосныя перад ці пасля *r*, а таксама некаторыя зычныя ў асобных канчатках ці фіналях (гл. у дэталях: [8, с. xxxvii—xxxix; 16, с. 102—103]). Зрэдку маглі выносіцца нават склады ці некалькі суседніх літар [16, с. 103; 17, с. 90].

Незвычайна расквітнелі розныя ўмоўныя знакі, якія ўяўлялі сабой фактычна тахіграфічныя сродкі і перадавалі асобныя зычныя, склады ці марфемы (часам іх называюць таксама сілабічнымі сімваламі). Так, насавыя зычныя *n*, *m* у сярэдзіне і канцы слова звычайна перадаваліся рыскай над папярэдняй галоснай, пазначаючы яе назалізаванае вымаўленне: *ōis* < *omnis* і інш.; марфемы ці спалучэнні *–er-* або *-re-* перадаваліся знакам, падобным да *7*, ꝭ ці *4*: *lib7e* < *libere* і інш.; канчаткі *-us* ці *-os* знакам, падобным да *9* ці ŋ: *op9* < *opus* і інш.; марфемы або спалучэнні *-ur-* ці *-tur-* знакам, падобным да *3* ці *з*: *fu3i* < *futuri* і інш.; марфемы ці спалучэнні *-cum-*, *-cun-*, *-com-*, *-con-* і да. т. п. знакам, падобным да *2*, *9* ці ɔ: *pre9* < *precum*, *se9do* < *secundo* і г. д. (гл. у дэталях: [8, с. xxviii—xxxvii, xlv—xlvi; 16, с. 101—102; 17,с. 89; 15, с. xxxviii]).

Пад уплывам nomina sacra значна пашырыўся рэпертуар кантракцый. У адрозненне ад візантыйскай традыцыі, якая не распаўсюдзіла прынцып кантракцыі на частаўжываныя словы несакральнага зместу, у сярэднявечных лацінамоўных помніках ужо з V ст. н. э. многія несакральныя словы таксама сталі кантрактавацца [18, с. 18, 125, 134, 238—239; 17, с. 86, 87] (гл. дэталёвы спіс такіх кантракцый напрыклад: [18, с. 245—266]):

а) абстрактныя назоўнікі: *effum.* < *effectum* ‘вынік’, *irregulte.* < *irregularitate* ‘няправільнасць, непаслядоўнасць’, *lia.* < *licentia* ‘дазвол’, *na.* < *natura* ‘прырода’, *snia.* < *sententia* ‘думка, меркаванне’ і інш.;

б) прыметнікі і займеннікі: *gnalis.* < *generalis* ‘агульны’, *litma.* < *legitima* ‘законны’, *rlari.* < *regulari* ‘звычайны’, *os.* < *omnes* ‘усе’ і інш.;

в) прыслоўі і службовыя часціны мовы: *alr.* < *aliter* ‘інакш’, *aucte.* < *auctoritate* ‘ўладай’, *canice.* < *canonice* ‘кананічна’, *humoi.* < *hujusmodi* ‘гэткім чынам’, *igr.* < *igitur* ‘таму, з гэтай прычыны’, *qd.* < *quod* ‘таму, што; як’ *qtnus.* < *quatenus* ‘наколькі, да якога часу’, *qmlbt.* < *quomodolibet* ‘як бы там ні было’ і інш.

Пры гэтым над кантрактаванымі словамі (ці складамі) часта ставілася рыска [8, с. xxvii], што выразна сведчыць пра іх сувязь з nomina sacra. Nomina sacra паказалі новы прынцып скарачэння слоў, канчатак у якіх захоўваўся,



што было вельмі важна ва ўмовах недастатковага ці дрэннага валодання лацінскай мовай [15, с. xxxii].

Спосаб кантрактавання тых або іншых слоў часта быў разнастайны ад канцылярыі да канцылярыі, ад рэгіёна да рэгіёна. Аднак можна ўказаць і на некаторыя заканамернасці. Так, захоўваліся зычныя асновы і канчаткі слоў, што дазваляла пазбегнуць блытаніны пры чытанні, напрыклад: *lcis* < *lectis* і *lris* < *litteris* або *fr* < *frater* ‘бацька’, *fris* < *fratris* ‘бацькі’ (род. скл.), *fri* < *fratri* ‘бацьку’, *fres* < *fraters* ‘бацькі’ (мн. л.) і г. д.; словы агульнага кораня павінны былі кантрактавацца аднолькавым спосабам: *mia* < *misericordia* ‘міласэрнасць’, *miors* < *misericors* ‘міласэрны’, *mir* < *misericorditer* ‘міласэрна’, *miraone* < *miseratione* ‘спачуваннем’ і інш. Некаторыя частаўжывальныя суфіксы ў розных словах скарачаліся аднастайным чынам, пры гэтым пад імі магла ставіцца рыска, напрыклад: *ao* для *-atio* ці *oe* для *-atione* або *-ione* (*oroes* < *orationes*, *generao* < *generatio*, *receptoe* < *receptione*, *obligaon* < *obligation* і г. д.).

Лік і разнастайнасць скарачэнняў у заходнееўрапейскім пісьменстве дасягнуў свайго максімуму напярэдадні адкрыцця кнігадрукавання і напачатку пранікаў у друкі. Там працягвалі выкарыстоўвацца суспензіі для скарачэння напісанняў у радку і вынасныя літары, а таксама некаторыя лігатуры і тахіграфічныя знакі. Але звычайна ў друках вынасу падлягалі толькі насавыя зычныя: *regnũ* < *regnum* ‘каралеўства’, *in finē* < *in finem* ‘да канца’, *nõ descēdat* < *non descendat* ‘не пойдзе’ і зычны *d* напачатку некаторых прыназоўнікаў: *e*ˡ < *de* ‘з, ад’; пры гэтым нават у суседніх радках тое ж самое слова магло пісацца па-рознаму, напрыклад: *respõdens*, *respondēs*, *respõdēs*. Пераносіліся ў старадрукі таксама некаторыя лігатуры і тахіграфічныя знакі, напрыклад: & для *et* ‘і’, *з* для *ue* ці *que*: *qз* < *que*, *usqз* < *usque*, *atз* < *atque* і інш., ꝶ для канч. *-um*: *voto*ꝶ < *votorum* ‘галасоў’, ꝗ для quia ‘таму што, так як’. Але ў цэлым развіццё кнігадруку значна зменшыла разнастайнасць і частотнасць скарачэнняў. Асабліва мала скарачэнняў ўжывалася ў выданнях, прызначаных для шырокага распаўсюджання (у т. л. у бібліях), тады як публікацыі для вучоных, наадварот, працягвалі іх ужываць, але ў значна меншай колькасці.

**6. Царкоўнаславянская традыцыя**

Царкоўнаславянскае пісьменства, створанае ў IX ст. для абслугоўвання грэка-візантыйскай (кірыліца) і рыма-каталіцкай (глаголіца) літургіі, было арыентавана ў асноўным на візантыйскае і лацінскае царкоўнае пісьменства і запазычыла адтуль асноўныя канвенцыі скарочаных напісанняў, існаваўшыя на той час: вынасныя літары, лігатуры і nomina sacra [19, с. 103—104]. Аднак слаба былі распаўсюджаны суспензіі, асабліва ініцыяльныя, калі яны ўжываліся, то на перыферыі пісьменства (напрыклад, на маргінэсе кніг). Тахіграфія як пэўная пісьмовая сістэма ўвогуле не была запазычана, хаця час ад часу асобныя індывіды ўжывалі знакі, падобныя да тахіграфічных [4, с. 214], ці выкарыстоўвалі гэтае пісьмо для тайнапісу.

Найбольш частым і адметным скарачэннем царкоўнаславянскага пісьменства былі nomina sacra. Аднак нават у самых ранніх помніках адзначаюцца хістанні ў скарочаным ці поўным напісанні гэтых слоў — ёсць рукапісы (напрыклад, Супрасльскі X ст.), дзе словы *Ісусъ* пішацца то цалкам, то скарочана. Або інакш, у Зографскім евангеллі X ст. слова *д□хъ* пішацца скарочана пры пазначэнні святога духа, але цалкам у значэнні ‘нячысты дух’. Усе скарочаныя напісанні nomina sacra пакрываліся зверху стылізаванай рыскай у выглядзе гарызантальнай дужкі — цітлам, якая ў першыя стагоддзі мела розны выгляд і пакрывала зрэдку і вынасныя літары [4, с. 231; 19, с. 110].

Аднак палова рэпертуару nomina sacra ў царкоўнаславянскім пісьменстве была запазычана з грэчаскай традыцыі (15 слоў [19, с. 104—105]), іншая палова (16 слоў) узыходзіць да лацінскай (праз глагалічнае пісьменства): *свят*(*ъ*, *-ый*), *цръковь*, *глаголати* / *ректи*, *ангелъ* / *аггелъ*, *апостолъ*, *срьдце*, *благословен*(*ъ*, *-ый*), *владыка*, *пророкъ*, *мученикъ* і *мученица*, *милость*, *молитва*, (*архи*)-*епископъ*, *попъ* [2, с. 429; 19, с. 105]. Гэты спіс ні ў якім разе не быў замкнёны і мог папаўняцца, што адпавядала і тэндэнцыі сярэднявечнага лацінскага пісьменства. Даволі рана царкоўнаславянскія кніжнікі дадалі да яго такія словы, як *аминь*, *богатьство* (паводле аналогіі са словам *богъ*), *троица*, *прем□дрость*, *предтече*, *пречиста*(*я*), *чист*(*ъ*, *-ий*), *богородица* (таксама паводле аналогіі са словам *богъ*), *д□ва* / *д□вица*, *мучитель* (паводле аналогіі са словам *мученикъ*), *страстотерпьцъ*, *князь* / *княѕь*, *царь*(*ствие*), *ц□сарь*(*ствие*), а таксама *слъньце*, *съмрьть* [2, 430—431]. Пры гэтым рэпертуар кантракцый залучаў не толькі сакральныя словы, але і «тэхнічныя тэрміны» літургічных тэкстаў (інцыпіты, паказальнікі чытанняў, лекцыянарныя табліцы і да т. п.) — назвы кшталту *мс̃ць* ‘месяц’, *дн̃ь* ‘дзень’, *дн̃сь* ‘цяпер’ і інш. [2, с. 430], *п̃с* < псалъмъ, *п̃□*$^{с}$, *п□*$^{с}$*нь* < *п□снь*, *м̃са* ‘імша’, *к̃п*$^{т}$ < *капит□ль*, *ор̃*$^{ц}$ < *ораци□* ‘малітва’, *ом̃*$^{л}$ ‘гамілія’ [19, с. 107], якія ў сваім афармленні ніяк не адрозніваліся ад сакральных слоў. Гэта таксама адпавядала сярэднявечнай лацінскай тэндэнцыі да пашырэння ліку кантракцый.

Надзвычай рэдка ў царкоўнаславянскім пісьменстве выкарыстоўваліся суспензіі (насуперак грэчаскай і лацінскай традыцыі), яны адзначаюцца толькі з даволі позніх часоў (з XV—XVI стст.) і ў асноўным у канцылярска-актавым ужытку. У «тэхнічных тэрмінах» літургічных тэкстаў (інцыпітах, загалоўках і да т. п.) часам выкарыстоўваліся ініцыяльныя суспензіі, якія амаль заўжды суправаджаліся вынасам ініцыяла ці вынаснымі напісаннямі апошніх літар слова: *въ оно*$^{в}$ ці *въ вр□*$^{м}$ *оно* < *въ вр□мя оно* ‘ў той час’, *имя*$^{р}$ < имя *рекъ* ‘пэўнае імя’. Кропкі, рыскі ці іншыя знакі, як у старажытнарымскім пісьменстве, пры гэтым адсутнічалі — відаць, маркерам суспензіі служыў вынас сам па сабе. Аднак у кірылічных (з XIII ст.) і ў глагалічных (з XV ст.) помніках адзначаюцца рэдкія выпадкі чыста ініцыяльных суспензій, абумоўленыя, аднак, назвай літар у алфавіце: *д̃* = *добро*, *ѕ̃* = *зело*, *з̃ю* = *землю*, *л̃* = *людии*, *л̃хъ* = *людехъ*, *ѱ̃* = *пьси* і інш. [4, с. 243; 19, с. 109].



Адметнасцю царкоўнаславянскага пісьменства (як кірылічнага, так і глагалічнага) сталі напісанні з вынаснымі літарамі (тады як пад- і ўпісныя літары выкарыстоўваліся рэдка). Пры гэтым выносіліся, як правіла, зычныя, а галосныя (асабліва *ъ*, *ь*) адкідаліся зусім: *вся*$^{к}$ < *всякъ*, *гла*$^{в}$ < *глава*, *л□*$^{т}$ < *л□то*, *л□тъ*, *ре*$^{к}$, *ре*$^{ч}$ < *рекъ*, *рече*, *□чн̃ко*$^{м}$ < *□ченикомъ*, *ча*$^{с}$ < *часъ* і інш. Нярэдка пры вынасных літарах «тэхнічныя тэрміны» скарачаліся і па прынцыпу суспензіі, і па прынцыпу кантракцыі: *па*$^{т}$ < *память* ‘шанаванне святога’, *по*$^{к}$ < *понед□льникъ*, *въ*$^{к}$ < *въторъникъ*, *пя*$^{к}$ < *пятькъ*, *к*$^{ц}$ < *коньць* і інш. [19, с. 105—106]. Вынасная літара часта пакрывалася дужкай (пазней яе назвалі пакрыццём ці ўзмётам), якая фактычна замяняла вынасную літару *т* у некаторых скарачэннях, такіх, як *е*$^{с)}$ < *есть*, *бы*$^{с)}$ < *бысть*, *н□*$^{с)}$ < *н□сть* ‘няма’ і інш. Гэта адкрыла шлях да змяшэння ўзмёту з цітлам, паколькі ўжо ў самых ранніх царкоўнаславянскіх помніках кантракцыі nomina sacra спалучаліся з вынаснымі (рэдка пад- і ўпіснымі) літарамі: *ап̃*$^{п}$*лъ*, *е*$^{п}$*п̃ъ*, *и*$^{с}$*с̃ъ*, *х*$^{с}$*с̃ъ* і да т. п. Такія выпадкі ў кніжнай традыцыі называліся літарнымі цітламі, тут маглі, як правіла, выносіцца толькі зычныя *с*, *н*, *г*, *д*, але з часам іх лік значна вырас [4, с. 232].

У царкоўнаславянскім пісьменстве шырока была распаўсюджана вязь і ўласцівыя ёй лігатуры [4, с. 238—243]. Аднак гэта было пераважна дэкарацыйнае пісьмо ці запіс (напрыклад, працяглых загалоўкаў) у мэтах эканоміі, такія лігатуры звычайна не суправаджаліся скарачэннямі. Толькі зрэдку ў глагалічным пісьме адзначаюцца лігатуры са скарачэннямі, напрыклад: *м*$^{л}$ у слове *м*$^{л}$*итва* [19, с. 108]. У цэлым, нейкія сімвалы ці ўмоўныя знакі ў царкоўнаславянскім пісьменстве выкарыстоўваліся даволі рэдка [4, с. 246]. Найбольш вядомы прыклад — кружок з кропкай унутры — часам ужываўся для замены слова *око* ‘вока’ або на маргінэсе замест слова *зри* ‘глядзі’ (часам нават малявалася стылізаванае вока).

Славянскія кніжнікі падкрэслівалі сакральны змест nomina sacra. Так, сербскі манах Канстанцін Касценецкі (кан. XIV ст.), які ў духу ісіхазму выступаў за празмерны літаралізм ды сімвалічнае значэнне напісанняў, у сваім трактаце «Пра пісьмёны» ў якасці nomina sacra дазваляў пісаць любыя словы сакральнага значэння (што стасуюцца Бога): *еже что ст̃о і г̃дви □годное, то пишется по*$^{д}$ *титлом, а еже что б̃г□ мерзко, ѡ*$^{т}$*па*$^{д}$*шее, то пишется все, складом, ѡ*$^{т}$*ню*$^{д}$ *не покрывается* (цыт. паводле [4, с. 232]). Тут ён таксама падкрэсліваў арфаграфічнае размежаванне амонімаў, што адрозніваліся толькі сакральным ці несакральным значэннем — першыя мусілі пісацца пад цітлам, а другія цалкам: *б̃гъ* (хрысціянскі), але *богъ* (паганскі). Аднак, нягледзячы на свой арфаграфічны рагарызм, выбар літар, што пісаліся пад цітлам у nomina sacra, Канстанцін пакідаў пісару, дазваляючы скарачаць і *чл̃вкъ*, і *чл̃къ*, і *чк̃ъ*. Такім чынам, сімвалізм літар у скарачэннях асаблівай ролі для царкоўнаславянскіх кніжнікаў не адыгрываў.

Іншы манах, Мялет Сматрыцкі ў сваёй царкоўнаславянскай «Граматыцы» (Еўе, 1619) пералічыў толькі 16 nomina sacra: *г̃дь*, *б̃гъ*, *ѡ*$^{т}$*ц̃ъ*, *с̃нъ*, *д̃хъ*, *І̃съ*,

*Х̃съ, сп̃съ* ‘збавіцель’, *д̃ва* ‘дзевіца’, *ч$^{с}$т̃ая* ‘чыстая’, *б̃ца, М̃ріа, ц̃рковь, еѵг̃ліе, сл̃нце, пр̃в$^{д}$ное* ‘праведнае’. Як бачна, пры гэтым у кантракцыях выкарыстоўваліся і вынасныя літары, а імёны ўласныя ў дадатак пісаліся з вялікай літары. Аднак аўтар не абмяркоўваў ні рэпертуар nomina sacra, ні характар іх кантрактавання.

Сярод расійскіх стараабрадцаў (з 2-й пал. XVII ст.) былі распаўсюджаны спрэчкі пра характар напісання nomina sacra — як увогуле, так і ў прыватнасці асобных з іх. Вядома чалабітны ліст салавецкага дыякана Ігната да маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча, у якім ён даводзіў, што скарачэнне ІНЦІ (< «Ісус Хрыстос, цар іудзейскі», надпіс над галавою ўкрыжаванага Хрыста, часта пісаўся на іконах гэтай тэматыкі) — ератычнае (з-за спалучэння ІН).

**7. Практыка старабеларускага пісьменства**

Старабеларускае (= стараўкраінскае) пісьменства, генетычна заснаванае на царкоўнаславянскім, успадкавала многія традыцыі яго графікі, у т. л. і скарачэнні. Як і ў царкоўнаславянскім, асноўнымі тыпамі скарачэння для старабеларускіх пісараў былі nomina sacra, вынасы і лігатуры. Аднак ў старабеларускім пісьменстве значна шырэй выкарыстоўваліся суспензіі, частотнасць якіх з XVI ст. прыкметна ўзрастае. Гэта, бясспрэчна, тлумачыцца заходнім, польскім і лацінскім уплывам.

Nomina sacra ператварыліся фактычна ў фармальную прыналежнасць пісьма і ахоплівалі ўжо словы і несакральнага значэння, у т. л. і паланізмы: *п̃нъ воевода, вашое мл̃$^{с}$ти п̃нское, к̃нжата литовские, г$^{с}$дрь литовский, до справы г$^{с}$д̃рское, о̃чизны н̃шое; д̃ня, м$^{с}$ц̃а, н̃не, п̃нзи* і да т. п. Адпаведна, і характар ужывання такіх кантракцый быў нястрогі: адно і тое ж слова нават у суседніх радках магло ўжывацца як у скарочаным напісанні, так і поўным: *светыхъ* і *ст̃ыхъ, чоловекъ* і *чл̃векъ* і г. д. Бадай адзінае, што захоўваецца ад ранейшай традыцыі — абмежаванасць рэпертуару nomina sacra і наяўнасць цітла, якое, аднак, часта зусім не адрозніваецца ад узмёту.

Нашмат больш частым становіцца выкарыстанне вынасу літары, што звязана з пераходам на менш геаметрычныя і менш строгія паўустаў і скарапіс. Выносіліся толькі зычныя літары (у асноўным *в, д, ж, з, л, м, р, т, х, ц*) і толькі ў закрытым складзе: *де$^{р}$жа$^{в}$ца, ω$^{т}$цо$^{в}$ское, сведе$^{ц}$тво, ро$^{з}$де$^{л}$, кгды$^{ж}$, то$^{л}$ко$^{ж}$, до на$^{с}$, ко$^{л}$ве$^{к}$, мужо$^{в}$* і да т. п. (закрытым склад лічыўся таксама на канцы слова перад ъ, ь, якія даўно ўжо страцілі гукавое значэнне). Нават рэдкія выпадкі ўжывання вынасу, на першы погляд, перад галоснай ці напачатку слова пацвярджаюць прынцып закрытага складу: *бра$^{т}$я* (фанетычна [ц’ја]), *кара$^{н}$є* (фанетычна [н’је]), *по $^{з}$єханью* (фанетычна [з’је]), *не $^{з}$далъ* (нез//дал), *во $^{в}$сихъ* (вов//сіх), *по $^{д}$ва гроши* (под//ва), *и$^{з}$ сынами* (із//сынамі), *по$^{д}$ липой, до того $^{ж}$* (адно фанетычнае слова: то//гож) і інш. Яшчэ адной асаблівасцю можа лічыцца развіццё вынасаў над радком складоў: *ме$^{ду}$, ваши$^{ми}$, кни$^{ги}$*, нават *бу$^{ду}$ть*, аднак у цэлым вынасныя склады былі рэдкія.



Літары ъ, ь на канцы і ў сярэдзіне (толькі перад іншымі зычнымі) слова часта замяняліся паерыкам — асобным надрадковым знакам: *в” тых” речах” наших”, в”згардою а огижан»єм” нас” преследуют”, ведомост” ωт нас” принял”* і да т. п. Асаблівасцю страбеларускага пісьменства было зліццё функцый паерыка з вынасной стылізаванай літарай *и*, якая пазначала, аднак, нескладовы зычны [j] (*перве$^{и}$, тво$^{и}$, во$^{и}$тъ* і да т. п.): *на во”не, коне” наших”, в” стан” мал”женски” люде” невол”ных”* і да т. п. Яскравай асаблівасцю з’яўляецца скарачэнне некаторых гаплалагічных напісанняў, напрыклад, галоснай *о* ў канч. *-ого*: *то$^{г}$ нашо$^{г}$ листа, ω$^{т}$ велико$^{г}$ князя, е$^{г}$ мл̃$^{с}$ти* і да т. п., што развілася ў страбеларускім пісьменстве пад польскім уплывам, дзе вядомы падобныя скарачэнні галоснага: *te$^{o}$* < *tego, do wasze$^{o}$* < *do waszego, one$^{o}$* < *onego* і інш. (а таксама і некаторыя іншыя, напрыклад: *z do$^{v}$* < *z domu*).

Таксама пад заходнім (польскім і лацінскім) уплывам пашыраецца і выкарыстанне суспензій: *в̃шей с$^{л}$т̃: м$^{с}$л̃: < вашей светлой милости, своего м$^{л}$. П̃на < своего милостивого пана, а$^{х}$: < архимандритъ, про$^{ч}$. < прочая*, у т. л. і ініцыяльных: *П. < пану, ей М. Пней < ее милости паней, В. К̃ня$^{ж}$ М. < вашей княжацкой милости* і да т. п. Для іх скарачэння звычайна выкарыстоўвалася двукроп’е, радзей кропка, а таксама ўжываліся яшчэ кантракцыі.

З а ў в а г і

I Абрэвіяцыя з даўніх часоў вядома ва ўсіх славянскіх мовах для тапонімаў. Адзін з рэдкіх выпадкаў ранняй абрэвіяцыі (да XIX ст.), магчыма, прадстаўлены ў польскім і (у залежнасці ад яго) старабеларускім слове *mość* / *мость*. З-за скарачэння склада *-ił-* гэтае слова ўяўляе сабой фактычна абрэвіятуру слова *miłość*, таксама *waszamość* (параўн. *do waszamości*) < *wasza (K)Mość* < *wasza (książacka) miłość* ‘ваша (княжацкая) міласць’, на пісьме графічна таксама *WKM, WM*. Пры гэтым у залежнасці ад кантэксту першая літара ў ініцыяльным скарачэнні *WKM, WM* магла чытацца таксама як *wielka* (г. зн. *wielka książacka miłość*), *wielmożna* і да т. п.: *ich WKM, do naszych WKM* і да т. п. Тое ж і ў старабеларускай мове: *вашамость, до ихъ вашамости, ясне велможный мосци пане воеводо*, у новай беларускай мове: *вашасць, вашэця* (уведзены Янкам Станкевічам у «Маленькім маскоўска-беларускім слоўнічку фразэолёгічным і прыказкаў», 1952). Праўда, яшчэ ў 1-й пал. XVII ст. выраз *WKM* у старабеларускіх старадруках скарачаўся з дапамогай вынасных літар і цітлаў, як, напрыклад, напрыканцы прадмовы (фактычна — дэдыкацыі кн. Яну Агінскаму) у «Дыёптры» (Еўе, 1612): *в̃$^{ш}$. к̃$^{ж}$. м̃$^{л}$.* (ці *в̃$^{ш}$. к̃$^{з}$. мл̃$^{с}$ти*), але напрыканцы дэдыкацыі кн. Багдану Саламярэцкаму ці дэдыкацыі пані Ганне Хадкевічаўне ў «Вучыцельным евангеллі» (Еўе, 1616) выступаюць ужо ініцыяльныя скарачэнні: *В. К̃н$^{ж}$ М.* У рускай мове падобныя словы-абрэвіятуры з’яўляюцца значна пазней, толькі ў XIX ст., напрыклад: *вашество < ваше превосходительство*.

II Хаця ў яўрэйскім Св. Пісьме неаднаразова згадваецца імя Бога (як יהוה ‘Яхвэ’), якое прадстаўлена таксама ў мностве семіцкіх імёнаў і ў геаграфічных назвах, наяўнасць прамой рэлігійнай забароны на вымаўленне попусту імя Бога ў Дэкалогу (дзесяці запаветах — зводзе галоўных рэлігійных дагматаў іудаізму) прывяла да ўзнікнення ў яўрэйскім грамадстве з III ст. да н. э. табу на ўжыванне (паўтарэнне) імя Бога. Хаця ў трэцім запавеце Дэкалога (Выхад 20:7, Другі закон 5:11) прама забараняецца толькі

злоўжыванне гэтым імем, г. зн. выкарыстанне яго ў зламысных мэтах (хлуслівая клятва, чараўніцтва, магія і да т. п.), яўрэйская рэлігійная думка, арыентаваная ў пасляпалонныя часы на літаральнае, дробязнае выкананнне рэлігійных нормаў і правілаў аж да поўнага фармалізму, прыйшла да высновы, што неабходна ўнікаць любога вымаўлення і напісання гэтага імя, каб незнарок (паколькі чалавек грэшны) не злоўжыць ім і не зганьбіць Боскую веліч ды не наклікаць на сябе кары Боскай. Таму ў апошнія стагоддзі да н. э. імя יהוה было выдалена з ужытку вернікаў і моцна абмежавана ў выкарыстанні нават сярод равінаў (у час набажэнства яны імкнуліся вымаўляць гэтае імя ціха і неразборліва). У часы, пакуль яшчэ ў Іерусаліме існаваў Храм, галоўнае культавае збудаванне іудзейскай рэлігіі, ужыванне імя יהוה дазвалялася там толькі раз на год іерусалімскаму першасвятару ў час урачыстага набажэнства на свята Ём-Кіпур, аднак з разбурэннем Храма рымскім войскам у 70 г. н. э. такая практыка ўвогуле знікла. Як вынік, рэальнае вымаўленне гэтага яўрэйскага слова (у прыватнасці, галосных у яго складзе) было забытае не толькі простым народам, які размаўляў на арамейскай мове, але і яго рэлігійнай элітай — равінатам (мяркуюць, каля IV—V стст. н. э.), які штучна падтрымліваў веданне старажытнаяўрэйскай мовы. У талмудычнай літаратуры ёсць звесткі, што равінаў, якія працягвалі вымаўляць імя Бога, равінат праследаваў. У сінагогах у час набажэнства імя Бога пры чытанні павінна было замяняцца эпітэтам ארני ‘Гасподзь’ (адонай) ці радзей אלהים ‘Бог’ (элогійм), у звычайным маўленні выкарыстоўваліся іншыя эпітэты, розныя сінонімы, эўфемізмы ці нават парафразы, а ў напісанні засталіся толькі чатыры літары יהוה (зычныя кораня), якія на еўрапейскіх мовах атрымалі назву тэтраграматон, ці тэтраграма. Яна ўяўляе сабой спрошчаны (схематычны) запіс імя Бога (паколькі рэальнае вымаўленне галосных у ім зараз невядома). Гэтае напісанне ў яўрэяў аздаблялася — звычайна бралася ў рамку, каб унікальнае імя было добра бачнае пры чытанні і яго незнарок не вымавілі. Многія талмудычныя і кабалістычныя аўтары пайшлі далей і нават тэтраграматон замянялі іншымі літарамі (у побытавых тэкстах, у тэалагічных працах, у эпіграфічных надпісах, а таксама ў імёнах, што ўтрымлівалі корань יה), што прыводзіла да ўвогуле ўмоўных напісанняў кшталту ”, יי, בן, אבן, ביין і інш.

Л і т а р а т у р а


1. Алексеев, Д. И. Сокращенные слова в русском языке. — Саратов, 1979.
2. Гранстрем, Е. Э. Сокращения древнейших славяно-русских рукописей // Труды отдела древнерусской литературы. — М.; Л., 1954. — Т. 9. — С. 427—434.
3. Добиаш Рождественская, О. А. История письма в средние века [3-е изд.]. — М.; Л., 1987.
4. Карский, Е. Ф. Славянская кирилловская палеография. — Ленинград, 1928 [репр. изд.]. — М., 1979.
5. Люблинская, А. Д. Латинская палеография. — М., 1969. — С. 42—43.
6. Плотников, Б. А. Семиотика текста: Параграфемика. — Минск, 1992.
7. Церетели, Г. Сокращения в греческих рукописях преимущественно по датированным рукописям Санкт-Петербурга и Москвы: Таблицы [2-е изд., исправ.]. — СПб., 1904.
8. Chassant, L.-A. Dictionnaire des abréviations latines et françaises usitées dans les inscriptions lapidaries et métalliques les manuscrits et les chartes du moyen age [5-e éd.]. — Paris, 1884.





9. Gardthausen, V. Griechische Paläographie. Bd. 2: Die Schrift, Unterschriften und Chronologie im Altertum und im byzantinischen Mittelalter [2-er Aufl.]. — Leipzig, 1913.
10. Kenyon, F. G. The Palaeography of Greek papyri. — Oxford, 1899.
11. Montfaucon, de, B. D. Palaeographia Graeca, sive de ortu et progressu literarum Grecarum… — Parisiis, 1708 [reprint.] Meisenheim am Glan, 1970.
12. Paap, A. H. R. E. Nomina sacra in the Greek papyri of the first five centuries AD: The sources and some deductions. — Leiden, 1959. (Papyrologica Lugduno-Batava, 8).
13. Roberts, C. H. Manuscript, belief, and society. — L.; Oxford, 1979.
14. Rudberg, G. Neutestamentlicher Text und Nomina Sacra. — Uppsala, 1915.
15. Steffens, F. Paléographie latine. — Tréves; P., 1910.
16. Thompson, E. M. Handbook of Greek and Latin palaeography. — NY., 1893 (The international scientific series, 70).
17. Thompson, E. M. An introduction in Greek and Latin paleaography. — Oxford, 1912.
18. Traube, L. Nomina sacra: Versuch einer Geschichte der Christlicher Kürzung. — München, 1907 (Quellen und Untersuchungen zur lateinische Philologie des Mittelalters, 2) [repr. Nachdruck]. — Darmstadt, 1967.
19. Vajs, J. Rukověť hlaholské paleografie. — Praha, 1932 (Rukověti slovanského ústavu v Praze, 2).


*Артыкул паступіў у рэдакцыю 17.05.2011*

# ПУБЛІКАЦЫІ ДАКУМЕНТАЎ

***І. А. Сынкова,***
*дацэнт кафедры гуманітарных дысцыплін*
*Мінскага інстытута кіравання, кандыдат філасофскіх навук;*
e-mail: isynkova@yahoo.com

## АПОВЕД ПРА САРМАТЫЮ 1493 г.

У 1493 г. упершыню была надрукавана «Кніга хронік» («Liber cronicarum») нюрнбергскага ўрача і вучонага-гуманіста Гартмана Шэдэля, якая разышлася па ўсёй Еўропе і стала добра вядомай сярод шырокага кола адукаваных людзей тагачаснай Еўропы. Яе выдавец Антон Кобергер своечасова ацаніў попыт на такі твор, і пасля першага тыражу выданне ўзнаўлялася яшчэ некалькі разоў. Хроніка Шэдэля адразу была перакладзена на нямецкую мову Сымонам Альтам пад назіраннем самога Шэдэля і выдадзена ў тым жа годзе і ў тым самым мастацкім афармленні, што і лацінскамоўны варыянт. Немалая заслуга ў шырокай папулярнасці кнігі належыць яе мастацкаму афармленню, зробленым Міхаэлем Вальгемутам і Вільгельмам Плейдэнвурфам*. Яны праілюстравалі аб'ёмісты фаліянт каласальнай колькасцю ксілаграфій**, зрабіўшы тым самым гэтае выданне самай багата ілюстраванай кнігай XV ст.

Па сваім змесце хроніка Шэдэля нагадвае творы іншых гісторыкаў той эпохі, дзе вычварна змешваліся сярэднявечныя і рэнесансныя рысы. У цэлым яна ўзнаўляе традыцыйную для Сярэднявечча схему «шасці ўзростаў»***. Гэта, а таксама некрытычнае стаўленне да крыніц давала падставу некаторым даследчыкам адносіць хроніку Шэдэля хутчэй да сярэднявечнай, чым да гуманістычнай гістарыяграфіі. У навуцы XIX—XX стст. яе звычайна крытыкавалі за кампіляцыйны характар і адсутнасць арыгінальнага погляду на гісторыю чалавецтва. Пры пераказванні гісторыі чалавецтва «ад стварэння» да сярэдзіны XV ст. Шэдэль старанна прытрымліваецца вядомых крыніц, і нешта сваё, арыгінальнае з'яўляецца толькі пры апісанні сучасных аўтару падзей. Ф. К. Вегеле лічыць, што дзейнасць Шэдэля мела значэнне хутчэй для гісторыі гуманізму, чым для гісторыі гістарыяграфіі [1]. О. Л. Вайнштэйн ставіўся вельмі скептычна да творчасці Шэдэля разам з іншымі раннімі гуманістамі (такімі, як Трытэмій, І. Наўклер), ён называў творы гэтых гісторыкаў «гуманістычнымі толькі паводле формы» [2]. «У хроніцы Шэдэля, — як адзначаў Вайнштэйн, — аднолены ўсе сярэднявечныя легенды, басні, усе забабоны і прымхі, адхіленыя і зганеныя сучаснымі яму італьянскімі гуманістамі» [3].

* Да працы над ілюстрацыямі мог таксама далучыцца вучань М. Вальгемута малады А. Дзюрэр.

** Усяго даследчыкі налічваюць у кнізе больш за 1800 гравюр. Але ў рэчаіснасці шмат якія выявы паўтараюцца і нават неаднойчы, і таму рэальная колькасць дошак, з якіх рабіліся гравюры, менш гэтай лічбы амаль у тры разы.

*** Уся гісторыя чалавецтва падаецца ў лінейным руху ад першапачатковага акта Божага стварэння свету да сучаснай аўтару эпохі (г. зн. да канца XV ст.) з адзначаным у цьмянай перспектыве будучыні «канцом свету». Пры гэтым «шосты ўзрост», які пачаўся з прыходам Хрыста і павінен скончыцца з яго другім прышэсцем, займае ў кнізе больш месца, чым пяць папярэдніх.



Аднак такога кшталту творы, відавочна, яшчэ цалкам адпавядалі густу тагачаснага грамадства, пра што сведчыць надзвычайная папулярнасць хронікі Шэдэля. Твор нюрнбергскага гуманіста разгортваў маштабную панараму не толькі ў гістарычным, але і ў геаграфічным плане, апісанне ахоплівала шмат розных краін Старога Свету накшталт старажытных касмаграфій. І гэта, безумоўна, павінна было ўражваць простага чытача. Такім чынам, для шырокіх колаў заходнееўрапейцаў хроніка ўяўляла сабой своеасаблівы кампендыум гістарычна-геаграфічных ведаў, назапашаных да гэтага часу ў еўрапейскім грамадстве. Крыніцамі для хронікі Шэдэля з'яўляліся Біблія, творы антычных гісторыкаў, сярэднявечныя хронікі, а таксама ўласныя назіранні за сучаснымі аўтару падзеямі.

Зацікаўленасць грамадства ў разнастайных звестках пра іншыя народы і краіны можна разглядаць як сведчанне новых настрояў у грамадстве, якія яшчэ не маніфеставалі, а толькі ўскосна давалі адчуць зварот грамадскай свядомасці заходнееўрапейцаў да «адкрыцця свету» на мяжы эпох. І нягледзячы на многія сярэднявечныя рысы хронікі Шэдэля, на яе старонках усё ж такі адчуваюцца новыя веянні. Захапленне Шэдэля studia humanitatis выявілася і ў шырокім выкарыстанні ім антычных крыніц, і ў тым, што ён з вялікай павагай ставіцца да вучоных-гуманістаў. На Шэдэля значна паўплывалі гістарычныя працы італьянскага гуманіста Энея Сільвія, якія ўвогуле служылі ўзорам для нямецкай раннегуманістычнай гістарыяграфіі. Твор нюрнбергскага гуманіста належыць да раннегуманістычнай гістарыяграфіі, нягледзячы на выкарыстанне сярэднявечнай схемы «сусветнай хронікі». Сама логіка развіцця навукі падказвае, што ранні этап новага кірунку непазбежна павінны быў змяшчаць рысы папярэдняга перыяду.

Разам з хронікай Шэдэля ў якасці дадатку былі надрукаваны ўрывак з «Гісторыі Еўропы» італьянскага гуманіста Энея Сільвія (Пікаламіні) і кароткі гісторыка-геаграфічны нарыс «Пра еўрапейскі край Сарматыю»*. Аўтар нарыса ў самім выданні не пазначаны і таму ў навуковай літаратуры гэтае апісанне часта згадваецца як вытрымка з хронікі Шэдэля. Аднак такое вызначэнне не карэктнае, таму што спараджае блытаніну: можна палічыць апавяданне пра Сарматыю часткай твора самога Г. Шэдэля, а гэта не так. Застаецца таксама невядомым і тое, па чыёй ініцыятыве быў зроблены такі дадатак да хронікі — аўтара ці выдаўца. Вядома, что Гартман Шэдэль добра ведаў творы па еўрапейскай гісторыі Энея Сільвія, матэрыялы з якіх уключыў у сваю хроніку, а таксама запазычыў метад выкладання з «Апісання Германіі» італьянска-

* У нюрнбергскім выданні 1493 г. яны размешчаны на ненумараваных аркушах, пасля ўласна «Liber chronicarum» Шэдэля. Гэты дадатак захаваўся і ў наступных перавыданнях кнігі.

га гуманіста [4]. Такім чынам, уключэнне ў дадатак яго твора магло быць зроблена, здаецца, самім Шэдэлем. Тады было б лагічна дапусціць, што і другі дадатак — пра Сарматыю — быў унесены таксама па яго прапанове. Магчыма, Шэдэль свядома скарыстаў самастойныя творы іншых аўтараў як дадатак да сваёй кнігі, каб кампенсаваць адсутнасць або скупасць звестак пра некаторыя краіны Усходняй Еўропы, з гісторыяй і жыццём якіх сам ён быў не вельмі добра знаёмы. Сапраўднага аўтара (ці аўтараў) нарыса, відавочна, трэба шукаць у коле знаёмых нюрнбергскага гуманіста.

Звестак пра сям'ю Шэдэля і ранні перыяд яго жыцця няшмат*. Нарадзіўся ён 13 лютага 1440 г. у Нюрнбергу, а ў 1456 г. паступіў у Лейпцыгскі ўніверсітэт [7]. Прайшоўшы традыцыйны курс схаластычных дысцыплін, Гартман атрымаў ступень бакалаўра, а праз два гады — магістра [8]. З 1460 г. Шэдэль пачынае вывучэнне юрыспрудэнцыі і адначасова знаёміцца з новым навуковым рухам — гуманізмам. У снежні 1463 г. ён накіраваўся ў Італію, дзе вывучаў медыцыну і займаўся гуманістычнымі даследаваннямі [9; 10].

Пасля вяртання ў 1466 г. на радзіму Шэдэль праз некаторы час здзейсніў падарожжа па розных нямецкіх гарадах. Атрыманыя ўражанні потым адлюстраваліся пры апісанні ў хроніцы гарадоў Германіі. Шмат гадоў Гартман Шэдэль займаўся медычнай дзейнасцю ў розных гарадах, а ў 1484 г. ён замяніў свайго дзядзьку Германа Шэдэля на пасадзе гарадскога ўрача («фюзікуса») у Нюрнбергу [11].

Тут ён увайшоў у кола выдатных вучоных і мастакоў, адзін з найвядомейшых гуманістычных гурткоў тагачаснай Германіі. За дзесяць першых гадоў знаходжання ў Нюрнбергу Шэдэлем быў напісаны на лацінскай мове яго галоўны гістарычны твор — «Кніга хронік», які ў навуковай літаратуры атрымаў розныя назвы: Сусветная хроніка, Нюрнбергская хроніка і г. д.** Пасля гэтай працы з-пад пяра нюрнбергскага гуманіста выйшаў яшчэ шэраг невялікіх твораў па гісторыі Германіі: хроніка горада Бамберга, хроніка кляштара св. Эгідыя ў Нюрнбергу і інш. Памёр Гартман Шэдэль 28 лістапада 1514 г., пакінуўшы нашчадкам свае творы і цудоўныя калекцыі. Але для многіх пакаленняў адукаваных чытачоў ён застаўся ў першую чаргу аўтарам знакамітай Сусветнай хронікі.

Зыходзячы з вядомых абставін жыцця Шэдэля, яго наўрад ці можна лічыць аўтарам разглядджанага нарыса пра Сарматыю. Таму што ён, відавочна, у гэтых краях не бываў, а вось невядомы аўтар асобнымі дэталямі свайго апавядання выказвае веданне гэтых мясцін, дзе ён, магчыма, падарожнічаў. Дакладна вядома, што з кола нюрнбергскіх знаёмых Шэдэля тут пабываў выдатны нямецкі паэт-гуманіст Конрад Цэльтэс, якога можна разглядаць як вера-

* Больш падрабязна біяграфічныя звесткі гл. [5; 6].

** У Нюрнбергскім выданні 1493 г. яе назва пазначаецца на пачатку кнігі перад зместам такім чынам: «Registrum huius operas libri cronicarum cum figures et ÿmaginibus ab initio mundi» («Змест гэтага твора Кнігі хронік ад пачатку свету з фігурамі і выявамі»).



годнага аўтара нарыса. Яшчэ больш у гэтай здагадцы ўмацоўвае вершаванае заканчэнне гэтага раздзела*. Аднак тады не зусім зразумела, чаму не было пазначана імя паэта. Нельга выключаць таксама, што інфармантамі маглі выступіць і некалькі чалавек. Іх успаміны або нататкі падарожжа былі аб'яднаныя ў рамках адзінага нарыса.

У нарыс «Пра Сарматыю» ўваходзяць падраздзелы: «Пра кіруючы дом Польшчы і яго пачатак», у якім згадваецца таксама Літва і Русь, «Пра святога Станіслава, біскупа кракаўскага, патрона Сарматыі» і тры апавяданні пра гарады — Кракаў («сталіцу Сарматыі»), Любэк і Нісу Сілезскую. Аўтар атаясамлівае Сарматыю ў значнай ступені з Польшчай. Пры гэтым ён вызначае межы гэтага еўрапейскага рэгіёна паводле антычных географаў такім чынам, што сюды павінны былі ўваходзіць і Вялікае княства Літоўскае, і Маскоўская дзяржава. Бачна, што аўтар не зусім дакладна ўяўляў суадносіны паміж каралеўствам Польскім і ВКЛ. Відавочна, такія памылкі і недакладнасці пры апісанні аддаленых зямель паходзілі ад імкнення аўтара аб'яднаць інфармацыю старажытных і сучасных крыніц.

Кідаецца ў вочы, што гэты гісторык больш клапоціцца аб займальнасці апавядання, чым аб правільнасці фактаў. Такая пазіцыя не супярэчыла меркаванню большасці гуманістаў, што гістарычныя сачыненні дачыняюцца да мастацкай літаратуры і падлягаюць яе прынцыпам. У некаторых выпадках апавяданне не пазбаўлена пэўнай тэндэнцыйнасці. Так, паводле версіі нямецкага пісьменніка, імператар Свяшчэнай Рымскай імперыі Атон выступае ў якасці патрона польскага караля.

Значная частка першага падраздзела прысвечана апісанню прыроды, пры гэтым узнікае ўражанне, што яно мае мэтай не толькі даць уяўленне пра асаблівасці далёкай зямлі, але і папярэдзіць магчымых падарожнікаў пра цяжкасці, з якімі яны могуць тут сустрэцца.

Апошняя частка падраздзела «Пра кіруючы дом Польшчы і яго пачатак» прысвечана праслаўленню літоўскай княжацкай дынастыі, прадстаўнікі якой выбіраліся на каралеўскі трон Польшчы, пачынаючы з Уладыслава-Ягайлы. Называючы імёны тых, што кіравалі каралеўствам раней, аўтар згадвае таксама і іншых братоў польскага караля, якія сталі каралямі ўжо ў XVI ст. (Аляксандр і Жыгімонт I). Такім чынам, ён, па сутнасці, вызначыў амаль усю дынастыю, за выключэннем апошняга Жыгімонта II Аўгуста, які нарадзіўся толькі ў 1520 г.

Так атрымалася, што будучы цесна звязаным з хронікай Шэдэля, нарыс «Пра еўрапейскі край Сарматыю» таксама атрымаў шырокую вядомасць у Еўропе і праз гэта павінны быў паўплываць на ўяўленні еўрапейцаў пра

* Да такіх высноў прыйшлі і нямецкія даследчыкі. Ф. К. Вегеле ў сваёй фундаментальнай гісторыі нямецкай гістарыяграфіі (1885) яшчэ не ўказваў ніякага аўтара нарыса пра Сарматыю, але ў XX ст. думка наконт аўтарства Конрада Цельтэса, відавочна, становіцца агульнапрынятай. Гл., напр. [12].

ўсходнія землі. Дакладныя звесткі і памылкі сашчапляліся ў адзіны вобраз аддаленай краіны, які мог надаўга захоўвацца і трансляваецца ў культурнай памяці народаў.

## DE SARMACIA REGIONE EUROPE[*]

### De regno Polonie et eius initio

Quoniam de Boleslao (qui tercius Sarmacie rex existit) paulo post mentio fiet, quare et de terra Sarmacie, et quo pacto illa regium sceptrum meruerit breviter absolvere proposui. Est igitur Sarmatia nimis ampla et vasta regio que inculta et in solitudine posita, et sub rigidissimo ethere iacet. Hec ex ortu mosthos et Thanaim fluvium habet. A meridie dacos et pannonas. Ab occidente bohemos, moravos, schlesitas et theutones. A septentrione mare Germanicum et finum Codanum. Ad vero quod regni nomen tantum partitur Poloniam vocant. Hec duo nomina sortitur. Nam ea pars terre ubi Cracovia situata est minorem Poloniam vocant. At ubi Posnania et Gnesna surgit maiorem nuncupant. A Craco autem primo duce usque ad etatem primi Boleslai non nisi duces illic imperitabant. Temporibus autem primi Ottonis cesaris Boleslaus clarissimus dux fuerat. Non is de quo in vita divi Stanislai dicemus, nam ille nepos eius fuit, qui ex monacho huius Boleslai filio natus fuerat. Iste igitur Boleslaus regem Francie et germanas gentes victrici manu infestabat. Tandem ob Ottonis cesaris praeces tali bello finem dedit ac fedus cum germanis et gallis contraxit. Otto autem Cesar videns tanti principis animi magnitudinem, quam toti Germanie et Sarmacie notam fecerat se cum Boleslao duce in Sarmacias contulit ut et imperium et potestatem eius planius perspiceret. Quem illustris dux summis honoribus in Posnam suscepit. Nam tribus ante urbem milibus passuum aut longius sericas lanas muriceasque vestes auro argentoque decoratas per viam qua cesar iturus fuerat prosterni iussit. Et post ingressionem cesaris in urbem Posnam cuicumque licitum fuerat illa deferre et deportare. Illic magnificis splendidissimisque convivijs ac theatris ceterisque cerimonijs cesarem venerabatur ut nulla quam aurea illic forent suppellectilia. que post quoslibet cibos in puteos quorum fundi nemo certus fuerat deici ac deperdi jubebat.

Multas alias pompas ac munificencias cesari Ottoni instaurabat, que satis ample vetusta Sarmatica historia enarrat. Jamque videns cesar tanti principis liberalitates et mentis sublimitatem, diviciarumque abundantiam non abre animo duxit tantum clarissimum ducem corona regia dignus fore. eum itaque regali sceptro ac dyademate exornavit. ac ceteris dignitatibus sedem regiam requirentibus celebravit. Ne autem Boleslaus iam illustris rex tanti erga cesarem beneficij ingratus videretur brachium divi Adalberti antistitis. quem pruteni nefanda morte trucidarunt pro munere cesari

[*] Тэкст прыведзены паводле выдання: Schedel, H. Liber chronicarum. Nürnberg, 1493. Асаблівасці арфаграфіі і пунктуацыі арыгінала пераважна захоўваюцца. Унесеныя змены датычацца толькіідавочных памылак друку, перадачы імёнаў уласных з пачатковай вялікай літары, поўнага напісання скарочаных форм і напісання літар «u» і «v» у адпаведнасці з класічнай традыцыяй (у сярэднявечнай латыні яны замянялі адна адну).



obtulit. Jamque aucto regni imperio usque ad annos salutis nostre 1400 aut paulo antea rex Polonie dum absque prole discessisset. Tandem dux qui Lituanis ac Russie presidebat in regem electus fuit. qiu ydola antea coluit. Sed eo tempore quo illi regium sceptrum deferebatur et christianam religionem cum omni terra cui preerat suscepit. Itaque lituanos ac russitas ad regnum Sarmacie sic adiunxit. ut non nisi absque certa conditione dissolui possint. Is ergo illustrissimus princeps prutenos maritimas Germanie gentes sevissimo bello subiugum duxit ac imperium amplius extendit. Ubi insignes urbes extant Dantiscum et Thuronia. Est et clarissima arx Marieburgum. cui similis nemo mortalium vidisse fertur. multis varijs structuris. menibus. turribus ac fossis munita ut nulli inimicorum tutus sit ad arcem accessus. Amplius imperium ante aliquot annos fuerat. infestante tamen tartarorum et turchorum perfidissima gente magnum toti Sarmacie damnum illatum est. Nam terra que post Russiam vadit quam gens Podoliam vocat tota exusta et in solitudine posita est. ut et necessitatem peregrinantibus ferre non possit quaeuis fertilissima sit ita ut gramina in altitudine unius celsi viri excrescant. et apibus et melle tota redolens ut non satis illis locus sit ubi mella deferant. sub arboribus nanque aut virgultis et silvis favos sic educunt. Hercinium autem celebratissimum nemus quo in tota Europa nihil prestantius Sarmaciam totam percurrit et circa Cracoviam saltus suos extendit. per quos iturus potest unusquisque usque in Lituaniam et Scithiam. tantis brachijs regionem illam totam divagatur ferarum maximas educens greges. In ea vero silve parte qua septentrionalior est bissontes fert que ferox ac immanis bellua est humanum genus maxime odiens. ad vescendum quidem maxime conveniens. Formam autem gerit citrini coloris. Frontem latam et cornua fert. ut nec venationi satis aptum sit nisi maximis varijsque laboribus. Metallum vero nullum quam plumbum Sarmacia fert non alia quam Saturni causa. qui terram rigido infestat frigore. Salis autem maxima copia est qua cetere longinque gentes utuntur. quod maximum prostat toti regioni emolimentum. qua nulla regi ipsi maior in toto regno gaza extat. Nam sub terra exciduntur ingentia salis saxa. Extra terram autem aliud sal ex aqua decoquitur. Est et Sarmacia ferax et uberrima tellus omnius genere fructuum et quicquid ad pascendum humanum corpus expetit. Nunc addendum est clarissimam prolem illustrissimi principis Vladislai. de quo antea diximus. Is tres (ut quidam ferunt) uxores habuit. ex quibus duos susceperat filios. quorum unus natu maior Vladislaus vocabatur. alter Casimirus. Vladislaus autem post mortem patris regio insignitus fuerat imperio. itaque Hungarie et Bohemie et Polonie regnis presidebat, ubi clarissima gesta militari manu faciebat. ac imperium et christianas religionem ampliabat. Nam regi turchorum tantum terrarum depopulatus fuerat ut et ante Constantinopolim castram etaretur ubi dum seuissima bella erga turchos gereret ac utraque pars crudelissimo conflictu decertaret Pannones versis tergis fugam dabant ac regem cum paucis Sarmacie copijs in tanta hostium multitudine reliquerunt.

Cassimirus vero dux Lituanis et Russie preerat. Inde dum casus regius genti notus fuerat Cassimirus per Sarmatas in regem declaratur qui filiam ducis Austrie sororem Ladislai qui regno Bohemie et Hungarie praesidebat in uxorem duxit. Ex ea

sex suscepit filios et quinque filias. Primogenitus vero Vladislaus vocatur. Hic adhuc iuvenis existens in imperium regni Bohemie electus fuit mira quadam animi magnitudine ac optimis consilijs pollens. Ob quod dus Mathias rex Hungarie discessisset et regnum Pannonie adeptus est. Huic erat proximus frater. cui Cassimirus nomen paternum datum fuerat. qui summo ingenio ac prudentia claruit. tandem morbo inualescente perijt. At huic successit illustrissimus princeps Johannes-Albertus iam futurum toti orbi spectaculum. Is plurima illustria gesta militari bello aput Tartaros ac ceteras gentes edidit. Post patris autem obitum regno successit. ubi favente illi prospera fortuna regnum virtute sua et optimorum doctissimorumque virorum consilijs gubernat. Inclitus vero dux Alexander quartus natus regius est. cui fortitudine et mentis sublimitate parem tota Sarmacia vix tulit. Hunc ob eius constanciam Lituam post mortem patris in ducem susceperunt. qui et maximum toti Sarmacie decus esse existimatur. Post hunc sequitur Sigismundus celebris princeps. qui paterna sequitur vestigia. Is multis egregijs gestis clareret si illi aliquid felix fatum aspiraret. Celeberrimus autem Fridericus princeps ultimum natorum locum obtinuit. qui innata animi ingenua virtute relinquens vanos principum tumultus et inquietam vitam ad sedem tranquilliorem sese contulit. unde episcopus Cracoviensis electus ad arcpiepiscopatus Gnetsnensem postea devenit. Hij omnes quinque clarissimi principes hanc usque in etatem magnifice ac celeberrime vitam ducunt. Inter filias vero quinque. prima nupsit Georgio duci Bavarie. Secunda Friderico marchioni Brandeburgensi. Tercia duci Pomeranie. At due relique innupte apud matrem vitam ducunt.

## ПРА ЕЎРАПЕЙСКІ КРАЙ САРМАТЫЮ

### Пра кіруючы дом Польшчы і яго пачатак

Паколькі пра Баляслава (які стаў трэцім каралём Сарматыі) размова пойдзе крыху пазней, таму я вырашыў спачатку каротка распавесці і пра зямлю Сарматыі, і якім шляхам яна набыла каралеўскую годнасць.

Сарматыя ёсць надзвычай вялізны і непамерны край, а таксама неапрацаваны і пустынны, у якім пануюць вельмі суровыя норавы. З усходу яна дасягае москаў і ракі Танаіс[*], з паўднёвага боку — дакаў і панонцаў, з захаду — багемцаў, мараваў, сілезцаў і немцаў, з паўночнага боку — Германскае мора і Каданскі заліў. Каралеўства, што называюць Польшчай, мае дзве назвы. Бо тая частка краіны, дзе знаходзіцца Кракаў, называюць Малой Польшчай, а тая, дзе ўздымаюцца Познань і Гнезна, клічуць Вялікай.

Ад першага князя Крака да часоў Баляслава I там кіравалі толькі князі. Баляслаў жа быў яснавяльможным князем у часы імператара Атона I[**]. Гэта не той, пра якога мы кажам у жыцці святога Станіслава[***] і які быў пляменні-

[*] Дон.
[**] У рэчаіснасці Атона III.
[***] У падраздзеле, які тут не прыводзіцца, з назвай «Пра святога Станіслава, біскупа кракаўскага, патрона Сарматыі».



кам таго, хто быў народжаны ад манаха — сына гэтага Баляслава[*]. Гэты ж Баляслаў[**] пагражаў пераможнай рукой каралю Францыі і германскім народам. Нарэшце, ён звярнуўся да імператара Атона з прапановай пакласці канец такой вайне і заключыў саюз з германцамі і галамі. Імператар жа Атон, бачыўшы веліч душы такога выдатнага князя, сустрэўся з князем Баляславам у Сарматыі, каб пільней разгледзець і яго ўладу, і магутнасць дзяржавы. Слаўны князь прыняў яго ў Познані з найвышэйшымі ўшанаваннямі. Бо ён даў загад услаць шаўковымі, шарсцянымі і пурпурнымі дыванамі з залатым і сярэбраным шыццём шлях, па якім павінны быў праехаць імператар, на працягу больш за тры мілі да горада. А пасля ўступлення імператара ў горад Познань кожнаму было дазволена іх здымаць і забіраць. У дадатак ён ўшанаваў імператара цудоўнымі і пышнымі бяседамі, тэатральнымі дзействамі і іншымі ўрачыстасцямі, пры гэтым посуд пасля розных страў загадаў скінуць у калодзежы, дна якіх ніхто не ведае.

Шмат іншых урачыстасцей і шчадрот ён учыніў у гонар імператара Атона, якія досыць пышна апісвае старадаўняя гісторыя Сарматыі. І тады імператар, убачыўшы такую гасціннасць, ўзвышаны розум князя і празмерную раскошу, вырашыў, што такі знатны князь заслугоўвае каралеўскай годнасці, і таму надзяліў яго каралеўскім скіпетрам і каронай, а таксама ўзвысіў каралеўскі трон іншымі належнымі ўшанаваннямі. І Баляслаў ад гэтага часу ўжо найсвятлейшы кароль, удзячны імператару за такую вялікую ласку, выступіў паслядоўнікам святога біскупа Адальберта, якога прусы ўмярцвілі жудаснай смерцю.

Ад гэтага часу дзяржава была ўзмоцнена каралеўскай уладай аж да 1400 г. нашага выратавання або крыху раней, калі кароль Польшчы памёр, не пакінуўшы нашчадка. Урэшце, каралём быў абраны князь, які кіраваў Літвой і Руссю і раней пакланяўся ідалам. Але ў той час ён прыняў хрысціянскую веру [разам] з усімі землямі, якімі ён кіраваў, каб атрымаць каралеўскі скіпетр. Такім чынам ён прыцягнуў пад каралеўскую ўладу літоўцаў і русінаў так, што яны маглі б скасаваць без дакладнай дамовы. Гэты яснавяльможны князь бязлітаснай вайной пакарыў прусаў — прыморскія германскія плямёны — і яшчэ больш пашырыў дзяржаву. Там існуюць значныя гарады — Данцыг і Торунь. Ёсць таксама знакамітая крэпасць Мар'енбург, умацаваная многімі разнастайнымі збудаваннямі, сценамі, вежамі і равамі, каб не баяцца ніякага ворага, які падступіць да горада. Падобнай да яе, кажуць, не бачыў ніхто са смертных.

[*] Тут аўтар памылкова аб'ядноўвае Баляслава II Смелага (1042—1081), праўнука Баляслава I (967—1025), які сапраўды жыў у часы святога Станіслава, з яго дзядзькам — Баляславам, сынам Мешка II. Згаданы манах, відавочна, Безпрым (987—1032), сын Баляслава I.
[**] Г. зн. Баляслаў I.

Некалькі гадоў таму дзяржава была большай, аднак ёй пагражаюць вельмі вераломныя народы татараў і туркаў, якімі была нанесена значная для ўсёй Сарматыі страта. Бо зямля, якая ідзе за Руссю і якую называюць Падоліяй, уся спалена і спустошана нагэтулькі, што не ў стане прапанаваць падарожнікам нават самае неабходнае, хоць з'яўляецца ўрадлівай настолькі, што травы вырастаюць у рост высокага чалавека. Уся пахне пчоламі і мёдам, і не дастаткова ім месца, куды складваць мёд, таму зносяць пчаліныя соты пад дрэвы альбо пад кусты і ў лясныя гушчары.

Знакаміты Герцынскі лес, большага за які няма ва ўсёй Еўропе, ахоплівае ўсю Сарматыю і распасцірае свае лясы вакол Кракава, і кожны, ідучы праз іх, зможа [дасягнуць] Літвы і Скіфіі, і праз вялікія адгалінаванні вандраваць па ўсім краю, палюючы на велічэзныя статкі дзікіх жывёлаў. У той частцы лесу, што далей на поўнач, сустракаецца бізон, які з'яўляецца неўтаймаваным і велізарным зверам і зусім не пераносіць людзей. Мае скуру жоўтага колеру, шырокі лоб і рогі, што досыць прыдатныя не для палявання, а для многіх разнастайных заняткаў.

Ніякіх металаў, за выключэннем волава, ні іншых выкапняў Сарматыя не мае, волею Сатурна, які мучыць зямлю суровай сцюжай. Затое існуе вялікае мноства солі, якой карыстаюцца іншыя народы за мяжой. І не існуе для самога караля ніякага больш каштоўнага ва ўсім каралеўстве багацця, бо выступае найвялікшым прыбыткам для ўсяго краю. Пад зямлёю вырубаюцца вялізныя камлыгі солі. А на паверхоўнасці зямлі соль яшчэ выпарваюць з вады. Урадлівая і багатая глеба ў Сарматыі дае плады ўсіх гатункаў, што б чалавек не пажадаў для харчавання.

Зараз трэба дадаць пра выдатных нашчадкаў яснавяльможнага князя Уладыслава, пра якога мы казалі раней. Ён меў, як некаторыя паведамляюць, трох жонак, ад якіх меў двух сыноў, старэйшага з якіх назвалі Уладыслаў, другога — Казімір. Уладыслаў жа пасля смерці бацькі быў надзелены каралеўскай уладай, і ў выніку ўзначальваў Венгерскае, Чэшскае і Польскае каралеўствы. Там ён доблеснай рукой здзейсніў выдатныя справы і ўзмацніў дзяржаву, а таксама хрысціянскую веру. Ён спустошыў вялікую колькасць зямель падуладных турэцкаму каралю, што і перад канстанцінопальскай крэпасцю, дзе вёў жорсткія войны супраць туркаў, і абодва бакі змагаліся ў бязлітаснай барацьбе да таго моманту, пакуль панонцы не ўцяклі і не пакінулі караля з невялікім войскам Сарматыі сярод вялікага мноства ворагаў.

Князь Казімір у той час кіраваў Літвой і Руссю. Калі здалёку прыйшла вестка пра гібель караля, сарматы абвясцілі каралём Казіміра, які ўзяў у жонкі дачку* аўстрыйскага герцага**, сястру Ладыслава, правіцеля Чэхіі і Венгрыі***. Ад яе нарадзілася шэсць сыноў і пяць дачок. Першароднага назвалі Уладыславам. Ён, яшчэ маладым абраны на пасад караля Чэхіі, вылучаўся незвычайнай веліччу душы і цудоўнымі разумовымі здольнасцямі. А калі кароль Венгрыі Матыяш* пакінуў трон, ён атрымаў і Панонскае каралеўства**.

* Елізавета Габсбург (1436—1505).
** Альберт II Габсбург (1397—1439).
*** Уладыслаў V Постум (1440—1457).



Наступны за ім брат, якому было дадзена бацькоўскае імя Казімір і які быў знакаміты глыбокім розумам і ведамі, памёр ад моцнай хваробы.

За ім ішоў яснавяльможны князь Іаан-Альберт, які цяпер з'яўляецца надзеяй усяго свету. Ён здзейсніў шмат слаўных подзвігаў пад час вайны з татарамі і іншымі народамі. А пасля скanання бацькі атрымаў у спадчыну каралеўства, дзе пад апекай шчаслівай фартуны кіруе каралеўствам [з дапамогай] сваёй дабрачыннасці і парадаў найлепшых і адукаваных людзей.

Яснавяльможны князь Аляксандр з'яўляецца чацвёртым каралеўскім сынам. Роўнага яму адвагай і ўзвышанасцю розуму яшчэ не нараджала Сарматыя. За яго непахіснасць ён быў абраны князем пасля смерці бацькі і лічыцца найвялікшай славай усёй Сарматыі.

Пасля яго ідзе яснавяльможны князь Жыгімонт, які крочыць па слядах бацькі. Ён знакаміты шматлікімі выдатнымі справамі, у чым яму спрыяў шчаслівы лёс. Найслаўнейшы князь Фрыдэрык — апошні сын, які вызначаецца высакароднай дабрадзейнасцю душы, пакінуўшы пустыя хваляванні і турботнае жыццё, звярнуўся да месца спакою. Ён быў абраны спачатку біскупам кракаўскім, а потым гнезненскім арцыбіскупам. Усе гэтыя пяць яснавяльможныя князі заўсёды вядуць жыццё з веліччу і годнасцю.

З пяцярых жа дачок першая замужам за герцагам Баварыі Георгам, другая — за маркграфам брандэнбургскім Фрыдэрыкам, трэцяя — за герцагам Памераніі, а дзве астатнія незамужнія і жывуць пры маці.

Літаратура

1. Wegele, F. X. Die Geschichte der deutschen Historiographie seit dem Auftreten des Humanismus. — München; Leipzig, 1885.
2. Вайнштейн, О. Л. Западноевропейская средневековая историография. — М.; Л., 1964. — С. 321.
3. Там жа. — С. 224.
4. Немилов, А. Н. Немецкие гуманисты XV в. — Л.: Изд-во ЛГУ, 1979. — С. 90.
5. Allgemeine deutsche Biographie. — Bd. 30. — Leipzig, 1885.
6. Сынкова, І. А. Апавяданне пра Сарматыю ў Сусветнай хроніцы Г. Шэдэля // Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць. Матэрыялы міжнар. навук. канф. Мінск, 26 красавіка 2007 г. — Вып. 6. — Мінск, 2007. — С. 279—284.
7. Allgemeine deutsche Biographie. — Bd. 30. — Leipzig, 1885. — S. 661.
8. Wegele, F. X. Die Geschichte der deutschen Historiographie seit dem Auftreten des Humanismus. S. 52.
9. Немилов, А. Н. Немецкие гуманисты XV в. — Л.: Изд-во ЛГУ, 1979. — С. 102.
10. Wegele, F. X. Die Geschichte der deutschen Historiographie seit dem Auftreten des Humanismus. — S. 52.

* Матыяш Корвін (1443—1490).
** Г. зн. Венгрыю.

11. Ibidem. — S. 53.
12. Bömelburg, H.-J. Frühneuzeitliche Nationen im östlichen Europa. — Wiesbaden, 2006.

*Артыкул паступіў у рэдакцыю 11.05.2011*



***О. Б. Келлер,***
*доцент кафедры истории Средних веков*
*Тюбингенского университета (Германия),*
*кандидат исторических наук*

## ИНТЕРЕСНЫЕ СВЕДЕНИЯ ПО ИСТОРИИ БЕЛАРУСИ, ЗАФИКСИРОВАННЫЕ В СТАРОПЕЧАТНЫХ НЕМЕЦКОЯЗЫЧНЫХ «ЛЕТУЧИХ ЛИСТКАХ» XVI в.

Разыскивая немецкоязычные источники, описывающие события на белорусских землях или содержащие любую, даже незначительную информацию о таковых, мы неизменно сталкиваемся с проблемой их малочисленности. Не во всех немецких библиотеках хранятся столь ценные издания. Но несмотря на их небольшое количество и разбросанность по самым разным федеральным землям Германии, они существуют, и оставлять их без внимания никак нельзя. В данной публикации речь пойдет о двух источниках XVI в., хранящихся в Центральной библиотеке земли Саксен-Ангальт[*].

Первый немецкоязычный источник, имеющий, на мой взгляд, весьма прямое отношение к истории Беларуси, датирован 1563 г. и называется: «Краткая копия и указатель огромного и насильственного военного похода, который привел московитов к Полоцку в Литве 31 января 1563 года: с достоверным описанием того, как большой торговый город Полоцк, расположенный в Литве, был захвачен 15 февраля этого же года московитами»[**]. Объем текста составляет 4 листа. Шифр — Pon IIn 6291, QK. К сожалению, мне не удалось сделать ксерокопию этого интересного и важного для белорусских историков и исследователей источника. Поэтому можно только упомянуть, что документ содержит информацию о том, как в 1563 г. русские войска в ходе Ливонской войны[***] овладели белорусским городом Полоцком[****], в то

[*] Она же является одновременно и университетской библиотекой г. Галле в Восточной Германии.

[**] Kurtze Abschrifft vnd Vezeychniss des grossen vnd gewaltigen Feldzugs, so der Moskowiter für Polotzko in Littawen den XXXj. tag Januarij dieses M. D. LXIII. Jars gebracht hat: mit warhafftiger Beschreibung, wie die grosse Kauffstatt Plotzko, So in Littawen gelegen, von dem Moscowiter den XV. Februarij, dieses LXiij. Jars erobert und eingenommen ist worden…, M. D. LXIII. Insgesamt 4 Bl.

[***] Ливонская война (1558—1583) — война Московского государства с Ливонским орденом, Великим Княжеством Литовским ( затем Речью Посполитой ) и Швецией за выход к Балтийскому морю. Причиной войны стало стремление Московского государства завладеть удобными гаванями на Балтийском море и установить прямые торговые связи с Западной Европой.

[****] Полоцк (бел. *По́лацк*, старонем. *Pletzkaw*) — город в Витебской области, административный центр Полоцкого района, древнейший город Беларуси и один из древнейших городов Киевской Руси. Находится в устье реки Полоты, впадающей в Западную Двину.

Сярод архіўных папер маецца ліст дырэктара літоўскай пошты І. Фрызеля за 22 верасня 1797 г., які паведамляе, што «сын Юдыцкага» піша з Неапаля пра ўласную здольнасць вызваліць «общество от ига, под коим ныне стонет» і што ў Гродна быў затрыманы Цяцерскі, у каўняры якога знайшлі «Акт паўстання» [7, арк. 73]. Рапнін, які ахарактарызаваў Фрызеля чалавекам, якому «кочки горами кажутся», 7 кастрычніка паведаміў пра завяршэнне ўласнага следства «глупого в Литве заговора», у якім не выявілася ўдзелу знатных асоб, а таму тут «все тихо и опасаться нечего» [7, арк. 6, 8].

Аператыўнасць у раскрыцці гаворыць не пра малазначнасць змовы, а пра яе нерэалізаваны пачатак. Таму важна ведаць пра ідэйныя і арганізацыйныя пастулаты паўстанцкай змовы 1797 г., якой улады перашкодзілі распаўсюдзіцца на прасторы былога ВКЛ.

Архіўныя дакументы перакладзены на беларускую мову Лявонам Казыра, за што публікатар выказвае яму шчырую падзяку. Дакументы друкуюцца ў паслядоўнасці іх месцазнаходжання сярод крыніц.

### № 1. Акт паўстання ў Вільні

Хаця сілы грамадзян, закаваных у кайданы больш моцнымі грамадзянамі, якія іх акружаюць, не могуць выявіцца ва ўсім сваім аб’ёме, тым не менш кожны абавязаны рабіць усё, што ён можа. І не было такога моманту, калі, стогнучы пад іншаземным рабствам, мы не думалі б пра аднаўленне нашых законаў, прывілеяў, свабоды, дадзеных ад нараджэння кожнаму чалавеку. Уздыхаючы пасля такога моманту, мы мацнеем ад надзеі, што навязанае нам ярмо аднойчы аслабне і нашы дабрачынныя грамадзяне змогуць выкарыстаць такія сродкі, каб вярнуць назад нашы правы і нашу свабоду. Гэта тое, што мы просім у Бога. Наша надзея пры падтрымцы Бога, кіраўніцтва, зброі і ідэй святлейшай французскай рэспублікі (неразборліва — *Я. А.*), і росквіт натхняе нас на тое, што разам з паляпшэннем нашай долі, якую ў нас раней адабралі, мы зможам разлічваць на магчымасць дзейнічаць. Мы абавязкова выкарыстаем сродкі, якія на гэты час маем. Абапіраючыся на тое, што сказана вышэй, і на народнае прадстаўніцтва пры апякунстве святлейшай рэспублікі як у Парыжы, так і ў Мілане, мы падпісваем гэты акт нашага паўстання, зроблены па мадэлі таго, што адбылося ў 1794 годзе, і, даўшы клятву па прадпісанай форме, пачынаем наша пасяджэнне пад старшынствам грамадзян.

27 жніўня 1797 года.

*РДАСА. Ф. 204. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 75.*

### № 2. Артыкулы, адобраныя асацыяцыяй

1. Вядзенне пратакола пасяджэнняў давяраецца грамадзянскай асобе. 2. Кожны, хто ўступае ў асацыяцыю, ахвяруе як мінімум 3 злотыя. 3. Людзі, адказныя за касу, павінны зарэгістраваць у пратаколе грашовыя паступленні і расходы. 4. Каса, утвораная з ахвяраванняў, разлічана на падтрымку сувязі (адпраўка неабходных людзей будзе вызначацца пэўнай колькасцю); пры



гэтым не павінна быць забыта падтрымка абяздоленых і праследуемых асоб. 5. Пасяджэнні будуць адбывацца не часцей як 1 раз у 15 дзён. Пры надзвычайнай неабходнасці, пра якую можа паведаміць кожны член асацыяцыі, час правядзення пасяджэння па дамоўленасці можа быць прызначаны ў апошнюю гадзіну. 6. Кожны член павінен выкарыстоўваць у таварыстве ўмоўныя знакі, а іншыя павінны ўмець адказваць на іх. Гэтыя знакі павінны быць непрыкметнымі і пры неабходнасці яны могуць быць заменены асацыяцыяй. 7. Колькасць пярвічнай арганізацыі не павінна перавышаць 15 асоб. 8. Малаістотнае рашэнне павінна праводзіцца чатырма, а самае важнае — пяццю (асобамі — *Я. А.*). 9. Старшынства будзе змяняцца ў залежнасці ад парадку подпісаў. 10. Кожны член можа належыць максімум да трох арганізацый. Пры гэтым пытанне аб далучэнні да той ці іншай арганізацыі будзе вырашацца большасцю галасоў. 11. Да членаў, якія належаць больш чым да адной арганізацыі, будуць прымяняцца асобныя прадпісанні. 12. Уступленне ў асацыяцыю — адкрытае для асоб любога грамадскага стану, якія вылучаюцца сваёй добрапрыстойнасцю і мужнасцю. Кожны член, які далучае да ўдзелу ў асацыяцыі іншую асобу, павінен ведаць склад думак і характар гэтай асобы, перад тым як даверыцца ёй. Калі добрапрыстойнасць гэтай асобы не выклікае сумненняў і правераны яе духоўныя сілы, то неабходна сам-насам уручыць гэтай асобе акт паўстання, прыняць клятву, узяць подпіс і дзейнічаць пры гэтым з усёй асцярожнасцю. 13. Кожны член павінен паведамляць пра ўсё толькі той асобе, якая прывяла яго ў таварыства і, адпаведна, у асацыяцыю. 14. Кожны член будзе ўважліва сачыць за тым, каб нідзе не ўтвараліся фальшывыя таварыствы, якія ён пазнае па паролях і знаках, аб чым ён паведаміць у вышэйшую інстанцыю. 15. Калі дзесьці ўтворыцца суполка, якая ў чымсьці будзе адрозніваецца ад нашых арганізацый, але па духу і мэтах яна будзе блізкая нам, тады неабходна пра гэта паведаміць кіраўніцтву з тым, каб наша асацыяцыя аб’ядналася з гэтай суполкай. 16. Абавязак і справа гонару і жыцця кожнага члена — нікому, нават таму, хто прыняў яго ў асацыяцыю, не расказваць пра асобу, якая далучыла яго да арганізацыі, і не публікаваць ніякіх звестак пра асацыяцыю. 17. Кожны член павінен мець копію гэтых артыкулаў, перапісаных уласнаручна, разам з дадзенай клятвай, тэкст якой наступны: Я бяру ў сведкі Бога, чыя справядлівасць выяўляецца праз пакаранне здраднікаў, і даю гэтую клятву ясна ўсведамляючы, што ніхто не прымушае мяне да гэтага, а я сам імкнуся да такога ўчынку. Маё ўступленне ў арганізацыю не мае на мэце ніякай карыслівай зацікаўленасці і ніякай асабістай нянавісці. Я не здраджу па слабасці ні ў якім разе ні асобным сябрам, ні — тым больш — усёй арганізацыі. Я зберагу тайну да поспеху або да таго моманту, калі смерць спыніць нашу справу. У выпадку маёй здрады, акрамя пакарання Госпада, да якога я цяпер звяртаюся, няхай на мяне ляжа нянавісць і помста народа. І дапаможа мне Бог.

**Артыкулы для членаў асацыяцыі**

1. Абавязак і справа гонару і жыцця кожнага члена — нікому, нават таму, хто прыняў яго ў асацыяцыю, не расказваць пра асобу, якая далучыла яго да арганізацыі, і не публікаваць ніякіх звестак пра асацыяцыю. 2. Кожны член асацыяцыі абавязаны кантактаваць толькі з той асобай, якая прыняла яго ў асацыяцыю і, адпаведна, гэтак далей. 3. Кожны, хто ўступае ў асацыяцыю, павінен ахвяраваць як мінімум 3 злотыя. Гэтыя грошы разлічаны для адпраўкі неабходных людзей і для падтрымкі няшчасных і прыгнечаных асоб, вядомых сваёй цвёрдасцю духа. 4. Кожны член асацыяцыі можа ўвесці ў асацыяцыю не больш як тры асобы і аплаціць адпаведную суму, калі тыя не ў стане самі зрабіць гэтага. 5. У асацыяцыю можна прымаць асоб любога грамадскага стану, якія вылучаюцца сваёй добрапрыстойнасцю і мужнасцю. 6. Кожны член, прымаючы ў асацыяцыю іншую асобу, павінен ведаць склад думак і характар гэтай асобы. Калі добрапрыстойнасць асобы не выклікае сумненняў і праверана цвёрдасць яе духу, тады неабходна сам-насам уручыць ёй акт паўстання, прыняць клятву, узяць подпіс і дзейнічаць пры гэтым з усёй асцярожнасцю. 8. У сваіх зносінах з асобамі, якіх ён далучыў да арганізацыі, а таксама з тым, хто яго самога прыняў у асацыяцыю, кожны член павінен, асабліва ў грамадскіх месцах, карыстацца ўмоўнымі знакамі. 9. Кожны член будзе ўважліва сачыць, каб нідзе не ўтвараліся іншыя таварыствы, будзе вывучаць іх і паведамляць таму, хто яго прыняў у асацыяцыю. 10. Кожны член павінен мець копію гэтых артыкулаў, перапісаных уласнаручна, разам з дадзенай клятвай з тым, каб штодня іх чытаць. Тэкст клятвы той жа самы (глядзі пункт 17 — *Я. А.*): я, такі-та, уступіў у асацыяцыю і даў клятву…

12/23 лютага 1797 г.

*РДАСА. Ф. 204. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 76.*

Літаратура і крыніцы


1. Ciecierski, Ks. Pamiętnik. — Lwów, 1865.
2. Limanowski, B. Historia demokracji polskiej w epoce porozbiorowej. — Zurych, 1901.
3. Askenazy, S. Lukasinski. — Warszawa, 1929. — T. 1.
4. Kukiel, M. Proby powstancze po trzecim rozbiórze. — Kraków, 1917.
5. Miller, A. Pierwsza porozbiórowa konspiracya Litewska. — Kraków, 1936.
6. Таляронак, С. В. Тайныя таварыствы ў Літве і на Беларусі ў канцы XVIII ст. Віленская асацыяцыя 1796—1797 гг. // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. — 1992. — № 5—6.
7. РДАСА. Ф. 204. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 76адв.


*Артыкул паступіў у рэдакцыю 02.08.2010*



***И. Н. Шпилевская,***
*научный сотрудник отдела археографии*
*Белорусского научно-исследовательского института*
*документоведения и архивного дела;*
e-mail: dokumentoved@tut.by

## О ПОДГОТОВКЕ СЕЛЬСКИХ ПИСАРЕЙ ИЗ ДЕТЕЙ КАЗЕННЫХ КРЕСТЬЯН

В связи с упорядочением делопроизводства в учреждениях Российской империи (губернских, уездных и городских) после принятия законов 1832 и 1837 гг. перед государственными руководителями губернского уровня стоял вопрос о подготовке кадров для ведения делопроизводства в учреждениях разного уровня. Предлагаемый вниманию читателей документ показывает, как решился кадровый вопрос о подготовке сельских писарей для ведения делопроизводства на уровне волостного правления Витебской губернии в 1838 г. Волостные правления были введены в Российской империи, в том числе на территории Беларуси, в 1797 г. для государственных крестьян. Имеются сведения, что после реформы государственной деревни 1830-х—1850-х гг. на территории Беларуси волостные правления перестали существовать в связи с упразднением волостей [1; 2]. Предлагаемый к публикации документ свидетельствует о том, что волостные правления на территории Витебской губернии в 1838 г. продолжали функционировать, несмотря на то, что волости в 1830-х—1850-х гг. были упразднены [2]. Казенная палата признавала, что волостные избы нельзя было упразднить в казенных имениях Витебской губернии с населением не менее пятисот ревизских душ мужского пола.

Анализ текста документа позволяет утверждать, что один из вариантов подготовки крестьянских мальчиков Витебской губернии в должности писаря состоял в обучении их в волостных училищах. Волостные училища, начальные учреждения образования для подготовки писарей по одному на волость, в том числе и на территории Беларуси, основаны по указу Министерства народного образования 24.12.1830 г. [2]. Второй вариант, который казенная палата признала предпочтительным, состоял в обучении крестьянских мальчиков в приходских духовных училищах, а при их отсутствии — в приходских народных училищах.

Литература


1. Панюціч, В. П. Валасное праўленне // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск: «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», 1994. — Т. 2. — С. 205.
2. Самусік, А. Ф. Валасныя вучылішчы // Беларуская энцыклапедыя: У 18 т. — Мінск: «Беларуская энцыклапедыя», 1996. — Т. 3. — С. 473.


**№ 1**

12.09.1838. Витебск. — Представление Витебской казенной палаты (отделение хозяйственное, стол 1) витебскому военному и гражданскому губернаторам о подготовке мальчиков из казенных крестьян к должности писарей.

Господину Военному губернатору
города Витебска и Витебскому
гражданскому губернатору

Второй департамент Министерства государственных имуществ от 22-го прошедшего июля за № 785 препроводил в палату циркулярное предписание г[осподина] министра государственных имуществ от 30-го прошедшего июня за № 718-м, о доставлении заключения в отношении мер для приготовления мальчиков из казенных крестьян к должности писарей. Из предписания сего между прочим значит, что его превосходительство предлагает на разрешение следующие главные вопросы:

1) Так как в казенных имениях западных губерний не имеется волостей, то какое правило должно быть принято размером, для определения числа мальчиков, предназначенных к образованию в сельские писаря, без отягощения имений.

2) Какие предосторожности предостановить в отношении выбора мальчиков, дабы мера сия сопряжена была с наименьшим нарушением хозяйственных повинностей, инвентарем установленных.

3) Какую сумму определить на необходимое содержание мальчиков во время обучения, без отягощения крестьян.

4) Каким предметам обучать мальчиков и в какие места отправлять их для учения, преимущественно в видах укрепления их в знании российского языка и не удобнее ли помещать их на сей предмет в особые училища, содержащиеся с пособием или на счет доходов от конфискованных или других казенных имений, или не могут ли они быть отдаваемы местному приходскому духовенству, одинаково с учениками вероисповедания, обучать их российскому языку.

5) Которым из уездных чиновников, заведывающих государственными имуществами в уездах, сообразнее поручить надзор за учениками.

6) В каких местах по окончании учения занимать мальчиков практическим производством и счетоводством? Сообразив все сии вопросы и сделав по оным постановление, г[осподин] министр государственных имуществ поставляет в обязанность палаты испросить мнение Вашего Превосходительства, и затем обо всем представить на усмотрение Его высокопревосходительства.

В Казенной палате ОПРЕДЕЛЕНО.

Поелику предписанием Второго департамента Министерства государственных имуществ от 30 апреля сего года № 609 предписано казенной палате войти в рассмотрение, не признается ли возможность уничтожить волостные избы, а учредить в казенных имениях сельское управление на основании Свода законов тома 8-го статей 22, 168 и 169, для исполнения чего от асессора и чиновников особых поручений казенная палата требует к соображению своему донесений по местному усмотрению ими способов, и хотя таковых донесений еще не имеется в получении, при всем том Палата заключает, что в отмену существующего ныне порядка по волостным правлениям и в охранение благосостояния казенных поселян, как по сбору податей, повинностей и сельского магазина, так и по отправлению временным владельцам личной службы, нельзя будет уничтожить волостные избы, не зависимые от управления временных владельцев, по крайней мере в таких казенных имениях Витебской губернии, которые заключают в себе не менее пятисот ревизских душ мужска пола; а потому признает весьма возможным: из каждых пятисот душ избрать к изучению российской грамоте и к образованию в сельские писаря по одному; а из тысячи — по два мальчика, на следующем основании:



1) Так как на всякие пятисот или тысячу душ в казенных имениях необходим один человек, приспособленный к правильному письмоводству по волостному управлению, и в случае убыли оного по какому-либо случаю или перемены, должен быть всегда другой такой же, то нужно, чтобы постоянно со всякой тысячи по два мальчика были в учении.

2) Мальчики для учения должны назначаться способные к наукам преимущественно из сирот, не имеющих оседлости, из бобылей, по семейству не могущих быть на рекрутской очереди, и всегда хорошей нравственности, по усмотрению волостных старшин; из семейств же оседлых, хотя малосемейных, не иначе как с согласия временных владельцев, без всякого за экономические повинности вознаграждения от волости.

3) Поелику мальчики крестьянские должны поступить в учение не моложе 10 и не старее 14 лет, то на содержание их и одежду приличную нельзя менее определить как по двести рублей ассигнациями на каждого.

4) Обучение сих мальчиков должно заключаться: в законе Божьем, церковной истории, грамматике, арифметике, правописании и чистописании, для чего всего удобнее помещать их в приходские Духовные училища, а где оных нет — в приходские народные училища, но не на счет крестьян, по бедности их, а на счет казны, или сумм, поступаемых из доходов казенных имений, тем более что изучение* казенных крестьянских мальчиков, для образования в сельские писаря, составляет не частную, но общественную пользу и нужду.

5) Надзор за учениками из казенных мальчиков по наукам и по содержанию предоставить непосредственно тому месту, в которых будут обучаться на равных с прочими учащимися, а чтобы по временам было надлежащее об них сведение в казенной палате и потом в Палате государственных имуществ, без излишнего затруднения могут иметь таковой надзор и обо всем представлять донесение местные уездные казначеи.

и 6) По окончании учения крестьянских мальчиков, по крайней мере в течении двух лет, занимать практическим делопроизводством и счетоводством частию при хозяйственном отделении в казенной палате, частию в уездных казначействах, где они могут приучить себя к счетоводству, частию при

* Так в документе.

известных начальству опытностию и способностию писарях, а потом при Палате государственных имуществ и при окружных правлениях, но с тем однако же, что содержание их и в сии два года должно быть относимо или на счет казны, или на счет доходов с казенных имений, как благоугодно будет признать высшему начальству.

В заключение сего постановления казенная палата полагает: постановить правилом, чтоб приспособленных в сельские писаря казенных людей не увольнять ни в какое другое звание, ради избежания злоупотреблений, но, напротив, сии писаря, если бы по качествам своим отступали от правил добронравия, могут, по приговорам обществ, поступать в рекруты, дабы в каком случае не могли порождать вольнодумства и худых примеров для прочих. О таковом мнении казенной палаты представить на усмотрение вашему превосходительству по последующем просить уведомления, для представления на усмотрение господина министра государственных имуществ.

Председатель Иван Белинский.

Советник Николай Миниевич.

Столоначальник Серебрянинов.

Резолюция: Согласен с мнением палаты. 14 сентября 1838.

*НИАБ. Ф. 1430. Оп. 1. Д. 7438. Л. 1—4. Оригинал. Публикуется впервые.*

**№ 2**

22—23.09.1838. Витебск. — Сообщение гражданского губернатора Витебской казенной палате о его согласии с мнением казенной палаты о подготовке мальчиков из казенных крестьян к должности писарей.

Витебской казенной палате.

| | |
|---|---|
| Насчет приготовления мальчиков к должности писарей.<br>С 22 сентября 1838<br>23 сентября № 9039 | Соглашаясь с мнением казенной палаты, изъясненным в представлении ко мне от 12-го сентября за № 9967, насчет приготовления мальчиков из казенных крестьян к должности писарей, об том извещаю для учинения дальнейшего со стороны ее распоряжений. |

*НИАБ. Ф. 1430. Оп. 1. Д. 7438. Л. 5. Отпуск. Публикуется впервые.*

*Артыкул паступіў у рэдакцыю 30.03.2011*



**_В. В. Гарбачова,_**
*дацэнт кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтва гістарычнага факультэта БДУ, кандыдат гістарычных навук*

## ІГНАЦІЙ КЛЮКОЎСКІ І ІААХІМ ЛЯЛЕВЕЛЬ (1822—1830 гг.)

Біяграфія Ігнація Клюкоўскага дапаўстанцкага перыяду з’яўляецца амаль недаследаванай. Практычна адзіныя згадкі, якія вядомы з гэтага перыяду, тычацца яго ўдзелу ў Віленскай мастацкай выставе 1820 г. падчас навучання ва ўніверсітэце. А тым часам архіўныя крыніцы захоўваюць шэраг фактаў, якія дазваляюць пашырыць нашы ўяўленні аб тагачасным інтэлектуальным і мастацкім жыцці Вільні, адным з прадстаўнікоў якога з’яўляўся Клюкоўскі.

З універсітэцкіх часоў пачынаецца шматгадовае сяброўства мастака з Іаахімам Лялевелем. Перыяд навучання Клюкоўскага ва ўніверсітэце расцягнуўся амаль на сем гадоў, што тлумачыцца разнастайнасцю яго інтарэсаў. Спачатку, у 1819 г., ён стаў студэнтам Школы прыгожых мастацтваў, якая з’яўлялася структурнай адзінкай факультэта літаратуры і вольных мастацтваў. А з 1822 г. Ігнацій распачаў навучанне на аддзяленні права факультэта маральна-палітычных навук. Відавочна, гэты ўчынак быў здзейснены пад уплывам вяртання ў Віленскі ўніверсітэт у 1822 г. Іаахіма Лялевеля. З’яўленне ў Вільні Лялевеля ў студзені 1822 г. было радасна ўспрынята ўніверсітэцкай моладдзю, а яго інагурацыйная лекцыя ў статусе прафесара, загадчыка кафедры ўсеагульнай гісторыі, стала сапраўднай падзеяй у інтэлектуальным жыцці Вільні. Па знешнім выглядзе гэтая лекцыя больш нагадвала маніфестацыю. Шмат у чым такая сітуацыя абумоўлівалася чаканнем прыезду Лялевеля ва ўніверсітэт, якое расцягнулася ледзь не на паўгода. З-за вялікай колькасці слухачоў, якія сабраліся павітаць новага прафесара, арганізатары былі вымушаны нават перанесці лекцыю на два дні пазней, чым было запланавана пачаткова. У выніку яна адбылася толькі 9/21 студзеня 1822 г. [19, s. 70].

З прыходам Лялевеля колькасць студэнтаў, што сталі вывучаць усеагульную гісторыю, павялічылася да 300—400 чалавек*. У першы год выкладання Лялевеля 130 з гэтых студэнтаў здалі іспыт па старажытнай гісторыі. Адным з такіх юнакоў, які трапіў пад уплыў Лялевеля і запісаўся да яго на курс, быў Ігнацій Клюкоўскі. Яго сакурснікамі на факультэце маральна-палітычных навук сталі Леан Рагальскі, Яўстафій Янушкевіч, Рафал Слізень, Фелікс Вратноўскі, Юльян Карчэўскі і інш. [2].

Захаваліся нататкі Лялевеля з пісьмовага экзамену па сусветнай гісторыі за 1822/23 н. г., дзе змешчаны пытанні, зададзеныя студэнтам, а таксама кароткія анатацыі адказаў. Трэба адзначыць, што Лялевель прад’яўляў да сту-

* Прыведзеная лічба складае каля 50 % ад агульнай колькасці студэнтаў усяго ўніверсітэта. Мы валодаем статыстыкай па колькасці студэнтаў на 1820 г., якая складае 630 чалавек, з іх 100 навучаліся на факультэце маральна-палітычных навук [32, s. 336].

дэнтаў досыць высокія патрабаванні. У першую чаргу ім ацэньвалася здольнасць да самастойнага мыслення, грунтоўнае разуменне праблематыкі пытання, вызначэнне прычын і наступстваў аналізаваных падзей. Разам з тым пэўная ўвага выкладчыка надавалася стылістыцы і ўменню поўна адказваць на пытанне. Сярод студэнтаў Лялевель згадвае імя Ігнація Клюкоўскага. Вось як быў ацэнены адказ апошняга на пытанне «*Параўнаць Людовіка XIV з Жыгімонтам Аўгустам*»: «*[Паходзіць] ад маці іншаземкі, [меў] дрэннае выхаванне, адкуль і паўстае падабенства. Фактаў падаецца недастаткова, пра Людов[іка] адзначае з памылкамі. Напрыканцы паўбяды, [сустракаюцца] супярэчнасці ў параўнаннях. Карацей кажучы — бяда*» [19, s. 692]. Дадзеная рэакцыя выкладчыка ў пэўнай ступені тлумачыцца імкненнем да нефармальных адносін да сістэмы выкладання. Не менш крытычна на гэтым жа экзамене быў ацэнены і Яўстафій Янушкевіч, якому трэба было здзейсніць параўнанне праўлення «*Баляслава Храбрага і Хлодвіга*»: «*Падобным чынам [падаецца] гістарычны агляд праўлення аднаго і другога, і ў некаторых дэталях дастаткова ўдала, аднак з доказамі не заўсёды зразумелымі…*» [19, s. 691].

Толькі адзінкі са студэнтаў заслугоўвалі высокай пахвалы свайго настаўніка. І тым не менш, строгасць Лялевеля не адбівалася на адносінах да яго з боку студэнцкай моладзі. Тлумачэннем дадзенай сітуацыі можа служыць сведчанне, пакінутае Я. Янушкевічам: «*[Лялевель] увесь быў адкрыты для яе. Таварыскі, ветлівы, сардэчны, кожнага прымаў у сябе, даваў яму парады, накіроўваў на шляху да вышэйшай адукацыі, заахвочваў да спрабавання сіл…*» [11, s. 16]. Парады, атрыманыя Клюкоўскім ад Лелявеля, відавочна паўплывалі на яго зацікаўленасці ў пасляўніверсітэцкія часы.

Адсутнасць сродкаў да існавання вымусіла Клюкоўскага пасля заканчэння ўніверсітэта ўладкавацца на дзяржаўную працу. У 1825 г. ён распачаў працу ў канцылярыі аднаго з судоў, найхутчэй, віленскага, і адначасова актыўна супрацоўнічае з адзіным навукова-літаратурным выданнем Вільні сярэдзіны 20-х гг. XIX ст. — «Віленскім дзённікам».

У гэтым выданні Клюкоўскі актыўна друкуецца на працягу 1828—1830 гг. і спыняе гэты занятак толькі з прычыны паўстання 1830—1831 гг. і выезду ў эміграцыю. Адсутнасць у перыядычным друку беларуска-літоўскіх зямель у першай чвэрці XIX ст. традыцыі дакладанага пазначэння змешчаных матэрыялаў*, прасочваецца праз большасць публікацый таго часу, у тым ліку і публікацый Клюкоўскага. Яго матэрыялы найчасцей падпісаны крыптонімам *J. K.*, сустракаецца таксама скарочаны варыянт подпісу — *Ign. Klukowski.*

Публікацыі Клюкоўскага ў «Віленскім дзённіку» прадстаўляюць сабой пераклады ці анатацыі разнастайных па тэматыцы замежных твораў. Клюкоўскі друкаваўся ў раздзелах «Этнаграфія», «Этналогія», «Падарожжа», «Статыстыка», «Філалогія», «Усходняя літаратура», «Славяназнаўства», «Прыгожыя мастацтвы», «Гісторыя навук і мастацтваў», што адлюстроўвае шматгранную накіраванасць інтарэсаў выпускніка ўніверсітэта.

* Гэты падыход ужываўся ў перыядычных выданнях пачатку XIX ст. У часопісах магло адсутнічаць не толькі прозвішча асобы пад надрукаваным матэрыялам, але і пазначэнне віду выкананай працы [10, s. 41—42].



У межах узнятай праблематыкі найбольшую цікавасць прадстаўляюць працы Клюкоўскага, звязаныя з мастацтвам. У сферу інтарэсаў былога віленскага студэнта трапляе перш за ўсё італьянскае мастацтва, што абумоўлівалася агульнай зацікаўленасцю польска-ліцвінскага асяроддзя італьянскімі культурнымі і грамадскімі традыцыямі. Шмат у чым гэты інтарэс паўставаў з падабенства сітуацыі, у якой знаходзілася польскае і італьянскае грамадства. Пад гэтым уплывам у 1830 г. Ігнацій Клюкоўскі друкуе пераклад фрагментаў ананімных успамінаў аб італьянскім салонным мастацтве і рымскіх палацах, якія выйшлі ў «Revue Britannique» [15].

Акрамя гэтага, Клюкоўскі змяшчае анатацыю на працу італьянскага філолага Себасцьяна Кампі (1769—1847), запрошанага камісіяй па веравызнанні і асвеце Польскага Каралеўства на пасаду прафесара Варшаўскага ўніверсітэта, дзе на працягу 1817—1822 гг. ён выкладаў класічную літаратуру. Пасля заканчэння кантракта Кампі вярнуўся ў Фларэнцыю і напісаў шэраг даследаванняў па праблеме польска-італьянскіх культурных і гістарычных сувязей, адно з якіх у 1830 г. выйшла асобным выданнем і анатавалася Клюкоўскім у «Віленскім дзённіку» [16].

Наступны пераклад Клюкоўскага, здзейснены на працягу 1829—1830 гг., таксама быў у пэўнай ступені звязаны з даследчыцкай праблематыкай. У некалькіх нумарах віленскага часопіса Клюкоўскі друкуе пераклад лістоў французскага навукоўца-егіптолага Жана Франсуа Шампальёна (1790—1832) [13]. Пераклад Клюкоўскага быў зроблены на падставе матэрыялаў з «Bulletin des sciences historiques», выдадзеных у верасені 1828 г. — лютым 1829 г.*, дзе ў эпісталярнай форме былі прадстаўлены вынікі франка-таскансэкай навуковай экспедыцыі, здзейсненай Шампальёнам разам з італьянскімі егіптолагамі, мастакамі і архітэктарамі на працягу жніўня 1828 г. — лістапада 1829 г. у Егіпет. Вынікам гэтага падарожжа стала азнаямленне еўрапейцаў з шэрагам прыкладаў егіпецкай культуры, дакладнымі замалёўкамі егіпецкіх храмаў, святынь і грабніц, здзейсненымі навукоўцамі са складу экспедыцыі, а таксама тымі прадметамі егіпецкага мастацтва, якія апынуліся ў музеях. Для самога Клюкоўскага знаёмства з матэрыяламі экспедыцыі Шампальёна таксама не праходзіць незаўважаным, што істотна паўплывала на яго канцэпцыю гісторыі і тэорыі сусветнага мастацтва, выкладзеную ва ўласных нататках [14, k. 185].

Зварот да перакладчыцкай і даследчыцкай дзейнасці, здзейсненай Клюкоўскім пад штандарам «Віленскага дзённіка», не перакрэсліў яго практыч-

* Поўнае выданне эпісталярнай спадчыны Шампальёна аб гэтай экспедыцыі ўпершыню выйшла ўжо пасля яго смерці ў 1833 г. [9].

ных мастацкіх зацікаўленасцей. Яскравым пацверджаннем гэтага з'яўляецца інфармацыя, змешчаная ў ліставанні яго сакурсніка Леана Рагальскага з былым настаўнікам І. Лялевелем. Так, у лісце Рагальскага ад 27 лістапада 1825 г. да Лялевеля падкрэсліваецца, што яго былы вучань Клюкоўскі не толькі працуе на дзяржаўнай працы, але і займаецца маляваннем [25, k. 483 v.]. Адначасова з гэтым паведамляецца, што сярод былых студэнтаў Віленскага ўніверсітэта паўстае праект заснавання ў Вільні невялікай літаграфічнай майстэрні, кіраванне якой плануецца, як «добраму мастаку», даручыць Клюкоўскаму. Галоўнай мэтай майстэрні павінна было стаць выданне літаграфій знакамітых суайчыннікаў, а таксама помнікаў старажытнасці. Рагальскі падкрэслівае, што дадзеная ідэя знаходзіць падтрымку ў асяроддзі віленскіх мастакоў. Сярод магчымых удзельнікаў згаданага праекта ім называюцца Юльян Карчэўскі і Эдвард Ромер [25, k. 483 v.].

Рэалізацыя згаданага праекта, з аднаго боку, была дастаткова перспектыўнай. У Вільні ў сярэдзіне 20-х гг. XIX ст. існавала значная запатрабаванасць у адпаведных майстэрнях. А між тым адзіная майстэрня, якая раней дзейнічала пры Віленскім універсітэце, да гэтага часу спыніла сваё існаванне.

Факты сведчаць аб тым, што віленскія мастакі, у тым ліку і Клюкоўскі, мелі вялікае спадзяванне на рэалізацыю свайго праекта. Як пазначае Леан Рагальскі ў сваім лісце да Лялевеля ад 10 ліпеня 1826 г., Клюкоўскі планаваў намаляваць помнікі старажытнасці ў Вільні, Троках, Медніках, Крэве, Лідзе, Наваградку і іншых гарадах і мястэчках ВКЛ [26, k. 487 v.]. Можна правесці вельмі цікавыя паралелі, у межах якіх паўстае мастацкая прадбачлівасць Клюкоўскага і яго аднадумцаў. Вядомы калекцыянер і выдавец Ян Вільчынскі выдаваў літаграфіі з краявідамі Вільні, Кракава, Кіева, Варшавы і іншых месцаў пад умоўнай назвай «Віленскі альбом» у выглядзе асобных серый і выданняў на працягу 1845—1875 гг. [3; 12]. Напалеон Орда да рэалізацыі сваёй ідэі па выданні адпаведнай серыі мастацкіх альбомаў, што, праўда, выспявала дастаткова працяглы час, прыступае толькі ў 1873 г. [1].

У межах ўзнікшага праекта з просьбай асабістага характару да Клюкоўскага звяртаецца Лялевель. Просьба тычылася падрыхтоўкі пэўных малюнкаў, якія, хутчэй за ўсё Лялевель намерваўся змясціць пасля выканання на іх падставе літаграфій у сваёй кнізе «Падзеі польскай гісторыі» [18], якой ён займаўся на той момант. Яшчэ ў лісце да бацькі ад 29 сакавіка 1818 г. І. Лялевелем згадваецца аб неабходнасці змяшчэння ў кнізе, якая рыхтуецца, ілюстрацый [20, s. 315].

У лісце ад 23 лістапада 1827 г. Рагальскі піша, што Клюкоўскі старанна займаецца выкананнем малюнкаў па просьбе Лялевеля [27, k. 510]. На падставе гэтага дакумента ёсць магчымасць прыкладна вызначыць час, калі распачынаецца творчае супрацоўніцтва Лялевеля і віленскіх мастакоў на чале з Клюкоўскім па выкананні ілюстрацый. Прыпадае гэта на перыяд другой паловы 1826 г. — другой паловы 1827 г.



Змешчаныя ніжэй лісты Клюкоўскага да Лялевеля ў некаторай ступені асвятляюць працэс выканання заказу. Ігнацій Клюкоўскі пасля атрымання просьбы ад Лялевеля, якая тычылася выканання канкрэтных маляўнічых гістарычных кампазіцый, размеркаваў асобныя тэмы паміж вядомымі яму мастакамі. Да лютага 1828 г. былі падрыхтаваны для адпраўкі Лялевелю ў Варшаву тры мастацкія кампазіцыі, прысвечаныя ранняму перыяду польскай гісторыі — X—XIII стст., а менавіта: адлюстраванне каранацыі Баляслава Вялікага, паход Баляслава II у Венгрыю і забойства польскага караля Пшэмыслава [22, k. 227]. Трэба адзначыць, што назвы гэтых кампазіцый практычна супадаюць з назвамі частак V, XXV, XXVI першага раздзела і часткі XXIII другога раздзела з гістарычнай працы Лялевеля, што пацвярджае нашу думку аб выкананні заказу менавіта для адзначанага выдання [18, s. 40, 68, 69, 105].

У сваім лісце ад 7 сакавіка 1829 г. Клюкоўскі паведамляе Лялевелю аб падрыхтоўцы да адпраўкі чарговых малюнкаў, а таксама аб выпраўленні дасланых раней кампазіцый. Разам з тым з ліста паўстае занепакоенасць Клюкоўскага аб магчымым спазненні з выкананнем заказу настаўніка [23, k. 229].

Апошні ліст Клюкоўскага, датаваны 5 верасня 1829 г., дае адказ на некаторыя пытанні, аднак шэраг з іх застаецца ўсё ж такі без адказу. З ліста становіцца зразумела, што ў пачатку восені мастак атрымаў у падарунак выданне Лялевеля, для якога ён разам з іншымі віленскімі майстрамі меўся падрыхтаваць малюнкі. Аднак тая частка, якая высылалася раней Лялевелю ў Варшаву, або не трапіла да яго, або па нейкіх іншых прычынах, у тым ліку і з-за спазнення, і з-за адсутнасці цэласнай калекцыі і г. д., не былі ўключаны ў выданне. Такім чынам, праект Клюкоўскага, нягледзячы на яго намаганні, на жаль, не быў даведзены да свайго лагічнага завяршэння і не трапіў у выданне Лялевеля. Між тым праца гісторыка, якую ён пісаў для сыноў малодшага брата Прота Лялевеля, а, па сутнасці, накіраваная да шырокай грамадскасці, становіцца ў хуткім часе вельмі папулярнай. Першы наклад кнігі разыходзіцца ўсяго за некалькі месяцаў. Наступныя выданні кнігі карысталіся такім жа попытам. Па ёй цэлае пакаленне вывучала айчынную гісторыю. Праца мела вялікае выхаваўчае значэнне і па сваёй значнасці яе можна параўнаць з «Гістарычнымі спевамі» Ю. Нямцэвіча.

На сённяшні дзень застаецца невядомым, што стала з малюнкамі, дасланымі віленскімі мастакамі Лялевелю ў Варшаву, і якія са згаданых кампазіцый належалі непасрэдна самому Клюкоўскаму. Апошняму прыпісваюцца толькі два малюнкі, якія сталі асновай для выканання літаграфій Augustem François Alès і выдадзеныя Леанардам Ходзькам у 1837 г. [17, po s. 191, 193].

Між тым і пасля першага выдання кнігі Лялевеля, як адзначае Рагальскі ў сваіх матэрыялах, датаваных кастрычнікам 1829 г., віленскія мастакі працягвалі працаваць над малюнкамі і нават не чакалі за гэта ганарараў [28, k. 544].

Змешчаная ніжэй карэспандэнцыя акрэслівае невялікі прамежак жыцця Ігнація Клюкоўскага — з 23 лютага 1828 г. па 5 верасня 1829 г. Тры лісты

Клюкоўскага, адрасаваныя Іаахіму Лялевелю з Вільні ў Варшаву, знаходзяцца ў адной справе і захоўваюцца ў Рукапісным аддзеле Ягелонскай бібліятэкі сярод эпісталярнай спадчыны Лялевеля [21]. Да сённяшняга часу яны не друкаваліся. Лісты напісаны на паперы жаўтаватага колеру рознага памеру чорным атрамантам. Першы ліст змешчаны на здвоеным лісце паперы, тэкст якога знаходзіцца толькі на рэктум. Астатнія два лісты напісаны на асобных лістах паперы. Ліст ад 5 верасня 1829 г. выкананы рэктум і версум. Пагінацыя алоўкам, змешчаная ў правым верхнім куце аркуша, з'явілася толькі ў працэсе апрацоўкі збору Лялевеля. Лісты ад 7 сакавіка і 5 верасня 1829 г. былі ўкладзены ў ліст ад 23 лютага 1828 г., што адбілася на пагінацыі, якая не адпавядае храналогіі іх напісання. Тэкст выкананы без закрэсліванняў і правак. Моўныя і лексічныя асаблівасці тэксту падаюцца адпаведна арыгіналу з захаваннем аўтарскіх асаблівасцей.

Пераклад на беларускую мову зроблены ў поўнай адпаведнасці польскамоўнаму тэксту з захаваннем аўтарскага размяшчэння тэксту на аркушы і падзелу на абзацы.

**№ 1.**

**Ліст Ігнація Клюкоўскага да Іаахіма Лялевеля ад 23 лютага 1828 г.**

[k. 227] Wielmożny Mości Dobrodzieju!

Zaczynam od przeproszenia Pana Dobr[odzieja] że smiem Jego utrudzać moim listem. Wszakże ciesząc siebie, że to uczyniłem, pochodziło ze szczerej chęci usłużenia Temu, którego, niegdyś łaskawą znajomość, zawsze będzie dla mnie zaszczytnem wspomnieniem, mam nadzieją że moja śmiałość znajdzie jakąkolwiek wymówką. Jak tylko powiedział mi Rogalski, o podanym projekcie rysowania historycznych kompozycyi, natychmiast porozdawałem przysłane temy wszystkim znamienitszym rysownikam Wileńskim; nie było żadnego któryby z żarliwością tej małej pracy na siebie nieprzyjął, lecz zatrudnienia jednych, nieufność we własnych zdolnościach drugich, były i są poczęści dotąd przyczyną znacznego opóznienia*. Posyłam teraz przez jadącego do królestwa Polskiego, i mającego bydź w Warszawie pana Wilczyńskiego trzy kompozycyje: 1) koronacja Bolesława wielkiego. 2) Bolesława II. wstęp do Węgier. 3) zabójstwo Przemysława. Inne cztery nie są jeszcze pokończone, a o dalszych dotąd mam tylko samo przyniesienie. Z mojej strony dołożę wszelkiego starania, aby [k. 230] jak najprędzej dalszy ciąg przeslać. Posyłając są rysunki są tylko naszkicowane. Jesliby zaś ich kompozycje przyjęte zostały, wówczas za wymienieniem przez W[ielmożnego] M[ości] pana Dobr[odzieja] uchybień co do ubiorów lub innych szczegółów, przesobione na czysto, wykończone, i w jednostajnej wszystce wielkości w 8ce przerysowane będą. Oczekując uwiadomienia o dalszem rozporządzeniu w tej mierze. Mam honor zostawać

W[ielmożnego] M[ości] Pana Dobrodzieja
Najnizszym sługą
Ignacy Klukowski

Wilno. r. 1828. lutego 23. dnia r[oku] s[iego]

* Сучаснае напісанне *opóźnienie*.



*Пераклад*

[арк. 227] Вяльможны пан дабрадзей!

Прашу мне прабачыць, пан дабрадзей, што смею дакучаць сваім лістом. Аднак жа суцяшаю сябе тым, што здзейсніў гэта з прычыны шчырага жадання дагадзіць таму, чыё колішняе добразычлівае знаёмства застанецца назаўсёды ў маёй памяці як гонар. Спадзяюся, што мая смеласць знойдзе якое-небудзь апраўданне. Як толькі Рагальскі* паведаміў мне аб праекце малявання гістарычных кампазіцый, я неадкладна раздаў дасланыя тэмы ўсім знакамітым мастакам Віленшчыны. Не знайшлося ніводнага, хто б з захапленнем не прыняў на сябе гэтую невялікую працу, толькі занятасць адных і няўпэўненасць ва ўласных здольнасцях другіх, былі і зараз застаюцца прычынай значнага спазнення [ў выкананні распачатай справы]. Адсылаю зараз праз пана Вільчынскага**, які накіроўваецца ў Каралеўства Польскае і павінен быць у Варшаве, тры кампазіцыі: 1) Каранацыя Баляслава Вялікага***; 2) Уступленне

* Леан Рагальскі (7.01.1806—1878) — літаратар, выдавец, грамадскі дзеяч. Закончыў Віленскі ўніверсітэт са ступенню кандыдата права, з'яўляўся вучнем Лялевеля. У часы ўніверсітэцкага навучання завязаў сяброўскія адносіны з Антоніем Эдвардам Адынцом, Мікалаем Маліноўскім, Яўстафіем Янушкевічам і Ігнаціем Клюкоўскім, з якіх трое апошнія, а таксама Станіслаў Кубліцкі і Рафал Слізень вучыліся з Рагальскім на адным курсе. На працягу жыцця меў сталыя кантакты з Лялевелем. З 1819 г. пачаў друкаваць свае вершы, у тым ліку і ў «Віленскім дзённіку». Займаўся таксама перакладчыцкай працай, у асноўным з расійскай мовы. У 1827—1829 гг. разам з Ф. Вратноўскім выдаваў серыю «Powieści i romansy z Dzieł Celniejszych Pisarzy Tłumaczone», у якой выйшла 6 тамоў. З 1828 г. уладкаваўся на працу ў канцылярыю Віленскага ўніверсітэта, пазней стаў сакратаром Рады гэтай установы. Пасля закрыцця ўніверсітэта перабраўся ў Варшаву [2; 24; 31].

** Ян Казімір Мацей Лонгін Ільдэфонс Вільчынскі (26.2.1806—18.2.1885) — вядомы польскі ўрач, калекцыянер і выдавец. У 1827 г. скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта і выехаў на далейшае навучанне ў Парыж. У 1835 г. Вільчынскі вярнуўся ў Вільню, дзе выдаў знакаміты альбом. З цягам часу Вільчынскі пачаў уключаць у свой альбом краявіды не толькі Вільні і тэрыторыі ВКЛ, а таксама Варшавы, Кракава і іншых мясцін [4].

*** Баляслаў I Храбры ці Вялікі (966/967—1025) — польскі кароль, сын Мешкі I.

Баляслава II* у Венгрыю; 3) Забойства Пшэмыслава**. Іншыя чатыры кампазіцыі яшчэ не скончаны, пра астатнія да гэтай пары маю таксама адпаведную інфармацыю. Са свайго боку абяцаю прыкласці ўсё намаганні, каб [арк. 230] найхутчэй даслаць астатнюю частку [выяў]. Адпраўленыя мной малюнкі ўяўляюць сабой пакуль толькі эскізы. У выпадку прыняцця іх кампазіцый, у той жа час пералічаныя шаноўным панам хібы, якія могуць датычыць ці выгляду ўбрання, ці іншых дэталей, будуць выкананы начыста і ўсе ў аднастайным памеры ў 8-цы будуць перамаляваны. Чакаю паведамлення аб далейшых распараджэннях па гэтай справе. Маю гонар заставацца

ніжэйшым слугой
шаноўнага пана дабрадзея
Ігнацій Клюкоўскі

Вільня, 23 лютага 1828 г.

*BJ. Rkps 4435 III. T. II. K. 227, 230. Арыгінал, рукапіс.*

**№ 2.**

**Ліст Ігнацыя Клюкоўскага да Іаахіма Лялевеля ад 7 сакавіка 1829 г.**

[k. 229] Wilno 1829. Marca 7. d[nia] r[oku] s[iego]

Wielmożny Mości
Dobrodzieju!

Wydający się w tych dniach wyjazd P. Kazimierza Wilczyńskiego padaje mi znowu sposobność przesłania kilku kompozycyi historycznych do dziejów Polskich. Wytknięte uchybienia w przeszłych staraliśmy się sprostować. Bytność teraz Sliwickiego w Wilnie podaje większą łatwość wylitografowania, aniżeli sztychowania zwłaszcza że w takim rodzaju jak W[ielmożny] M[ości] pan Dobr[obrodzieju] sobie życzysz i jak za wzór podawaliś rysunki w pierwszej edycyi Bandtkiego niezleby się mogły udać. Jesli te rysunki miały być przeznaczone do historii polskiej dla dzieci, przez Pana piszącej się, lękam się aby niebyło za pózno. Jesli zaś jest jeszcze inny jaki zamiar będziemy zaczynać litografować. Przyczem mam honor zostawać z Najwyższem upoważeniem

W[ielmożnego] M[ości] Pana Dobrodzieja
Najnizszym sługą
Ignacy Klukowski

*Пераклад*

[арк. 229] Вільня, 7 сакавіка 1829 [года]

Шаноўны пан дабрадзей!

У сувязі з ад'ездам пана Казіміра Вільчынскага, запланаваным на бліжэйшыя дні, у мяне зноў з'явілася магчымасць даслаць некалькі гістарычных

* Баляслаў II Шчодры ці Смелы (1039—1081) — польскі кароль, сын Казіміра I.

** Клюкоўскім згадваецца забойства Пшэмыслава, польскага караля, каранаванага ў 1295 г. і ў хуткім часе забітага. У выніку гэтага абрываецца род па мужчынскай лініі, які ішоў ад Мечыслава III, і замацоўваецца ўлада Уладзіслава Лакеткі.



кампазіцый, якія тычацца польскіх падзей. Пазначаныя ў папярэдніх працах хібы мы пастараліся выправіць. Знаходжанне зараз у Вільні Слівіцкага* болей спрыяе літаграфаванню, чым гравіраванню, асабліва ў такім выглядзе, як жадае шаноўны пан. І нядрэнна магло б атрымацца, калі б у якасці ўзору выкарыстаць малюнкі, змешчаныя ў першым выданні Бандтке**. У выпадку, калі гэтыя малюнкі запланавана змясціць у кнізе, прысвечанай польскай гісторыі для дзяцей, якую піша пан, непакоюся, каб не спазніцца. Калі яшчэ ёсць які-небудзь іншы намер, то мы будзем пачынаць працэс літаграфавання. Пры гэтым маю гонар прадстаўляць вышэйшыя паўнамоцтвы

шаноўнага пана дабрадзея
ніжэйшы слуга
Ігнацій Клюкоўскі

*BJ. Rkps 4435 III. T. II. K. 229. Арыгінал, рукапіс.*

**№ 3.**

**Ліст Ігнацыя Клюкоўскага да Іаахіма Лялевеля ад 5 верасня 1829 г.**

[k. 228] Wilno 1829. Września 5. d[nia]

Wielmożny Mości
Dobrodzieju!

Nowy dowód jego łaskawej pamięci obdarzeniem mię exemplarzem dziejów polski tem mocniejsze we mnie sprawił uradowanie, im mniej na tak zaszczytne dla mnie zasłużyłem względy. Próżnobym starał się listownie wynurzyć mą wdzięczność, której nigdy dla W[ielmożnego] M[ości] Pana Dobr[obrodzieja] dochowywać niepzestaną — bo rozważając rzetelnie, prędziejbym mógł urazić mojem postępowaniem aniżeli zasłużyć łaskawą pamięć. Właśnie tu mam porę i dziękować za

* Адназначна адказаць, каго мае на ўвазе Клюкоўскі, складана. На той час размова магла ісці пра адну з трох асоб. Першым з іх мог быць Вінцэнт Славецкі (Sławecki) (н. 1800), заснавальнік літаграфічнай майстэрні пры Віленскім універсітэце [8, s. 760—761; 30, s. 11]. Другога варшаўскага літографа першай паловы XIX ст. згадвае Эдвард Раставецкі — Ю. (Я.?) Славінскага [29, s. 268]. Яшчэ адно падобнае прозвішча згадваецца ў «Лексіконе» Фелікса Бекера — Валенцій Слівіцкі (1765—1857) [5, s. 138].

** Клюкоўскі, хутчэй за ўсё, мае на ўвазе працу польскага бібліёграфа, мовазнаўцы і выдаўца Ежы Самуэля Бандтке (24.11.1768—11.06.1835), выдадзеную ў Вроцлаве ў 1803 г., а затым перавыдадзеную ў 1808 г., вядомую даследчыкам як «Elementarz polski». Яна выйшла ў першы, так званы вроцлаўскі перыяд дзейнасці навукоўца, які прыходзіўся на 1798—1810 гг. У Вроцлаве Бандтке працаваў настаўнікам польскай мовы ў гімназіі св. Эльжбеты, рэктарам школы св. Духа і бібліятэкарам пры касцёле св. Бернарда. З 1802 г. завязаны яго стасункі з вроцлаўскім выдавецтвам Корнаў і распачалася дзейнасць па выданні яго мовазнаўчых прац. Наступны навуковы перыяд Бандтке быў звязаны ўжо з Кракавам, дзе ў 1811 г. ён абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Аб першых кракаўскіх тыпаграфскіх інкунабулах» і пісаў працы, прысвечаныя гісторыі кнігадрукавання ў Каралеўстве Польскім і ВКЛ [6; 7].

dawniejsze podarki i oskarzać się o [?]* moje chodzenie około rysunków do historii polskiej. Chybiły już one zapewnie swojego celu. Ale jak z jednej strony czują cały ciężar zasłużonej winy, tak z drugej, starałbym się usprawiedliwić opieszałością rysowników i rożnemi** przeszkodami, które im się zdają, bydź drobniejszemi i niewartemi przytaczania na moją obroną tem może są ważniejszemi. Zimową jeszcze porą przesłałem powtornie W[ielmożnemu] panu Dobr[obrodzieju] przez P[ana] Kazimierza Wilczyńskiego jadącego do Paryża, kilka kompozycji, które niewiem czy doszły. Dziękując raz jeszcze za jego łaskawe, a niezasłużone przezemnie względy. [k. 228 v.] Mam honor wyznawać, żem jest z najwyższem upoważnieniem W[ielmożnego] M[ości] Pana Dobrodzieja

Najnizszym sługą

Ignacy Klukowski

*Пераклад*

[арк. 228] Вільня, 5 верасня 1829 [года]

Вяльможны пан дабрадзей!

Новае пацверджанне добразычлівасці да мяне з боку пана, які адарыў экзэмплярам кнігі, [прысвечанай] польскім падзеям***, аказала на мяне значнае ўражанне тым, што, на мой погляд, я не заслужыў такой ганаровай увагі. Марна спрабаваць праз ліставанне выказаць усю маю удзячнасць, якой ніколі да шаноўнага пана дабрадзея не перастану захоўваць, таму што, разважаючы шчыра, хутчэй я мог бы ўразіць пана сваім абыходжаннем [і паводзінамі], чым выклікаць добразычлівыя адносіны. Зараз якраз маю нагоду падзякаваць і за ранейшыя падарункі, і апраўдацца за [?] сітуацыю, што склалася ў дачыненні да малюнкаў па гісторыі Польшчы. Яна аказалася нятрапнай і не дасягнула сваёй мэты. Хаця я заслужана адчуваю, з аднаго боку, на сабе цяжар віны, а з другога — хацеў бы апраўдацца маруднасцю [ў выкананні заказаў] мастакоў і рознымі перашкодамі, якія паўставалі перад імі, будзь то дробныя і нават не вартыя згадкі дзеля маёй абароны, як можа і больш важныя. Яшчэ ўзімку пераслаў паўторна шаноўнаму пану дабрадзею праз п[ана] Казіміра Вільчынскага, які накіроўваўся ў Парыж, некалькі кампазіцый, якія не ведаю, ці [пан] атрымаў. Дзякую яшчэ раз за добразычлівасць, якой, на мой погляд, не заслугоўваю. [арк. 228 адв.] Ганаруся таксама ўсведамленнем, што выступаю шаноўнага пана дабрадзея

ніжэйшым слугой

Ігнацій Клюкоўскі

*BJ. Rkps 4435 III. T. II. K. 228-228 v. Арыгінал, рукапіс.*

* Словы не магчыма аднавіць, у гэтым месцы вырваны кусок паперы.

** Сучаснае напісанне *różnemi*.

*** Клюкоўскім згадваецца кніга І. Лялевеля «Падзеі польскай гісторыі», якая ўпершыню выйшла ў другой палове 1829 г. [18].



Літаратура і крыніцы


1. Гарбачова, В. Эпісталярная спадчына Напалеона Орды ў зборах Польскай бібліятэкі ў Парыжы // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе. Зборнік да 75-годдзя прафесара Адама Мальдзіса / Пад рэд. С. Запрудскага, А. Фядуты, З. Шыбекі. — Мінск: Лімарыус, 2007. — С. 184—190.
2. Журнал адзнак студэнтаў факультэта маральна-палітычных навук за 1823/24 гг. // Lietuvos valstybinis istorios archyvas (LVIA). — F. 721. — Ap. 1. — B. 1109.
3. Album de Vilna. Album Wileńskie czyli zbiór rycin, litografii i chromolitografii poświęcone wyłącznie przedmiotom krajowym / Wyd. J. Wilczyński. — Seria I. — 1845—1875.
4. Album de Vilna. Album Wileńskie czyli zbiór rycin, litografii i chromolitografii poświęcone wyłącznie przedmiotom krajowym / Wyd. J. Wilczyński. — Seria 2. — 1845—1856.
5. Allgemeines Lexikon der bildenden Künstler von der Antike bis zur Gegenwart / U. Theime, F. Becker. — Leipzig, 1937. — T. 49. — S. 138.
6. Bandtkie, J. S. Historia drukarń w Królestwie Polskim i Wielkim Księstwie Litewskim / J. S. Bandtkie. — Kraków: Drukarnia Józefa Mateckiego, 1826. — 448 s.
7. Bandtkie, J. S. Nowy elementarz polski zawieraiący różne do poięcia dzieci stosowne wiadomości, powieści i nauki moralne, wypisy z historyi naturalney i wiersze wyborne z celnieyszych autorów oyczystych / J. S. Bandtkie. — Wrocław: Drukarnia W. B. Korn, 1808. — 198 s.
8. Bieliński, J. Uniwersytet Wileński (1579—1831) / J. Bieliński. — Kraków: Druk W. L. Anczyca i Spółki, 1900. — T. 2. — 845 s.
9. Champollion, J. F. Lettres ecrites d'Egypte et de Nubie en 1828 et 1829 / J. F. Champollion. — Paris: Firmin Didot Frères, Libraires, 1833.
10. Ciechowski, W. Czasopisma polskie na Litwie / W. Ciechowski // Kwartalnik Litewski. — R. 1. — Petersburg, 1910. — T. 2. — S. 39—66.
11. Eustachy Januszkiewicz. Pamiętnik // Biblioteka Jagiellońska (BJ). — Przyb. rkps 257/69.
12. Jaworska, J. Album Wileńskie w zbiorach graficznych Muzeum Narodowego w Warszawie / J. Jaworska // Rocznik Muzeum Narodowego w Warszawie. — T. XX. — Warszawa, 1976. — S. 213—405.
13. J. K. Listy o Egipcie P. Szampoliona młodszego / J. K. // Dziennik Wileński. — 1829. — T. 8. — S. 115—128, 149—168; 1830. — T. 12. — S. 178—196.
14. Ignacy Klukowski do Bronisława Zaleskiego, 1861—1862. List z 17 stycznia 1862 // Biblioteka Czartoryskich w Krakowie (B. Czart.). — Rkps 6944 II. — K. 175—185.
15. Klukowski, Ign. Wspomnienie o Włoszech / Ign. Klukowski // Dziennik Wileński. — 1830. — T. 10. — S. 3—31, 217—235.
16. Klukowski, Ignacy. Notizie di medici, maestri di musica e cantor, pittori, architetti, scultori ed altri artisti italiani in Polonia e polacchi in Italia, raccolte da Sebastiano Ciampi R. corrispondente attivo di scienze e lettere in Italia pel Regno di Polonia, con appendice degli artisti italiani in Russia ecc. Lucca, 1830. str. 165 / Ignacy Klukowski // Dziennik Wileński. — 1830. — T. 10. — S. 313—316.
17. La Pologne historique, littéraire, monumentale et pitoresque / Red. L. Chodźko. — Paryż, 1837. — T. 2. — 427 s.
18. Lelewel, J. Dzieje Polski Joachim Lelewel potocznym sposobem opowiedział, do nich dwanaście krajobrazów skreślił / J. Lelewel. — Warszawa: W Drukarni J. Węckiego, 1829. — 330 s.

19. Lelewel, J. Dzieła / J. Lelewel. T. 3. Wykłady kursowe z historii powszechnej w Uniwersytecie Wileńskim. 1822—1824 / Oprac. M. H. Serejski. — Warszawa: Państwowe wydawnictwo naukowe, 1959. — 799 s.
20. Lelewel, J. Listy do rodzeństwa pisane / J. Lelewel. T. 1. — Poznań: Nakładem Księgarni J. K. Żupańskiego, 1878. — 495 s.
21. Listy Ignacego Klukowskiego z r. 1828, 1829 // BJ. — Rkps 4435 III. Korespondencja Joachima Lelewela od r. 1806—1830. — T. II. — K. 227—230.
22. Listy Ignacego Klukowskiego z r. 1828, 1829. List z 23 lutego 1828 r. // BJ. — Rkps 4435 III. — Korespondencja Joachima Lelewela od r. 1806—1830. — T. II. — K. 227, 230.
23. Listy Ignacego Klukowskiego z r. 1828, 1829. List z 7 marca 1829 r. // BJ. — Rkps 4435 III. — Korespondencja Joachima Lelewela od r. 1806—1830. — T. II. — K. 229.
24. Listy Leona Rogalskiego z r. 1825—1830 // BJ. — Rkps 4435 III. Korespondencja Joachima Lelewela od r. 1806—1830. — T. V. — K. 477—552 v.
25. Listy Leona Rogalskiego z r. 1825—1830. List z 27 listopada 1825 r. // BJ. — Rkps 4435 III. Korespondencja Joachima Lelewela od r. 1806—1830. — T. V. — K. 483—483 v.
26. Listy Leona Rogalskiego z r. 1825—1830. List z 10 lipca 1826 r. // BJ. — Rkps 4435 III. Korespondencja Joachima Lelewela od r. 1806—1830. — T. V. — K. 487—487 v.
27. Listy Leona Rogalskiego z r. 1825—1830. List z 23 listopada 1827 r. // BJ. — Rkps 4435 III. Korespondencja Joachima Lelewela od r. 1806—1830. — T. V. — K. 510—511.
28. Listy Leona Rogalskiego z r. 1825—1830. List z 16 pazdziernika 1829 r. // BJ. — Rkps 4435 III. Korespondencja Joachima Lelewela od r. 1806—1830. — T. V. — K. 542—544.
29. Rastawiecki, E. Słownik rytowników polskich tudzież obcych w Polsce osiadłych lub czasowo w niej pracujących / E. Rastawiecki. — Poznań: Z Drukarni J. I. Kraszewskiego, 1886. — 316 s.
30. Reichenstein-Mehlerowa, O. Wincenty Smokowski / O. Reichenstein-Mehlerowa. — Warszawa: Wydanie Doświadczalnej Pracowni Graficznej Salezjańskiej Szkoły Rzemiosł w Warszawie, 1936. — 46 s.
31. Skręt, R. Rogalski Leon / R. Skręt // PSB. — T. 31. — S. 412—413.
32. Żmigrodzki, M. Historia Wileńskiego Uniwersytetu za czasów kuratoryi księcia Adama Czartoryskiego / M. Żmigrodzki // Przewodnik naukowy i literacki. — T. XVI. — Z. 1. — Lwów, 1888. — S. 145—159, 244—253, 331—342, 436—449.

*Артыкул паступіў у рэдакцыю 04.04.2011*



# «КРУГЛЫ СТОЛ» ПА ТЭМЕ «АКТУАЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ МЕТАДАЛОГІІ І МЕТОДЫКІ ПУБЛІКАЦЫІ ГІСТАРЫЧНЫХ ДАКУМЕНТАЎ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ»

У Беларускім навукова-даследчым інстытуце дакументазнаўства і архіўнай справы 15 снежня 2010 г. адбыўся «круглы стол» па тэме «Актуальныя праблемы метадалогіі і методыкі публікацыі гістарычных дакументаў у Рэспубліцы Беларусь». Тэматыка «круглага стала» была наступнай:

падыходы да складання метадычных рэкамендацый па публікацыі гістарычных дакументаў у айчыннай, савецкай, постсавецкай, замежнай археаграфіі;

уніфікацыя вынікаў эдыцыйнай працы (археаграфічнага афармлення, навукова-даведачнага апарату): значнасць, ступень аднастайнасці і г. д.;

традыцыі і навацыі ў выбары і перадачы тэксту гістарычных дакументаў;

крыніцазнаўчая паўнавартаснасць археаграфічнай публікацыі: паўната, інфармацыйнасць і г. д.

У працы «круглага стала» ўдзельнічалі: Г. Я. Галенчанка (галоўны навуковы супрацоўнік БелНДІДАС), А. І. Груша (загадчык аддзела гісторыі Беларусі сярэдніх вякоў і пачатку новага часу Інстытута гісторыі НАН Беларусі), А. Грыб (студэнт БДУ), А. А. Жлутка (вядучы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС), Дз. Жыгалаў (галоўны архівіст НГАБ), А. Н. Мажэйка (старшы навуковы супрацоўнік НГАБ), А. У. Мацук (навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі), Ю. У. Несцяровіч (старшы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС), В. С. Пазднякоў (загадчык аддзела археаграфіі БелНДІДАС), Ю. М. Снапкоўскі (вядучы навуковы супрацоўнік НГАБ), А. І. Шаланда (старшы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС), М. Ф. Шумейка (вядучы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС), Г. У. Шупляк (галоўны архівіст НГАБ), З. Л. Яцкевіч (загадчык аддзела публікацыі дакументаў НГАБ).

Старшынстваваў на пасяджэнні «круглага стала» М. Ф. Шумейка.

Ніжэй публікуюцца даклады А. І. Шаланды, Ю. У. Несцяровіча і В. С. Пазднякова, якія былі падрыхтаваны да «круглага стала», і выступленні ў дыскусіі.

*Стэнаграма падрыхтавана І. М. Шпілеўскай.*

А. І. Шаланда

## ДА ПРАБЛЕМЫ ВЫДАННЯ ПОЛЬСКАМОЎНЫХ КРЫНІЦ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ XVI — ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XIX ст.: ГАЛОЎНЫЯ МЕТАДЫЧНЫЯ ПРЫЁМЫ І МЕТАДАЛАГІЧНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ

Уваход беларускіх зямель у склад Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (ВКЛ), якое з 1386 г. знаходзілася ў дынастычнай уніі з Польскім каралеўствам, а з 1569 г. складала з апошнім федэратыўную Рэч Паспалітую, прадвызначыў тую акалічнасць, што вялікі пласт крыніц па айчыннай гісторыі быў складзены пераважна на старабеларускай («*рускай*»), лацінскай і польскай мовах. Часта ў сярэдзіне XVI — першай палове XVII ст. у ВКЛ стварaліся дакументы адначасова на дзвюх мовах — старабеларускай і польскай. Апошняя фактычна дамінавала ў пісьмовай культуры беларускіх зямель з другой паловы XVII па першую палову XIX ст. У сваю чаргу ў першай палове XVII — першай палове XVIII ст. дакументы на беларускіх землях ВКЛ складаліся на дзіўнай сумесі польскай, лацінскай і беларускай моў, што дазваляе гаварыць аб пэўным моўным феномене*. У свой час мы прапанавалі назваць гэтую мову «*сармацкай*», зыходзячы з яе лексічных асаблівасцей і пануючай у шляхецкім асяроддзі Рэчы Паспалітай ідэалогіі [4]. Так ці інакш, у яе аснове ляжала польская мова, а таму без уводу ў навуковы абарот польскамоўных крыніц сёння немагчыма ўявіць вывучэнне не толькі нейкіх канкрэтных праблем па гісторыі Беларусі, але і цэлых эпох нашага мінулага. Ва ўмовах актывізацыі навуковых гістарычных даследаванняў у Рэспубліцы Беларусь і сталага росту цікавасці да падзей нашай гісторыі публікацыя польскамоўных крыніц за XVI — першую палову XIX ст. становіцца важнай і неабходнай задачай.

Аднак навуковая публікацыя крыніц патрабуе прымянення распрацаваных метадычных прыёмаў на падставе дакладных метадалагічных прынцыпаў. У сувязі з гэтым адзначым, што сёння ў Беларусі ўжо існуюць метадычныя распрацоўкі і рэкамендацыі па публікацыі гістарычных дакументаў на старабеларускай («*рускай*») і лацінскай мовах [5; 6]. Што датычыць польскамоўных крыніц па гісторыі беларускіх зямель перыядаў ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі, то вялікі вопыт па іх публікацыі назапасілі польскія даследчыкі. Менавіта апошнімі яшчэ ў 1953 г. для выдання гістарычных дакументаў на польскай мове за перыяд з XVI па сярэдзіну XIX ст. былі распрацаваны метадычныя рэкамендацыі пад рэдакцыяй Казімера Лепшага [7]**. Аднак стварaліся яны для публікацыі пераважна тых гістарычных крыніц, што паходзілі з зямель былога Польскага каралеўства, а таму мала ўлічвалі лексічныя, фанетычныя, арфаграфічныя і іншыя асаблівасці польскамоўных дакументаў былога ВКЛ. Больш таго, рэкамендацыі пэўным чынам заклікалі публікатараў апошніх да моўнай уніфікацыі і мадэрнізацыі, што фактычна вяло да скажэння і штучнай паланізацыі тэкстаў аўтэнтычных крыніц*. У выніку сёння нават польскія даследчыкі, якія займаюцца друкаваннем крыніц па гісторыі беларускіх зямель ВКЛ, прызнаюць недасканаласць і недахопы метадычных рэкамендацый К. Лепшага, робячы ў сваіх публікацыях часам даволі значныя агаворкі і адхіленні ад нормаў апошніх у бок захавання моўных асаблівасцей арыгінальных тэкстаў**.

У Беларусі ў савецкі час публікацыі польскамоўных дакументаў адбываліся пераважна ў форме перакладаў на беларускую ці расійскую мовы [20—25]***. У сувязі з гэтым патрэбы ў метадычных парадах для друку крыніц менавіта на польскай мове не ўзнікала, хаця спробы распрацовак у гэтым напрамку час ад часу рабіліся [32]. Назваць згаданыя вышэй пераклады з польскай мовы навуковымі публікацыямі крыніц цяжка. Таму пасля аднаўлення незалежнасці Рэспублікі Беларусь у 1991 г. айчынныя даследчыкі сутыкнуліся з праблемай, дзе з аднаго боку стаяла надзённая задача публікацыі польскамоўных крыніц па гісторыі Беларусі, з другога — яе выкананне ўскладнялася адсутнасцю агульнапрынятых метадычных прыёмаў друку. Склалася ненармальная сітуацыя, калі кожны публікатар сам вызначаў падставы для эдыцыі або коратка агаворваючы іх ва ўступе ўласнай публікацыі****, або зусім пра іх не згадваючы*****. Тым не менш, у абодвух названых выпадках часцей за ўсё выдаўцамі стыхійна практыкавалася палітарная перадача тэкстаў крыніц. Разам з тым, зрэдку ў айчынных выданнях можна сустрэць публікацыі крыніц на падставе польскай выдавецкай інструкцыі К. Лепшага [41; 42]. Адзначым таксама, што да нормаў польскай археаграфіі прыводзяцца публікацыі польскамоўных крыніц ВКЛ беларускіх даследчыкаў у афіцыйных польскіх выданнях******. Такі падыход можна растлумачыць не толькі эдытарскай палітыкай польскіх навуковых выданняў, але і адсутнасцю ў Беларусі ўласнай археаграфічнай традыцыі. У выніку некаторыя з публікатараў імкнуцца прыстасаваць для выдання польскамоўных крыніц па гісторыі Беларусі метадычныя

---

* Цікавы выпадак транслітарацыі польскамоўнага ліста кірыліцай апублікаваў Г. Брэгер [1]. Гл. таксама [2; 3].

** Іншыя польскія выдавецкія інструкцыі [8—10].



* У сувязі з гэтым пэўным узорам польскіх публікацый крыніц па гісторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай, якія не згубілі да сённяшняга дня свайго навуковага значэння і былі выдадзены раней за згаданую інструкцыю, з'яўляюцца зборнікі дакументаў, надрукаваныя У. Сямковічам і С. Кутшэбам [11] ці У. Сямковічам і ксяндзом Я. Фіялкам [12].

** Гл., напрыклад, [13—19].

*** Да найноўшых перакладных выданняў польскамоўных крыніц па гісторыі Беларусі адносяцца, напрыклад, [26—31].

**** Гл., напрыклад, [33; 34].

***** Гл., напрыклад, [35—40].

****** Гл., напрыклад, [43—46].

рэкамендацыі Г. Харашкевіч, С. Каштанава і А. Грушы, распрацаваныя для кірылічных дакументаў, у спалучэнні з польскімі метадычнымі рэкамендацыямі К. Лепшага [47; 48].

У апошнія 20 год у Беларусі назіраецца сталы рост публікацый польскамоўных дакументаў XVI — сярэдзіны XIX ст. У першую чаргу гэта датычыць так званай *«часопіснай»* археаграфіі, калі даследчыкамі ў розных выданнях друкуюцца або асобныя адзінкавыя дакументы, або некалькі дакументаў па тэме даследавання [49—57]. Пры гэтым асабліва пашанцавала тэстаментам [58—62] і рознага кшталту інструкцыям [63—67]. Рэдкімі пакуль што з'яўляюцца зборнікі дакументаў, друк якіх знаходзіцца ў пачатковай стадыі [68]. Але пачатак эдыцыі апошніх з'яўляецца яшчэ адным фактарам, які актуалізуе задачу падрыхтоўкі агульных метадычных рэкамендацый для друку згаданых вышэй гістарычных крыніц, бо сведчыць аб выхадзе беларускай археаграфіі на якасна іншы ўзровень.

Адзначым галоўнае: большасць айчынных выдаўцоў у той ці іншай ступені выкарыстоўвае ў сваёй эдытарскай практыцы палітарную перадачу польскамоўных тэкстаў, што паходзяць з беларускіх зямель ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. Падобная сітуацыя назіраецца і ў выпадку з публікацыямі крыніц на старабеларускай мове.

Мэта нашых метадычных парад — скласці для айчынных гісторыкаў, архівістаў і выдаўцоў аднолькавыя прыёмы і прынцыпы навуковага выдання польскамоўных крыніц па гісторыі Беларусі XVI — першай паловы XIX ст. Пры іх складанні мы зыходзілі як з багатага замежнага (польскага, украінскага, расійскага) досведу*, так і з айчыннага вопыту публікацыі крыніц на польскай мове, што паходзяць з беларускіх зямель ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі.

Улічыўшы папярэднія публікацыі згаданых вышэй крыніц і зыходзячы з уласнага выдавецкага вопыту [77—81], у аснову прапанаваных метадычных рэкамендацый мы паклалі прынцып палітарнай перадачы рукапіснага тэксту шрыфтавым наборным спосабам.

Акрамя гэтага, пры стварэнні метадычных рэкамендацый намі ўлічваліся ўмовы захавання крыніц у Беларусі (большасць з іх захоўваецца ў НГАБ і НГАБ у Гродна, а таму доступ да іх даследчыкам з іншых навукова-даследчыцкіх цэнтраў краіны ўскладняецца, што актуалізуе праблему выдання крыніц), стан моўнай падрыхтоўкі патэнцыяльных айчынных публікатараў (гісторыкаў, архівістаў, музейных навуковых супрацоўнікаў і інш.), а таксама сучасныя міжнародныя навуковыя патрабаванні і стандарты [82] да выдання гістарычных дакументаў. Не сакрэт, што стан ведання польскай мовы сярод адзначаных катэгорый айчынных выдаўцоў розны, але пакідаць усю эдыцыйную працу польскім калегам сёння наўрад ці ўжо магчыма. Зрэшты, зададзім

* Гл., напрыклад, [72—76].



скептыкам рытарычнае пытанне: а ці так ужо дасканала ведалі польскую мову тыя, хто складаў польскамоўныя дакументы на беларускіх землях ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі ў XVI — першай палове XIX ст.? З другога боку, пры друку польскамоўных крыніц важнай задачай з'яўляецца адлюстраванне рэальнай сітуацыі полілінгвізму ў тагачасным беларускім грамадстве, а таксама паказ ролі і значэння ў ім польскай мовы. Апошняе цалкам магчыма для айчынных даследчыкаў.

Галоўная наша задача — стварыць такія метадычныя рэкамендацыі, правілы і прыёмы якіх былі б рэальныя для рэалізацыі ва ўмовах Беларусі, што ў сваю чаргу не толькі дало б магчымасць пазнаёміць шырокае кола як айчынных, так і замежных даследчыкаў з польскамоўнымі крыніцамі ў беларускіх сховішчах, але і аблегчыла б ім працу ў далейшых архіўных пошуках. Разам з тым прапанаваныя метадычныя рэкамендацыі заклікаsucc актывізаваць эдытарскую працу айчынных гісторыкаў, архівістаў, музейных супрацоўнікаў і адпаведных інстытуцый у напрамку хутчэйшага ўводу ў навуковы абарот крыніц па гісторыі Беларусі XVI — першай паловы XIX ст. на польскай мове. Яшчэ раз адзначым, што прапанаваныя метадычныя рэкамендацыі накіраваны на выданне крыніц навуковага тыпу, адрасаваных у першую чаргу даследчыкам (г. зн. абмежаванаму колу карыстальнікаў), і мэтай якіх з'яўляецца азнаямленне апошніх з тэкстамі арыгінальных дакументаў у суправаджэнні з максімальна магчымым складам навукова-даведачнага апарату [83]. У сваю чаргу, падобныя навуковыя публікацыі крыніц могуць паслужыць падставай для іх далейшай папулярызацыі ў выглядзе перакладаў на беларускую і рознага кшталту адаптацый на сучасную польскую мовы.

Айчынны вопыт палітарнага друку польскамоўных крыніц па гісторыі Беларусі XVI—першай паловы XIX ст. узняў дзве галоўныя праблемы:

1. Неабходнасць распрацоўкі агульных метадычных правілаў публікацыі;

2. Неабходнасць уніфікацыі метадычных падыходаў пры публікацыі крыніц на розных мовах або тэкстаў на мешанай мове.

Прапанаваныя метадычныя рэкамендацыі складзены на падставе ўжытых у рэальнай практыцы метадычных напрацовак айчынных выдаўцоў польскамоўных дакументаў, а таксама з выкарыстаннем агульных метадалагічных падыходаў да публікацыі крыніц на польскай, старабеларускай і лацінскай мовах. Яны з'яўляюцца першай спробай вырашэння праблемы па стварэнні агульных эдыцыйных падстаў для публікацыі на польскай мове крыніц па гісторыі Беларусі часоў ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. Зразумела, што прапанаваныя метадычныя рэкамендацыі не з'яўляюцца нечым застылым, а, наадварот, яны адкрыты да далейшых дапрацовак, дапаўненняў і ўдакладненняў.

Вылучаны ***палітарны*** варыянт шрыфтавога набору тэксту акрамя захавання моўных асаблівасцей крыніцы дапускае пэўныя межы мадэрнізацыі і

адаптацыі арыгінальнага тэксту. Пад палітарным (*ad litteram*) шрыфтавым наборам арыгінальнага тэксту* намі разумеецца ***стварэнне на падставе дакладна вызначаных метадычных прыёмаў і навуковых прынцыпаў друкаванай копіі рукапіснага ці старадрукаванага дакумента, якая захоўвае моўныя асаблівасці арыгінала, улічвае арыгінальную структуру тэксту, знакі пунктуацыі, надрадковыя і іншыя знакі, а таксама графічныя фіксацыі складаных фанем***. Іншымі словамі, гаворка ідзе пра перавод (трансфармацыю) рукапіснай ці старадрукаванай крыніцы ў сучасную друкаваную форму з максімальным захаваннем асаблівасцей арыгінала з мэтай стварэння якаснай дакладнай друкаванай копіі для навуковага даследавання.

Сучасныя тэхнічныя магчымасці як ніколі раней дазваляюць выдаўцам даволі дакладна пераводзіць рукапісныя тэксты ў друкаваныя з захаваннем асаблівасцей арыгінала. Іншымі словамі, палітарная перадача тэкстаў стала прасцейшай і больш даступнай. Як справядліва заўважыў Алег Дзярновіч, «*…найбольш спрошчаныя варыянты перадачы тэксту распрацоўваліся ў эпоху, калі камп'ютарныя тэхналогіі не былі даступнымі*» [69, с. 22]. Цяпер уявіць варштат даследчыка і публікатара без камп'ютара немагчыма. Закіды аб тым, што падобны метад «*не мае перспектыў*», бо ён «*значна ўскладняе набор і вядзе да падаражання выдання*» [83, с. 344], не вытрымліваюць крытыкі. Па-першае, існуючыя тэхнічныя сродкі якраз аблягчаюць набор, а часам дазваляюць рабіць тое, што яшчэ зусім нядаўна было немагчыма. Па-другое, для даследчыка найбольш важным з'яўляецца пытанне, на колькі надрукаваны дакумент адпавядае арыгіналу, а таму кошт выдання залежыць галоўным чынам ад спосабу друку і ўзроўню паліграфіі. У нашым выпадку мы імкнуліся спалучыць дакладнасць дакумента, які друкуецца, з найбольш аптымальным і даступным спосабам яго перадачы. Пры гэтым, зразумела, нават самая дакладная друкаваная копія не заменіць арыгінала. У сувязі з гэтым прапанаваны спосаб павінен быць простым, дакладным, практычным і тэхналагічным. У сітуацыі, калі тэхнічныя магчымасці выдаўца абмежаваны, дапускаюцца пэўныя межы мадэрнізацыі і адаптацыі тэкстаў, але яны павінны ім дакладна агаворвацца і выконвацца.

Галоўнымі метадычнымі падставамі палітарнага шрыфтавога набору польскамоўных крыніц па гісторыі Беларусі XVI — першай паловы XIX ст. з'яўляюцца: 1) прынцып палітарнай перадачы «*ad litteram*» ** тэксту ці яго набор «літара ў літару» з захаваннем моўных асаблівасцей арыгінала; 2) прынцып павагі да аўтарскага тэксту; 3) прынцып гістарычнасці дакумента [43, с. 6]; 4) прынцып адэкватнасці [43, с. 6—7]; 5) прынцып адпаведнасці копіі дакументу.

* Згаданы спосаб нельга блытаць ні з транслітарацыяй, пад якой разумеецца перадача адной пісьменнасці сродкамі іншай пісьменнасці, ні з транскрыбіраваннем — або запісам транскрыпцыі як спосабам уключэння слоў адной мовы ў тэкст другой з прыблізным захаваннем гукавых асаблівасцей гэтых слоў, а таксама з магчымым улікам іх арыгінальнага напісання і існуючых традыцый, якія часам выдаюцца за азначэнні палітарнага друку, гл. развагі на гэты конт [49, с. 34]. Выкарыстоўваецца яшчэ адно азначэнне палітарнага друку — «візуалізацыя крыніцы», гл. [84].

** Так яго называе літоўскі даследчык Дарыюс Антанавічус, гл. [42].



Л і т а р а т у р а


1. Брэгер, Г. Рэдкі ўзор транслітарацыі кірыліцай польскамоўнага дакумента канца XVI ст. у Вялікім княстве Літоўскім // Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Г. Я. Галенчанкі. Уклад.: А. Дзярновіч, А. Семянчук. — Вільня; Мінск: AIDAI—ATHENEUM, 2009. — Atheneum. — Т. XII. — С. 50—54.
2. Gordziejew, J. Materiały źródłowe do dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego. Inwentarze miasta Pińska z lat 1764 i 1778 // Rocznik Biblioteki Naukowej PAU i PAN w Krakowie. — 2003. — R. 48. — Cz. I. — S. 131—209.
3. Gordziejew, J. Materiały źródłowe do dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego. Z zagadnień skarbowości w dobie stanisławowskiej // Rocznik Biblioteki Naukowej PAU i PAN w Krakowie. — 2004. — R. 49. — Cz. II. — S. 127—166.
4. Шаланда, А. Дыярыуш Маскоўскай вайны ў 1633 годзе // Commentarii Polocenses historici — Наваполацк; Менск, 2006. — Т. III. — С. 50—51.
5. Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст., перыяд Вялікага княства Літоўскага). Аўт.-склад. А. І. Груша. — Мінск: БелНДІДАС, 2003. — 168 с.
6. Метадычныя рэкамендацыі да публікацыі лацінскіх дакументаў XIII—XIV стст. Аўт.-склад. А. Жлутка. — Мінск: БелНДІДАС, 2005. — 50 с.
7. Instrukcja wydawnicza dla źródeł historycznych od XVI do połowy XIX wieku. Pod red. K. Lepszego. — Wrocław, 1953. Даступная ў інтэрнэце: http://www.witkacy.hg.pl/zrodla/lepszy.html.
8. Zasady wydawania tekstów staropolskich. Projekt. Oprac. J. Woronczak. — Wrocław, 1955.
9. Instrukcja wydawnicza. Edytorskie zasady opracowania tekstów monograficznych i źródłowych, przygotowania maszynopisów oraz materiału ilustracyjnego. Red. J. Trzynadłowski. — Wrocław, 1956.
10. Ihnatowicz, I. Projekt instrukcji wydawniczej dla źródeł historycznych XIX i początku XX wieku // Studia Źródłoznawcze. — Warszawa, Poznań, 1962. — Т. 7. Даступная ў інтэрнэце: http://hist.uwb.edu.pl/pih/jasno/ihnat.html.
11. Akta Unii Polski z Litwą 1385—1791. Wyd. S. Kutrzeba, W. Semkowicz. — Kraków, 1932.
12. Kodeks Dyplomatyczny Katedry i Diecezji Wileńskiej. Wydali ks. J. Fijałek i W. Semkowicz. — Kraków, 1932. — T. I. — Z. I (1387—1468).
13. Pamiętnik [1640—1684]. Jan Władysław Poczobut Odlanicki. Oprac. A. Rachuba. — Warszawa, 1987. — S. 97—98.
14. Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego księstwa Litewskiego. Województwo Trockie 1690 r. Oprac. H. Lulewicz. — Warszawa, 2000. — S. 23.
15. Antoniewicz, M. List Kaspra Niesieckiego do księcia Michała Kazimierza Radziwiłła zwanego «Rybeńko» // Zeszyty Historyczne. — Częstochowa, 2003. — T. VII. — S. 46.
16. Kempa, T. Nieznane listy biskupów unickich do kanclerza Lwa Sapiehy — źródła ukazujące sytuację wyznaniową w Wielkim Księstwie Litewskim w pierwszej połowie XVII wieku // Białoruskie Zeszyty Historyczne. — Białystok, 2004. — Nr 22. — S. 189.

17. Akta zjazdów stanów Wielkiego księstwa Litewskiego. Okresy bezkrólewi. Oprac. H. Lulewicz. — Warszawa, 2006. — T. I. — S. 13—15.
18. Rachuba, A. Inwentarz biblioteki Radziwiłłów w Czarnawczycach z 1751 roku // Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Г. Я. Галенчанкі. Уклад.: А. Дзярновіч, А. Семянчук. — Вільня; Мінск: AIDAI—ATHENEUM, 2009. — Atheneum. — Т. XII. — С. 209—213.
19. Wizytacje cerkwi unickich dekanatu nowodworskiego diecezji supraskiej 1804 roku. Oprac. P. Borowik i G. Ryżewski. — Białystok, 2009. — S. 35.
20. Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Склад.: В. Шчарбакоў, К. Кернажыцкі, Д. Даўгяла. — Мінск, 1936. — Т. I. (IX—XVIII).
21. Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. док. и мат. — Минск: Изд-во АН БССР, 1959—1979. — Т. 1—4.
22. Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII—XVIII вв. Владение Сморгонь. — Минск: Наука и техника, 1977.
23. Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII—XVIII вв. Владение Тимковичи. — Минск: Наука и техника, 1982.
24. Пэрэгрынацыя, або Паломніцтва Ясна Асветленага Князя Ягомосці Мікалая Крыштофа Радзівіла ў Святую Зямлю // Кніга жыцій і хаджэнняў. — Мінск: Маст. літ., 1994. — С. 165—447.
25. Тэадор Білевіч. Дзённік, пісаны ў Англіі пра тое, як там вандравалася і жылося // Кніга жыцій і хаджэнняў. — Мінск: Маст. літ., 1994. — С. 448—458.
26. Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI — першая палова XVIII ст. — Мінск: Беларуская навука, 2003. — С. 749—771, 797—832.
27. Радзівіл, Ф. У. Выбраныя творы. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2003. — С. 335—380, 381—398.
28. Семянчук, Г. Попіс шляхты Ваўкавыскага павета ў 1621 г. // Герольд Litherland. — 2004. — № 1—2. — С. 44—51.
29. Амелька, С. Да пытання аб складзе палітычнай эліты шляхты Лідскага павета ВКЛ у другой палове XVII ст. // Матэрыялы навуковай канферэнцыі «Павятовая шляхта ВКЛ: гісторыя, геральдыка, генеалогія, культура (XVI—XVIII стст.)» // Герольд Litherland. — Горадня, 2006. — № 17. — С. 86—96.
30. Піліп Казімір Абуховіч. Дыярыуш // Старажытная беларуская літаратура (XII—XVII стст.). — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2007. — С. 530—560.
31. Радзівіл, Б. Аўтабіяграфія / Уклад. У. Сіўчыкава. — Мінск: Радыёлаплюс, 2009.
32. Шумейко, М. Ф. Археография: курс лекций. — Минск: БГУ, 2005. — С. 282.
33. Шаланда, А., Семянчук, Г. Апісанне Рэвізіі Нараўскай дзяржавы … за 1627 г. з фондаў Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея // Białoruskie Zeszyty Historyczne. — Białystok, 2003. — Nr 20. — S. 243—261.
34. Яцкевіч, З., Грыб, А. Тэстамент гарадзенскага мяшчаніна Барталамея Галоўчыца 1639 г. як крыніца па гісторыі беларускага мяшчанства // Гарадзенскі палімпсест. XII—XX стст. Матэрыялы Міжнар. навук. канф. (Горадня, 7 лістапада 2008 г.). Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. — Горадня; Беласток, 2008. — С. 214—220.
35. Шаланда, А., Крайнева, І. Кавалак «Дыярыушу» XVII ст. Грыгора Мірскага, стражніка Вялікага княства Літоўскага // Герольд Litherland. — Горадня, 2001. — № 2. — С. 74—78.
36. Рассадин, С. Гербовый привилей 1643 г. на магдебургию г. Казимежу в старостве Бобруйском // БАШ. — Мінск: БелНДІДАС, 2001. — Вып. 2. — С. 215—222.



37. Доўнар, А. Да пытання аб рэвізіі Метрыкі Вялікага княства Літоўскага 1747—1751 г. // Актуальныя пытанні вывучэння і выдання Метрыкі Вялікага княства Літоўскага. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 11—12 лістапада 2003 г.). — Мінск: ІГ НАН Беларусі, 2005. — С. 133—137.
38. Доўнар, А. Прывілей на Магдэбургскае права мястэчку Баруны 1705 г. // Ягелоны: дынастыя, эпоха, спадчына. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Гальшаны—Навагрудак, 8—10 верасня 2006 г. — Мінск: Беларуская навука, 2007. — С. 103—108.
39. Mironowicz, A. Summaryusz dokumentów do dóbr supraskich z nadań funduszowych przez J. WW. hrabiów Chodkiewiczów w posiadaniu WW. Ojców Bazylianów zostających roku 1817 w Młynowie spisany // Białoruskie Zeszyty Historyczne. — Białystok, 2009. — Nr 31. — S. 179—232.
40. Макарчык, Ю. Гісторыя прабывання айцоў францішканцаў у Свіслачы-Занявічах і спісы вернікаў парафіі Вялікія Эйсманты. — Горадня: ГФУПП «Гродзенская друкарня», 2009. — 452 с.
41. Макараў, М. Ад пасада да магдэбургіі: прававое становішча насельніцтва местаў Беларускага Падзвіння ў XIV — першай палове XVII ст. — Мінск: Экаперспектыва, 2008. — С. 172.
42. Віцько, Д. Silva rerum Стафана Яна Слізня XVII—XVIII ст. з успамінамі Аляксандра Слізня за 1561—1649 гг. (Са збораў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі) // Здабыткі. Дакументальныя помнікі на Беларусі. — Мінск, 2009. — Вып. 11. — С. 62—88.
43. Gordziejew, J. Materiały źródłowe do dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego. Inwentarze miasta Pińska z lat 1764 i 1778 // Rocznik Biblioteki Naukowej PAU i PAN w Krakowie. — 2003. — R. 48. — Cz. I. — S. 131—209.
44. Gordziejew, J. Materiały źródłowe do dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego. Z zagadnień skarbowości w dobie stanisławowskiej // Rocznik Biblioteki Naukowej PAU i PAN w Krakowie. — 2004. — R. 49. — Cz. II. — S. 127—166.
45. Radaman, A., Ferenc, M. Rejestr senatorów i posłów na sejmie walnym warszawskim 9 lutego — 21 marca 1600 roku // Zeszyty naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego. Prace Historyczne. — Kraków, 2004. — T. MCCLXVII. — Z. 131. — S. 89—107.
46. Śliż, N. Testament Piotra Kochlewskiego, sędziego ziemskiego brzeskiego z 1646 roku // Zapiski historyczne. — Warszawa, 2007. — T. LXXII. — Z. 1. — S. 91—103.
47. Залівака, А. Сфальсіфікаваны тэстамент пана Мікалая Канстанцінавіча Залівакі // Архіварыус. — Мінск: НГАБ, 2005. — Вып. 3. — С. 65.
48. Скеп'ян, А. Лісты маладых князёў Алелькавічаў з Італіі // Архіварыус. — Мінск: НГАБ, 2009. — Вып. 7. — С. 58.
49. Дзярновіч, А. Плач па Вялікім княстве (да гісторыі транслітарацыі Метрыкі ВКЛ у 1777—1780-х гадах) // Metriciana: даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага княства Літоўскага. — 2003. — Т. II. — С. 33—54.
50. Галубовіч, В. Да гісторыі адной арэнды ў Полацкім ваяводстве ў сярэдзіне XVII ст. // Commentarii Polocenses historici. — Наваполацк; Менск, 2005. — Т. II. — С. 42—50.
51. Александровіч, У. Люблінскі след у біяграфіі берасцейскага друкара Станіслава Мурмеліуса // Архіварыус. — Мінск: НГАБ, 2008. — Вып. 6. — С. 24—33.
52. Галубовіч, В. Справа пра напад на гарадзенскі кляштар францысканцаў у 1645 г. // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV—XX ст. Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. — Горадня, 2009. — С. 253—258.

53. Рыбчонак, С. Рэестр Радзівілаўскай скарбніцы пачатку XVIII ст. // Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Г. Я. Галенчанкі. Уклад.: А. Дзярновіч, А. Семянчук. — Вільня; Мінск: AIDAI—ATHENEUM, 2009. — Atheneum. — Т. XII. — С. 214—228.
54. Доўнар, А. Пастанова камісараў Яна Казіміра Вазы 1650 года аб парадку кіравання ў Гародні // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV—XX ст. Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. — Горадня, 2009. — С. 118—127.
55. Дзярновіч, А. Гарадская сядзіба Полацка XVII ст. (паводле інвентара з Радзівілаўскага архіва) // Матэрыялы V міжнароднай канферэнцыі. — Полацк, 2009. — С. 65—75.
56. Галубовіч, В. Інвентары Полацкай эканоміі першай трэці XVII ст. // Архіварыус. — Мінск: НГАБ, 2010. — Вып. 8. — С. 33—42.
57. Грыб, А. Канфірмацыйны прывілей Дзісне на Магдэбургскае права ад караля Аўгуста II ад 29.05.1699 г. // Архіварыус. — Мінск: НГАБ, 2010. — Вып. 8. — С. 42—70.
58. Грыб, А., Яцкевіч, З. Тэстамент гарадзенскага мешчаніна Барталамея Галоўчыца 1639 г. як крыніца па гісторыі беларускага мяшчанства // Гарадзенскі палімпсест. XII—XX стст. Матэрыялы Міжнар. навук. канф. (Горадня, 7 лістапада 2008 г.). Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. — Горадня; Беласток, 2008. — С. 214—220.
59. Яшчолт, Т., Рыжэўскі, Г. Крыштаф Весялоўскі гербу Агеньчык і яго тэстамент // Архіварыус. — Мінск: НГАБ, 2008. — Вып. 6. — С. 86—109.
60. Корсак, В. Публікацыя тэстамента Мікалая Більдзюкевіча, падкаморага парнаўскага // Архіварыус. — Мінск: НГАБ, 2008. — Вып. 6. — С. 59—65.
61. Корсак, В. Публікацыя тэстамента Яна Серакоўскага, стольніка гастыньскага // Архіварыус. — Мінск: НГАБ, 2009. — Вып. 7. — С. 39—44.
62. Корсак, В. Тэстамент Тамаша Крыштапавіча Пядзевіча, актыкаваны 09.05.1730 г. // Архіварыус. — Мінск: НГАБ, 2010. — Вып. 8. — С. 72—78.
63. Галубовіч, В., Радаман, А. Інструкцыя полацкай шляхты на сойм 1608 г. // Commentarii Polocenses historici. — Наваполацк; Менск, 2006. — Т. III. — С. 70—72.
64. Сагановіч, Г. Інструкцыя паслам Ашмянскага павета на канвакацыйны сойм 1632 г. // Беларускі гістарычны агляд. — Мінск, 2007. — Т. 14. — Сш. 1—2 (26—27). — С. 207—219.
65. Антановіч, З. Інструкцыя Магілёўскай рыма-каталіцкай кансісторыі кіеўскаму біскупу аб парадку разгляду прашэнняў і скаргаў жыхароў Кіеўскай губерні // Архіварыус. — Мінск: НГАБ, 2008. — Вып. 6. — С. 33—40.
66. Sahanovič, H. Vilniaus seimelio instrukcija pasiuntiniams į 1619 metų abiejų tautų respublikos seimą // Lietuvos istorijos metraštis. 2008 metai. 1. — Vilnius, 2009. — P. 137—144.
67. Галубовіч, В. Соймікавая інструкцыя менскай шляхты 1608 г. // Мінск і мінчане: дзесяць стагоддзяў гісторыі (да 510-годдзя атрымання Менскам магдэбургскага права): Матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф., Мінск, 4—5 верасня 2009 г.— Мінск: Беларуская навука, 2010. — С. 32—37.
68. Лісейчыкаў, Д. Візіты уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага Сабораў 1680—1682 г. Зб. дак-таў. — Мінск: Выдавец І. П. Логвінаў, 2009.
69. Віцебска-Рыжскія акты XIII—XVII ст.: Дагаворы і службовая карэспандэнцыя паміж органамі кіравання горада Віцебска і ганзейскага горада Рыгі. Падрыхтаваў А. Дзярновіч. — Мінск: ATHENAEUM, 2005. — Вып. 1: Дакументы гаспадарча-гандлёвыя, XV—XVI ст. — С. 20—24.



70. Радаман, А. Віленскі земскі прывілей 1565 г. вялікага князя Жыгімонта Аўгуста // Беларускі гістарычны агляд. — Мінск, 2005. — Т. 12. — Сшытак 1—2 (22—23). — С. 132—161.
71. Сліж, Н. Справа аднаго наезду, або Пра рэпутацыяю Льва Сапегі // Беларускі гістарычны агляд. — Мінск, 2009. — Т. 16. — Сшытак 1 (30). — С. 113—119.
72. Wiktoryn Kuczyński. Pamiętnik 1668—1737. Oprac. pod kier. J. Maroszka. — Białystok, 1999. — 133 s.
73. Руська (Волинська) Метрика. Книга за 1652—1673 р. Підготував до друку Петро Кулаковській. — Острог; Варшава; Москва, 1999. — Monumenta Historica Res Gestas Europae Orientalis Illustrantia. Fontes XV—XVII sae. — Vol. V.
74. Aleksander, D. Skorobohaty. Diariusz. Oprac. T. Wasilewski. — Warszawa, 2000.
75. Радзивилловские акты из Собрания Российской национальной библиотеки. Первая половина XVI в. Составитель М. М. Кром. — Москва; Варшава, 2002. — Памятники истории Восточной Европы. Источники XV—XVII вв. — Т. VI. — С. 20—21.
76. Мыцык, Ю. Віленскі летапісец 1631 г. // Архіварыус. — Мінск: НГАБ, 2008. — Вып. 6. — С. 67—75.
77. Шаланда, А. Пергаміны XVI—XVIII стст. на лацінскай і польскай мовах ў фондах Гарадзенскага гісторыка-археалагічнага музея // Герольд Litherland. — 2002. — № 3—4. — С. 97—119.
78. Шаланда, А. Пергаміны 1700—1775 гг. у фондах Гарадзенскага гісторыка-археалагічнага музея // Герольд Litherland. — 2004. — № 1—2. — С. 51—62.
79. Шаланда, А. Апісанне вяселля Цімаша Хмяльніцкага ў 1652 г. // Commentarii Polocenses historici. — Наваполацк; Менск, 2005. — Т. II. — С. 62—65.
80. Шаланда, А. Дыярыуш Маскоўскай вайны ў 1633 годзе // Commentarii Polocenses historici. Наваполацк, Менск, 2006. Т. III. С. 50—64.
81. Шаланда, А. Прыватны ліст віленскага цэйкварта Вільгельма Поля ад 6 мая 1641 г. аб водаправодзе і арсенале ў Гародні // Гарадзенскі палімпсест. XII—XX стст. Матэрыялы Міжнар. навук. канф. (Горадня, 7 лістапада 2008 г.). Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. — Горадня; Беласток, 2008. — С. 211—213.
82. Editions de documents medievaux. — Zaragoza, 1984.
83. Шумейко М. Ф. Археография: курс лекций. — Минск: БГУ, 2005. — С. 319.
84. Иларене, И. Книга Литовской Метрики № 560 как пример внешнего разнообразия книг Литовской Метрики // Новости Литовской Метрики. — Вильнюс, 2009. — № 10 — 2007/2008. С. 21, 42.
85. Страшко, В. Правила передачі тексту кириличних документів XVI—XVIII ст. дипломатичним і популярним методами та рекомендації для застосування цих правил у виданнях наукового і науково-популярного типив: Проект // Проблеми едиційної та камеральної археографії: історія, теорія, методика. — Київ, 1992. — Вип. 7.

**Ю. В. Нестерович**

# ЦЕЛЕСООБРАЗНОСТЬ ОПТИМИЗАЦИИ И МОДЕРНИЗАЦИИ РЯДА ТЕРМИНОВ АРХЕОГРАФИИ (ЛОГИКО-ЭПИСТЕМОЛОГИЧЕСКИЕ ОСНОВАНИЯ)

Мы уже обращали неоднократно (в том числе на проведенных БелНИИДАД, Археографической комиссией Белкомархива научных конференциях, в статьях, помещенных в издания архивной отрасли «Беларускі археаграфічны штогоднік», «Архіварыус») на необходимость соразмерения содержания базисных терминов археографии и смежных научных дисциплин, оптимизации содержания значительного их ряда, целесообразность модернизации терминов археографии. Такая необходимость возникает в связи с непротиворечивым построением терминосистемы археографии. Целесообразно, принимая во внимание *неоднозначность термина «археография»*[*], широкое использование при построении терминосистемы археографии терминоэлемента «эдиторский» взамен терминоэлемента «археографический» (в частности, использование терминов «эдиторская легенда», «эдиторская публикация»). Учитывая различие объектов эдиционной работы, осуществляемой археографами и текстологами (соответственно, исторические источники и памятники письменности), понятия, обозначаемые терминоэлементом «эдиторский», будут иметь более «широкий» объем, нежели понятия, обозначаемые терминоэлементом «археографический». Исходя из *элиминации синонимии терминов (и терминоэлементов) «издание» и «публикация», из наделения обозначаемых им понятий содержанием, делающих их перекрещивающимися понятиями* (в соответствии с чем публикация результата эдиционной работы осуществляется не обязательно в форме издания), востребована замена в ряде терминов терминоэлемента «издание» терминоэлементом «публикация». В том числе такая замена оптимальна для термина «тип археографического издания» (в «Правилах издания исторических документов в СССР», М., 1990) употребляются термины «издание документов» и «тип издания документов», где терминоэлемент «документ» является усечением от термина «исторический документ». Учитывая, что термин «документ» входит в терминосистему документоведения, но *значение его не устоялось*[**] (в построениях документоведения наличествует синонимия его с терминами «документированная информация», имеющая место, в частности, в ГОСТ Р 51141-98 и СТБ П 2059-2010), термин «издание документов» употреблять в рамках археографии неадекватно (несоразмерно). Вместе с тем, и термин «издание исторических документов» не вполне точен, придерживаясь *соразмерения значения его значению термина «издание»*. В сфере информатизации, книжного и издательского дела «издание» трактуется как результат редакционно-издательской обработки, содержащий информацию, предназначенную для распространения, и отвечающий требованиям государственных стандартов, других нормативных документов относительно их издательского оформления и полиграфического оформления (такая трактовка имеет место, в частности, в ДСГУ 3017-95). Археографы *осуществляют* (наиболее часто в форме издания) *публикацию исторических источников* в соответствии с нормами эдиции, но не издание их. При подготовке такой публикации они не следуют требованиям госстандартов и других нормативных документов по издательскому оформлению и полиграфическому оформлению подготавливаемого макета.

[*] И далее курсивом выделены основания для оптимизации содержания, модернизации конкретных терминов.

[**] См.: Нестерович Ю. В. Труды по экспликации базисных понятий научных теорий. Т. 1.: Экспликация базисных понятий документоведения и инфософии. Минск: ГНУ «Институт истории НАН Беларуси», 2010. Гл. II. П. 1—2.



Составляемый археографом заголовок к историческому документу (результату эдиционной работы) неточно обозначать терминами «авторский, редакционный, археографический заголовок». Это вытекает из *терминоведческого анализа соответствующих понятий, соразмерения конституируемого понятия со значениями терминов* «автор», «редакция», «археография». В рамках построения непротиворечивой терминосистемы археографии, учитывая *целесообразность «расширения» использования, терминоэлемента «эдиторский»*, составляемый археографом заголовок к историческому документу оптимально терминировать как «эдиторский заголовок»[*]. Вносимое нами предложение обозначать другой элемент эдиторского заголовка термином «наименование» взамен термина «разновидность (исторического) документа», обусловлено, *прежде всего, наличием противоречий при изложении результатов эдиции (необходимостью их устранения при построении терминосистемы археографии)*. Его внесение вызывает возражение археографов, в том числе и при обсуждении данного доклада на заседании «круглого стола». Однако терминоведческие аргументы должны заставить их изменить свое мнение. Учитывая, что археографы указывают в эдиторском заголовке наименование не только разновидности, но и вида, «узкой разновидности» («подразновидности») публикуемого исторического документа[**], основание для модернизации термина «разновидность документа», неоспоримо. Целесообразность использования термина «эдиторское наименование» обусловлена и *терминоведческим анализом документоведческих понятий, обозначаемых терминами «вид, разновидность, наименование документа», корреляции их содержания* со значением используемого сегодня в литературе по археогра-

[*] Подробно обоснование оптимизации и модернизации терминов, касающихся описания составляемого археографом заголовка к историческому документу см. в статье «Заголовок к историческому документу (терминологический аспект)» в настоящем выпуске БАШ.

[**] Подробно см. там же.

фии термина «разновидность (исторического) документа». И соответственно, *соразмерения понятийного аппарата* документоведения и археографии. В разработках археографии элемент заголовка к историческому документу, представляющий собой изложение наличествующего в нем содержания обозначается терминами «резюме», «экстракт», «содержание документа». Последний термин неточен, поскольку в эдиторском заголовке приводится изложение содержания. При оптимизации терминологии в данном случае целесообразно опираться на *корреляцию содержания терминов*. Термин «экстракт», употребляемый для описания археографической публикации, приемлемо раскрывать как резюме, наличествующее в заголовке к историческому документу. В издании «Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст.)» (Мінск, 2003) при перечислении элементов, составляемых публикатором заголовка к историческому документу, употребляется емкий термин «сущность документа» (при этом терминоэлемент «документ» является усечением терминоэлемента «исторический документ»). Объем и содержание данного термина не совпадают с объемом и содержанием термина «экстракт» в вышеприведенном значении. «Сущность документа» предстает эдиторским экстрактом, взятым в комплексе с адресантом и адресатом.



**В. С. Пазднякоў**

## ВЫКАРЫСТАННЕ ДУЖАК У АРХЕАГРАФІІ ПРЫ ПЕРАДАЧЫ ТЭКСТУ ДАКУМЕНТАЎ

Дужкі як элемент тэксту здаўна выкарыстоўваліся ў археаграфіі. У заходняй эдыцыйнай практыцы былі прапанаваны нават складаныя сістэмы дужак пры перадачы тэксту дакументаў [1; 2]. З-за розных абставін яны не атрымалі распаўсюджання ў нас, але, напрыклад, іх упамінае Дз. С. Ліхачоў, аднак у даволі крытычным кантэксце [3, с. 518]. Ён жа адзначаў адсутнасць аднастайнасці ў выкарыстанні дужак розных відаў — круглых, прамых (квадратных), вуглавых, фігурных — і прапаноўваў дамовіцца пра агульныя правілы іх выкарыстання ў розных выданнях [3, с. 543—544]. Пажаданні гэтыя так і не былі рэалізаваны ў Расіі.

Звяртаючыся да беларускага матэрыялу, адзначым найбольш аўтарытэтныя распрацоўкі археографаў. Так, метадычныя рэкамендацыі Г. Л. Харашкевіч і С. М. Каштанава па выданні Метрыкі ВКЛ [4] прадугледжвалі пры перадачы тэксту выкарыстоўваць толькі круглыя дужкі. Так, рэкамендавалася: «Мягкий знак вставляется (в круглых скобках) после выносных согласных. … Буквы, опущенные в сокращенных написаниях, восстанавливаются … и заключаются в круглые скобки» [4, с. 46].

Метадычныя рэкамендацы А. І. Грушы прадугледжваюць выкарыстанне пры перадачы тэксту толькі круглых і квадратных дужак: «Скарачэнні (абрэвіятуры) раскрываюцца, пры гэтым скарочаныя літары ставяцца ў дужках…» [5, с. 18—19], «… рэканструяваны тэкст заключаецца ў квадратныя дужкі» [5, с. 41].

Сучасная эдыцыйная практыка паказала недастатковасць такога інструментарыя. Па-першае, трапляюцца вельмі складана афармленыя старажытныя тэксты. Па-другое, яны складзены на розных мовах, што яшчэ больш ускладняе прыёмы перадачы тэксту. М. Тарэлка і І. Сынкова пры публікацыі тэксту татараў ВКЛ [6] выпрацавалі ўласную сістэму дужак транслітараванага тэксту (з арабскай графікі на лацінскую), якая выглядае так. У квадратныя дужкі [ ] бярэцца рэканструяваны тэкст. Прапушчаныя літары дадзены непасрэдна ў транслітарацыі. Калі прапушчана цэлае слова, то яно даецца толькі ў перакладзе. Калі замест адной літары памылкова напісана іншая, то адноўлены варыянт падаецца ў зносцы. У круглыя дужкі ( ) бярэцца тэкст, надпісаны зверху. У фігурныя дужкі { } заключаецца памылковы паўтор або памылковая інтэрпаляцыя з наступнага ці папярэдняга тэксту, або памылкова напісаныя словы ці літары, якія перапісчык закрэсліў, або, пакінуўшы незакрэсленымі, напісаў далей правільна. Трэба адзначыць, што, сустракаючы ў тэксце цытаты з Карана, эдытары даюць іх курсівам, так што ў іх публікацыі прысутнічаюць квадратныя і фігурныя дужкі ў курсіўным напісанні. У паралельным перакладзе на беларускую мову эдытары выкарыстоўваюць дадатковыя дужкі — вуглавыя < >, для перадачы тэксту, дададзенага переклад-

чыкам [6, с. 25]. На сённяшні дзень гэта самая складаная сістэма дужак з тых, якія выкарыстоўваюць беларускія эдытары.

Літоўскія эдытары пры выданні кніг Метрыкі ВКЛ у асноўным прытрымліваюцца правілаў, распрацаваных Г. Л. Харашкевіч і С. М. Каштанавым. Пры выданні іншых гістарычных крыніц выдавецкі інструментарый больш разнастайны. Так, у выданні лістоў нямецкага дыпламата Валянціна Заўрмана змешчаны тэксты XVI ст. на нямецкай і лацінскай мовах. Прысутнічаюць устаўкі выдаўца, яны заўсёды ў квадратных дужках, але курсіўных *[ ]*. У іх ставіцца пытальнік эдытара, раскрытая дата. У такіх жа дужках раскрыты скарочаныя словы. У круглых дужках устаўляецца тэкст аўтарскіх заўваг, яны выкарыстоўваюцца паводле сучасных правілаў [7].

Польскія эдытары пры выданні гістарычных дакументаў у асноўным прытрымліваюцца інструкцыі К. Лепшага [8]. Нагадаю, што згодна з ёю, у прамыя дужкі бяруцца «месцы знішчаныя, нечытабельныя, пропускі свядомыя і несвядомыя, няслушныя скароты або спрэчныя дапаўненні, якія не мяняюць манеру друку (антыквай) — са спасылкай-тлумачэннем сапсаванага месца»; памылка ў адзіночным выразе адзначаецца літарай *[s]* або *[ss]*, або клічнікам *[!]* у прамых курсіўных дужках; для пазначэння спрэчна расчытанага месца выкарыстоўваецца пытальнік *[?]*; інтэрпаляцыі — устаўныя выразы — змяшчаюцца ў вуглавых дужках і тлумачацца ў спасылках.

Аднак у апошні час у польскай эдытарскай практыцы з'явіліся навацыі. Так, Т. Бохун у сваём выданні ліста Е. Валовіча з дапамогай круглых дужак раскрывае скарачэнні, квадратнымі дужкамі пазначаны лакуны, з дапамогай вуглавых устаўлены прапушчаныя літары і словы [9]. У выданні А. Пэрлакоўскага [10], якое, дарэчы, сустрэла вострую крытыку [11; 12], у выглавых дужках устаўлены замененыя літары або словы, напрыклад, пры выпраўленні памылак у напісанні слоў; у фігурныя дужкі ўзяты літары або знакі лішнія, непатрэбныя, пастаўленыя памылкова.

Калі рабіць папярэднія вынікі з агляду сучаснай эдытарскай практыкі, то відавочна, што дужкі як элемент тэксту ў выдаваемых дакументах застаюцца запатрабаваным элементам, прычым прасочваецца тэндэнцыя ўскладняць сістэму дужак, уводзячы іх новыя віды і правілы ўжывання. Аднак застаецца праблема іх уніфікацыі і выпрацоўкі хоць нейкіх агульных правілаў іх выкарыстання.

Літаратура

1. Masai, F. Principes et conventions de l'édition diplomatique // Scriptorium. — 1950. — Vol. 4. — № 2. — P. 192—193.
2. Maas, P. Textkritik. 3. Verbesserte und vermehrte Auflage. — Leipzig, 1957. — S. 15—16.
3. Лихачев, Д. С. Текстология. На материале русской литературы X—XVII веков. — Л.: Наука, 1983.
4. Методические рекомендации по изданию и описанию Литовской Метрики / Сост.: А. Л. Хорошкевич, С. М. Каштанов. — Вильнюс, 1985.



5. Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст., перыяд Вялікага княства Літоўскага) / Аўт.-склад. А. І. Груша. — Мінск: БелНДІДАС, 2003.
6. Тарэлка, М., Сынкова, І. Адкуль пайшлі ідалы: Помнік рэлігійна-палемічнай літаратуры з рукапіснай спадчыны татараў Вялікага Княства Літоўскага. — Мінск: Тэхналогія, 2009.
7. Valentino Saurmano laiškai imperatoriui Ferdinandui I iš Žygimanto Augusto Vilniaus dvaro (1561—1562 m.) / Sudarė Darius Antanavičius, Vilija Gerulaitienė, Jūratė Kiaupienė, parengė Darius Antanavičius. — Vilnius, 2009.
8. Lepszy, K. Instrukcja wydawnicza dla źródeł historycznych od XVI w. do poł. XIX w. — Warszawa, 1953.
9. Бохун, Т. Письмо Херонима Яроша Волловича о несостоявшемся походе гетмана Я. К. Ходкевича на Москву (1612) // Единорогъ: Материалы по военной истории Восточной Европы эпохи Средних веков и Раннего Нового времени. — Вып. 1. — М.: Квадрига, 2009. — С. 76—85.
10. «Interes WM Pana wspomniałem Królowi Jmci…» Listy Jana Jerzego Przebendowskiego podskarbiego wielkiego koronnego do Adama Mikołala Sieniawskiego wojewody bielskiego i hetmana wielkiego koronnego z lat 1704—1725 / Oprac. Adam Perłakowski. — Kraków, 2007.
11. Burdowicz-Nowicki, J., Zielińska, Z. Extra limites // Kwartalnik Historyczny. — 2009. — № 3. — S. 127—143.
12. Burdowicz-Nowicki, J., Zielińska, Z. Odpowiedź na replikę // Kwartalnik Historyczny. — 2009. — № 4. — S. 169—184.

теоретические основы профессии, а на работе — практическое применение полученных знаний. В этот период складываются основные профессиональные качества Тамары Никитичны: скрупулезность и ответственность при выполнении архивных работ.

До 1986 г. Т. Н. Юрченко занимала должности младшего и старшего научного сотрудника отдела научно-справочного аппарата, а с 1986 г. вот уже 24 года руководит этим отделом. Не перечесть то количество фондов, которое ей довелось обработать и усовершенствовать за годы работы. Весь накопленный опыт и знания, полученные за это время, стали базовой основой при составлении огромного массива методических пособий, рабочих инструкций, памяток, историко-архивных справок, аналитических справок по развитию и совершенствованию научно-справочного аппарата и государственного учета архивных документов.

Заслуженной оценкой ее многолетнего труда стало награждение в 2004 г. нагрудным знаком «Ганаровы архівіст Беларусі».

Автору этих строк посчастливилось проработать с юбиляром без малого 35 лет. Особо хочется отметить ее наставнический дух, построенный на искреннем и доброжелательном стремлении помочь молодым сотрудникам в освоении премудростей архивного ремесла. Каждый второй архивист — ученик Тамары Никитичны. Но самое главное ее достоинство — оптимистичный, жизнерадостный характер, всегда исходящая от нее позитивная энергетика, активная жизненная позиция. Стойко перенося жизненные невзгоды, она и своих коллег поддерживает в трудную минуту сочувствием, советом либо простым человеческим пониманием.

Т. Н. Юрченко стояла у истоков формирования коллективных традиций, все эти годы культивируя, развивая и поддерживая их внутренний «устав». По своей натуре энергичная, инициативная и активная, она всегда в гуще архивных событий.

Дорогая Тамара Никитична! От всей души коллектив нашего архива поздравляет Вас с юбилеем! Оставайтесь такой, какая Вы есть — веселой, индивидуальной и неповторимой. Здоровья Вам, счастья, благополучия и достатка на долгие годы!

И пыль веков Вас не состарила,
Хоть быстро так бегут года.
Вы и архивная, и дивная —
Вчера, сегодня и всегда!!!

— ◊ —

***М. Ф. Шумейка***

## АД КРАЯЗНАЎСТВА ДА АРХІВАЗНАЎСТВА

*(да 60-годдзя з дня нараджэння С. М. Асіноўскага)*

Споўнілася 60 гадоў галоўнаму рэдактару часопіса «Архівы і справаводства» Святаславу Маркавічу Асіноўскаму. Ён нарадзіўся 21 верасня



1951 г. у старажытным беларускім мястэчку Смаляны Коханаўскага (цяпер Аршанскага) раёна Віцебскай вобласці ў сям'і вясковых настаўнікаў.

Падчас школьнай вучобы, дзякуючы класнаму кіраўніку і адначасова настаўніцы геаграфіі З. І. Шафранскай будучы галоўны рэдактар асноўнага архіўна-архівазнаўчага перыядычнага выдання Беларусі далучыўся да краязнаўчай працы, удзельнічаючы ў даследаванні малавядомай на той час дзейнасці Асінторфскага камсамольска-маладзёжнага падполля і стварэнні школьнага музея. У школе ж стаў друкавацца ў мясцовым і рэспубліканскім друку. Быў лаўрэатам рэспубліканскага літаратурнага конкурсу на Беларускім радыё. Пасля заканчэння сярэдняй школы № 4 г. Оршы стаў студэнтам факультэта журналістыкі БДУ. Пасля вучобы ў 1973 г. быў прызваны на службу ў армію, стаў прафесійным ваенным, служыў на розных пасадах у аддаленых гарнізонах Беларусі, у Германіі.

З 1984 па 1994 г. — карэспандэнт, загадчык аддзела баявой падрыхтоўкі і жыцця войск, адказны сакратар газеты БВА (потым Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь) «Во Славу Родины». У 1986 г. стаў членам Саюза журналістаў Рэспублікі Беларусь. У 1990 г. завочна скончыў рэдактарскае аддзяленне Ваенна-гуманітарнай акадэміі ў Маскве.

Працуючы ў ваеннай газеце, актыўна займаўся папулярызацыяй беларускай гісторыі сярод чытачоў выдання. Стаў ініцыятарам адкрыцця і аўтарам рубрык «Беларусь: архівы часу», «Паходня». Пасля гэтыя публікацыі ляглі ў аснову яго першай кнігі гісторыка-крыніцазнаўчых нарысаў «Там, дзе была Неўрыда» («Полымя», 1996 г.).

З 1994 г. яго лёс звязаны з архіўнай справай Беларусі: пасля звальнення ў гэтым годзе ў запас (у званні падпалкоўніка) С. М. Асіноўскі заняў пасаду намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Беларуская мінуўшчына». Гэтае гісторыка-публіцыстычнае ілюстраванае выданне ўзнікла ў 1993 г. Яго заснавальнікамі былі Камітэт па архівах і справаводству пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, БелНДІДАС і некаторыя іншыя ўстановы. Выходзіў часопіс 4—6 разоў у год на беларускай мове. Тут змяшчаліся не толькі навукова-папулярныя матэрыялы і дакументальныя падборкі па айчыннай гісторыі, але і праблемныя, дыскусійныя артыкулы, рэцэнзіі на разнапланавыя даследаванні па гісторыі Беларусі і г. д. Актыўны ўдзел у падрыхтоўцы гэтых публікацый прымаў і намеснік галоўнага рэдактара, выконваючы пры гэтым, між іншым, і асноўную працу па часопісе: пошук аўтараў, вядзенне перамоў з імі, выезды ў службовыя камандзіроўкі і шмат іншага, што непазбежна ў працэсе працы часопіса. А ўлічваючы тое, што галоўным рэдактарам «Беларускай мінуўшчыны» не заўсёды хапала часу (ды і калі-нікалі і жадання таксама!), каб дайсці да ўсялякіх «дробязей», апошнімі прыходзілася займацца намесніку, што патрабавала шмат часу, у тым ліку і свайго асабістага. І тым не менш Святаслаў Маркавіч заўсёды з прыемнасцю ўспамінае «Беларускую мінуўшчыну», як

свайго роду папярэдні этап падыходу да асноўнага перыядычнага выдання, якім стаў часопіс «Архівы і справаводства».

Першы нумар гэтага часопіса пабачыў свет у красавіку 1999 г. тыражом у 1100 экз. Ён адкрываўся «Словам да чытача» галоўнага рэдактара, у якім, у прыватнасці, гаварылася: «Ідэя яго стварэння ўзнікла ў заснавальнікаў даўно, яна выспявала паступова і вось на сходзе, які адбыўся 7 красавіка 1998 г., было вырашана: часопісу быць! Амаль дзевяць месяцаў ішла напружаная праца, якая патрабавала ад яе ўдзельнікаў і настойлівасці, і цярпення, і нерваў, і пэўных дыпламатычных здольнасцей!».

Сёння можна з упэўненасцю сцвярджаць, што часопіс адбыўся дзякуючы перш за ўсё яго галоўнаму рэдактару, які здолеў пераадолець усе цяжкасці перыяду станаўлення новага выдання, змог сабраць «каманду аднадумцаў» і, абапіраючыся на кадры прафесіяналаў, якія працуюць у архіўнай сістэме рэспублікі, зрабіць часопіс запатрабаваным сярод шматлікіх устаноў Беларусі.

Гаворачы аб археаграфічным накірунку дзейнасці юбіляра, адзначым, што ён вельмі актыўна ўдзельнічае ў так званых «малых формах публікацыі», выкарыстоўваючы старонкі часопіса для публікацыі арыгінальных дакументаў і матэрыялаў па айчыннай гісторыі, аналізуючы дакументальныя публікацыі, якія былі змешчаны ў «Архівах і справаводстве». Дзякуючы галоўнаму рэдактару, часопіс аператыўна адгукаецца на найважнейшыя дакументальныя публікацыі, якія рыхтуюцца і выдаюцца архіўнымі ўстановамі Беларусі.

Здаецца, што творчы патэнцыял С. М. Асіноўскага не мае межаў: ён з'яўляецца аўтарам каля дзясятка кніг гісторыка-краязнаўчага накірунку, яго нарысы і эсэ рэгулярна з'яўляюцца на старонках рэдагуемага ім часопіса.

У свой час вядомы расійскі гісторык В. В. Ключэўскі гаварыў, што «воздух для историка — факты, его жизненные вехи — книги» . Гэтае выказванне цалкам можна распаўсюдзіць і на нашага юбіляра і пажадаць, каб ён яшчэ доўга радаваў чытача новымі цікавымі выданнямі.

— ◊ —

***А. С. Забялінская***

## ДА 80-ГОДДЗЯ ДЗМІТРЫЯ ПЯТРОВІЧА НАРАНОВІЧА

*(03.10.1931—12.12.2003)*

У 2011 г. споўнілася б 80 гадоў аднаму са старэйшых архівістаў Гродзеншчыны — Дзмітрыю Пятровічу Нарановічу.

Нарадзіўся Дзмітрый Пятровіч 3 кастрычніка 1931 г. у вёсцы Паплаво Навагрудскага раёна. Амаль уся яго працоўная дзейнасць была звязана з архівам у Навагрудку.

Філіял Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці ў г. Навагрудку быў створаны згодна з пастановай Савета Міністраў БССР «Аб мерах па ўдасканаленню архіўнай справы ў БССР» ад 11 лістапада 1963 г., якая ўнесла важныя змены ў структуру архіўнай службы ў Беларусі.



Ужо 18 лістапада 1963 г. быў зацверджаны штат архіва, які ўключаў пасады начальніка (пазней — дырэктара), інспектара, старшага архіварыуса і кур'ера-прыбіральшчыцу.

Для размяшчэння філіяла, які ўвабраў дакументы ліквідаваных Навагрудскага і Слонімскага раённых архіваў, быў выдзелены будынак у той час не дзеючай царквы Святых Барыса і Глеба. Пакуль доўжыліся рамонтныя работы, філіял займаў памяшканні былога раённага архіва: 1 працоўны і 3 пакоі для фондасховішчаў. Уся плошча складала ўсяго 96 м кв. Таму за архівам было замацавана памяшканне былога Слонімскага раённага архіва, паколькі адразу прывезці і размясціць справы ў Навагрудку не выдавалася магчымым.

На 1 студзеня 1965 г. архіў налічваў ужо 658 фондаў, якія змяшчалі 40 475 спраў. У пачатку года пашырыўся штат супрацоўнікаў архіва, дабавіліся яшчэ пасады архіварыуса і інспектара. 8 лютага 1965 г. інспектарам быў прыняты Нарановіч Дзмітрый Пятровіч, а ўжо ў наступным годзе ён узначаліў архіў і займаў гэтую пасаду на працягу 33 гадоў.

Прынцыповы і адказны за справу, Нарановіч патрабаваў дысцыпліны і строгага выканання планавых паказчыкаў. У той жа час, справядлівыя і роўныя адносіны да ўсіх супрацоўнікаў спрыялі таму высокаму аўтарытэту, якім ён карыстаўся сярод падначаленых і калег па працы.

Будынак, выдзелены пад архіў, патрабаваў сур'ёзных рамонтных работ. Праводзіў іх Гродзенскі аблрэмбудтрэст. Аднак выдзеленыя грашовыя сродкі асвойваліся не ў поўным аб'ёме, парушаліся тэрміны, рамонт зацягваўся.

Дзякуючы нястомным намаганням новага дырэктара, у 1967 г. архіў перабраўся ў будынак царквы па вул. Паштовая. Праблем было шмат і вырашаць іх даводзілася ў сціслыя тэрміны. Найперш трэба было ўправіцца з размяшчэннем фондаў і брацца за прыём новых спраў. Паралельна праводзілася работа па стварэнні навукова-даведачнага апарату, ажыццяўляўся прыём грамадзян, выдаваліся даведкі.

Вялікая ўвага надавалася аказанню метадычнай і практычнай дапамогі арганізацыям і прадпрыемствам па пытаннях справаводства, упарадкаванню ведамасных архіваў. Удакладняліся спісы арганізацый — крыніц камплектавання. А гэта ўстановы, арганізацыі, прадпрыемствы Навагрудскага, Карэліцкага, Дзятлаўскага і Слонімскага раёнаў. Частымі былі камандзіроўкі, даводзілася выязджаць на месцы, праводзіць экспертызу каштоўнасці дакументаў і навукова-тэхнічную апрацоўку спраў.

Каб справіцца з пастаўленымі задачамі, аднаго жадання ды працавітасці было недастаткова. Патрэбны былі веды і спецыяльная прафесійная падрыхтоўка. Вырашэнне кадравага пытання моцна хвалявала дырэктара архіва, які часта ўзнімаў яго на сходах працоўнага калектыву. Штат работнікаў заўсёды быў невялікі, а прафесія, бадай, ніколі не была папулярнай. Нізкія заробкі не спрыялі таму, каб надоўга затрымліваліся супрацоўнікі.

Кадры архівістаў у той час рыхтаваў Маскоўскі дзяржаўны гісторыка-архіўны інстытут. Дзмітрый Пятровіч Нарановіч закончыў інстытут завочна ў 1974 г. і на працягу свайго працоўнага жыцця спрыяў усім работнікам у набыцці адукацыі, павышэнні кваліфікацыі і прафесійнага майстэрства, часта прымаў на практыку будучых архівістаў, гісторыкаў. Паступова фарміраваўся зладжаны калектыў. Сёння можна смела сказаць, што за час існавання архіва тут была створана сапраўдная «школа архівістаў», якая выхавала цэлае пакаленне архіўных работнікаў. Стваральнікам гэтай школы быў Дзмітрый Пятровіч Нарановіч.

Пачатак 90-х гг. мінулага стагоддзя прынёс новыя неадкладныя праблемы. Будынак царквы ўжо не мог змясціць фонды архіва, што пашыраліся з года ў год. Да таго ж пачаліся перабоі з атапленнем памяшканняў, што выклікала пагаршэнне ўмоў захавання дакументаў, не гаворачы ўжо аб супрацоўніках, якія ў халодных памяшканнях працягвалі займацца абранаю справай.

Так востра наспела пытанне будаўніцтва новага архіва. Час спрыяў яго вырашэнню: веруючыя ўсё актыўней патрабавалі вярнуць храм. Давялося вызваліць з-пад дакументаў алтарную частку царквы — тут пачаліся набажэнствы.

Для будаўніцтва архіва быў выдзелены ўчастак па вул. Высокая. У 1995 г. тут паўстаў прыгожы пяціпавярховы будынак, які адпавядаў усім нормам і патрабаванням забеспячэння захаванасці дакументаў. Гэта была вялікая радасць і падзея для дырэктара архіва і ўсяго калектыву — утульныя кабінеты, прасторныя фондасховішчы.

У 1996 г. рашэннем Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта Філіял Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці ў г. Навагрудку перайменаваны ў Занальны дзяржаўны архіў у г. Навагрудку.

У 1999 г. Дзмітрый Пятровіч Нарановіч адправіўся на заслужаны адпачынак. За вялікі ўклад у развіццё архіўнай справы ў рэгіёне, добрасумленную працу ён не раз атрымліваў узнагароды, сярод іх — Ганаровая грамата Вярхоўнага Савета БССР, Гродзенскага аблвыканкама, медалі «За доблестный труд», «Ветеран труда».

11 лістапада 2003 г. архіў адзначыў 40-гадовы юбілей. Са шчырай цеплынёй сустракалі архівісты свайго былога дырэктара.

12 снежня 2003 г. Нарановіч Дзмітрый Пятровіч пайшоў з жыцця, захаваўшы па сабе вялікую павагу і памяць.

— ◊ —

***Т. М. Свистунова, В. П. Коханко***

## АННА ВАСИЛЬЕВНА СЫРЦОВА (ХОДУСЕВА)

*(27.11.1931—04.12.2005)*

В этом году исполнилось бы 80 лет со дня рождения Анны Васильевны Сырцовой. Анна Васильевна — одна из плеяды витебских архивистов, окончивших Московский историко-архивный институт в 1950-е гг., внесших значительный вклад в развитие архивного дела на Витебщине и поднявших работу витебского областного архива на новый, более высокий уровень. Однажды выбрав профессию, они никогда ее не меняли, посвятив свою жизнь архивному делу.



Родилась Анна Васильевна 27 ноября 1931 г. в совхозе «Потемкино» Починковского района Смоленской области в семье рабочего. В 1950 г. окончила Бахотскую среднюю школу Смоленской области и поступила в Московский историко-архивный институт. После окончания института в 1955 г. назначена на должность заместителя начальника Государственного архива Витебской области. После упразднения данной должности работала старшим научным сотрудником-археографом. С 1964 г. начальник отдела фондов Октябрьской революции и социалистического строительства, с апреля 1965 г. — начальник отдела фондов, учета и научно-справочного аппарата, а с апреля 1978 г. и до ухода на пенсию в 1987 г. — директор Государственного архива Витебской области.

О личностных качествах Анны Васильевны свидетельствуют документы из ее личного дела. К слову, оно совсем небольшое по объему — всего на 20 листах. В представлении к награждению Почетной грамотой Верховного Совета БССР от 19 апреля 1972 г. отмечено: «тов. Сырцова Анна Васильевна … — хороший специалист в области архивоведения и вспомогательных исторических дисциплин. Являясь составителем и членом редакционной коллегии путеводителя по Госархиву и его филиалу в г. Полоцке, проделала значительную работу по редактированию и своевременной подготовке путеводителя к изданию. Систематически повышает свою производственную квалификацию и идейно-политический уровень. Передает знания и опыт работы сотрудникам архива и его филиалов. Принимает активное участие в общественной жизни коллектива, являясь народным контролером, членом местного комитета профсоюза, редактором стенной газеты архива. Избиралась председателем местного комитета и членом обкома профсоюза работников государственных учреждений» [1].

Из более позднего документа, а именно ходатайства о награждении медалью «Ветеран труда» (1986), узнаем, что А. В. Сырцова являлась членом коллегии Архивного отдела Витебского облисполкома, областного совета общества «Охраны памятников истории и культуры» и областного общества «Знание» [2].

Кроме указанной медали, Анна Васильевна награждена юбилейной медалью «За доблестный труд. В ознаменование 100-летия со дня рождения В. И. Ленина», Почетными грамотами Верховного Совета БССР, Главархива при Совете Министров СССР, Главархива при Совете Министров БССР.

А. В. Сырцова оставила значительный след в истории архивного дела на Витебщине. Помимо участия в подготовке путеводителя «Государственный архив Витебской области и его филиал в Полоцке (1917—1941 гг.)», проводи-

ла большую работу по обеспечению сохранности документов, усовершенствованию научно-справочного аппарата архива, составила инструкции по переработке описей и каталогизации документов, проведению экспертизы ценности объединенных архивных фондов районного подчинения. Участвовала в работе по выявлению и археографической обработке документов для сборников «Индустриализация Белорусской ССР» (1975), «Коллективизация сельского хозяйства Белорусской ССР» (1973, 1976, 1980, 1985), «Развитие социалистического соревнования в БССР (1919—1941)» (1980), «Народное образование в БССР» (1979, 1980). На основе выявленных документов ею подготовлены статьи, 40 радио- и телепередач, в том числе «К 120-летию Витебского архива древних актов», «Первомай 1920-го», «Первые демонстрации на Витебщине», «Из истории пионерского движения на Витебщине», «Из героического прошлого советской милиции», «О зверствах немецких оккупантов» и др.

А. В. Сырцова заботилась о подготовке молодого поколения историков-архивистов и закреплении их для дальнейшей работы в Государственном архиве Витебской области. В период времени, когда Анна Васильевна являлась директором архива, в Московском государственном историко-архивном институте в разное время заочно обучалось 7 человек. Она доверяла молодым специалистам ответственные участки работы, что способствовало совершенствованию их профессиональных навыков. Желание оправдать оказанное директором доверие развивало высокий уровень ответственности за порученное дело.

Ветеран архивного дела Зинаида Андреевна Журавлева, с 1974 по 1983 г. работавшая в должности заведующего архивным отделом Витебского облисполкома, поделилась своими воспоминаниями об Анне Васильевне: «Мы познакомились в Витебске, Анна приехала сюда по распределению. Так всю жизнь здесь и проработали вместе. Работали очень дружно, без недоразумений, архив и архивный отдел были как один коллектив, делали общее дело. Все делалось с любовью и интересом, честно и добросовестно. В областном архиве был очень хороший коллектив, и его работу всегда отмечали на республиканских совещаниях. Это было приятно, и в этом, конечно же, большая личная заслуга Анны Васильевны Сырцовой как руководителя. Она, в том числе и своим примером, показывала, как надо относиться к делу. Человека нужно оценивать не искусственно, а по-деловому, и, говоря об Анне Васильевне, хочется отметить, что это была настоящая жизнь, честно прожитая жизнь».

Источники
1. ГАВО. — Ф. 289. — Оп. 9. — Д. 151. — Л. 14об.
2. Там же. — Л. 18.

— ◊ —



***А. М. Грыневіч***

## ПАМЯЦІ С. І. МУРМЫЛЫ

*(да 70-годдзя з дня нараджэння)*

17 кастрычніка 2001 г. у Мінску пасля цяжкай хваробы пайшоў з жыцця былы дырэктар БДАКФФД Станіслаў Іванавіч Мурмыла.

Станіслаў Іванавіч нарадзіўся 5 красавіка 1941 г. у сям'і служачых у г. Кагул (Малдавія). Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў рознарабочым, з 1958 па 1963 г. — лабарантам у Цірaспальскім педінстытуце, школах г. Цірaспаля. У 1968 г. С. І. Мурмыла скончыў Ленінградскі інстытут кінаінжынераў. Працаваў на кінастудыі МА СССР у Маскве майстрам змены ў цэху апрацоўкі плёнкі, старшым інжынерам-тэхнолагам. З чэрвеня 1972 па кастрычнік 1973 г. быў інжынерам-даследчыкам у НДІ аўтаматычнай апаратуры ў г. Маскве, з лістапада 1973 па ліпень 1974 г. — інжынерам у НДІ «Усход», з лістапада 1974 па лістапад 1985 г. — старшым навуковым супрацоўнікам, загадчыкам аддзела НДЦТД СССР.

У 1983 г. С. І. Мурмыла атрымаў аўтарскае пасведчанне на вынаходніцтва «Дзігідрахларыд гексаметыленбігуанідзін у якасці сродку барацьбы з біяабрастаннем кінафотадакументаў». У 1985 г. пераехаў у Мінск і са снежня 1985 г. працаваў дырэктарам ЦДАКФФД БССР (цяпер БДАКФФД). З верасня 1999 па сакавік 2001 г. быў галоўным захавальнікам фондаў у Цэнтральнай лабараторыі мікрафотакапіравання і рэстаўрацыі дакументаў.

Пад кіраўніцтвам С. І. Мурмылы БДАКФФД пераехаў у новы будынак у г. Дзяржынск, былі распрацаваны метадычныя рэкамендацыі па вырабе страхавых копій асабліва каштоўных кінадакументаў на відэафанаграмах і інш.

За добрасумленную працу Станіслаў Іванавіч неаднаразова быў узнагароджаны Граматамі Камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь.

Чалавек высокай культуры, выдатны арганізатар, высокакваліфікаваны спецыяліст, С. І. Мурмыла ўнёс значны ўклад у развіццё архіўнай справы ў рэспубліцы.

— ◊ —

## ПАМЯТИ ВАЛЕНТИНЫ АРКАДЬЕВНЫ ДАНИЛЬЧЕНКО

17 марта 2010 г. преждевременно на 55 году ушла из жизни заведующая отделом ведомственных архивов, комплектования и экспертизы ценности документов Белорусского государственного архива кинофотофонодокументов (БГАКФФД) Валентина Аркадьевна Данильченко.

Валентина Аркадьевна родилась 19 июня 1955 г. в г. Дзержинске Минской области в семье рабочих. В 1971 г. окончила с золотой медалью СШ № 1 г. Дзержинска, в 1978 г. — с отличием Минский государственный педагогический институт иностранных языков по специальности французский и немецкий языки. С августа 1978 г. по август 1981 г. работала в Волмянской СШ

Дзержинского р-на учителем французского языка, с октября 1981 г. по май 1986 г. — лаборантом физического факультета БГУ им. В. И. Ленина.

5 мая 1986 г. Валентина Аркадьевна начала свою трудовую деятельность в архивной отрасли в качестве архивиста 1 категории отдела ведомственных архивов, комплектования и экспертизы ценности документов Центрального государственного архива кинофотофонодокументов БССР (сейчас БГАКФФД). 4 января 1987 г. переведена на должность старшего научного сотрудника этого же отдела, а 30 января 1989 г. утверждена на должность заведующей отделом комплектования. За годы работы в БГАКФФД В. А. Данильченко в совершенстве освоила архивное дело. Она хорошо разбиралась во всех направлениях деятельности архива, обладала глубоким знанием состава и содержания документов.

Валентина Аркадьевна была ярким, всесторонне образованным человеком, прекрасным собеседником, талантливым организатором. Ее личные качества в сочетании с высоким профессионализмом и большим опытом работы позволяли умело осуществлять руководство отделом. Работники отдела комплектования в ее лице всегда находили квалифицированную помощь и поддержку. Под руководством Валентины Аркадьевны коллектив отдела выполнял и перевыполнял плановые задания по комплектованию архива кино-, фото-, фоно-, видеодокументами. Валентина Аркадьевна налаживала контакты и постоянно вела работу с владельцами частных коллекций. Через руки В. А. Данильченко прошла не одна коллекция документов; в частности, она разобрала и описала коллекции фотодокументов В. И. Аркашева, А. М. Богомолова, А. И. Васечко, В. А. Василенко, К. Е. Нетылева и многие другие.

Валентина Аркадьевна уделяла большое внимание работе ведомственных архивов. Она побывала практически во всех организациях г. Минска — источниках комплектования БГАКФФД, оказывая методическую помощь работникам кино-, фото-, фоно-, видеотек или проводя инспекторские проверки. Благодаря постоянной работе с учреждениями и организациями совершенствовался контроль за обеспечением сохранности документов на стадии ведомственного хранения, за своевременной передачей их на государственное хранение. Комплектование архива приобрело четкий и ритмичный характер.

В. А. Данильченко всегда шла в ногу со временем, быстро реагировала на все изменения, связанные с достижениями научно-технического прогресса. Начиная с 2000 г. редакции журналов и газет — источников комплектования архива фотодокументами стали переходить на съемку цифровыми фотокамерами. Отдел комплектования БГАКФФД быстро перестроил свою работу и уже в 2002 г. принял на государственное хранение 655 фотодокументов в цифровом формате.

Валентина Аркадьевна принимала участие в различных международных научно-практических конференциях, семинарах, проходивших в Минске,



Москве и других городах, проводила обучающие занятия и семинары со специалистами архивных отделов облисполкомов по вопросам комплектования.

В 2000 г. Валентина Аркадьевна проходила стажировку в Париже в рамках программы «Потоки-2000», организованной Министерством культуры Республики Беларусь. Она посетила архивные учреждения Франции, хранящие аудиовизуальные документы, ознакомилась с их работой. Были выявлены документы по истории Беларуси, приобретена методическая литература. Но главный результат поездки — обмен опытом и установление связей с архивными учреждениями других стран.

Профессионал высокого уровня, В. А. Данильченко внесла большой вклад в развитие БГАКФФД, пополнение его фондов аудиовизуальными документами. За многолетний и добросовестный труд она неоднократно была отмечена Почетными грамотами и благодарностями Департамента по архивам и делопроизводству, благодарностью Министерства юстиции Республики Беларусь.

Валентина Аркадьевна была очень общительным, открытым, доброжелательным человеком, пользовалась уважением коллег. Она ушла, оставив о себе добрую и светлую память.

*Коллектив отдела*
*ведомственных архивов, комплектования*
*и экспертизы ценности документов*
*БГАКФФД*

# РЭЗЮМЭ

**В. А. Ледаўская**. О Государственной программе «Архивы Беларуси» на 2011—2015 гг.

У артыкуле разгледжаны пытанні павышэння эфектыўнасці работы дзяржаўных архіўных устаноў на аснове выканання мерапрыемстваў Дзяржаўнай праграмы «Архівы Беларусі» на 2011—2015 гг., зацверджанай пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 15 верасня 2010 г. № 1322.

Адзначана, што выкананне мерапрыемстваў Дзяржаўнай праграмы дасць магчымасць забяспечыць новы якасны ўзровень развіцця архіўнай справы ў Рэспубліцы Беларусь.

**А. Я. Рыбакоў**. «Прыняць прапанову працоўнага калектыву…» *(да 20-годдзя Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы)*.

Артыкул прысвечаны гісторыі ўтварэння і развіцця Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы. Аналізуюцца прычыны ўтварэння інстытута, фактары, якія паўплывалі на змест навуковых даследаванняў, якія выконваліся ў ім у розныя перыяды. Раскрываюцца асноўныя дасягненні інстытута за 20-гадовую гісторыю, складанасці і супярэчнасці на розных этапах яго дзейнасці, сучасныя праблемы. Праз прызму асноўных напрамкаў дзейнасці інстытута ў артыкуле разглядаюцца агульныя тэндэнцыі ў развіцці архіўнай навукі ў Беларусі, праблемы навукова-метадычнага забеспячэння ўстаноў архіўнай галіны.

**А. М. Сарокін**. Уклад БелНДІДАС у распрацоўку гісторыі дзяржаўнасці Беларусі (з 1919 г. — па цяперашні час).

Выяўлена роля супрацоўнікаў БелНДІДАС у даследаванні гісторыі беларускай дзяржаўнасці (з 1919 г. — па цяперашні час). Зроблена выснова: калектыў інстытута ў супрацоўніцтве з іншымі ўстановамі сказаў сваё важкае слова ў распрацоўцы пазначанай тэмы. Праведзеная ім рэканструкцыя гісторыі дзяржаўных устаноў і дзейнасці грамадска-палітычных і культурных сфер спрыяюць вырашэнню пытання далейшага развіцця дзяржавы.

**В. В. Баландзін**, **А. І. Трацціяк**. 70 лет Белорусскому государственному архиву кинофотофонодокументов.

Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў мае шматгадовую гісторыю. Пачатак яго дзейнасці быў пакладзены ў сакавіку 1941 г., але рэальна ён змог функцыянаваць з ліпеня 1944 г. У дадзеным артыкуле разглядаюцца першыя два дзесяцігоддзі станаўлення архіва і напаўняльнасць яго фондаў кіна-, фота- і фонадакументамі. Трэба адзначыць, што за гады дзейнасці ў сховішчах БДАКФФД супрацоўнікамі архіва быў сабраны ўнікальны матэрыял аўдыявізуальнага летапісу Рэспублікі Беларусь. Гэтыя дакументы не проста захоўваюць і адлюстроўваюць наша мінулае, яны па-сапраўднаму дазваляюць прадэманстраваць яго будучым пакаленням.

**У. В. Фядосаў**. К вопросу о внутридисциплинарных связях теории архивоведения.

У артыкуле высвятляюцца ўзаемасувязь агульнай тэорыі архівазнаўства з прыватнай тэорыяй экспертызы каштоўнасці дакументаў, якая накіравана на рэалізацыю канкрэтнай функцыі архіўнай справы, валодае спецыяльным паняційным апаратам, навуковымі метадамі ў выкананні вырашаемых задач і адначасова вызначаецца ўстаноўкамі агульнай тэорыі.



Тэарэтычна-метадалагічны паняційны апарат агульнай тэорыі архівазнаўства, які ўключае ў сябе паняцці аб'екта, прадмета, прынцыпаў, метадаў, навуковых падыходаў у даследаванні архіўных дакументаў, дазваляе выявіць узаемасувязь тэорыі экспертызы каштоўнасці дакументаў з агульнай тэорыяй і прадставіць яе як пераадоленне процілегласці паміж агульным у яго рэальным адзінкавым увасабленні, а адзінкавае — у яго адзінстве з агульным.

**А. М. Сукач**. Критерии выделения из массива электронной переписки документов, подлежащих включению в документную систему организации.

У артыкуле закранаецца праблема ўдасканалення фарміравання дакументальных фондаў арганізацый ва ўмовах выкарыстання тэхналогіі электроннай пошты. Вызначаецца пералік змястоўных і фармальных крытэрыяў вылучэння з масіву электроннай перапіскі дакументаў, якія падлягаюць уключэнню ў дакументную сістэму арганізацыі. Аналізуюцца падыходы да вызначэння падобных крытэрыяў, замацаваныя ў нарматыўных і метадычных дакументах міжнародных арганізацый і развітых замежных краін.

**Я. С. Мальчэўскі**. Станаўленне і развіццё дзяржаўнай патэнтавай службы ў Рэспубліцы Беларусь.

Артыкул прысвечаны даследаванню працэсаў станаўлення і развіцця дзяржаўнай патэнтавай службы Рэспублікі Беларусь. На аснове аналізу крыніц па гісторыі дзяржаўнай патэнтавай службы ў працы разглядаюцца змяненні статусу і кампетэнцыі беларускага патэнтавага органа, развіццё міжнароднага супрацоўніцтва ў сферы прамысловай уласнасці, фарміраванне нацыянальнага патэнтавага заканадаўства. Даследаванне гісторыі патэнтавага органа дазволіла аўтару не толькі вылучыць асноўныя этапы развіцця дзяржаўнай патэнтавай службы Рэспублікі Беларусь, але і вызначыць асаблівасці яе функцыянавання на дадзеных этапах.

**А. М. Таратута**. Органы мясцовага кіравання і самакіравання на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1919—1939 гг.

Артыкул прысвечаны выяўленню асноўных накірункаў дзейнасці дзяржаўных устаноў Польшчы на тэрыторыі Заходняй Беларусі, а таксама абгрунтаванню ўзаемасувязі справаводства і архіўнага захавання дакументаў з вывучэннем гісторыі дзяржаўных устаноў.

Месца, якое займае азначаная тэма ў агульнагістарычным працэсе, з'яўляецца неадназначным, а таму вельмі важным з пункту погляду аўтара. Вызначэнне і выяўленне асаблівасцей гістарычнага развіцця дзяржаўных устаноў, што дзейнічалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі падчас польскай акупацыі, з'яўляецца неад'емнай часткай гісторыі станаўлення дзяржавы і права ў Беларусі, гісторыі дзяржаўных устаноў XX ст.

**А. І. Буча**. Матэрыялы аб грамадска-палітычнай дзейнасці беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі (1921—1935 гг.) у фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.

У артыкуле разглядаюцца чатыры групы крыніц, якія характарызуюць грамадска-палітычную дзейнасць беларусаў у міжваеннай Чэхаславакіі: матэрыялы справаводства (арганізацыйна-распарадчая, улікова-кантрольная і справаздачная дакументацыя), эпісталярныя крыніцы, публіцыстычныя творы, перыядычны друк. Найбольш прадстаўлены ў фондах дадзенага архіва наступныя аспекты праблемы: фарміраванне беларускай дыяспары, грамадска-палітычная дзейнасць беларусаў у Чэхаславакіі ў 1920-я гг., функцыянаванне Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый у першай палове 1930-х гг.

**А. В. Бурачонак**. Фарміраванне слоя прадпрымальнікаў у фабрычна-заводскай сферы вытворчасці Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст.: аналіз крыніц.

У артыкуле аналізуюцца крыніцы па праблеме фарміравання слоя прадпрымальнікаў у фабрычна-заводскай сферы вытворчасці Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. Аўтар вылучае тры віды крыніц, якія неабходны для даследавання пастаўленай праблемы: матэрыялы справаводства, статыстычныя матэрыялы, даведачна-інфармацыйныя выданні. Сістэмны аналіз усіх гэтых крыніц дазваляе даследчыку з высокай ступенню верагоднасці вызначыць сацыяльны склад прамысловых прадпрымальнікаў і характар іх удзелу ў эканамічным жыцці Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст.

**П. А. Некрашэвіч**. Источники по истории Отдельного Литовского корпуса (1817—1831 гг.).

У артыкуле аналізуюцца апублікаваныя і архіўныя крыніцы па гісторыі стварэння і дзейнасці Асобнага Літоўскага корпуса, што існаваў на працягу 1817—1831 гг. і ўкамплектаванага рэкрутамі з заходніх губерняў. Вылучаюцца 3 групы крыніц — заканадаўчыя і нарматыўныя акты, дакументы справаводства, а таксама дакументы асабістага паходжання, якія падрабязна раскрываюць арганізацыйную структуру корпуса, механізм яго камплектавання, узаемаадносіны з насельніцтвам заходніх губерняў. У меншай ступені ў крыніцах адлюстраваны падзеі, звязаныя са стварэннем Асобнага Літоўскага корпуса, а таксама дзейнасці тайных таварыстваў. Захаваныя дакументы сведчаць аб тым, што стварэнне Асобнага Літоўскага корпуса разглядалася насельніцтвам заходніх губерняў як важны крок на шляху набыцця аўтаноміі тэрыторыі былога ВКЛ.

**А. М. Лукашэвіч**. Источники о «Польском вопросе» во внешнеполитической доктрине Российской империи (март 1801 г. — июнь 1812 г.).

Аналізуюцца дыпламатычныя дакументы (актавыя і матэрыялы справаводства) і крыніцы асабістага паходжання (мемуары, перапіска), прысвечаныя «польскаму пытанню» ў расійскай знешнепалітычнай дактрыне. Аўтар прыходзіць да высновы, што ў цэлым яны дазваляюць прасачыць дынаміку выпрацоўкі расійскім урадам пэўнай стратэгіі і розных тактычных прыёмаў пры вырашэнні «польскай праблемы» ў 1801—1812 гг.

**В. В. Урублеўскі**. Даследаванне інвентароў XVI—XVIII стст. у беларускай гістарыяграфіі і перспектывы іх разгляду з пазіцый гісторыі штодзённасці.

У артыкуле ў кантэксце гісторыі штодзённасці звяртаецца ўвага на вызначэнне навуковага патэнцыялу інвентароў як крыніцы для вывучэння гаспадарчых і антрапанімічных працэсаў у асяроддзі сялянскага насельніцтва Беларусі. Характарызуюцца працы айчыннай і замежнай гістарыяграфіі, у якіх закранаецца згаданая праблематыка. Адзначаецца, што перспектывы даследавання інвентароў з пазіцый штодзённасці грунтуюцца на магчымасці рэканструкцыі гаспадарчага побыту, перасяленчых працэсаў, царкоўных і сямейных норм сялянскіх паводзін, этнаканфесійнай прыналежнасці і сакральных уяўленняў.

**Ю. У. Несцяровіч**. Заголовок к историческому документу (терминологический аспект).

Аналізуюцца паняцці, якія выкарыстоўваюцца для апісання і тлумачэння кампанента археаграфічнага афармлення, а менавіта загалоўка да публікуемага гістарычнага дакумента і яго структуры. Прадпрымаецца спроба ўніфікацыі тэрмінаў, якія абазначаюць гэтыя паняцці.



**І. П. Клімаў**. Скарочаныя напісанні ў старажытным пісьменстве.

У артыкуле робіцца тэарэтычнае асэнсаванне скарачэнняў як адметнай рысы даўняга пісьменства. У сувязі з гэтым даецца тыпалогія пісьмовых скарачэнняў, іх суаднесіны з тахіграфіяй. Разглядаюцца асноўныя этапы развіцця пісьмовых скарачэнняў у антычным і сярэднявечным пісьменстве (на матэрыяле грэчаскай і лацінскай моў), а таксама навацыі, прынесеныя хрысціянствам. Нададзена таксама ўвага развіццю практыкі скарачэнняў у кірылічным пісьме — царкоўнаславянскім і старабеларускім пісьменствах.

**І. А. Сынкова**. Аповед пра Сарматыю 1493 г.

Дадзеная публікацыя прысвечана невялікаму гісторыка-геаграфічнаму нарысу «Пра еўрапейскі край Сарматыю», які быў выдадзены ў 1493 г. у якасці дадатку да «Кнігі хронік» нюрнбергскага гуманіста Гартмана Шэдэля. Гэты твор невядомага аўтара ўключае некалькі раздзелаў: «Пра кіруючы дом Польшчы і яго пачатак», у якім згадваюцца Літва і Русь, «Пра святога Станіслава, біскупа кракаўскага, патрона Сарматыі», «Пра Кракаў — сталіцу Сарматыі», «Любек» і «Ніса Сілезская». Першы раздзел, тэкст якога тут прыводзіцца, змяшчае гістарычныя звесткі пра ўсталяванне каралеўства ў Польшчы і пра прадстаўнікоў Ягелонаўскай дынастыі, а таксама геаграфічнае апісанне усходнееўрапейскага рэгіёна.

**В. Б. Келер**. Интересные сведения по истории Беларуси, зафиксированные в старопечатных немецкоязычных «летучих листках» XVI в.

У цэнтральнай і ўніверсітэцкай бібліятэцы зямлі Заксэн-Ангальт у г. Гале (Германія) захоўваюцца ўнікальныя выданні, з якіх магчыма пачарпнуць інфармацыю пра гісторыю самых розных гарадоў і населеных пунктаў, размешчаных на гістарычнай тэрыторыі сучаснай Беларусі. Гэта нямецкамоўны «лятучы лісток» 1563 г., які апісвае гвалтоўны ваенны паход маскавітаў на Полацк 31 студзеня 1563 г.; і «лятучы лісток» 1571 г., у якім апісаны паход маскавітаў на чале з Іванам Грозным у студзені 1570 г. на Ноўгарад, а на зваротным шляху зноў на Полацк. Аўтарам артыкула прадстаўлены дакладныя факты, літаральна перакладзеныя і ўзятыя з другой нямецкамоўнай крыніцы, г. зн. з «лятучага лістка» 1571 г. Апавядаецца пра зверствы, якія ў 1570 г. рабіў Іван Грозны на гістарычных землях Расіі і Беларусі. Вяртаючыся з Полацка ў Маскву пасля прароцтва жыхара Полацка Мікулы вясной 1571 г., ён знішчыў усе без выключэння населеныя пункты на шляху з Полацка ў Маскву.

**Я. К. Анішчанка**. Малавядомыя крыніцы пра «Віленскую асацыяцыю» 1797 года.

Публікацыя змяшчае тэксты пракламацый, якія патаемна рыхтаваліся для арганізацыі паўстання на тэрыторыі былога ВКЛ.

**І. М. Шпілеўская**. О подготовке сельских писарей из детей казенных крестьян.

Публікуюцца два дакументы аб падрыхтоўцы з 1838 г. сельскіх пісараў з дзяцей казённых сялян для валасных праўленняў Віцебскай губерні.

**В. В. Гарбачова**. Ігнацій Клюкоўскі і Іаахім Лялевель (1822—1830 гг.).

У артыкуле на падставе эпістальярнай спадчыны са збораў Ягелонскай бібліятэкі (Кракаў), адрасаванай І. Лялевелю ад І. Клюкоўскага і Л. Рагальскага, разглядаецца мастацкі праект былых выпускнікоў Віленскага ўніверсітэта на чале з І. Клюкоўскім, распрацаваны ў сярэдзіне 20-х гг. XIX ст.

# РЕЗЮМЕ

**О. А. Ледовская**. О Государственной программе «Архивы Беларуси» на 2011—2015 гг.

В статье рассмотрены вопросы повышения эффективности работы государственных архивных учреждений на основе выполнения мероприятий Государственной программы «Архивы Беларуси» на 2011—2015 гг., утвержденной постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 15 сентября 2010 г. № 1322.

Отмечено, что выполнение мероприятий Государственной программы позволит обеспечить новый качественный уровень развития архивного дела в Республике Беларусь.

**А. Е. Рыбаков**. «Принять предложение трудового коллектива…» *(к 20-летию Белорусского научно-исследовательского института документоведения и архивного дела).*

Статья посвящена истории создания и развития Белорусского научно-исследовательского института документоведения и архивного дела. Анализируются причины создания института, факторы, оказавшие влияние на содержание выполнявшихся в нем научных исследований в разные периоды. Раскрываются основные достижения института за 20-летнюю историю, сложности и противоречия на различных этапах его деятельности, современные проблемы. Сквозь призму основных направлений деятельности института в статье рассматриваются общие тенденции в развитии архивной науки в Беларуси, проблемы научно-методического обеспечения учреждений архивной отрасли.

**А. Н. Сорокин**. Уклад БелНДІДАС у распрацоўку гісторыі дзяржаўнасці Беларусі (з 1919 г. — па цяперашні час).

Определена роль сотрудников БелНИИДАД в исследовании истории белорусской государственности (с 1919 г. — по настоящее время). Сделан вывод: коллектив института в сотрудничестве с другими учреждениями сказал свое весомое слово в разработке обозначенной темы. Проведенная им реконструкция истории государственных учреждений и деятельности общественно-политической и культурной сфер способствуют решению вопроса дальнейшего развития государства.

**В. В. Баландин**, **Е. И. Третьяк**. 70 лет Белорусскому государственному архиву кинофотофонодокументов.

Белорусский государственный архив кинофотофонодокументов имеет многолетнюю историю. Начало его деятельности было положено в марте 1941 г., но реально функционировать он смог только с июля 1944 г. В данной статье рассматриваются первые два десятилетия становления архива и наполняемости его фондов кино-, фото- и фонодокументами. Следует отметить, что за годы деятельности в хранилищах БГАКФФД сотрудниками архива был собран уникальный материал аудиовизуальной летописи Республики Беларусь. Эти документы не просто сохраняют и отражают наше прошлое, они по-настоящему позволяют продемонстрировать его будущим поколениям.

**В. В. Федосов**. К вопросу о внутридисциплинарных связях теории архивоведения.

В статье выясняется взаимосвязь общей теории архивоведения с частной теорией экспертизы ценности документов, которая направлена на реализацию конкретной



функции архивного дела, обладает специфическим понятийным аппаратом, научными методами в выполнении решаемых задач и одновременно определяется установками общей теории.

Теоретико-методологический понятийный аппарат общей теории архивоведения, включающий понятия объекта, предмета, принципов, методов, научных подходов в исследовании архивных документов, позволяет выявить взаимосвязь теории экспертизы ценности документов с общей теорией и представить ее как преодоление противоположности между общим в его реальном единичном воплощении, а единичное — в его единстве с общим.

**А. Н. Сукач**. Критерии выделения из массива электронной переписки документов, подлежащих включению в документную систему организации.

В статье затрагивается проблема совершенствования формирования документальных фондов организаций в условиях использования технологии электронной почты. Определяется перечень содержательных и формальных критериев выделения из массива электронной переписки документов, подлежащих включению в документную систему организации. Анализируются подходы к определению подобных критериев, закрепленные в нормативных и методических документах международных организаций и развитых зарубежных стран.

**Е. С. Мальчевский**. Станаўленне і развіццё дзяржаўнай патэнтавай службы ў Рэспубліцы Беларусь.

Статья посвящена исследованию процессов становления и развития государственной патентной службы Республики Беларусь. На основе анализа источников по истории государственной патентной службы в работе рассматриваются изменения статуса и компетенции белорусского патентного органа, развитие международного сотрудничества в сфере промышленной собственности, формирование национального патентного законодательства. Исследование истории патентного органа позволило автору не только выделить основные этапы развития государственной патентной службы Республики Беларусь, но и определить особенности ее функционирования на данных этапах.

**А. Н.Таратута**. Органы мясцовага кіравання і самакіравання на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1919—1939 гг.

Статья посвящена выявлению основных направлений деятельности государственных учреждений Польши на территории Западной Беларуси, а также обоснованию взаимосвязи делопроизводства и архивного хранения документов с изучением истории государственных учреждений.

Место, которое занимает указанная тема в общеисторическом процессе, является неоднозначным, а потому очень важным с точки зрения автора. Определение и выявление особенностей исторического развития государственных учреждений, действовавших на территории Западной Беларуси во время польской оккупации, является неотъемлемой частью истории становления государства и права в Беларуси, истории государственных учреждений XX в.

**А. И. Буча**. Матэрыялы аб грамадска-палітычнай дзейнасці беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі (1921—1935 гг.) у фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.

В статье рассматривается четыре группы источников, которые характеризуют общественно-политическую деятельность белорусов в межвоенной Чехословакии: материалы делопроизводства (организационно-распорядительная, учетно-контрольная и отчетная документация), эпистолярные источники, публицистические произведения,

периодическая печать. Наиболее представлены в фондах данного архива следующие аспекты изучаемой проблемы: формирование белорусской диаспоры, общественно-политическая деятельность белорусов в Чехословакии в 1920-е гг., функционирование Объединения белорусских студенческих организаций в первой половине 1930-х гг.

**А. В. Бураченок**. Формирование слоя предпринимателей в фабрично-заводской сфере производства Беларуси во второй половине XIX — начале XX в.: анализ источников.

В статье анализируются источники по проблеме формирования слоя предпринимателей в фабрично-заводской сфере производства Беларуси во второй половине XIX — начале XX в. Автор выделяет три вида источников, необходимых для исследования поставленной проблемы: материалы делопроизводства, статистические материалы, справочно-информационные издания. Системный анализ всех этих источников дает возможность исследователю определить социальный состав промышленных предпринимателей и характер их участия в экономической жизни Беларуси во второй половине XIX — начале XX в.

**Ф. А. Некрашевич**. Источники по истории Отдельного Литовского корпуса (1817—1831 гг.).

Анализируются опубликованные и архивные источники по истории создания и деятельности Отдельного Литовского корпуса, существовавшего в 1817—1831 гг. и укомплектованного уроженцами западных губерний. Выделяются три группы источников: законодательные материалы, делопроизводственные документы, мемуарная литература. Они достаточно подробно раскрывают организационную структуру корпуса, механизм его комплектования, взаимоотношение с населением западных губерний. В меньшей степени в источниках отражены события, связанные с созданием Отдельного Литовского корпуса, а также деятельности тайных обществ. Сохранившиеся документы свидетельствуют о том, что создание Отдельного Литовского корпуса рассматривалось населением западных губерний как важная реформа на пути к автономии территории бывшего ВКЛ.

**А. М. Лукашевич**. Источники о «Польском вопросе» во внешнеполитической доктрине Российской империи (март 1801 г. — июнь 1812 г.).

Анализируются дипломатические документы (актового и делопроизводственного характера) и источники личного происхождения (мемуаристика, эпистолярные), посвященные «польскому вопросу» в российской внешнеполитической доктрине. Автор приходит к выводу, что в целом они позволяют проследить динамику выработки российским правительством определенной стратегии и различных тактических приемов при решении «польской проблемы» в 1801—1812 гг.

**В. В. Врублевский**. Даследаванне інвентароў XVI—XVIII стст. у беларускай гістарыяграфіі і перспектывы іх разгляду з пазіцый гісторыі штодзённасці.

В статье в контексте истории повседневности делается акцент на определение научного потенциала инвентарей как источника для изучения хозяйственных и антропонимических процессов среди крестьянского населения Беларуси. Характеризуются работы отечественной и зарубежной историографии, в которых затрагивается указанная проблематика. Отмечается, что перспективы исследования инвентарей с позиций повседневности опираются на возможности реконструкции хозяйственного быта, переселенческих процессов, церковных и семейных норм поведения крестьян, этноконфессиональной принадлежности и сакральных воззрений.



**Ю. В. Нестерович**. Заголовок к историческому документу (терминологический аспект).

Анализируются понятия, используемые для описания и объяснения компонента археографического оформления — заголовка к публикуемому историческому документу и его структуры. Предпринимается попытка унификации терминов, обозначающих данные понятия.

**И. П. Климов**. Скарочаныя напісанні ў старажытным пісьменстве.

В статье сделано теоретическое осмысление сокращений как отличительной черты древней письменности. В связи с этим дается типология сокращений, их соотношение с тахиграфией. Рассматриваются основные этапы развития письменных сокращений в античной и средневековой письменности (на материале греческого и латинского языков), а также новации, принесенные христианством. Придано также внимание развитию практики сокращений в кириллическом письме — церковнославянской и старобелорусской письменностях.

**И. А. Сынкова**. Аповед пра Сарматыю 1493 г.

Представленная публикация посвящена небольшому историко-географическому очерку «О европейском крае Сарматии», который был издан в 1493 г. в качестве приложения к «Книге хроник» нюрнбергского гуманиста Гартмана Шеделя. Это произведение неизвестного автора включает несколько глав: «О правящем доме Польшы и его начале», в котором упоминаются Литва и Русь, «О святом Станиславе, епископе краковском, патроне Сарматии», «О Кракове — столице Сарматии», «Любек» и «Ниса Силезская». Первая глава, текст которой тут приводится, содержит исторические сведения об установлении королевства в Польше и о представителях Ягеллоновской династии, а также географическое описание восточноевропейского региона.

**О. Б. Келлер**. Интересные сведения по истории Беларуси, зафиксированные в старопечатных немецкоязычных «летучих листках» XVI в.

В центральной и университетской библиотеке земли Саксен-Ангальт в г. Галле (Германия) хранятся уникальные издания, из которых можно почерпнуть информацию об истории самых разных городов и населенных пунктов, расположенных на исторической территории современной Беларуси. Это немецкоязычный «летучий листок» 1563 г., описывающий насильственный военный поход московитян на Полоцк 31 января 1563 г.; и «летучий листок» 1571 г., в котором описан поход московитян во главе с Иваном Грозным в январе 1570 г. на Новгород, а на обратном пути снова на Полоцк. Представлены достоверные факты, дословно переведенные и взятые автором статьи из второго немецкоязычного источника, т. е. «летучего листка» 1571 г. Повествуется о зверствах, которые в 1570 г. творил Иван Грозный на исторических землях России и Беларуси. Возвращаясь из Полоцка в Москву после пророчества жителя Полоцка Микулы весной 1571 г., он уничтожил все без исключения населенные пункты на пути из Полоцка в Москву.

**Е. К. Онищенко**. Малавядомыя крыніцы пра «Віленскую асацыяцыю» 1797 года.

Публикация содержит тексты прокламаций, которые тайно готовились для организации восстания на территории бывшего ВКЛ.

**И. Н. Шпилевская**. О подготовке сельских писарей из детей казенных крестьян.

Публикуются два документа о подготовке с 1838 г. сельских писарей из детей казенных крестьян для волостных правлений Витебской губернии.

